

У цэху электрапечаў завода шклянога валакна ў Полацку. Камсамолкі — начальнік змены інжынер Ала Бразгоўская (злева) і аператар Галіна Ракіціна наглядаюць за выхадам валакна.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**8 (66)**

Жнівень.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.**

**Рукапісы не вяртаюцца.**

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-8-54.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 04708. Здадзена ў набор 1.VII-58 г. Падпісана да друку 2.VIII.58 г. Заказ 393.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



**Вера ПАЛТАРАН**

# ПАЧУЦЦЁ ВЫШЫНІ

**Нарыс**

Мал. В. Ягорава.

Якім бы ўсхваляваным ці заклапочаным ты ні быў, якая б радасць ні несла цябе на сваіх лёгкіх крыллях, але калі ты выходзіш на галоўную магістраль свае беларускае сталіцы, на свой праспект, крок твой міжволі становіцца павольнейшым, грудзі пачынаюць дыхаць шырэй і вальней, а вочы ўзіраюцца ў звыклыя абрысы дамоў і ніяк не могуць на іх наглядзецца.

Ён прыгожы, наш горад, удзень — зялёны, сонечны або ўрачыста прыбраны ў белую намітку зімы, але заўсёды мнагалюдны, шумлівы, заклапочаны; ён, здаецца, яшчэ прыгажэе з надыходам вечара, асветлены тысячамі зіхатлівых агнёў і ціхіх людскіх усмешак.

Вось ужо колькі гадоў ходзяць мінчане па вуліцах свайго роднага горада, па свайму праспекту, а іх усё не пакідае пачуццё нейкай святочнасці, выкліканае яго хараством. Ну, а што ж сказаць пра тых, хто наведвае беларускую сталіцу ўпершыню! Нездарма ж даўно перасталі абмінаць яе шматлікія замежныя турысты, нездарма амаль не кожны тыдзень пасярэдзіне праспекта, трошкі наперакор нашым агульным правілам вулічнага

руху, але ў поўнай згодзе з нашаю беларускаю гасціннасцю, паважна праходзяць з высока закінутымі ўверх галовамі, — каб разглядзець усё як найлепш! — нашы госці, дэлегацыі рабочых, сялян, інтэлігенцыі замежных краін. І ім да спадобы наш малады горад, які вырас на небывалых руінах апошняй вайны. Яны са здзіўленнем і павагаю аглядаюць кожную вуліцу, кожны квартал. Выпеставаныя, любоўна абгладжаныя чалавечымі рукамі, спакойна пазіраюць у свет чыстымі шыбамі вокан прыгажуны-дамы. Раскошна раскінуўшы свае шаты, ціхутка выцінаюць нейкі вельмі мірны напеў мінскія ліпы. І ад усяго гэтага павявае спакоем і велічнасцю, бо ўсё будавалася і рабілася на доўгія вякі.

Праўда, не ўсім падабаецца і наш спакой, і наша веліч, і нашы справы. У акне блакітнага аўтобуса «Інтурыста» часам яшчэ мільгне крывая скептычная ўсмешка на тлустым, азызлым твары. Але нас радуе і гэта: мы добра ведаем, каму не да спадобы наш зялёны горад, наша квітнеючае жыццё. Ёсць жа радасць у тым, каб сваім шчасцем, сваёю ўдачаю пазлаваць заклятага ворага.

Воблік нашага горада — гэта не толькі праспект імя Сталіна. Добраўпарадкоўваюцца, забудоўваюцца новымі, прыгожымі дамамі ўсе яго вуліцы. Праедзьце сёння па Мінску, і вы не пабачыце вуліцы, дзе не будаваўся б новы дом. А калі вам не выпадае ехаць, то проста гляньце на горад. Над дамамі, перакрэсліваючы блакіт неба доўгімі рашотчатымі стрэламі, высока ўзнімаюцца пад'ёмныя краны. Яны, як маякі, паказваюць, дзе ўзводзяцца сцены новага дома, за якімі неўзабаве забруіцца цяпло чалавечага жылля. Уздоўж вуліц, за заслонаю рыштаванняў, прыхарошваюцца, прыбіраюцца ў сваю адмысловую вопратку ўжо збудаваныя дамы. Здаецца, што яны і хаваюцца за рыштаванні толькі таму, каб раптам выглянуць з-за іх ва ўсёй сваёй красе і пацешыць ёю людскае вока.

Чыімі ж рукамі створана ўся гэтая прыгажосць, хто пабудаваў гэтыя светлыя муры, якія не перастаюць нас цешыць і радаваць?

* * *

Чалавек не заўсёды лёгка знаходзіць сваю сцежку ў жыцці. Іншы раз, ужо ступіўшы на яе, ён ідзе па ёй з вялікаю неахвотаю, з цяжкімі сумненнямі: а ці туды яна вядзе, куды просіцца сэрца. А калі гэтаму чалавеку ўсяго восемнаццаты год, то ён не вельмі добра ведае, куды просіцца яшчэ нямудрае ў жыцці яго сэрца.

Так было некалі і з Марыяй Макарэвіч. Жыла яна ў сваёй вёсцы Чарнаручча на Магілёўшчыне, хадзіла на работу ў калгас і іншага жыцця сабе не ўяўляла. Калгасніцы, заўважыўшы сумленнасць і працавітасць маладое дзяўчыны, папрасілі яе дапамагаць брыгадзіру весці ўлік іхняе працы: Марыі стала цёпла на душы ад гэтага людскога давер'я, і яна дзень пры дні, не адчуваючы стомы, насілася па полі з «казою», абмяраючы выпалатыя і зжатыя палеткі.

Ішоў 1949 год — пяты год нашае мірнае працы. Падымаліся з руін гарады і сёлы, будаваліся ўшчэнт зруйнаваныя вайною заводы і фабрыкі. Стварыць сваю цяжкую індустрыю, якая магла б паставіць на ногі ўсю народную гаспадарку Беларусі, — такую задачу паставіла партыя перад нашаю рэспублікай. Вось тады і пачаў будавацца першынец беларускага пасляваеннага машынабудавання — Мінскі трактарны завод.



Вядома, што найпершы клопат пры ўсякім будаўніцтве — гэта рабочыя рукі. Іх і цяпер не лішак на нашых будаўнічых пляцоўках, а што ж гаварыць пра той час! І партыя вырашыла звярнуцца за дапамогаю да моладзі. Цэнтральны Камітэт камсамола звярнуўся да камсамольцаў і ўсёй моладзі рэспублікі з заклікам прыняць удзел у будаўніцтве трактарнага завода.

Адусюль — з Палесся, Віцебшчыны, Гродзеншчыны — з усіх куткоў рэспублікі на дымок першых вогнішчаў у Сляпянскім бары, дзе намечана было будаваць завод, пацягнуліся хлопцы і дзяўчаты ў ватніках, пінжаках і світках матчынае работы, — краіне не было яшчэ калі наткаць фабрычных сукнаў. Ярчэй запалыхалі вогнішчы, вакол якіх цяснела з кожным днём. І калі на будаўніцтва прыехалі пасланцы моладзі Магілёўшчыны, то не ўсім знайшлося месца ля тых вогнішчаў: набор рабочых ужо быў закончаны.

Не трапіла на будаўніцтва завода і Марыя Макарэвіч. Яе, разам з іншымі землякамі, паслалі на аднаўленне горада.

У будаўнічай брыгадзе, у якую Марыя была залічана, яна пачала працаваць падсобніцай, або, як кажуць будаўнікі, — рознарабочай. Розныя работы!.. Каму з будаўнікоў таго недалёкага 1949 года яны не запомніліся на ўсё жыццё! Розныя работы — гэта цэгла на насілках, якую прыходзілася насіць на другі, трэці і чацвёрты паверхі. А цэгла ж — яна не пух! Розныя работы — гэта раствор на тых жа насілках, а ён жа ніколькі не лягчэйшы за цэглу! Розныя работы — гэта цэлы дзень лапата ў руках, якою трэба было капаць глыбокія траншэі і катлаваны.

Гэта цяпер каля кожнага дома пасталі даўгарукія ўвішныя краны, якія лёгка, як пушынку, падымаюць цэлы паддоннік цэглы, поўны бункер раствору, а падсобная работніца толькі напоўніць бункер растворам ды падчэпіць сталёвыя тросы да паддонніка. А тады было інакш... Тады наша прамысловасць, якая нядаўна яшчэ выпускала найлепшыя танкі, толькі вучылася рабіць экскаватары і пад'ёмныя краны.

На будаўнічай пляцоўцы так: умееш трымаць кельму ў руках, знаёма табе прафесія каменшчыка — станавіся мураваць сцяну; цяслярству навучаны — табе і сякера ў рукі: рабі рыштаванні, падмосткі і ўсё, што належыць рабіць цесляру. А калі твае рукі век не трымалі ні кельмы, ні сякеры, то ты, браце, пакуль што падсобны рабочы. Бяры лапату, рабі, што трэба, і прыглядайся, што тут і да чаго. Не ўцяміш чаго — навучаць, раскажуць. І калі ты чалавек кемлівы і ахвочы да работы, то хутка памяняеш лапату на кельму.

Калі Марыя прыйшла на будаўнічую пляцоўку, то і па яе ўменню тут былі толькі падсобныя работы.

Не прынеслі дзяўчыне радасці першыя тыдні працы на новым месцы. Па-першае, яна ехала на вельмі важную, да таго ж яшчэ і камсамольскую будоўлю, а трапіла на нейкі, як ёй здавалася, зусім не галоўны ўчастак работы. А па-другое, сум па тых ільняных і жытнёвых палетках, якія засталіся там, на Магілёўшчыне, цвісці і выкалошвацца без яе, не даваў дзяўчыне спакою.

За працаю яшчэ не так адольвае сум, а сядзе яна, бывала, абедаць, пакладзе на калені свой няхітры полудзень, паглядзіць на гэтую пакопаную, павываротчаную зямлю, пабітую цэглу кругом, і есці ёй не хочацца. Паплывуць перад вачамі сцежкі між жытоў, па якіх нядаўна хадзіла, у твар дыхне палявым ветрам і пахам зацвіўшага жыта... І такою мілаю зробіцца тая Магілёўшчына, што хоць ты бегма бяжы туды: смутак дасць табе сілы на такую нялёгкую дарогу.



Добра, што ў чалавека, акрамя памятлівага, гарачага сэрца, ёсць яшчэ разважлівы, мудры розум. Ён звычайна загаворыць якраз тады, калі чалавек ужо гатовы зрабіць памылку. «Пабегчы то пабяжыш, — пачынала разважаць Марыя, — але як на цябе людзі паглядзяць? Уцякла з будоўлі... А ты сама як глядзела б на такога ўцекача? Тут жа вунь колькі людзей працуе, і работу сваю любяць...»

І дзяўчына з лягчэйшым сэрцам бралася за лапату.

Сумаваць Марыя сумавала, але і працаваць не ленавалася. Аднойчы яе паставілі падручнай да добрага каменшчыка Апанаса Мітраховіча. Паглядзела Марыя, з якім спрытам кладзе Мітраховіч за цаглінаю цагліну, і ёй самой захацелася навучыцца гэтак жа лёгка трымаць у руках важкія цагліны. Ад спрактыкаванага вока майстра не схавалася тое, з якою цікавасцю гэтая дзяўчына да ўсяго прыглядаецца, як хутка ўсё разумее і з якою ахвотаю слухае, калі яе чаму вучыш. І ён пачаў вучыць Марыю ўсяму таму, што ўмеў рабіць сам, што трэба ўмець добраму каменшчыку: і маякі паставіць, каб сцяна вялася роўненька, і цагліну ўмураваць так, каб яна ляжала, як улітая, і вугал выкласці прыгожа і трывала.

Цяпер Марыя з вялікаю ахвотаю падымалася на рыштаванні. Узыйдзе, развяжа, папраўляючы, хусцінку, і тая белым крыллем затрапечацца на ветры. Гляне навокал — вольны свет з усіх чатырох бакоў ды высокае сіняе неба над галавою. Цудоўнае адчуванне вышыні, вядомае, мабыць, толькі лётчыкам ды будаўнікам, поўніць душу. І Марыі ўжо не здаецца непрыгожаю пакопаная кругом дома зямля, кучы цэглы на двары. Праз гэтую часовую неўладкаванасць рабочай пляцоўкі ёй ужо бачыцца новы дом і роўненькая заасфальтаваная вуліца каля яго.

Даўно закончыўся тэрмін Марыінага вучнёўства, даўно яна з падзякаю развіталася са сваім добрым настаўнікам і працуе самастойна. І вось ужо каторы год — брыгадзірам камсамольска-маладзёжнай брыгады ў 5-УНР Першага будаўнічага трэста Мінска.

Не адзін дом вымураваны рукамі хлопцаў і дзяўчат з Марыінай брыгады — па ўсяму гораду красуецца сёння праца іх рук. Паказальная МТС, ЦЭЦ-3, дамы па Ленінскай, Кірава, Чырвонасцяжнай вуліцах, па праспекту імя Сталіна, — ды хіба ўсё пералічыш! І з кожным новым домам ім становяцца раднейшымі вуліцы, на якіх застаецца цешыць і саграваць людзей іхняя праца.

Брыгада Марыі Макарэвіч славіцца сярод мінскіх будаўнікоў. Тут добра арганізавана праца. Прычына гэтай добрай арганізаванасці заключаецца ў той здружанасці, у тым узаемным разуменні, якое існуе ў брыгадзе. У гэтым добры прыклад падае сам брыгадзір. Яна заўсёды падаспее туды, дзе патрэбна яе дапамога.

Работа будаўніка — не з лёгкіх. Сюды ідзе мала хто з тых, што шукаюць лёгкага хлеба. На рыштаваннях ёсць яшчэ многа такое работы, дзе трэба прыкласці добрую сілу. Пад'ёмны кран падае вам на рыштаванні, скажам, дымаходныя блокі, перамычкі, перакрыцці, і вы складаеце іх у пэўным месцы, дзе вам зручней. А потым, калі пачынаеце класці сцяну і вам трэба ўмураваць у яе дымаходны блок, то не будзеце ж вы прымушаць кранаўшчыка падаваць вам гэты блок, які ляжыць ад вас за 5 крокаў. Не будзеце па той прычыне, па якой не павязеце з магазіна, скажам, этажэрку на пяцітонным грузавіку: сэнсу няма! Каменшчык — няхай гэта будзе Міша Астаповіч ці хто другі — падыйдзе да такога блока і здаецца, што не вельмі то і цяжка падыме яго пяцьдзесят з лішкам кілаграмаў і ёмка паставіць на належнае месца. Ды яшчэ паспее заўважыць, што дзяўчаты вельмі нешта пазгіналіся, несучы цяжкую перамычку. І Міша заўсёды кінецца на дапамогу. Як толькі яго рукі сашчэпяцца пад перамычкаю, дзяўчаты прыкметна выпростваюцца і ступаюць лягчэй.



А мог жа Міша і не дапамагчы дзяўчатам. Паклаў на сваё акно гэтую самую перамычку, гэты каменны верхні вушак, і муруй сабе сцяну, наганяй прагрэсіўку. А яны няхай на свае вокны самі кладуць... У тым вось і ўся справа, што не мог: не дазволіла рабочае сумленне, не дазволіла пачуццё моцнай рабочай дружбы.

Нажаль, у нас, сярод мінскіх будаўнікоў, яшчэ не вельмі ўвайшло ў звычай абменьвацца вопытам работы, цікавіцца ўсім тым своеасаблівым, адметным, што ёсць на кожнай будаўнічай пляцоўцы, у кожнага добрага брыгадзіра, у кожнага добрага будаўніка. Праўда, бываюць і злёты, і нарады будаўнікоў, але вельмі рэдка бывае так, каб адзін брыгадзір прышоў да другога проста на яго рабочае месца. А тут жа можна ўбачыць шмат больш таго, пра што звычайна гаворыцца на нарадах. У гэтым будаўнікам трэба было б узяць прыклад з нашых лепшых перадавікоў вытворчасці, якія і вучыць ідуць да станка, і вучыцца — да яго ж. Жывая справа заўсёды красамоўнейшая за словы.

Той, хто б калі-небудзь прышоў у брыгаду Марыі Макарэвіч і захацеў бы зразумець, чаму яна лічыцца адной з лепшых у 5-УНР, павінен быў бы ў першую чаргу прызнаць, што гэты маладзёжны рабочы калектыў моцны сваёю здружанасцю. Таму тут і выпрацоўка норм добрая, і на якасць работы яшчэ ніхто не скардзіўся.

Адзінае, што яшчэ далёка не поўнасцю выкарыстоўваецца ў брыгадзе, — гэта рабочы запал маладых будаўнікоў. Але тут ужо — не іх віна.

... Трэцюю гадзіну рабочая пляцоўка — як вымерла: няма раствору. Нерухома застыла працягнутая доўгая рука пад'ёмнага крана. Пахаваліся ад сонца за штабялі цэглы падсобніцы. Хлопцы і дзяўчаты на рыштаваннях бавяць час, як гэта і належыць у іхнія гады. Хлопец знячэўку абніме дзяўчыну, а яна ўхопіць шапку з яго галавы і скіне яе з чацвёртага паверху. Праз хвіліну ўслед за шапкаю ляцяць і дзявочыя басаножкі...

Міша Астаповіч, прыхіліўшыся да сцяны, возьме цвік і ім, як алоўкам, падлічыць на гладкай цагліне, колькі ён зарабіў у гэтым месяцы.

А Марыя з дзяўчатамі, папрыкрываўшы далонямі вочы ад сляпучага сонца, не стамляецца глядзець у той бок, адкуль звычайна прывозяць цэглу і раствор. З чацвёртага паверху відаць далёка...

Трэцюю гадзіну марна траціць час дваццаць тры чалавекі з Марыінай брыгады.

На другім крыле дома працуе брыгада Васіля Зямлянскага. Паміж Марыяй і Васілём існуе добрае рабочае суперніцтва. Паглядзіць Марыя: Васіль пяты паверх ужо заканчвае, і рукі яе заходзяць яшчэ спрытней. А Зямлянскі гляне ў яе бок: гэта ж у дзяўчы-



ны ў два разы шырэйшы фронт работы, а яна ўжо чацвёрты паверх кладзе, і таксама паддае сам сабе ахвоты.

А зараз і Зямлянскі трэцюю гадзіну пільна вартуе са свайго высокага паверху, калі пакажацца тая машына з растворам. У брыгадзе яго — той жа малюнак: дарэмна марнуюць каштоўныя рабочыя гадзіны восемнаццаць чалавек...

І нарэшце:

— Вязу-уць, вязу-уць! — дзяўчаты з Марыінай брыгады ледзь у ладкі не пляскаюць ад радасці, паказваючы адна другой машыну, што вязе раствор. Дзіўна, як яны пазналі яе сярод цэлага патоку машын, што ідуць па вуліцы.

— Вязуць, — коратка кідае Зямлянскі і таксама не спускае з машыны вачэй.

Вязуць то вязуць, але каму яго аддаць, гэты раствор: Марыінай ці Васілёвай брыгадзе? Тут трэба быць прамудрым Саламонам, каб вырашыць гэтае пытанне. Прараб Аляксандр Трафімавіч, або проста Трафімавіч, як з павагаю называюць яго ўсе рабочыя-будаўнікі, — не Саламон, але заўсёды распарадзіцца па праўдзе. Гэтую машыну—Марыі, бо той раз, — учора там ці пазаўчора, — перш прывезлі Васілю.

І вось з першымі ж скрынкамі раствору кранаўшчык Адам падае на рыштаванні і скінутую шапку і дзявочыя басаножкі: працуйце, цяпер няма часу дурэць.

Адразу ажывае рабочая пляцоўка. Дзяўчаты-падсобніцы раз-по-разу кладуць лапатамі на сцяну раствор, а каменшчыкі, злёгку прыстукваючы кельмаю, мосцяць і мосцяць за цаглінаю цагліну. І сцяна ўвачавідкі расце, падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Вось каб не было гэтых тройчы праклятых прастояў, каб хапала ўсяго, што патрэбна будаўніку на рыштаваннях! Наколькі хутчэй раслі б тады дамы, наколькі часцей святкаваліся наваселлі! Ды, — і гэта таксама немалаважная справа, — наколькі вышэй быў бы настрой у будаўнікоў, калі б яны працавалі на поўную сілу! А так вельмі часта і развінуцца не выпадае: то няма цэглы, то раствору, а ёсць цэгла і раствор, то перакрыццяў няма, перамычкі ўсе выйшлі.

Чакаюць, чакаюць іншы раз будаўнікі тае запаветнае машыны, што возіць ім матэрыялы, і чаканню іх прыходзіць канец. Тады злазіць з рыштаванняў уся брыгада і ў поўным складзе, на чале са сваім баявым брыгадзірам — Марыяй, прастуе да самога галоўнага інжынера трэста. Нашумяць, нагавораць, насварацца ўволю... Галоўны інжынер усё гэта вельмі добра разумее і дапаможа, чым можа: падашле пару машын цэглы, раствору ці там перакрыццяў падкіне. Але хіба ж гэта выхад? Ды і не галоўнага інжынера тут віна. Справа ў тым, што яшчэ далёка не задавальняе патрэбы будоўляў наша прамысловасць будаўнічых матэрыялаў: цагельныя заводы, заводы па вырабу раствору і іншых неабходных у будаўнічай справе матэрыялаў. Ды і на якасць іх прадукцыі вельмі часта і справядліва наракаюць будаўнікі.

А адсюль, з гэтага недахопу, вырастае другі. Прастаяўшы колькі часу без справы, некаторыя не вельмі сумленныя будаўнікі, — ёсць яшчэ такія! — пачынаюць наганяць патрачаны час за кошт якасці работы. Адчуваючы гэта, Аляксандр Трафімавіч надымаецца на рыштаванні і дастае з кішэні свой метр-складанчык. Падыходзіць да сцяны і гэтым самым метрам-складанчыкам прабуе якасць кладкі: калі сталёвая палоска глыбока праходзіць праз шво паміж цаглінамі, значыць, мала было пакладзена раствору і цагліны змацаваліся дрэнна.

— Бачыш, — з дакорам ківае Аляксандр Трафімавіч каменшчыку



Уладзіміру Варатынскаму. — Што ж гэта, тынкоўшчыкі за цябе дарабляць будуць? Станавіся, браце, і каб усе да аднаго швы былі зроблены, як належыць.

Уладзімір Варатынскі спрабуе перавесці гэтую размову на жарт, але, глянуўшы на свайго брыгадзіра Васіля Зямлянскага, змаўкае.

Доўгі час Уладзімір Варатынскі працаваў адзін. Дасціпныя будаўнікі так і назвалі яго — «каменшчык-адзіночка». Ніхто не хацеў браць яго ў сваю брыгаду: на чалавека нельга было спадзявацца, у чым-небудзь ды падвядзе. І яму адводзілі асобны ўчастак работы; тут ужо калі і падвядзеш, дык толькі самога сябе. Паглядзеў неяк на яго Васіль Зямлянскі і падумаў: чаго чалавек адзін мучыцца. Неяк жа зладзім з ім усе разам. І ўзяў у сваю брыгаду. Нельга сказаць, што Уладзімір Варатынскі адразу стаў другім чалавекам, але Васіль Зямлянскі не адступіцца ад яго, пакуль не даб'ецца, што ён будзе працаваць сумленна.

Нягледзячы на ўсе перабоі з будаўнічымі матэрыяламі, нават наперакор ім, брыгады і Марыі Макарэвіч і Васіля Зямлянскага выконваюць свае працоўныя абавязацельствы, і не абы як, а сумленна, добраякасна. Брыгада Марыі за добрую работу не раз адзначалася на нарадах і злётах будаўнікоў, а сама брыгадзір ужо не можа злічыць тых каштоўных падарункаў, якія атрымала за час сваёй работы на будаўніцтве. У спаборніцтве маладых будаўнікоў горада ў мінулым годзе Марыя Макарэвіч са сваёю брыгадаю заваявала першынство, і ёй быў уручаны Пераходны Чырвоны сцяг Мінскага гаркома камсамола.

Але не ўтрымала яго Марыя. У 12-УНР Чацвёртага будаўнічага трэста знайшоўся чалавек, які сваімі справамі апярэдзіў яе, і пераходны сцяг, які заўсёды любіць мацнейшых, цяпер знаходзіцца ў яго. Гэта — Раман Савіцкі, малады мужчына, з выгляду зусім яшчэ юнак, з добрымі сінімі вачамі і гарачаю, неспакойнаю душою. Як жа яму ўдалося ўзяць пераходны сцяг з моцных Марыіных рук?

* * *

У кастрычніку мінулага года ў многіх УНР Чацвёртага будаўнічага трэста пачалі настойліва пагаварваць аб пераводзе будаўнічых брыгад на гаспадарчы разлік. Паколькі справа гэта ў будаўніцтве была новая, многія з будаўнікоў глядзелі на яе з вялікаю асцярогаю: хто яго ведае, як яно там будзе. Разведваць дарогу ў гэтым новым напрамку ўзялася моладзь. У лістападзе на гаспадарчы разлік перайшлі камсамольска-маладзёжныя брыгады Рамана Савіцкага, Мікалая Маркелава і многія іншыя.

Што ж яно такое, гэты самы гаспадарчы разлік у будаўніцтве? Гэта новы метад арганізацыі працы, разлічаны на самыя сумленныя, самыя гаспадарскія адносіны да свае справы. Брыгадзіру будаўнічай брыгады, пад яго адказнасць, выдаецца будаўнічы матэрыял: цэгла, цэмент, лесаматэрыялы і ўсё іншае. І ён, і ўся брыгада, вельмі зацікаўлены ў тым, каб усё гэта пусціць у работу з найбольшаю карысцю, бо 30 працэнтаў кошту сэканомленых матэрыялаў налічваецца брыгадзе. Калі, скажам, цесляр адпілаваў невялікі кавалак дошкі, то ён не выкіне гэты кавалак абы-куды, а пакладзе да месца, бо неўзабаве яму можа спатрэбіцца невялікая дошчачка, і вось яна — ляжыць гатовая. І не трэба псаваць цэлае дошкі. На першы погляд — дробязь, але ж як самы далёкі шлях пачынаецца з першага кроку, так і самая вялікая справа бярэ пачатак з самай малой. У людзей выпрацоўваюцца сапраўдныя гаспадарчыя звычкі. Яны папрыбіраюць з дарогі дошкі, бо тут пад'язджае на пляцоўку машына і мо-

жа паламаць іх, старанна падбяруць выпадкова разліты раствор. А бывала, што гэты самы раствор прывязуць якраз перад абедам. Каб ён за час абеду не замёрз, бо тады яму рады не дасі, Аляксандр Яскевіч скідаў з плячэй ватоўку і накрываў ёю скрыню з растворам. А пасля абеду зноў апранаўся і браў у рукі кельму, рады, што не прапала дабро.

На такіх, здаецца, дробязях брыгада Савіцкага эканоміла ў месяц да 5 тысяч рублёў, Маркелава — да трох тысяч.

Эканомія матэрыялаў — вось тая першая перавага, якую атрымаў Раман Савіцкі ў параўнанні з Марыяй Макарэвіч.

Брыгады на гаспадарчым разліку маюць свае перавагі і на той выпадак, калі на будаўнічую пляцоўку нясвоечасова падвозяцца матэрыялы. Справа ў тым, што ўсе, хто ўваходзіць у гэтыя брыгады, маюць не адну, а некалькі спецыяльнасцей. Спецыяльнасці набываюцца тут жа, у сваім калектыве, з дапамогаю таварышаў. І вось, скажам, у каменшчыка вышла ўся цэгла, а прывязуць яе толькі праз гадзіну. Тады гэты каменшчык бярэ ў рукі сякеру і робіць цяслярскую работу, а не — дык тынкуе сцяну. Такім чынам, менш траціцца без карысці каштоўнага рабочага часу.

Бухгалтары і планавікі падлічылі, што ў тых будаўнічых брыгадах, якія перайшлі на гаспадарчы разлік, прадукцыйнасць працы павысілася на 20 з лішнім працэнтаў. А гэта ўжо — вельмі вялікае дасягненне.

Павышэнне прадукцыйнасці працы — вось той другі козыр, якім Раман Савіцкі пабіў дасягненні Марыінай брыгады.

Які ж вывад можна зрабіць з усяго гэтага? Толькі такі: на будаўнічай пляцоўцы 5-УНР Першага трэста працуюць добра, сумленна, але пастарынцы. У 12-УНР Чацвёртага будаўнічага трэста не пабаяліся прыняць новы метад работы. І, як бачым, ён поўнасцю апраўдаў сябе. Кіраўнікам Першага будаўнічага трэста — і гаспадарчым, і камсамольскім — трэба смялей укараняць на сваіх будаўнічых пляцоўках новыя метады работы, не баючыся тых турбот, з якімі заўсёды звязаны пачатак усякай новай справы. Вось перавядзіце, таварышы, на гаспадарчы разлік брыгаду Марыі Макарэвіч, ды і Васіля Зямлянскага, і пабачыце, якія яшчэ не выкарыстаныя магчымасці тояцца ў гэтых вельмі працавітых маладзёжных калектывах. І яшчэ пабачыце, якім сур'ёзным прэтэндэнтам на той жа пераходны сцяг зноў стане Марыя Макарэвіч.



Гаспадарча-разліковая брыгада Рамана Савіцкага — адна з лепшых будаўнічых брыгад Мінска. Гэта вельмі зладжаны працоўны калектыў, у якога ёсць чаму павучыцца многім будаўнікам сталіцы. Але працоўныя магчымасці гэтага калектыву ў апошні час выкарыстоўваюцца таксама не поўнасцю. Ці быў, скажам, сэнс раз'ядноўваць, фактычна расфарміроўваць — хоць і на час — гэтую брыгаду і пасылаць брыгадзіра з чатырма рабочымі — на адзін аб'ект, а астатніх — на другі? Гэтак жа прападзе ўся тая зладжанасць у рабоце, якое так настойліва дабіваўся Раман Савіцкі на працягу не аднаго года. Ды і працоўная слава лепшай брыгады вельмі дарагая і Раману, і ўсім яго таварышам. Яны прывыклі кожны дзень сваёю працаю пацвярджаць права на гэтае ганаровае званне. І рабіць іх даўжнікамі свае славы — проста няправільна і крыўдна для іх. Мы супраць таго, каб ствараць перадавой брыгадзе нейкія



выключныя, цяплічныя ўмовы, — гэта заўсёды выклікае ў людзей абурэнне і прыносіць вялікую шкоду справе; мы за тое, каб кожнай брыгадзе, — у тым ліку і перадавой, — былі створаны нармальныя ўмовы для работы. Толькі тады яна зможа даказаць усю сваю працаздольнасць. А для карысці справы якраз гэта і трэба.



...Кожную раніцу, як толькі стрэлкі гадзінніка набліжаюцца да васьмі, на рыштаванні шматлікіх будоўляў сталіцы падымаюцца людзі з кельмамі, сякерамі, лапатамі ў руках. Падымаюцца на пачатыя паверхі, на сваю ўчарашнюю вышыню, каб сёння сваёю працаю перасягнуць яе.

Кругагляд, што адкрываецца перад вачамі з рыштаванняў, — гэта кругагляд для рамантыкаў. Адчуванне вышыні і прастору, гордае пачуццё акрылёнасці — вось што робіць кожнага сапраўднага будаўніка крышку рамантыкам, чалавекам неспакойным і нястомным у сваіх пошуках.

З вышыні рыштаванняў чалавеку бывае лепш бачна яго жыццёвая сцежка. Іменна адсюль яе ўбачыла прараб 12 упраўлення будаўнічых работ Ліда Новікава, якая атрымала на будаўнічых пляцоўках грунтоўную для будучага інжынера падрыхтоўку. Зараз Ліда паспяхова заканчвае завочна 4 курс політэхнічнага інстытута.

На будаўнічай пляцоўцы няма складаных машын, хітрых прыстасаванняў. Усё тут вельмі простае, пачынаючы ад будаўнічых прылад і канчаючы будаўнічымі матэрыяламі. І здаецца, тут няма над чым вельмі мудраваць. Але нястомныя шукальнікі новага і тут знаходзяць што перайначыць, палепшыць, удасканаліць. Вось Мікалай Маркелаў муруе сцяну. Па праекту яна павінна быць аздоблена абліцовачнымі плітамі. І Мікалай, як гэта і належыць, роўненька падганяе пліту да пліты. Але што гэта за лінейку ён прыкладвае паміж плітамі? Нешта не даводзілася бачыць гэтага інструмента ў другіх будаўнікоў. На выгляд гэта звычайная лінейка метраў паўтара даўжынёю. Пасярэдзіне яе, на ўсю даўжыню, зроблены выступ, шырыня якога роўна шырыні адтуліны паміж плітамі, калі на іх пакладзены раствор. Без лінейкі, калі пліту пачынаеш прыладжваць да месца, то раствор выціскаецца паміж плітамі і так бярэцца за кожную з іх, што потым яго не саскрабеш. Ды і лішняя гэта работа — саскрабаць. А пакладзе Мікалай лінейку на рабро, выступам паміж пліт, і яна не дае раствору выціскацца. І раствор так распраўляць хутка, і кладзецца ён роўна. Потым адніме лінейку — і пліты блішчаць, як люстэрка, а шво паміж імі роўненькае — любата паглядзець. І пасміхаецца чысцюткая Мікалаева сцяна з мурзатае, заплямленае растворам сцяны суседняга дома, якую выводзілі канешне без такое лінейкі.

Задаволены сваёю работаю, Мікалай выцірае рукі і, узяўшы пакуначак з полуднем, спяшаецца ў цянёк: абедзенны перапынак.

Хто не бачыў або не ўяўляе сабе, як абедаюць нашы будаўнікі... Абедзенны стол — уласныя калені, засцялі іх газетаю або хусцінкаю, у якую быў загорнуты абед, і расстаўляй усе свае стравы. Але што б ні ўзяў ты сабе з дому паесці і якім бы смачным ні здавалася ўсё на вольным паветры, — усё ж нішто гэта не заменіць рабочаму чалавеку добрае талеркі гарачых, навАрыстых буракчоў або капусты, пасля якое толькі хадзіў бы

сабе ды ваду папіваў. А хіба ж цяжка было б рабочай сталоўцы падвезці к пэўнаму часу на будаўнічую пляцоўку бачок якое гарачае стравы і дзесяткаў колькі катлет? Не, не цяжка, толькі пакуль мала думаюць пра гэта нашы рабочыя забеспячэнцы і работнікі гандлю. А трэба было б падумаць. Кажуць, на некаторых будаўнічых пляцоўках гэта ўжо робіцца.

Ну, а пакуль будуць тыя гарачыя абеды, то ўсе ўладоўваюць свае халодныя. Тут і жарты, тут і смех. Адвярнуўшыся да ўсіх спіною, ля штабеля цэглы стаіць пакрыўджаная дзяўчына: нехта схаваў яе кефір. Усе завуць яе да свайго «стала», — не ідзе.

А Раман Савіцкі з Мікалаем Маркелавым, парэзваючы ножыкам халоднае смажанае сала, дзеляцца сваімі думкамі, якія, відаць, цікавяць іх абодвух. Раман даводзіць, што трэба было б цяпер, пакуль яшчэ цёпла, пачаць рыхтаваць фундаменты пад тыя дамы, якія будуць будавацца ўвосень, ды і зімою. Цяпер капаць траншэі няма ніякае цяжкасці, а там, калі ўмерзне зямля, трэба будзе калоць яе ламамі. А ці многа яе наколеш за дзень, цвёрдае, як камень. Гэта ж колькі часу патраціш на адны траншэі. А грошай?! Цяпер выемка аднаго кубічнага метра зямлі каштуе 7 рублёў, а зімой яна будзе каштаваць 14. Навошта ж падаражаць дзяржаве гэтыя работы аж удвая! Думкай гэтай Раман дзяліўся і з некаторымі кіраўнікамі свайго будаўнічага трэста, але тыя чамусьці не палічылі яе ні вартаю, ні цікаваю. І, здаецца, дарэмна. На будоўлях Ленінграда гэта робіцца даўно з вялікаю выгадаю для будаўнікоў і для дзяржавы.

Заканчваецца абед. Зноў у руках будаўніка — кельма, сякера ці лапата. Умуроўваецца ў сцяну цагліна за цаглінаю, хвіліна за хвілінаю расце дом, вышэй і вышэй над зямлёю падымае людзей іхняя праца. І можа за гэтае цудоўнае адчуванне вышыні ды яшчэ за вялікую патрэбнасць людзям і любяць будаўнікі сваю пачэсную і нялёгкую працу.





Ніл ГІЛЕВІЧ

## МАСКОЎСКІ ЛІВЕНЬ



Неба рыхтавала
Свой сюрпрыз юнацтву:
Цёплым лівнем долу
Хлынула знянацку.

На шырокай плошчы —
Мітусня натоўпу.
Не чакаў ніхто з нас
Гэткага патопу.

Я знайшоў ратунак
Пад шчытком кіёска
Ды гляджу з уцехай
На вясёлы плёскат.

Бачу: недалёка
Госць стаіць на плошчы,
Працягнуўшы лівню
Чорныя прыгоршчы.

Я крычу: «таварыш!»
І заву рукою,
Як магу, тлумачу
Моваю такою;

Клічу ратавацца
Да сябе пад стрэшку.
Толькі мне ў аддзяку
Дорыць госць усмешку.

У краіне пальмаў
І слановых біўняў

Можа ён прывыкшы
Не да гэткіх ліўняў?

Можа гэты лівень,
Што руччамі льецца,
Хлопцу цёплым душам,
Дожджыкам здаецца?

А ці можа проста
Захацеў, упарты,
Зведаць асабіста,
Чаго дождж наш варты?..

Як бы ні было там —
Пэвен я застаўся,
Што маскоўскі лівень
Госцю спадабаўся.

* * *



Я спяваў аб роднай пушчы,
Аб ялінах-прыгажунях,
А згадаў ён пальмаў засень,
Сцежкі тыгравыя ў джунглях.

Я спяваў пра сенажаці,
Пра мурожны пах мядункі,
А яго ў саванне мілай
Апускалі крылы-думкі.

Я спяваў пра сэрца любай —
Сінявокай, светларусай,
Ён жа бачыў кудзер чорны,
Шыю бронзавую ў бусах.

Я спяваў аб шчаснай долі,
Твар мой радасцю свяціўся,
А яго пагляд міжволі
Смуткам-горыччу спавіўся,

І няпрошаныя слёзы
Заіскрыліся на вейках,
І сціскаліся пагрозай
Кулакі у чалавека.



## ЗАЛАТЫЯ ФАНТАНЫ



Цэлы вечар па Выстаўцы
Я хаджу ўсхваляваны,
Дзе над клумбамі высяцца
Залатыя фантаны.

Хто прыдумаў іх гэткімі —
Ці не спісаны з казак? —
Велізарнымі кветкамі
У агромністых вазах?

Перавісшы вясёлкамі,
Б'юць у неба струмені.
Разляцяцца асколкамі —
Пырскі — золата жмені.

Я лучаю прыглядзецца
Да суседа-японца:
У вачах яго свецяцца
Тыя пырскі, як сонца.

Ён ісці не спяшаецца.
Хлопец марыць аб нечым.
Можа, госцю ўяўляецца,
Што ў далёкай далечы,

Там, дзе выспы бясплодныя
Устаюць з акіяна,
Не грыбы вадародныя —
Залатыя фантаны.

* * *



Як толькі ноч ліпнёвая
Махне крыламі сінімі
Ды цішыня вішнёвая
Па ўсіх садах затоіцца, —
Тады хоць сэрца вынімі,
Каб толькі супакоіцца.

Каб толькі там, дзе ясені
Вартуюць сінь высокую,

Не чуць, як хтосьці ў засені
Заве любоў далёкую,
Як плача-захліпаецца
Струна ў руках пявучая,
Як рвецца-надрываецца
Чыясь душа балючая.

Я ў гэту ноч ліпнёвую
Іду сцяжынкай вузкаю,
Сцяжынкаю жытнёваю,
Зямлёю беларускаю.

Іду, а над крыніцаю
Туман бялявы сцелецца,
І дыхае аселіца
Пахучай мядуніцаю.

Іду, а песня новая
Расце ў душы, чаканіцца,
І перапёлка ўдовая
Не спіць да самай раніцы.

Іду, а неба нізкае,
А ночка сінекрылая,
І ўсё да болю блізкае,
І ўсё старонка мілая!

* * *



Расправіўшы шэрыя крылы,
Хмурынка на захадзе ўстала.
Цямнела, плыла, вырастала,
Як бы набіралася сілы.

Павісла над соннаю вёскай,
Пасля зашумела ў прысадах
І — залапатала па градах,
Пайшла па дварах з пераплёскам.

Са звонам на брук яна ўпала,
Загнала у сенцы ўлюбёных,
Абмыла лістоту на клёнах
І з шумам удалеч памчала.

На вуліцы — свежа і цёпла.
А зоры заззялі так ярка,
Як быццам прайшоўшая хмарка
Іх воўнай сваёю нацёрла.



Гроднеў Мікалай Пятровіч нарадзіўся 25 кастрычніка 1929 года ў вёсцы Старая Алешня Балатнянскага сельсавета Рагачоўскага раёна ў сям'і селяніна. Да вайны вучыўся ў Стара-Алешнянскай сямігадовай школе, пасля вайны — у фізкультурным тэхнікуме. У 1953 годзе закончыў гістарычны факультэт Гомельскага пединстытута.

Працаваў школьным інспектарам Вілейскага райана, потым дырэктарам Куранецкай школы рабочай моладзі; у апошні час працуе ў рэдакцыі радашковіцкай раённай газеты.

Літаратурнай творчасцю пачаў займацца з 1956 года. Да гэтага часу напісаў і надрукаваў у рэспубліканскіх і абласных выданнях каля дзесяці апавяданняў, нарысаў. Аповесць «Бацькава віна» — першы буйны твор пачынаючага пісьменніка.

**Мікола ГРОДНЕЎ**

# БАЦЬКАВА ВІНА

## Аповесць

Мал. Г. Паплаўскага

### I

Між густых кустоў цішыня. Над галавой — зялёны дах адвечных клёнаў. Пад бокам, на траве, газета, у руках — кніжка. З канспекта даўно знік апошні сонечны зайчык. Халадок паступова бадзёрыць мускулы, свяжэе галава. У студэнтаў такая звычка: гуляць дык гуляць, а калі экзамены — суткі малыя! Дзяўчына падымаецца і, падкурчыўшы пад сябе босыя ногі, садзіцца, уздыхае: яшчэ многа паўтараць. Потым папраўляе белыя косы, заплеценыя яшчэ з вучнёўскім густам, і прыслухоўваецца: на танцавальнай пляцоўцы іграе духавы аркестр. Але яна зноў схіляецца над канспектам.

— Маша! Чуеш? — пачуўся недалёкі вокліч.

— Чую, Зіна.

— Амурскія ці Дунайскія?

Зіна падышла і хацела загарнуць у сяброўкі кніжку.

— Заўтра, як праваліш, дык з вачэй цэлыя рэкі пальюцца, — ледзь не ўзлавалася Маша.

— Не правалім... Каму выхадны, а нам крукам сядзі і дзень і ноч. Уставай!

Студэнткі пакінулі свой прытулак у зацішным кутку парку і выйшлі на алею. Адразу прыкметна: выхадны дзень. Па дарожках між квет-

нікамі ходзяць, прагульваюцца хлопцы і дзяўчаты. Хлопцы прыглядаюцца да дзяўчат. Адны знаёмяцца і прыпыняюцца ўзбоч алеі, другія ідуць далей.

— А за паркам — зялёная неабсяжная далячынь. Маша і Зіна, узяўшыся за рукі, пільна ўглядаюцца ў тую далячынь. Можа гэтым дзяўчатам ніхто не ўсміхнуўся, а мо' яны нешчаслівыя ў каханні, што ўглядаюцца не ў хлапечыя вочы, а ў тую прывабную далячынь? Не... У іх цяпер другі клопат. Вось пройдзе яшчэ месяц, і яны самі будуць гаспадарамі тых абшараў, аграномамі.

...Бераг рэчкі такі высокі, што міжволі адхіснешся назад. Унізе — спакойная гладзь Сожа. Трошкі лявей — лодачная станцыя. І чаму б не пакатацца ўздоўж цяністага парку па люстраной роўнядзі ракі?!.

Сяброўкі, адна за адной, збеглі ўніз па крутой сцяжынцы. Хораша плысці на чаўне. Сустракаеш лодкі з вясёлымі парамі, чуеш песні, звон гітары.

Маша і Зіна няўмела вядуць човен, хутчэй ён вядзе іх. А тут наехалі хлопцы, жартам штурхнулі ў край, а адзін з іх, з паголенай галавой, скочыў на хаду да студэнтак. Загойдаўся човен, запішчалі дзяўчаты, а хлопец наўмысна захістаўся з боку на бок: больш піску дзявочага, больш рогату — даўжэй будзе помніцца сустрэча!

— Калі будзем тапіцца, выратую... Я рачнік! — крыкнуў ён.

Зіна прыжмурыла вочы і насмешліва сказала:

— Мы самі плаваць умеем,— і настойліва дадала: — Вылазьце!

Хлопец, звёўшы чорныя бровы, спакойна прапанаваў:

— З вамі, калі ласка.

— Не пазнаеце? — гарэзліва запытала Маша.

— Маша... — прашаптаў ён.

Абодвум прыгадалася першае знаёмства. Тэхнікум. Навагодні карнавал. Незнаёмы хлопец падышоў да дзяўчыны ў масцы. Запрасіў танцаваць. Дзяўчына — ні слова, толькі маска з халоднай усмешкай цешылася чорнымі вачыма-гузікамі: «Вось я якая!» Хлопец без дазволу паспрабаваў зняць пачварную маску. Дзяўчына запярэчыла. А чаравікі ў хлопца — што крок, то скрып. Дзяўчына заўважыла: «Вашы чаравікі скрыпяць, як навагодні снег». Голас яе, ласкавы, не пасаваўся з маскаю. Танцавалі. Ён упарта маўчаў. А калі скончыўся танец, абвясцілі аб надыходзе Новага года. Хлопец разгубіўся: «Павіншаваць бы чалавека, а не гэту пачварную маску». Прыйшлося разам з ёю выйсці ў калідор. Селі за столік. А калі ў рупары крамлёўскія куранты адбілі роўна дванаццаць, яны паднялі поўныя кілішкі віна. Дзяўчына левай рукой скінула маску. Бялявая. Усмешка прабегла па яе твары... А вочы, не проста вочы, а агеньчыкі. І не зводзячы адно з аднаго сарамлівых позіркаў, пакаштавалі віно. Паставілі на стол. Ён даліў з бутэлькі ў недапітыя кілішкі і памяняліся: хлопец узяў кілішак дзяўчыны, а яна — яго. Зноў чокнуліся.

— Павел,— назваў ён сваё імя.

— Маша,— адказала дзяўчына.

Віно выпілі.

— Хоць праз крышталь, а знаёмства з пацалунка пачалося!

Смяяліся абое. А потым танцавалі, гаварылі, жартавалі...

...Човен амаль стаяў на месцы. Павел ужо сядзеў побач з Машай. Яна яшчэ раз зірнула на яго: высокі лоб, задуменныя вочы...



— Мусіць прыйшлося пагаліцца, каб жонка за чуб не цягала,— пажартавала Маша, прыпомніўшы яго густыя русыя валасы.

— Не жонка, а старшына...

Павел расказаў, што пасля навагодняга вечара яго выклікалі ў ваенкамат на вайсковыя зборы. Перад ад'ездам забягаў да Машы, але яе не застаў. Пісьмы не пісаў: адрас ведаў, ведаў як зваць, а прозвішча не спытаў. Шмат думаў пра яе. Нават пад добры настрой расказваў салдатам пра навагоднюю маску. Ён увесь час думаў, як сустрэць Машу. І вось сустрэў.

Човен спакойна плыў. Павел і Маша гутарылі. А Зіна нібыта забаўлялася: чэрпала далоняй ваду. Нарэшце дaплылі да берага. Маша хацела пайсці «зубрыць» агратэхніку, а Павел заявіў проста:

— Я ад вас — ні на крок.

А Зіна выхапіла ў Машы падручнік і сказала:

— На танцы! У калгасе табе не да таго будзе. За дзень па полі як наскачашся, дык увечары танцаваць не захочаш. Не, мая зязюлька, не той час цяпер на вёсцы...

Маша намерылася пярэчыць, але Павел падтрымаў Зіну.

На танцавальнай пляцоўцы было многа моладзі. Студэнткі не паспелі агледзецца, як Машу запрасіў нейкі кавалер з палысеўшай галавой. Павел сумаваў з Зінай. А наступнага танца ён не прапусціў. Зіна фарсіста кружылася з палысеўшым кавалерам, а Павел з Машай. Урэшце ўжо збіраліся пакінуць пляцоўку, але падышла Зіна са сваім лысым і пачала яго знаёміць з Паўлам і Машай.

— Іван Уладзіміравіч,— паведаміў лысы абодвум.

Яго імя і імя па бацьку студэнткі лёгка запомнілі, маючы на ўвазе Мічурына.

Іван Уладзіміравіч з Паўлам завялі гаворку пра надвор'е, парк і танцы, а Зіна адвяла Машу ўбок і спытала:

— Чуеш, як, па-твойму, лысы? Трохі сімпатычны, праўда?

— Глядзі сама...

— Казаў, «Пабеда» ёсць, дадому падвязе.

— Можа жанаты?

— Хто яго ведае...

Вальс «Амурскія хвалі» ўскалыхнуў моладзь. Да Зіны падышоў Іван Уладзіміравіч. Дакрануўся рукой да яе таліі і плаўна, з падзыбам, хоць на выгляд цяжкавата, але на дыбках, спрытна і строга закружыўся з дзяўчынай.

Маша і Павел не пайшлі танцаваць: хацелася пагутарыць удваіх.

Селі на лавачку ў кветніку.

— Так... — многазначна зазначыў Павел.

— Канешне,— у тон яму жартаўліва прамовіла Маша.— Прыйшлі...

— Не, Маша, жартаваць я не думаю,— пачаў Павел.— Вядома, хораша нам сёння, а вось ці будзе заўсёды хораша?

Маша паціснула плячыма.

— Так... — зноў уздыхнуў ён,— і ты не ведаеш... Што ж...

— Чаму, ведаю, я здам дзяржаўныя экзамены і буду працаваць аграномам, а ты...

— Не, Маша,— перабіў Павел,— слухаць не хачу пра такое будучае... Ты будзеш аграномам у калгасе, а я вялікім развадзячым дзяўчат з парку?

Павел хваляваўся. Ён нават мусіў спытаць у яе дазволу закурыць і ладзіўся ямчэй усесціся. Маша са стрыманай усмешкай прамовіла:

— Жаніся, хіба мала ў горадзе прыгожых дзяўчат?

— Выходзь замуж, хіба мала жаніхоў? — адказаў ён.

— За каго?

Павел, зразумеўшы, што дзяўчына строіць з яго кпіны, пачаў больш адкрыта:

— За мяне!..

І замест таго, каб пачуць адказ, ён прытуліўся шчыльней да Машы... Яе шчака налівалася гарачынёй. Сэрца застукала часцей і часцей.

Хораша, калі сэрца з сэрцам б'ецца так суладна!

## II

Павел прачнуўся ад пазыўных гукаў радыё. Сонечная чэрвеньская раніца ўжо ўсміхалася ў акно. Але пачынаць свой новы дзень было рана, бо ўчора ўзяў адпачынак на месяц і сёння можна было выспацца. Ніхто не перашкаджае, апроч радыё. Выключыў... Спі сабе да дванаццаці, ляжы ў ложку да абеду — ніхто не пакліча снедаць, ніхто не паклапоціцца, ці чыстая твая сарочка. На тое і халасцяцкая вольніца... «Не... — думае ён,— тут і да сямі не ўлежыш».

Новы дзень... Новыя радасці акрыляюць твае мары. Колькі бадзёрасці, колькі весялосці ў тваім сэрцы!

Адзін штуршок ад ложка — і ты стаіш на нагах. Узмахнуў бронзавымі рукамі, рыўкамі адвёў іх назад. Шырокія грудзі ўздыхнулі глыбока і вольна... Мала паветра — акно расчыніў, другое... Хоць без слоў, але з грудзей вылятае песня. Праспяваеш адзін і скончыш адзін. Ніхто песню тваю не падхопіць, ніхто і не перашкодзіць, хоць ты спявай, пакуль у горле захрыпіць. Вольна, ды адзінока... Спявай, інжынер-суднарамонтнік! Ты ўжо год спяваеш у гэтым вялізным пустым пакоі...

Тут можна зарадку зрабіць і лёгкай атлетыкай заняцца, бо ў пакоі небагата мэблі. Стол у кутку засланы пажоўклай газетай. На стале — рэшткі ўчарашняй вячэры і кніжка. На шыбах замест гардзін—таксама газета. Ля сцяны сіратліва туліцца ложак. Пад ложкам на бруднаватай нямеценай падлозе — чамадан. На спінцы крэсла вісіць бастонавы касцюм, на сядзенні ляжыць сарочка. Калі прыгледзецца да яе, то можна паверыць, што сарочка белага колеру. Не доўга думаючы, гаспадар памыў каўнер і канцы рукавоў. Павесіў за акно. Высахне, папрасуецца і з-пад пінжака будзе выглядаць, як сапраўды новая. Ды каму якая справа, абы чыстая.

На табурэтцы ля парога стаіць, як чарапаха, мурзатая электрапліткa, побач — міска і нямытая лыжка. Уздыхнуў Павел: снеданне самому трэба рыхтаваць. Паківаў задумліва галавой, зірнуў на разетку. Уключыў. Зараз жа склаў меню — чай! Грэецца, сіпіць вада ў чайніку... Вось табе і халастая вольніца...

Павел шмат разоў глядзеў на свае хатнія рэчы. Зараз, закурыўшы папяросу, прыхінуўся да вушака. Думаў, думаў... Потым падняў задумлівыя вочы, правёў спагадлівым позіркам па пакою... Сіратлівы ложак, недамытая сарочка, белы чай...

«Эх, Маша, Маша! Няхай бы ты была са мною!»

На вуліцы шмат сонца. На тратуары многа людзей. Хлопцу ў адпрасаваным касцюме, пад гальштукам, з букетам кветак у руках сустрэчныя даюць дарогу. А Павел шпарчэй, шырэй крок. Сёння Маша ў ліку першых здае экзамен. І яшчэ застанецца ёй апошні, самы лёгкі экзамен. А тады...



Як толькі ён узышоў на двор, з-за кветніка пачуў дзявочы голас:

— Па-а-вел...

Азірнуўся... Няма нікога.

— Па-а-вел...

З-за куста выбегла Зіна. Ён падышоў да яе, кіўнуў галавой, а ўсмешка на твары яго радасная...

— Ты каму букет? — спытала Зіна і спагадліва ўздыхнула: — Не да кветак ёй...

— Правaліла? — Павел апусціў рукі. Галінкі букета павіслі. Перапытаў: — Жартуеш?

Зіна прыкусіла ніжнюю губу.

— Ляжыць на ложку, слязьмі заліваецца.

— Што ж будзе? — разгублена спытаў Павел.

— Тое, чаго не было,— твар яе памякчэў і вочы з хітрынкай звузіліся.— А ўсё праз цябе. Дзяўчыну з толку збіў. Дзяржаўныя! Падумаць толькі,— і Зіна пабегла ў інтэрнат.

Павел сядзеў адзін. Успамінаў свае экзамены. А калі б яму на дзяржаўных — правал! Зараз ёй не да спаткання. Гэты букет здасца крапівою. Кветкі абыякава ляжалі на лавачцы. Павел паставіў на калені локці, рукамі падпёр скроні і думаў пра Машу. Настрой сапсаваўся. А тут нехта падкраўся ззаду і жартаўліва мяккімі рукамі закрыў вочы.

— Маша! — крыкнуў Павел.

Рукі мацней сціснулі яго твар.

— Зіна? .

Зіна залілася смехам. Перад ім стаяла Маша. Па яе сарамлівых вачах Павел адразу не змог разгадаць: ці яна ўсміхаецца, ці ўсхліпвае пасля плачу. Ён трывожна запытаў:

— Правaліла?

Маша ні то сцвярджальна, ні то адмоўна кіўнула галавой.

— Чуеш, — хітравата запытала Зіна, — а калі б на «пяць»?..

— Тады? Ну, не ведаю, што тады! — узрадаваўся ён. — Ну вечар арганізаваў бы!

— Тады, Павел, віншуй з пяцёркай! — пахвалілася за Машу Зіна.

Павел разгубіўся і замест рукі падаў букет. А Зіна тымчасам заўважыла:

— Спадзяемся, што Павел не падвядзе.

... Пасярод пакоя, дзе жылі выпускніцы, стаяў стол. На ім—духмяны букет. За сталом — дзяўчаты і Павел. Гаварылі пра экзамены і заўтрашні выхадны дзень. Жартавалі.

— Дзяўчаты,— пачаў Павел,— а вы на рэчку пайшлі б, навігацыя ж даўно пачалася... Хто-небудзь ды закіне якар у сэрца.

— А маўчы ты,— пярэчыла Зіна, — як прыдзеш дадому з тваім якарам у сэрцы, дык да сонца вочы не заплюшчыш. А тут дзяржаўныя...

Дзяўчаты смяяліся, Маша сарамліва чырванела, а Зіна усё гаварыла:

— Як хто, а я думаю, не прыдзецца патанцаваць на Паўлавым вяселлі, нават і нос не чэшацца. — І ўздыхнула. — Яшчэ пяць дзянькоў —

і... шукай нас, Паша, як ветру ў полі. А ты заставайся вялікім разведчыкам...

Маша пачырванела і ўпікнула сябе: «Навошта, дурная, пахвалілася маланцы гэтай» і тут сустрэла дакорлівы позірк Паўла.

— А ты, Зіна, з якой кніжкі ўзяла цытату пра вялікага разведчыка?

— З якой? З падслуханага рамана. А ты думаў, з Новікава-Прыбоя ўкрала, адкуль і ты? «Дазвольце кінуць мой якар у ваша сэрца!»

Гучны смех сяброваў перабіў Зіну. Павел маўчаў.

* * *

Ужо тыдзень Маша не начавала ў інтэрнаце. Да сяброваў заходзіла госцем. Цікаўныя аднакурсніцы сарамліва распытвалі, што, як, ці страшна адразу «сямейнае жыццё»? Маша ў адказ шчасліва ўсміхалася.

Аднойчы раніцай выпускнікі ўсёй групай прышлі на кватэру маладой гаспадыні, ужо не Машы Пятровай, а Машы Матыль.

Пакой выглядаў па-святочнаму. На вокнах віселі хоць марлевыя, ды фіранкі. На прыбраным ложку пышна дыбіліся дзве падушкі. Між вокан прытулілася плячыстая люстраная шафа. На падлозе ляжалі новыя тканыя дарожкі. І кожная хатняя дробязь сведчыла аб руплівай жаночай руцэ.

Студэнты павіншавалі Машу і Паўла са шлюбам і тут жа ўручылі маладажонам калектыўны падарунак: мноства пакецікаў. Хто з маладых не цікаўны? Зараз жа пачалі разгортваць гэтыя пакецікі. Раптам ад дружнага смеху, здавалася, задрыжалі шыбы ў вокнах.

— Ну, а тарка гэтая каму? — заходзячыся ад смеху, распытваў малады муж, і той, ад каго быў гэты падарунак, растлумачыў:

— А хто першым сварку пачне, таму язык аб гэту тарку пачасаць...

Такое студэнцкае традыцыйнае віншаванне. Падымалі тосты за паспяховае заканчэнне вучобы і за новыя, непачатыя старонкі жыцця маладой сям'і.

## III

Духата на кухні. Да чырвані нагрэлася пліта. Сквірчаць на патэльні катлеты, кіпіць боршч. Пара клубамі падымаецца да самай столі. А тут яшчэ некуды падзеўся ручнік. Маша кідаецца ад табурэта да стала, ад вакна да пліты. Закіпеў чай, а ручніка няма. Злосць уздымаецца, як малако на пліце... У такі момант гаспадыні доўга не разважаюць. Падхапіла фартухом і хуценька адставіла малако. Адсунула кастрылю. А як толькі хапілася за патэльню, пальцы так і прыліплі да яе. Прасмылеў фартух... Замахала рукамі, а пальцы нямаведама куды дзець, хоць ты ў рот... Засмактала кончыкі і ледзь не заплакала... Непрывычная работа для маладой гаспадыні ў гэтым гарачым цаху — на кухні. Але што зрабіць? На тое і замужжа. Сям'я. Рана ўстань, снеданне згатуй, потым абед. Добра, калі ўсё добра, а тут на пальцах паўскоквалі пухіры. Што ж, не пойдзеш на бюлетэнь. Самой сорамна за такую неспрактыкаванасць... Позна ўправілася. А ў самой і расінкі ў роце не было. Хочацца адпачыць, ды некалі. Сёння ж базарны дзень. Радыскі ўжо няма. Смятана выйшла. А мо' маладая бульба будзе?..

...Калгасны рынак заўсёды поўны гароднiны. Гаспадыні шныраць





між вазоў і прылаўкаў. Прыцэньваюцца да кожнага пучка радыскі. Абавязкова таргуюцца: «Чаму вы такія дарагія, а як тры на два?» А калгасніца на сваім: «Не, не, мая галубка, толькі па рублю, як сабе хочаце...» Пераборлівая пакупніца моршчыцца, ідзе далей. Да ўсяго чыста, што ні ёсць, прыцэньваецца: да грыбоў, бульбы, цыбулі, да яек...

Маша стамілася, ходзячы між радоў з гароднінай. Купіла радыскі,

смятаны. А вунь з калгаснага грузавіка мераюць вёдрамі маладую бульбу. Маша знайшла апошняга ў чарзе і стала, каб купіць бульбы.

— Маша! — пачула яна знаёмы голас.

Азірнулася. У белым пыльніку і чорных акулярах да яе падыходзіла Зіна.

— З базару бульбу носіш? Сама?..

— Бачыш,— Маша падняла кошык і ўздыхнула,—думала, сама ў калгасе буду вырошчваць, а давялося з базару насіць.

— А ў мяне работніца... Мой нядаўна адпачынак узяў.

— А мой на работу пайшоў... Сумна адной... Толькі і знаю пліту: снеданне не закончу, абед пачынаю.

— Фу... А мой не дазваляе мне нават лыжкі памыць. Кажа, гуляй, пакуль гуляецца.

— А мой...

— А мая... — з жартам падышоў Іван Уладзіміравіч, і ўсе засмяяліся.

— Маша, паедзем да нас у госці? — сказала Зіна.

— Зараз?

— Вось машына,— яна паказала на «Пабеду», якая стаяла побач.— Паедзем, праўда, Ваня?

— Цудоўна! — узрадаваўся Іван Уладзіміравіч. Жартуючы, узяў Машу пад руку і, элегантна пакланіўшыся, прапанаваў садзіцца.

Але Маша адмовілася.

Калі яна вярнулася дадому, у яе ад стомы кружылася ў галаве. Парашыла адпачыць. Думкі ўсплывалі больш чуллівыя: успомніла дні студэнцкай практыкі. Аднойчы яна з Зінай ішла па сцежцы ў жыце. Буйнае вусатае калоссе лёгенька казытала іх па шчоках. Там жа, на практыцы, яны пакляліся, што пасля вучобы паедуць працаваць у калгас і будуць дабівацца, каб з кожнай жмені зярнят вырасталі пуды збожжа! З тае пары мінуў роўна год. Маша цяжка ўздыхнула. «Чатыры гады я чакала таго дня, калі выведу сеялкі ў поле. А зараз катлеты смаж, і толькі. Ды папярок горла становяцца мне катлеты гэтыя! Няўжо давядзецца да веку?!.» Машы зноў прыгадаўся той запалавелы жытні абшар, белая даліна грэчкі, над якой бясконца звіняць пчолы. Уявіла і духмяную сенажаць. Паблукаць бы там, дзе цікаюць канаплянікі, ды адпачыць пасля палявога абходу ў тым квяцістым сузор'і...

Яна задумліва зірнула ў акно, з якога відаць была заводская труба.

Праз хвіліну працяжна загуў гудок — значыць, зараз прыдзе Павел з работы. Маша ўспомніла пра катлеты, якія трэба падагрэць, але гэтая думка прамільгнула і знікла. Неяк самі сабою наплылі ўспаміны.

...У небе не змаўкае спявак-жаўранак... У вушах звіняць песні дзяўчат... Зачароўваюць яе дзіўныя вясковыя абшары, бо не ў шумлівым горадзе нарадзілася яна, а дзесьці між тых ураджайных палёў, недзе ў вёсцы. А дзе? У якой? Дзе бацькі яе? Калі хто спытае пра гэта, Маша толькі глыбока-глыбока ўздыхне і не скажа нічога. Яна сама не ведае гэтага. Яна толькі помніць, як яшчэ малою дзяўчынкаю забаўлялася. Яна плакала, калі бабка дужа біла ката. Помніць, як кветкі прыгожыя рвала ў гародчыку і садзіла іх на ганку. Помніцца высокі і ласкавы татка... У яго былі чорныя, калючыя вусы. Ён з горада прывёз чырвоную сукенку і прасіў, каб яна пацалавала яго, нават цукеркамі за гэта частаваў, а яна баялася калючых вусоў... Памятала, як уцякала ад бабкі і хавалася за нейкае тоўстае дрэва... Помніцца, як галасіла маці і бабка па татку... Яго нейкія чужыя людзі злавілі і забілі...



А дзе гэта было і як было, дзе зараз маці — не ведае Маша, ды і спытаць няма ў каго... І яшчэ помніцца, як нейкі дзядзька забраў яе ў лес... Тое, што далей было, — падобна на нейкі няясны сон. А вось пра першыя дні ў дзіцячым доме Маша расказаць зможа. У яе там незнаёмая цётка адабрала чырвоную сукенку і дала нейкую непрыгожую.

Калі вучаніцай Маша прачытала ў букварах па складах першыя старонкі, то спытала ў сваёй настаўніцы: «А дзе мая мама?» Але добрая настаўніца не магла яе нічым парадаваць.

Шмат круглых сірот пакінула вайна. Без бацькоў вырасла і Маша: у дзіцячым доме выгадавалася...

Затупалі нечыя крокі ў калідоры. Адчыніліся дзверы — Павел.

Яна прысела ля стала, Павел — насупраць яе. Яна прыкмеціла, як у яго вачах з'явіліся вясёлкі. Такія жвавыя, задорныя. Ён па звычцы ляснуў далонню па стале:

— Ведаеш? Я табе не хваліўся? Павіншуй! За маю рацыяналізатарскую прапанову — прэмія!

Гэта навіна Машу ніколькі не ўзрадавала.

— Прыходзяць судны, — з захапленнем прадаўжаў Павел, — ім патрэбен бягучы рамонт. На адной палубе ўсе механікі тоўпяцца, а некалькі параходаў на чарзе. Я ў мінулым годзе гаварыў: давайце збудуем перасоўную майстэрню, ды не адну. Дырэктар толькі рукамі разводзіў: «Сродкаў няма». Тады я і яшчэ адзін інжынер склалі праект і паслалі міністру. Адтуль загад: пабудаваць! А нам прэмію!

Маша перавяла позірк на сцяну, на свой фотаздымак. Яна трымае абедвума... аберуч сноп жыта з буйным калоссем, усміхаецца.

Павел расчасаў пяцярнёй валасы і гаварыў ужо зусім пра іншае.

— Значыць, на сходзе паднялі пытанне: вытрабаваць лесу на пабудову ўласных дамоў інжынерна-тэхнічнаму персаналу. А жонка дырэктара і пытаецца: «Як гэта ўласныя дамы будаваць? Калі ж тады да камунізма прыдзем?» Рогату колькі было!..

Маша крадком уздыхнула. У думках зноў паўставалі тыя ж малюнкі... Поле, квяцісты луг...

Павел гаварыў і аб тым, што пара клапаціцца пра лепшыя жыллёвыя ўмовы, бо гэты пакойчык падыходзіць толькі для халасцяка, а не для сям'і. «Будзе ж і дзіця»... — гаварыў ён упэўнена.

— Пісалі заявы на лес, і я падаў. Непадалёк ад прыстані пабудуем цэлы завулак новых дамоў. Крэдыту вазьму, разумееш?

Маша не адказала, думаючы пра сваё.

— Тысяч дзесяць, па-мойму, хопіць на першы раз, праўда? Як, патвойму, Маша?

— Што? — спахапілася яна.

— Ты не слухаеш мяне?

— А што?

— Я кажу, дом пабудуем свой.

— Дом?.. Ну, што ж... Ты інжынер, а я марожанае буду прадаваць...

— Ну... разумееш... — Павел не знаходзіў адказу.

— А два месяцы таму назад, — безнадзейна папракала Маша, — я чула ад цябе салодкія абяцанкі: «Будзеш працаваць у парніковай гаспадарцы...» Аб усім ты паклапаціўся... І атрымалася, што выйшла замуж, каб кватэру сцерагчы. Калі пабудуем свой дом, тады я назаўсёды стану хатняй гаспадыняй. Так? Так! Дык навошта я вучылася?

— Дык што мне, па-твойму?.. — узлаваўся Павел.

І не ўтрымаліся маладажоны ад першай сваркі.

Вось і паспрабуй задаволіць рамантыку маладых сэрцаў. Сапраўды: хіба аграному-паляводу ў горадзе месца? І хіба інжынеру-суднарамонтніку — на калгасных палетках? Няўжо яны вінаваты, што адзін аграном а другі інжынер? Ды ці варта іх папракаць у гэтым?

А спрэчка працягваецца...

* * *

Чаго толькі не перадумаеш, калі цябе выклікае ў кабінет начальства! Спачатку ў цябе разальецца на хвіліну нейкая асалода радасці, а потым падкрадзецца насцярожанасць: а можа правініўся, бо кожны дзень на рабоце можаш зрабіць памылку, а паправіш яе наспех. І паспрабуй пражыць сваю маладосць без душэўных бур і трывог. А хто яго ведае, колькі ў жыцці тых памылак і радасці, няўдач і шчасця? І чаго болей?

З такімі разважаннямі Павел зайшоў у кабінет да дырэктара завода і быў упэўнены, што гаворка пойдзе наконт рацыяналізацыі. Дырэктар завода быў ужо сівы чалавек. Кожнага, каго выклікаў да сябе, абавязкова сустракаў каля дзвярэй. Потым запрашаў сесці і заводзіў гаворку простую і шчырую... Здаецца, цябе выклікаў не дырэктар завода, а лепшы дружбак. Так было і на гэты раз. Ён паклаў руку на Паўлава плячо і пачаў з лёгкай іроніяй:

— Нават пагаліцца часу не знойдзеш... Запрацаваўся... Глядзі, брат, а то дзедам назаве маладая жонка. Яна, здаецца, нідзе не працуе?

— Пакуль дома... Ніяк работы не знойдзе... Яна ж аграном.

— Няўжо аграном работу ў горадзе шукае? — і дырэктар ледзь не засмяяўся, але Павел сказаў:

— Ну, дзе-небудзь у парніковай гаспадарцы.

— «Дзе-небудзь у парніковай гаспадарцы», — дырэктар паўтарыў словы Паула, надаўшы ім іранічны сэнс, і прайшоўся каля стала. Павел ніяк не мог зразумець, навошта дырэктар завёў такую гаворку. А дырэктар прадаўжаў:

— А ты ў калгасе даўно быў?

— Ну... гады два таму назад.

— А ці задумваўся ты над такім пытаннем, чаму некаторыя калгасы ў нашай вобласці маюць яшчэ нізкія ўраджаі? Гэта, таварыш Матыль, не толькі мяне цікавіць, але, я думаю, і цябе. Нават Цэнтральны Камітэт клапоціцца, каб і ў нашым рабочым магазіне было больш сала, масла. Напэўна, і на калгасных палях нам трэба свае веды і рукі прыкласці!

Пасля гэтых слоў дырэктар паглядзеў Паўлу ў вочы, зайшоў за стол і сеў на сваё месца. А Павел ніяк не здагадваўся, куды павернецца гэтая гаворка.

— Гэта было ў дваццаць дзевятым, — прадаўжаў дырэктар. — Мяне, гарадскога рабочага, партыя накіравала арганізоўваць калгасы. Спачатку цяжка было, але справіўся. Вось і цяпер абком партыі паставіў пытанне перад нашым заводам, каб некалькі таварышаў накіраваць у машынна-трактарныя станцыі. Як лепшага інжынера-суднарамонтніка, мы ад завода рэкамендуем цябе. Ты будзеш працаваць інжынерам у МТС, а жонка — аграномам у калгасе! Як, па-твойму?

Павел у здзіўленні ўстаў, а потым зноў сеў на тое ж месца. У жыцці пры нечаканых паваротах сапраўды губляеш на нейкі момант цвёрдую думку. Ён на момант уявіў тую МТС, дзе будзе працаваць, і параўнаў яе са сваім заводам. Не, нічога агульнага... Але сорамна выбіраць лепшае, калі давяраюць цяжкае і адказнае... Толькі ў душы загаварыла нейкая перасцярога. «А ці апраўдаю давер'е? Я ж не трактарарамонтнік, а суднарамонтнік...» Ён зірнуў на дырэктара.

— Я падумаю, таварыш дырэктар, — і спакойна выйшаў з кабінета.

* * *

На абед Павел не пайшоў. Не хацелася ісці і настрою не было. Парашыў заглянуць у заводскую сталоўку. Шчыра кажучы, пакідаць горад яму не хацелася. Толькі што як след асвоіў сваю спецыяльнасць, зжыўся з калектывам, ды і сям'ёй абзавёўся. Пачаў дбаць пра лепшае жыллё. На днях, напэўна, выдзеляць участак для будаўніцтва. А тут — на табе: трэба ехаць у МТС. Гэта значыць, трэба авалодваць новай спецыяльнасцю. Ці здолее? А калі ўжо на тое пайшло, дык чаму і не здолее? Хіба не хопіць ведаў, сілы волі! Нішто не даецца ў жыцці лёгка. І Маша працавала б аграномам. Цудоўная прапанова!

Выйшаў на заводскі двор. Абедзенны перапынак яшчэ не скончыўся. Ён прысеў на лавачку ў цяньку. Але думкі не пакідалі яго. І адна, неспакойная, сцебанула яго па настрою... Ён уявіў сабе, што галоўнага інжынера на вёсцы, ды і кожнага інтэлігента, як кажуць, па костачках перабяруць. А калі пашлюць у сваё Задуб'е? Ад гэтай думкі ажно горача стала. Задуб'е... А там жа пяць кіламетраў — і яго Асінаўка. Ён успомніў свайго аднагодка і таварыша Віктара Гаркушу. Віктара Паўлаў бацька адправіў у Нямеччыну. Бацька... Павел адчуў да бацькі нейкую блізкасць, але разам з тым і непрыязнасць. Бацька ўвесь час жыў у Асінаўцы. Некалі, акрамя хаты, меў каня, карову і роўны, як і ўсе, надзел зямлі. Разам з усімі і ў калгас уступіў. Праз два гады праўленне калгаса даручыла яму



калгасную кладавую. Потым, па часе, рэвізійная камісія выявіла ў свірне нястачу цэлай тоны збожжа. Пры вобыску ў Адама Матыля знайшлі калгаснае зерне. Праз тыдзень адбыўся суд, і Адама за пакражу прысудзілі да пазбаўлення волі на пяць год. Паўлік тады хадзіў у пяты клас. Прызнацца, ён не вельмі чакаў бацьку з турмы, бо той часта лупцаваў яго. Пачалася вайна. Увосень вярнуўся бацька дадому, у Асінаўку. А тут ужо другая ўлада, «новы парадак»...

Аднойчы позняй ноччу да Матыля пастукалі ў акно. Прасіліся ў хату незнаёмыя людзі. Спачатку маці не адчыняла, а калі падаў голас былы старшыня сельсавета, бацька сам адчыніў дзверы. У хату ўвайшло пяцёра. Прывіталіся. Разгаварыліся. Потым папрасілі маці, каб падрыхтавала закуску, паставілі на стол дзве бутэлькі. Гаварылі з бацькам, прапаноўвалі яму ісці ў партызаны. Бацька адмаўляўся, а Паўлік выглядваў з-за коміна, і яму хацелася крыкнуць з печы: «Ну чаго ж ты баішся, гэта ж фашыстаў біць!» Але бацька сказаў, што падумае. Аднак нічога добрага ён не надумаў.

Павел добра памятае, як да іх прыходзілі фашысты і выпівалі не самагонку, а нешта ружовае і пахучае. Частавалі і бацьку. Неяк немец заўважыў Паўліка за комінам і паклікаў яго. «Ну!» — грозна загадаў бацька. Паўлік пакорліва злез з печы. Налілі і яму кілішак. Выпіў — смачнае. Потым гітлеравец прагугнявіў, што дорыць стараставаму сыну губны гармонік. А гармонік той, нібы пазалочаны, зіхацеў. Паўлік скеміў: «Фашыст дае... Няўжо мой бацька старастам?» — і палахліва адступіўся. Бацька зірнуў на яго памутнелымі вачыма і загадаў: «Бяры!»

Праз нейкі час Паўлікавага бацьку сапраўды прызначылі старастам у Асінаўцы. Плакалі дзеці-сіраты. Галасілі жанчыны па сынах і дочках, якіх забіралі ў Нямеччыну.

Але хутка прышоў страшэнны для Адама, Паўлавага бацькі, час: пад націскам Савецкай Арміі гітлераўцы ўцякалі з Асінаўкі. Бацька і маці з клункамі ўмасціліся на падводу, пасадзілі на воз Паўліка і паехалі з немцамі. Як толькі досвіткам выехалі з Задуб'я, пачалася бамбёжка. Самалёты налятаЛі не адзін раз.

У той ранак Паўлік страціў бацьку і маці. Іх забіла бомбай.

Плачучы, вярнуўся хлопчык у Асінаўку да дзядзькі Нупрэя. Той прытуліў пляменніка. Карміў і вучыў яго.

Павел Матыль быў вельмі здатны да вучобы. Пасля заканчэння Задубскай дзесяцігодкі ён паступіў у водна-транспартны інстытут. Студэнтам ён прыязджаў да дзядзькі на канікулы. Пры сустрэчы кожны зямляк пранізваў яго калючым позіркам, нібы ён натварыў таго, чаго нельга дараваць. А за што такая ганьба? За бацьку!

За бацьку!

Аднойчы ў калгасным клубе былі танцы. Гуляла моладзь. Павел таксама танцаваў.

Якраз у клуб зайшоў і намеснік старшыні калгаса Аўтух Вішня. Ён прывітаўся з усімі. Памкнуўся павітацца і Павел. Але Вішня нахмурыў бровы:

— Матыль?

— Так, Матыль, — сказаў Павел, выціраючы хусцінкай успацелы лоб.

Намеснік адвярнуўся ад Паўла і апусціў руку.

Паўла аж апёк гэты дакор. «За бацьку»...—здагадаўся ён. Потым зірнуў на дзяўчат і хлопцаў. Здаецца, увесь вечар яны на Паўла глядзелі шчыра, а цяпер — халодна, сурова, і ўсе адвярнуліся ад яго.



Да канца летніх канікулаў заставалася больш месяца, але назаўтра Павел пакінуў Асінаўку. І больш не прыязджаў ні ў родныя мясціны, ні да дзядзькі Нупрэя. Праўда, хоць рэдка, ды пісьмамі не забываў старога. Колькі ні запрашаў дзядзька пляменніка ў госці — той не прыязджаў. А калі ўзбіўся на свой хлеб, дык і думаць пакінуў пра Асінаўку.

* * *

Ніколі так не было, каб Павел не прышоў на абед. Мо' на рабоце нешта нядобрае здарылася, мо' захварэў, а мо'?.. І як толькі гэтае «мо'» Маша не разгадвала! Ужо мінуў той час, у які звычайна Павел прыходзіў з работы. І Маша выйшла на вуліцу, доўга прастаяла на тратуары, гледзячы ў той бок, адкуль павінен ісці Павел, а яго ўсё не было.

Неахвотна паднялася на трэці паверх, зачынілася ў пакоі, і зноў адзінота пачала навяваць думкі пра работу ў яшчэ невядомай ёй парніковай гаспадарцы...

У пакоі ціха. Яна падышла да акна, адхіліла гардзіну і глянула на горад. Там, за заводскай трубой, зелянелі прысады парку, а за паркам рэчка і зялёная далячынь калгаснага поля. Яна апусціла ўдумлівыя вочы: здаецца, яе сустрэў дырэктар тэхнікума і дакорліва паківаў галавой: «Аграном... Моладзь едзе нават з Масквы на Далёкі Усход, на цаліну, а ты...» І тут жа Маша ўявіла, як Павел і яна, узяўшыся за рукі, ідуць між высокіх сцен густога жыта. Надвячорак...

Нарэшце, вярнуўся Павел. Ён быў невясёлы, задумлівы. Дастаў з кішэні пачак грошай і паклаў на стол.

— Прэмія, — сказаў ён і сеў на табурэт.

Маша падумала: можа Павел быў у камандзіроўцы і вярнуўся стомлены?

— Распранайся, памыйся, — прасіла яна. — А я абед падрыхтую.

Ён маўчаў.

— Далёка дзе быў? Ну, чаму ты такі? Мо' палаялі цябе?

— Наадварот, пахвалілі, — Павел уздыхнуў і позіркам сустрэўся з вачыма Машы. У іх, здавалася, зззялі здагадлівасць і лёгкі дакор. Твар Паўла змякчыла ўсмешка, і ў вачах яго прамільгнулі цёплыя іскаркі.

— Вось гэта і трэба было, — і Маша пяшчотна пачала гладзіць яго па плячы, а потым жартаўліва. — А то надзьмуўся... А завошта цябе пахвалілі, раскажы?..

— За тое, што з мяне не толькі суднарамонтнік, але будзе добры і трактарарамонтнік... Разумееш? І я рашыў спачатку з табой параіцца. А раптам ты не захочаш?

— Дурненькі ты, Паша, чаму ты так думаеш пра мяне?..

— Я жартую. Мне самому боязна, ці спраўлюся я з гэтай работай.

Яна зразумела ўсё, паківала галавой, а потым пачала:

— Хто ж справіцца, калі не ты, Павел!

— Дык паедзем?

— Паедзем!

* * *

І надышоў той дзень, калі Маша і Павел пайшлі ў райком партыі. Яшчэ з самага ранку Паўла турбавала, куды пашлюць? Інструктар райкома запрасіў да сябе ў кабінет, каб выпісаць ім накіраванне, і запытаў:

— Можа самі выбераце, у які раён паехаць?

— Ды нам усёроўна,— адказаў Павел.

— Так,— згадзілася і Маша.

Інструктар нейкі час у сваіх паперах штосьці шукаў і перакладваў левай рукой папкі, бо замест правай у яго быў пратэз, а потым папрасіў Паўлаў пашпарт. Адгарнуў вокладку і, зірнуўшы, дзе Павел нарадзіўся, нібы ўзрадаваўся:

— Ага, вы з Жураліцкага раёна, зямляк, вельмі добра,— і, знайшоўшы на карце свой раён, паказаў пальцам: — Вось у Задубскую МТС патрэбен галоўны інжынер, а ў калгас «Сейбіт», у Задуб'е,— аграном. Цудоўна!

— Таварыш інструктар, толькі не ў Жураліцкі, прашу вас.— Павел пачаў прыкметна хвалявацца і настойваць: — У многія ж МТС патрэбны спецыялісты.

— Павел, што ты кажаш, — здзіўлялася Маша, — паедзем на тваю радзіму.

Але Павел стаяў на сваім. Ён абапёрся на стол і ўсё прасіў інструктара:

— Вам жа ўсёроўна, куды пасылаць мяне. А ў Задуб'е не паеду...

— Што вы, таварыш Матыль!.. Вы ж і людзей там лепей ведаеце і поле знаеце.

— Ды я там зусім мала жыў, нікога не ведаю.

— Нічога, папрацуеце і будзеце ведаць.— Інструктар пачаў выпісваць ліст.

Павел адышоўся ад стала і ўздыхнуў. Інструктар на нейкі момант перастаў пісаць, але Маша запэўніла яго.

— Пішыце, мы згодны ў Задубскую МТС. Праўда, Паша?..

## IV

Калі на полі зелянее рунь, а над галавой у чыстым блакіце палае яркае сонца,— здзіўляешся: на двары лета ці восень? Як дзе, а ў нашых краях — лета, хоць верасень і звыклі лічыць восенню.

Адтуль, з-пад лесу, даносіцца мядовы водар зацвіўшага верасу. Белыя, стройныя бярозы свае зялёныя ўбранні фарбуюць пад сонцам пазалотай. Вось павольна ляцяць надарваныя павуціны. Адна за адной яны чапляюцца на вецце, і бярозка, як нявеста, упрыгожваецца імі.

На полі сям-там плывуць камбайны, пакідаючы за сабой копы яравой саломы. Далей шырыцца ралля.

Шафёр ведае свой маршрут. Пяцітонка з шафай у кузаве, хатнімі рэчамі гурчыць па дарозе. Маша і Павел сядзяць наверсе, жмураць вочы ад сонца і ветру, уважліва, пільна ўглядаюцца ў наваколле.

Грузавік узбег на ўзгорак. Павел зірнуў на Машу і паказаў рукой:

— Асінаўка.

Праязджаючы вёску, шафёр зрэдку сігналіў гарэзлівым хлапчукам, якія сям-там перабягалі вуліцу. Павел з-пад брылька фетравага капелюша ўпотайкі зірнуў на хату дзядзькі Нупрэя. На лавачцы ў цяньку сядзеў сам стары. Курыў люльку і праводзіў вачыма машыну, якая пакідала за сабой густыя воблакі пылу. Не заўважыў пляменніка дзядзька. Прамінулі тое месца, дзе жыў Паўлаў бацька. Там ніхто не сяліўся. На селішчы засталася толькі каржакаватая вішня з сухімі галінамі. Далей па вёсцы, дзе ў вайну былі адны папялішчы, зараз стаялі новыя дамы на цагляных падмурках з шыфернымі дахамі. Ля кожнага двара палымнела чырвоная рабіна. Паабапал вуліцы — маладыя прысады з кучаравых бярозак, лапушыстых клёнаў. Зірнеш на агароды: тырчаць, як пікі, сцяблы кукурузы, ляжаць на сонцы гарбузы. Адчуваеш, як у вёсцы прыемна пахне мёдам, антонаўкай.



На вуліцы шмат людзей. Усе апрануты па-святочнаму — дзень выхадны.

З аднаго двара, прыбраная чырвонымі стужкамі, выехала адкрытая «Пабеда», за ёй — другая, трэцяя... У машынах поўна людзей. Музыка, песні... Гэтак у Асінаўцы гуляюць вяселлі.

Праехалі сяло...

— Якая прыгожая вёска! — сказала Маша. — Бацькаўшчына твая, а ты не хацеў сюды ехаць.

Павел маўчаў. З узгорка відаць было Задуб'е.

* * *

Ля канторы МТС Павел саскочыў з машыны. Яму насустрач выйшла жанчына з вядром. Яна была з выгляду не зусім старая. З-пад белай хусткі выбіваліся пасмы кранутых сівізной валасоў. Твар яе маршчакаваты: відаць, нялёгкае жыццё пакінула свае сляды. Падышоўшы да Паўла, яна дапытліва зірнула на яго і паставіла вядро.

— Дырэктар дома? — запытаў Павел.

Жанчына яшчэ раз акінула позіркам грузавік, потым, не спяшаючыся, прамовіла:

— Дома... Вы на работу можа да нас? — спытала старая, а калі ўпэўнілася, што так, забедавала: — Ай-яй-яй, ды толькі ж выйшаў... А вы пакуль што заходзьце ў кантору,— і знікла за дзвярыма.

МТС размяшчалася на сонечным схіле пагорка, з якога, як на далоні, віднелася Задуб'е, а ў цэнтры яго — вялізны дуб. Вуліцы ад дуба адыходзілі ва ўсе бакі вёскі. Паміж вёскай і МТС у альховых кустах працякае невялікая рачулка Паддубянка. А праз масток, які перахапіў у адным месцы рачулку, на сядзібу МТС цягнулася дарога. Далей за вёскай бярозавы гай, а за гаем — поле і зноў лес.

Павел і Маша адразу, не чакаючы дырэктара, пайшлі аглядаць сядзібу. Вось вялікая будыніна, пэўна, майстэрня, бо каля яе стаіць «разуты», без гусеніц, трактар. Лявей ад майстэрні — бульбасаджалкі. Далей узвышаліся дзве доўгія і шырокія пабудовы. На адной з іх былі пастаўлены толькі кроквы. У другім баку, свецячы белымі вокнамі, стаяў раскошны з жаўтаватымі сценамі дом, на ім шыльда: «Ветлячэбніца». У нізіне, ля альховых кустоў, тулілася кузня, а на ўзгорку ляжалі пузатыя іржавыя цыстэрны.

З палачкай у руцэ, пакульгваючы, да Паўла падышоў чалавек. Сівую бародку ён трымаў паднятую ўгору. Густыя бялесыя яго бровы былі нахмураны, ён нібы жмурыў вочы ад сонца. На лысай, бы наглянцаванай галаве адбівалася сонца і, здавалася, яно серабрылася ў кудзерках рэд-

кіх валасоў, якія засталіся толькі для памяткі на скронях ды на патыліцы. З першага позірку яму можна было даць год за шэсцьдзесят. А калі прыгледзецца бліжэй, дык можна было заўважыць, як у блакітных вачах граюць вясёлкі цёплай усмешкі. Тады здавалася, што чалавек маладзеў да сярэдніх год.

— Вы, значыць, інжынер? — запытаў ён.

— Так...

— Будзем знаёмы — Лаўрэн Карпавіч Жолудзь,— ён спярша падаў руку Машы, потым Паўлу і дадаў: — Дырэктар МТС.

— Мы прыехалі...— заікнуўся Павел.— Вам званілі...

— Ведаю, ведаю,— перабіў дырэктар і згроб у жменю сваю бародку. Маша ўважліва разглядала дырэктара.

— Дзе ж вас пасяліць? — сам у сябе пытаў Лаўрэн Карпавіч і ўсё трымаў тую бародку ў жмені, быццам яна дапамагала яму думаць.

Павел утаропіў на яго вочы: дзе ён бачыў гэтага чалавека? Наважыўся было запытаць, але пасаромеўся.

— Праскоўя Арсенеўна! — гукнуў Лаўрэн Карпавіч жанчыну, якая іх спаткала. Тая азірнулася і падышла да дырэктара.

— Арсенеўна, здаецца, вы адна жывеце?

— Адна.

— І кватэра прасторная?

— Ага... і кватэра, як палац,— твар бабкі пасвятлеў здагадлівай усмешкай.

Лаўрэн Карпавіч запытаўся:

— Дык можа інжынера возьмеце ў свой палац?

— Калі згодзяцца — вазьму,— і лагодна ўсміхнулася.

## V

Праскоўя Арсенеўна завіхалася ў пакоі, рыхтуючы месца кватарантам. Машы нават за венік узяцца не дазволіла, а параіла, каб яна лепей з новым месцам пазнаёмілася.

Маладых спецыялістаў Лаўрэн Карпавіч запрасіў да сябе. А там за простым сялянскім сталом мужчыны выпілі па чарцы белай, а Маша — кілішак чырвонай. Гамонка пайшла складней. Дырэктар уважліва слухаў, аб чым гаварыла Маша. Ён на кожнае слова ўсё ківаў галавою, згаджаўся. Маша расказвала, як сама папрасілася на работу ў вёску.

Павел не зводзіў позірку з дырэктара. Сапраўды, калі сустрэнеш чалавека, з якім некалі бачыўся, дык цікаўнасць не дае спакою да таго часу, пакуль не прыпомніш, хто гэта, дзе яго бачыў раней.

— Дык, значыць, вы па спецыяльнасці суднарамонтнік? — запытаўся Лаўрэн Карпавіч.

— Так... а вось які буду трактарарамонтнік — не ведаю,— авансам сам спрабаваў застрахаваць сябе Павел.

— Галоўнае — веды інжынера,— заўважыў дырэктар.— І яшчэ — жаданне працаваць! Захочаш — любая справа табе па плячу. А прынцып наш вядомы: не ўмееш — навучым! Цяжка — дапаможам, не хочаш — выганім!.. Вось у мяне працуе меліяратар. Вярнуўся з арміі, сем класаў адукацыі. Падвучылі трохі, глядзім, пачаў сёе-тое кумекаць... Кемлівы хлопец. Прыязджала камісія правяраць работу — хвалілі. Паслалі вучыцца. Выдатнік. Трэба толькі захацець! А то быў у нас інжынер, загадчык майстэрні, з вышэйшай адукацыяй. Жонка ў горадзе сядзіць, а ён тут лынды б'е. Як субота, так і спяшаецца ў горад да яе. Паўгода папрацаваў і пачаў прасіцца, каб адпусцілі. Мы не адпускалі. Дык ён і зусім заваліў работу. Што ж, выгналі яго. Пасля прыязджаў, прасіў даць добрую характарыстыку. Я адказаў: «Як працаваў, так і напішам...» А механізатары ў нас вопытныя, любяць тэхніку. З душой працуюць...

— Як ураджай у гэтым годзе? — пацікавілася Маша.

— Нішто сабе. Толькі ў калгасе «Сейбіт» лён прапаў. А такі лён быў!

Гаворка не спынілася б, калі б недзе не зайграў гармонік. Маша зірнула ў акно. Па вуліцы ішла моладзь.

... Сонца ў небе хілілася на захад. Пад косымі праменнямі цераз вуліцу лажыліся доўгія цені ліп. Вецер, нібы ўтаміўшыся за дзень, прыціх. У такі час ні дарослыя, ні дзеці — ніхто не ўседзіць у хаце. З пяці вуліц Задуб'я сыходзілася моладзь на любімае месца для гулянак, пад разгалісты дуб, які горда ўзняў угору свае шаты.

Баяніст на лавачцы па-заліхвацку расцягваў баян, на танцавальную пляцоўку выходзілі пары і пачыналі кружыцца ў віхры вальса. Усіх пацягнула туды, да моладзі.

Ля кветніка на лаўцы Лаўрэн Карпавіч заўважыў вольныя месцы і прапанаваў сесці.

А карагод рос, музыка змянілася песняй.

Прыжмурыўшы вочы, Павел паглядзеў на дуб і сказаў:

— Нам яшчэ да вайны настаўніца ў школе расказвала... Я, памятаю, хлапчуком прыбягаў глядзець на яго. Ён нават ад нас відзён.

— Ад вас? — не зразумеў Лаўрэн Карпавіч. — Адкуль гэта?..

— Ад нас, з Асінаўкі.

— А чый ты там Матылёў? Нупрэеў ці Адамаў?

— Адамаў.

— Адамаў, ага... — і Лаўрэн Карпавіч хвіліну памаўчаў, а потым яшчэ раз зірнуў Паўлу ў вочы і паўтарыў: — Адамаў...

Ён уздыхнуў і задумаўся. Калі ўздыханні пры сустрэчы — гэта ўспаміны. Успаміны пра былыя гады. Аб чым задумаўся, што прыпомніў гэты пасівелы і бывалы чалавек? Павел нават у сваёй Асінаўцы ведаў не ўсіх аднавяскоўцаў, не гаворачы пра Лаўрэна Карпавіча, які і тады жыў у Задуб'і. Затое Лаўрэн Карпавіч добра памятае і Адама, і Паўла, які быў тады хлапчуком, і калі хто незнаёмы заходзіў да іх у хату, ён крадком выглядваў з-за коміна. А потым, потым... ад успамінаў Лаўрэну Карпавічу стала балюча, і ён запытаў у Паўла:

— А дзе ж бацька твой дзеўся, ведаеш?

— Не пытайце пра яго, Лаўрэн Карпавіч.

Маша прыслухалася да гаворкі, заўважыла на твары Паўла нейкую разгубленасць. Яна помніла, што Павел казаў, бацьку яго на вайне забілі. Ці так гэта?

— Няхай былое забываецца, — сказаў Павел, — я не хачу аб ім думаць... І, каб застаўся жыць ён, я нават адрокся б яго.

Лаўрэн Карпавіч выняў з кішэні партабак, узяў з яго дзве папяросы і адну даў Паўлу. Як кажуць, курыва думаць дапамагае. І сапраўды, Лаўрэн Карпавіч задумёна прамовіў:

— От гэта дрэва, дуб. Лепей бы яго к таму часу буран зваліў. А то як зірну на яго, так мне і ўспамінаецца, — і ён нейкі момант прымоўк. Незвычайнае маўчанне навастрыла ўвагу Машы.

— Ну, раскажыце, Лаўрэн Карпавіч, раскажыце, — папрасіла яна.

Лаўрэн Карпавіч абабіў попел з папяросы і ямчэй выцягнуў сваю нагу, якая зусім не згіналася.

— Не варта сёння, — сказаў ён. — Такі вечар вясёлы, вы лепей патанцуйце, а я, па-старэчаму, пакуру.

Але Павел таксама стаў прасіць, каб дырэктар усё-такі расказаў.

— Прайшоў доўгі час, і гэта здаецца нецікавым ужо, — неахвотна загаварыў Лаўрэн Карпавіч. — Гэта было зімой у сорак другім... Мы праводзілі пасяджэнне парткома ў Асінаўцы, у гумне Курганка. Дзед той яшчэ і цяпер жыве. Нас было васьмёра... Нейкі здраднік, добра не ведаем хто, але здагадваемся, данёс фашыстам. Наляцелі яны на нас. Шасцёра ўцякло, а мяне са старшынёй сельсавета Вараксам, вось у доме якога вы цяпер пасяліліся, злавілі. Праз тыдзень суд, і прысудзілі нас павесіць. І вось марозным днём у «душагубцы» прывезлі на гэтае самае месца ў родную вёску. Пазганялі сюды жанчын. Тыя плачуць. Прывялі і жанок нашых, думалі, што можа жанкі сваімі слязьмі прымусяць нас сказаць, дзе партызаны. Але мы — ні слова. Тады гестапавец закінуў на ніжні сук вяроўку-пятлю і павіс на ёй, але сук трэснуў. Вунь, ніжні гуз бачыце? Потым загадаў пачапіць вяроўку на другім суку. А вунь там хата стаяла... І раптам з-пад яе страхі — кулямётная чарга! Нашы хлопцы, партызаны. Я ўпаў, прытаіўся, але фашысты стралялі па мне. Куля трапіла якраз у калена, раздрабіла... Вось і не разгінаецца цяпер... А Сяргей Варакса... Ён так і стаіць у маёй памяці каля гэтага дуба... з паднятай рукой... Застрэліў фашыст...

Цяпер Павел добра пазнаў Лаўрэна Карпавіча. Гэта ж ён разам са старшынёй сельсавета прыходзілі агітаваць бацьку ісці ў партызаны.

Паўлу стала холадна пры думцы: «Можа бацька тады выдаў гестапаўцам Лаўрэна Карпавіча і Вараксу?» І чым больш думаў, тым больш пачынаў пячы сорам за бацьку. Адчуванне было такое, нібы і ён у чым-небудзь вінаваты.

Пакутліва думаць сыну пра свайго бацьку, калі той застаўся ў памяці людзей нягоднікам і злачынцам. Можа хто-небудзь кроплю бацькавай віны ўскладвае і на Паўла? А мо' і сам Лаўрэн Карпавіч, з якім давядзецца працаваць, жыць, трымае камень за пазухай супраць яго? Мяркуй, адгадвай. А ў Лаўрэна Карпавіча, здаецца, ужо не стала той шчырасці, ён усё расказвае толькі Машы.

— А вось там, дзе кветнік, — Лаўрэн Карпавіч прадаўжаў і голас яго быў ціхі,— брацкая магіла. Там пахаваны і Варакса са сваёй жонкай... Вы прабачце, што я расказваю пра гэта... Не магу інакш. Як прыду да дуба, так і паўстае перад вачыма той чорны дзень.

Сонца над садам развітальна пасылала апошнія промні. Шмат мінула і ў Машыным жыцці сонечных дзён. А што страціла ў дзяцінстве, тое цяжка знайсці дарослай, нават з сонцам у руках, —думала яна, успамінаючы сваіх бацькоў. Становіцца цяжка, калі ў думках зноў і зноў паўстае маці і родны кут. Вядома, у кожнага ёсць родны кут, бацькаўшчына: то ў вёсцы каля такога дуба, то ў невялікім мястэчку, то за лесам у сяле, то на водшыбе ў маленькай хатцы, то пад хвояй у партызанскай зямлянцы...



Радзіма! Няхай пройдуць гады і сівізна пабеліць твае скроні, няхай ты будзеш далёка ад першай роднай сцежкі, і як бы ні цвіла ў шчасці старасць твая, а хілую хатку, а матчыну крыніцу ды бацькоўскую сцежку ты не забудзеш!

У Машы забілася сэрца. У каго ёй спытаць, дзе яе маці, дзе Машына бацькаўшчына?..

Лаўрэн Карпавіч сабраўся пайсці дадому. Павел таксама ўжо адыходзіў. Толькі Маша, здаецца, тут стаяла б і думала... Баян іграе. Кружацца ў танцы дзяўчаты і хлопцы, нават пажылыя. Хораша ўсім... А ёй?..

## VI

Калі ў канторы МТС Паўлу прапанавалі запоўніць анкету і аўтабіяграфію, то яго спачатку прабралі халодныя дрыжыкі і ён падумаў: «Эх, бацькі, бацькі, не думаеце вы ў свой час, як потым вас дзеці будуць успамінаць... Вы ж таксама складаеце частку біяграфіі сваіх дзяцей». І ён неахвотна ўзяў лісток паперы, ручку і пачаў... Думаць пачаў. А што ўсё-такі напісаць пра бацьку? Мо' так, як і ў абкоме, сказаць, ці інакш?.. Не! Свае людзі. Яны ўсёроўна ведаюць, як аблупленага, і бацьку і мяне. Дрыжэнне змянілася гарачынёй, і Паўлу стала горка і балюча. А можа цяпер зусім не ўпамінаць пра бацьку? Але трэба ж нешта пісаць, бо сапраўды, якая ў мяне біяграфія без гэтага? Значыць, трэба пісаць пра тое, што бацька быў фашысцкім паслугачом і прынёс многа пакут людзям.

А рука непаслухмяная. На чысты аркуш паперы капнула клякса... Змяніў ліст...

Што ж... напісаў так, як было. Склаў усе лісты ў адну папку і падаў дырэктару. Лаўрэн Карпавіч, не спяшаючыся, уздзеў на нос акуляры і пачаў чытаць. Павел крадком сачыў за выразам яго твару. Вось ён спыніўся на адным месцы, зірнуў на Паўла, як яму здалося, зневажальным позіркам, узяў алоўак і паставіў кропку насупраць слоў, дзе гаварылася пра бацьку. Шчокі Паўла зачырванеліся, і на ілбе выступіў халодны пот.

Так пачалася ў Паўла работа на бацькаўшчыне. Для каго бацькаўшчына — родны дом, а для Паўла — гарачы чарэн, на якім трэба сядзець ды цярпець, пакуль хоць трохі астыне. І астыне тады, калі ён, Павел, пакажа сябе добрай работай...

І дзень выдаўся непрыветны. Хмурае неба. Вецер з сыпучым пяском. Павел моршчыў твар. У грудзях яго было цяжка. Няўжо бацькавы злачынствы і цяпер стануць на яго шляху, няўжо будуць чарніць яго жыццё, настрой? Думкі, як тыя хмурынкі ў небе, плывуць адна за адной, і навальніцы не робяць, а блакіт засланяюць.

З-за гэтых невясёлых думак Павел і не заўважыў, як дайшоў да майстэрні. Механізатары з падбадзёрваючым крыкам «раз, два... узялі...» нешта грузяць у кузаў самазвала. Павел падышоў да іх. Некалькі хлопцаў натужліва падымалі заіржаўлены стары карбюратар і ўзвальвалі яго ў кузаў. Гэта з МТС вывозяць металалом. Павел пайшоў далей, а за ім услед і журботныя думкі. Ён хадзіў, знаёміўся. Думаў пра ра-

монт машын, цэлых агрэгатаў. А вузлавы метад рамонту? Усё трэба ведаць, і ведаць лепш за іншых. Давядзецца вывучаць капрызы матораў. І тут жа ён успомніў прынцып Лаўрэна Карпавіча: «Не ўмееш — навучым! Цяжка — дапаможам! Не хочаш — выганім!» Значыць, трэба вучыцца самому і вучыць іншых. Каб добра працаваць галоўным інжынерам, неабходна быць і выдатным арганізатарам. Пачнецца рамонт тэхнікі — ад інжынера залежыць зладжанасць у рабоце ўсяго калектыву механізатараў. У час палявых работ тэхніка павінна працаваць беспераббойна. Усё гэта кладзецца на плечы інжынера. Таму яго і накіравалі ў гэтую МТС, дзе некалькі год не было інжынера і зараз яшчэ няма вопытнага загадчыка майстэрні. Выхад адзін: вучыцца, авалодваць новай спецыяльнасцю і ўсе сілы аддаць, каб справіцца з работай. Гэта яму, Паўлу, даручана такая важная і адказная справа.

Толькі сабраўся ісці на абед, як пазванілі з калгаса «Камсамолец». Брыгадзір паляводчай брыгады спыніў сеялку таму, што ў ёй пераблытаны насеннеправоды і завышаецца норма высеву. А з другой трактарнай брыгады паведамілі, што сапсаваўся трактар і трактарыст з механікам не могуць яму даць рады. Павел завёў «лятучку» і сам паехаў. Куды ж спярша? Парашыў спачатку да сеялкі. Нельга ж затрымліваць сяўбу азімых.

Калі наладзіў сеялку, сонца схілялася к заходу. Канчаўся дзень. Ён ведаў, што Маша чакае яго дадому, але ж работа не скончана. Паехаў і да трактара.

Надыходзіў вечар. Чырвонае зарава на месцы зайшоўшага сонца паступова тухла. Павел пачуў рогат мужчын і падаўся да іх. Механізатары збіраліся разыходзіцца. Павел нечакана з'явіўся да трактарыстаў, кожнаму руку падаў, пазнаёміўся. Ветлівасцю інжынера засталіся задаволеныя ўсе, а калі ён загадаў зараз жа распачаць ворыва, хлопцы загулі. Адзін гаварыў, што няма з сабой вячэры, другі ірваўся да жонкі, якая захварэла. Тады Павел параіў хлопцам схадзіць у вёску павячэраць і вярнуцца, пакуль ён будзе шукаць няспраўнасці ў машыне. Не адказалі хлопцы ні добрага, ні благога і паклыпалі напрасцяк да вёскі праз раллю.

Толькі цяпер у Паўла ўзнікла пачуццё адказнасці за ўзятую справу. А калі ён не знойдзе няспраўнасці ў трактары? Лёгкадумнасць... Вернуцца трактарысты, дык ён пачне прасіць прабачэння ў іх: «Так і так, хлопцы... я такі ж няўмека, як і вы». Гэта ж смеху будзе на ўвесь раён. Вось табе, галоўны інжынер, і першы экзамен.

Аднак Павел узяўся за работу. Цемень усё гусцее і гусцее. Праўда, у яго — кішэнны ліхтарык. Пачаў свяціць і корпацца ў маторы. Зноў спрабаваў заводзіць, зноў корпаўся. Над полем узышоў месяц, а Павел усё працаваў.

Вярнуліся трактарысты.

— Даруйце, таварыш інжынер, што доўга затрымаліся, — пачаў апраўдвацца малодшы, — сябар з арміі вярнуўся, ну як было не зайсці? Вы ўжо чакалі, пэўна, нас? Можна заводзіць?

— Вось бачыш, свечы ледзь не перапалілі, — папракнуў Павел. — Завядзем!..

Ён упэўнена ўзяўся за ручку. Крутнуў раз, другі. Ніяк... Але ўспышка адчуваецца. Павел паддаў газу і яшчэ раз з усёй сілы крутнуў. Матор зароў.

Трактарыст скочыў на сядзенне, націснуў на старцёр... і цягач зрушыў з месца... У Паўла па целе прабеглі лёгкія дрыжыкі і прыемнае цяпло. Куды падзелася тая млявасць... Стала салодка на сэрцы. А трактар ракоча роўна, упэўнена... Вось завярнуўся на другі заход. Прамяністым, яркім святлом асвятляе шлях, пракладваючы новыя баразны.



* * *

Што ні новая кватэра, то для жанчыны новыя турботы. Паспрабуй расставіць усё на месца, каб было ўтульна, каб, прышоўшы з работы, можна было адпачыць у сваёй кватэры. Здаецца, усё гэта проста, а для гаспадыні хапае клопатаў. А новая мэбля ў кватэры — для яе гэта новая прыемнасць. Сёння Маша купіла этажэрку. І выняўшы кніжкі са скрынкі, расставіла іх на паліцах: Паўлавы — на верхнюю, свае — на сярэднюю. На сцяне павесіла партрэты: свой і Паўла.

Здаецца, пакой ужо добра прыбраны. Усё на месцы, усё як трэба быць. Толькі ўжо дзесятая гадзіна вечара, а Паўла яшчэ няма з работы. Машы затрымка мужа не падабаецца. Няўжо гэта заўсёды так будзе?

Яна яшчэ з гадзіну чакала. Не дачакалася Паўла — легла спаць. Думала, які яму прыгавор вынесці за спазненне. На першы раз парашыла толькі папярэдзіць. Нават словы падрыхтавала, якімі сустрэне яго. Хто шчыра кахае, той моцна і злуе.

Нарэшце прышоў і Павел. Як толькі ён пераступіў парог, па першых яго словах Маша зразумела, што ён альбо выпіўшы, альбо, адчуваючы сваю віну, прыкінуўся жартаўлівым дзіцём. Але калі глянула на яго твар — дык жахнулася: ніколі яго твар такім мурзатым не бачыла. Ён папрасіў у Машы цёплай вады памыцца. Яна хуценька падхапілася з пасцелі.

Павел зірнуў у люстэрка і сам здзівіўся:

— Вось яна, эмтээсаўская парфума.

Розніца паміж трактарарамонтнікам і суднарамонтнікам, як зразумеў цяпер Павел, заключаецца ў тым, што з завода ён вяртаўся ў чыстай вопратцы і трохі стомлены, а з МТС або з поля — хоць запылены і з мурзатым тварам, затое бадзёры і вясёлы. Адзін умывальнік цёплай вады — і ён зноў чысты і свежы. На плячах — белая сарочка, і паспрабуй цяпер адрозніць гэтага чыстага мужчыну ад канцылярскага работніка.

Напіўшыся чаю, Павел пацікавіўся:

Чаму ты сумная, Маша?

— Доўга цябе чакала.

Яна села насупраць яго і зазірнула ў вочы. Яны, здаецца, былі абыякавымі і безуважнымі. Што з ім? Маладажоны не раз адкрываюць адно перад адным сакрэты сваіх характараў. Але на душы ў Паўла сапраўды было хмурна. Яму даўно хацелася расказаць падрабязна Машы пра свайго бацьку.

І Павел у гэты вечар расказаў усё, што было яшчэ невядома жонцы з яго біяграфіі. Расказаў і пра тое, як Лаўрэн Карпавіч заходзіў да іх агітаваць бацьку ў партызаны.

— Дык што мне застаецца цяпер рабіць?.. — у голасе Паўла было ні то здзіўленне, ні то пакута. — Уцякаць адсюль неразумна. Скажуць: які бацька, такі і сын. Не выслужвацца, а працаваць трэба, Маша, працаваць да крывавага поту. Калі мне здарыцца затрымацца на рабоце, то не думай нічога нядобрага. Я за свайго бацьку не вінаваты, а ўсё-такі я разумею людзей. Пры сустрэчы са мной балюча ім.

— Можа і майго тату выдаў такі гад гестапаўцам, — усхвалявана сказала Маша.

— Маша, лепей не будзем успамінаць нанач такое страшнае.

Маша моўчкі глядзела на яго і сказала ціха і лагодна:

— Хіба ж мы дзеці...

## VII

Не заўсёды так атрымоўваецца, як мяркуеш. Маша ў гэтым цвёрда пераканалася. Яна ўжо трэці тыдзень працуе аграномам у калгасе, а творчай радасці яшчэ не адчула. Узыйдзе сонца — спяшаецца ў канцылярыю, бо рабочы дзень у калгасе павінен пачынацца досвіткам. Павінен... Сапраўды, канцылярыя адчыняецца рана, а брыгадзіры збіраюцца на нараду, калі сонца пачне добра прыграваць. Ну, а старшыня? Старшыня нікому не падначалены.

Брыгадзіры пасядзяць у канцылярыі, пагамоняць з Машай і разыходзяцца загадваць калгаснікам на работу, а яна — на поле.

...Маша ўжо справілася абысці Дзярбінку і Прыбач, а калгасніцы толькі што выйшлі на работу. Ішлі, не спяшаючыся, смяяліся, усе гаваркія — вясёлая кампанія. Падышлі да ільняной сцірты і пачалі памалу брацца за работу. Маша падышла да іх і прывіталася.

— Спрыт на помач...

Калгасніцы падзякавалі і жвавей застукалі пранікамі па снапах. Маша зірнула на сонца і запытала:

— Скора на абед пара, як, па-вашаму?

Толькі адна дзяўчына трошачкі збянтэжылася, а астатнія пераглянуліся між сабой і малацілі, як ні ў чым не бывала. Маша ўсё-такі дамагалася адказу:

— А вы заўсёды такой парой пачынаеце работу?

— А нам што, абы мінімум,— пачуўся ў адказ голас.

Некаторыя засмяяліся, а пажылая жанчына, Маша пазнала, што гэта яе суседка Малання, пачала развважліва:

— Працуем, аграном... каторы год пляскаем пранікамі і ўсё па кілу і па рублю. Хоць досвіткам, хоць у абед прыдзі — кіло было, кіло і будзе.

— Значыць, у вас залатая сярэдзінка...

— Гэта не ў нас, а ў нашага старшыні Чарады, — падала голас адна жанчына.

— Маўчы, Гэлька! — упікнула яе Малання. — А што яму з нашага калгаса! Яму абы грошы ды бабы ахвочыя. Ніяк нам не пазбавіцца ад гарадскіх беларучак.

Гэта быў намёк на Машу.

Засмяяліся некаторыя з хітрынкай у вачах, а тая дзяўчына, што збянтэжылася, сказала:

— Вы яшчэ, цётка Малання, не ведаеце агранома... Навошта ж так гаварыць...: пра гарадскіх...

— І ты маўчы, Паўліна! — стаяла на сваім Малання. — Нам для парадку ў калгасе патрэбна не такое дзяўчо.

— Вы яшчэ не бачылі, як я працую, — сказала Маша, — а я вось бачу...

— Маўчы лепей, нявестачка Адамкава! — крыкнула Гэлька. — Лепей



прыкусі язык і не вучы нас працаваць. Мы працуем не так, як твой свёкар-здраднік.

— Гэлька, не балбачы лішняга, — заступілася за Машу Малання.

Калгасніцы накінуліся на Гэльку, і яна змоўкла.

Крыўдна стала Машы, і яна пайшла ад жанчын. Але крыўда паступова спадала, бо яна разумела, што была вайна, а ў час вайны людзі шмат перажылі гора.

Думкі пра калгасныя непарадкі не пакідалі яе. Як згаварыцца з калгаснікамі? Як павесці іх за сабой? Сапраўды, у гэтым калгасе працуюць, як ветраны млын: вецер падзьме — варухнуцца, а калі ціха, то на работу ўпрошваць трэба. У сям'і бывае так: як бацька робіць, так і дзеці, гледзячы на яго. Гаспадар гуляе — і жонка лынды б'е. Брыгадзір не старанны — і падначаленыя самі па сабе. Старшыня на горад глядзіць, а калгаснікі — на сонца.

Чаму Гэлька ўпікнула яе свёкрам? Якая ж яе тут віна?

...Калі Маша вярнулася дадому, Праскоўя Арсенеўна тупала каля печы. Маша лягла на ложак. Хутка прышоў і Павел. Ён быў, як звычайна, не дужа гаваркі, але і не сумны.

— Табе нездаровіцца? — пацікавіўся ён, бо ведаў, што Маша, калі захварэе або не ў настроі, то лажыцца на ложак.

— Прысядзь каля мяне, Паша, — папрасіла яна.

Ён прысеў каля пасцелі. Яны разумелі адзін аднаго, як разумеюць родныя, блізкія.

—Я вось ляжу і думаю, — пачала яна, — што ты праўду некалі казаў. Лепей паехалі б у другую МТС, а не сюды. І чаму ты тады мне ўсё не расказаў, усё падрабязна? Цяжка, Паша, цяжка працаваць. Сама работа не цяжкая, а вось я табе хацела сказаць... А мо' не варта?

— Пачала, дык кажы.

— Калі гэтак будзе і заўсёды, то не ведаю, Паша, як нам жыць тут, — і яна задумалася.

— Ды гавары ты, у чым справа?

Маша цяжка ўздыхнула.

— Калгасніцы мяне сёння свёкрам папракнулі...

У Паўла стала горача і балюча на сэрцы. Пры чым тут Маша?

## VIII

Аднойчы на сядзібе МТС Павел падышоў да гурту каля майстэрні. Была ўжо зіма. Між людзей стаяў і размаўляў высокага росту вайсковец, праўда, без пагонаў, але з пятліцамі танкіста. Як толькі вайсковец з інжынерам сустрэліся позіркамі, Павел аж здрыгануўся і нібы не сваім голасам прашаптаў:

— Віця...

Той хвіліну глядзеў на Паўла і пасля кароткай усмешкі раптам нахмурыў белыя бровы:

— Ты?

— Жывы?.. — з працягнутымі ўперад абедзвюма рукамі ішоў да яго Павел, але вайсковец неяк холадна падаў руку.

— Ледзь пазнаў, далібог... Трынаццаць год... — хваляваўся Павел. — Адкуль жа ты?

— З таго свету, — ні то гарэзліва, ні то з ноткай дакору адказаў вайсковец.

— А зараз куды? Давай да нас!.. Ты ж дэмабілізаваўся, танкіст, здаецца? — абрадаваўся Павел.

— Тэхнік, — прызнаўся дэмабілізаваны і ціха, нібыта нездаволена, спытаў: — А ты галоўны, значыць? Што ж, тады я ў падначаленыя да цябе... Кажуць, не спраўляецеся, — і паказаў кіўком галавы на неадрамантаваныя трактары, якія стаялі пад снегам.

— Значыць, тэхнік, — паўтарыў Павел і гучна абвясціў: — Новы механік, Віктар Гаркуша. Мой сябар...

— Можа сябар, а можа і не сябар, — шматзначна заўважыў Віктар Гаркуша.

Падзьмуў халодны вецер. Сонца схавалася за хмару.

— Снег пойдзе, — зірнуў угару Павел.

— Пойдзе, пойдзе снег, — падтрымаў яго Віктар і насунуў на вушы шапку.

Механізатары не разумелі: чаму інжынер перад дэмабілізаваным, ды яшчэ перад будучым механікам, адчувае сябе так няёмка?

Віктар Гаркуша развітаўся з механізатарамі. Падаў руку і Паўлу. Пайшоў. Праз некалькі крокаў Павел дагнаў Віктара, узяў па-сяброўску яго за плячо.

— Віця, да мяне зойдзем, пагаворым, — прапанаваў ён.

Віктар скоса зірнуў на яго.

— Зойдзем, Віця, паабедаем, а пад вечар фурманку знайду, падвязем...

— Дзякую, таварыш галоўны, я ў сорак трэцім паабедаў у вас. Не ведаю, як ты, а я ўсё жыццё не забуду, — і прыбавіў кроку.

— Віця, дружа, — не адставаў Павел. — Забудзь! Будзем разам працаваць. Бацька ж вінават, а не я...

— Цікава, а дзе ж ён?..

— Зямлю парыць... І ўспамінаць не хачу пра яго...

Паўлу не ўдалося ўгаварыць Віктара. Вось і сустрэча сяброў дзяцінства... Халодная, як лютаўская завіруха.

Павел і Віктар пасябравалі з першага класа. Настаўніца абодвух пасадзіла за пярэднюю парту. Хлапчукі, пакуль пазнаёміліся, сядзелі на самых краях парты. У Паўліка была чырвонага колеру кашуля. Ён трымаў сябе задзірыста, бо такой кашулі ні ў кога не было. Паўлік умеў чытаць, а Віця нават туга запамінаў літары і вельмі зайздросціў Паўліку. Аднойчы Віця прышоў са школы. Расплакаўся і патрабаваў, каб маці пашыла яму чырвоную кашулю, бо без чырвонай кашулі, як скардзіўся ён, век не навучышся чытаць. Праз некалькі дзён Паўлік і Віця абодва сядзелі ў чырвоных кашулях. Віця бойка чытаў па складах словы, Паўлік шчыра дапамагаў сябру. А калі Віця пачаў чытаць так, як і Паўлік, настаўніца іх пахваліла.

Хлопцы падрасталі. Віцька быў высокі і тонкі, як дубец. Паўлік каржакаваты, затое вельмі рухавы і непаседлівы. Ён, бывала, частаваў хлопцаў добрымі яблыкамі, якія насіў з дому,—за гэта яго любілі. Потым Адама, Паўлавага бацьку, пасадзілі ў турму за кражу калгаснага дабра. Калі Павел даведаўся, што бацька Віці — Захар Гаркуша, старшыня калгаса, на судзе не абараняў яго бацьку, а патрабаваў пасадзіць у турму, хлопцы пачалі радзей сустракацца.



У вайну Паўлаў бацька вярнуўся з турмы. Зноў пачалося сяброўства Паўла з Віктарам.

Аднойчы ў спрэчках, калі хлопцы сядзелі на Купрэевым плоце, Павел папракнуў Віцю:

— Герой...

— Слухай, — падхапіў гэтае слова Віця, — вось каб быць сапраўдным героем, га? Фашыстаў біць!

— А як жа іх біць? — недаўменна запытаў Паўлік. — У нас і зброі няма.

Тады Віця прызнаўся, што ён ведае, дзе ляжыць бацькаў тол і шнур. А галоўнае, ведае, як ім карыстацца.

У той час гітлераўскі паліцэйскі ўчастак размяшчаўся ў калгаснай канцылярыі. І, не доўга думаючы, хлопцы парашылі ўзарваць яго. Але не ўдалося. Віктараў бацька некуды перахаваў тол.

Прайшла зіма. Паўлікаў бацька быў старастам, а Віктараў — партызанам. Але Віктар з Паўлам дружылі. Улетку хадзілі разам у лес, шукалі снарады, патроны. Даведаўшыся аб гэтым, бацька зусім забараніў Паўліку гуляць з Віктарам. Але ўсёроўна сяброўства іх не парушылася. Аднаго разу Павел прышоў да Віці і ад імя бацькі запрасіў спярша паабедаць у іх, а потым дапамагчы нагрузіць машыну дошак. Віктар згадзіўся. Калі канчалі грузіць, бацька адаслаў Паўліка дадому, а Віктару і яшчэ двум хлопцам загадаў дапамагчы завезці дошкі ў Задуб'е. З Задуб'я Віктара і тых двух хлопцаў немцы не адпусцілі. Завезлі іх у раённы цэнтр, а там назбіралі каля сотні такіх юнакоў і адправілі ў Нямеччыну.

Цяжкае жыццё зведаў Віктар на чужыне. Калі ў Германію ўвайшла Савецкая Армія, Віця працаваў парабкам.

Пасля вызвалення служыў у Арміі. Вучыўся ў школе танкістаў. Потым дэмабілізаваўся і вярнуўся ў родную Асінаўку. Адпачыў месяц і парашыў пайсці працаваць. Вось так і спаткаліся яны.

## IX

Усё яшчэ скрыпела пад нагамі і пад палазамі санная дарога. Але з кожным днём вясна станавілася ўсё бліжэй. Гэта будзе першая вясна, думае Павел, перад якой трэба вытрымаць справаздачу. Ды і не толькі перад вясной, а і перад тымі, хто з недавер'ем глядзіць на яго, і перад тымі, хто можа яшчэ не верыць у яго, як спецыяліста. Не раз турбавалі Паўла такія думкі. Эх, хоць снег і скрыпіць, але хутка ён захлюпае, — шырэй крок, бо дзень яшчэ малаваты, а работы шмат. У каго што, а ў Паўла, як кажуць, поўная шапка клопатаў. Пад яго кіраўніцтвам руплівыя хлопцы рыхтуюць вясне сталёвых коней.

Павел нездарма на сходзе даў слова свайму калектыву, што яго механізатары сустрэнуць вясну, як рачнікі навігацыю: адрамантуюць тэхніку так, каб ні адзін трактар не стаяў у баразне ў час палявых работ.

Майстэрня поўніцца гулам: то ракоча трактар, то скрыгоча свідравальны станок. Кожны трактарыст рупліва заняты сваёй работай — на тое і вузлавы метад рамонту. Не прамарудзіш лішнюю хвіліну з папяросай. Але як ужо там наконт перакуру ў час работы, а без жартаў механізатары не абыходзяцца.

— А ў трактарыстаў, як у танкістаў: матор у майстэрні не наладзіш — на полі бою гарбом не пацягнеш... — Павел пачуў выразны лёгкі бас. Ён прыгледзеўся і ўбачыў Віктара.

Віктар першым прывітаўся:

— Здароў, інжынер...

— Здароў! — і Павел падаў Віктару руку.

Рука Віктара была вялая і халодная. Павел ціскануў яе і заўважыў, што Віктар глядзеў не на яго, а некуды ўбок. «Вядома, калі ў час прывітання рука вялая, здагадваўся Павел, то адносіны да мяне абыякавыя або зусім непрыязныя». Павел не стаў дамагацца Віктаравай шчырасці, бо ведаў, што гэта дарэмна, і афіцыйна перайшоў да справы.

— Трэба нешта зрабіць з вілкай, бачыш, — і ён паказаў на каробку перадач, а калі Віктар узяўся рукой за тую вілку, Павел дадаў: — Надлом!

— Надлом? — перапытаў Віктар, а калі агледзеў дэфект, прыжмурыў вочы і сказаў: — Па такіх надломах МТС будзе трымацца.

Павел з яго адказу нічога не зразумеў. Хацеў было запытаць: ці ён сказаў гэтыя словы ў прамым сэнсе да вілкі, ці зрабіў намёк асабіста на яго. Незразумелыя Віктаравы адносіны пачалі турбаваць Паўла, і ён, гледзячы на тую вілку, пачухаў патыліцу:

— Што ж рабіць?

Віктар, прызнацца, не мог спакойна з Паўлам весці размову аб справе. Яго настрой падточвалі ўспаміны...

Ды як тое сэрца будзе ляжаць да Паўла, калі праз яго бацьку Віктар страціў свайго роднага бацьку, сваё юнацтва, адукацыю, здароўе. Можа, Павел не вінаваты, але ўсёроўна таго няма, што было. Нават злосць бярэ, калі ён цяпер, будучы інжынерам з вышэйшай адукацыяй, стаіць побач і пытаецца ў яго, што рабіць. Віктар памкнуўся пайсці, але толькі буркнуў:

— Можа кавальскую накладку?..

А белагаловы юнак, якога звалі Юркам, зараз жа падхапіў:





— Мы залетась так і рабілі. Трохі трымалася... Ды што вас вучыць, глядзіце самі.

Калі яшчэ не зусім вопытнаму інжынеру механізатары не даюць парады, а разводзяць рукамі і сочаць, як ты сам зробіш, то дужа цяжка самому адразу прыняць правільнае рашэнне. Павел успомніў, што «Нацї» і «ДТ» па зводцы адрамантаваны на гэтую дэкаду. Заўтра камісія. У адным расколіна шасцярні задняга маста, а ў другім — вось яна, вілка. На базе ў вобласці няма такіх запасных частак. Трэба нешта самім рабіць.

— Хто яго ведае, што тут прыдумаць? — Павел паціснуў плячыма і зірнуў на Віктара. — Можа сапраўды зрабіць кавальскую накладку на вілку, а расколіну ў шасцярні заварыць?

Віктар усміхнуўся, але, як заўважыў Павел, у яго смеху не было шчырасці.

— Правільна, а што тут такога, кавальскую накладку і заварыць расколіну, — падтрымаў Юрка, які стаяў побач. — Я зараз зраблю гэта.

А на твары Віктара ўсё тая ж застылая ўсмешка. Павел прыняў загадкавасць Віктара за колкую насмешку і пайшоў, думаючы: «Вось так яно ў жыцці... Толькі з душой вазьмуся за справу, а яно на табе... Цяпер суткамі працуй, усёроўна давер'я не будзе... Кожны стане тыцкаць пальцам: «Ты сын фашысцкага старасты». Віктаравы адносіны сведчаць аб гэтым...»

Павел пайшоў па двары. Пад нагамі ў яго скрыпеў снег.

На сядзібе машынна-трактарнай станцыі пачуўся рокат матора і ляскат гусеніц. Гэта адрамантаваная тэхніка выйшла на экзамен. У такі час амаль усе механізатары — каля адрамантаваных трактароў. Яны рамантавалі тэхніку, яны будуць і працаваць на ёй у калгасах. За імі таксама рашаючы голас: адправіць трактар у калгас або зноў яго паставіць на рамонт.

Але галоўная камісія яшчэ не выходзіла з канторы. Сёння старшынёй камісіі застаўся Павел, бо Лаўрэна Карпавіча выклікалі на бюро райкома партыі.

Калі Віктар зайшоў у кантору, Павел устаў з-за стала. Хацеў было запытаць у яго, што зрабілі з вілкай і шасцярнёй, але неяк сумеўся.



Кемлівы Юрка нібы адгадаў думку Паўла.

— Чуеце, Павел Адамавіч, як мая кавальская накладка пудзе,— па яго вачах было бачна, што ён прасіўся, каб яго пахваліў інжынер.

— Кавальская? — здзівіўся Павел.

— Павел Адамавіч, вы ж самі згадзіліся ўчора, — Юрка ўжо апраўдваўся.

Павел яшчэ раз наважыў параіцца з Віктарам, ці правільна яны зрабілі, дапусціўшы гэтую самую накладку і зварку шасцярні. Папрашыў шчыра сказаць, што ён першы год працуе ў МТС і яшчэ не зусім добра асвоіў рамонт трактараў. Але і цяпер ён не адважыўся сказаць гэтага. Нейкі час задуменна памаўчаў і звярнуўся да членаў камісіі.

— Пачнем, таварышы.

Не спяшаючыся, усе накіраваліся з канторы.

Якраз ля самага ганку, захлёбваючыся гулам матора, стаяў «ДТ». Трактарыст узяўся за рычаг — асілак адкаціўся назад, потым спрытна павярнуўся кругом, управа, улева і зноў стаў радыятарам-грудзьмі да членаў камісіі, якія сыходзілі з ганку.

— Як салдат! — Павел пахваліў паваротлівасць машыны і даў каманду: — Кру-гом!

«ДТ» пад спрытнай рукой трактарыста павярнуўся нязграбным сваім корпусам па камандзе. Трактарыст заглушыў матор. Члены камісіі пакорпаліся ў маторы, праверылі іскру, перыяд запальвання. Потым зноў заракатаў матор, і машына пайшла па сядзібе, мяняючы хуткасці.

Павел назіраў за трактарам, і з яго галавы не выходзіла думка пра тую кавальскую накладку. І чым больш думаў, тым больш турбавала адказнасць.

—А можа будзе трымаць? — зірнуў ён на членаў камісіі і трактарыстаў. Але ўсе маўчалі, здавалася, баяліся сказаць сваё канчатковае слова. «ДТ» зноў падышоў да ранейшага месца.

— Прыняць! — падаў голас нехта з трактарыстаў, і члены камісіі, зірнуўшы адзін на аднаго, таксама згадзіліся.

Наступны «Наці», у заднім масце якога зварана расколіна ў шасцярні. Машына спрытна праманеўравала перад механізатарамі. Потым і «Наці» паставілі побач з «ДТ». Прагудзелі і яшчэ два трактары. Потым падпісалі пратакол аб годнасці цегачоў.

Калі Віктар узяў ручку, каб падпісацца і гэтым запэўніць механізатараў, што маторы трактараў добра адрамантаваны і будуць цэлае лета працаваць без заганы, у яго прыкметна задрыжала рука. Толькі цяпер ён адчуў вялікую адказнасць за той подпіс, які ён зараз паставіць.

У воінскай часці капітальна рамантаваць танк або зрабіць, як тут, на вілку кавальскую накладку яму не даводзілася. Вядома, то быў баявы танк, а трактар, хто яго ведае... Можа і добра будзе... «Ці адзін я вінаваты, калі што якое... Я ж толькі член камісіі. Тут жа ёсць галоўны інжынер, пад яго кіраўніцтвам праходзіў рамонт, ён ужо і подпіс свой паставіў, як старшыня камісіі. Усе механізатары бачаць і ведаюць гэта. А калі што не так, дык можна будзе паправіць». — І Віктар размашыста паставіў на дакуменце свой подпіс. Так камісія і закончыла сваю работу па прыёму тэхнікі.

Неўзабаве з райкома вярнуўся Лаўрэн Карпавіч. Спытаў у Паўла пра якасць прынятых машын. Той паказаў падпісаныя пратаколы. Перагортваючы стандартныя лісты, Лаўрэн Карпавіч яшчэ раз запытаў:



— Дык кажаш, што кавальскую накладку прымайстравалі... А ты ўпэўнены, што яна не падвядзе?

— Па сядзібе машына маршыравала. Спытайце ў Віктара Гаркушы.

Павел верыў у тое, што хоць зрабілі не зусім правільна, але пакуль давядзецца дастаць новую вілку і шасцярню, трактары будуць працаваць. Бо нават Віктар Гаркуша маўчаў тады, значыць, быў таксама згодзен з ім. Але Лаўрэн Карпавіч недаверліва паківаў галавой і папярэдзіў:

— Глядзі... Да сяўбы замяніць трэба будзе.

Лаўрэн Карпавіч хацеў яшчэ нешта сказаць, але яго думку перабіў тэлефонны званок. Выклікалі Паўла, каб ён як мага хутчэй падагнаў машыну да сваёй кватэры. Маша патрабуе.

— А, у бальніцу, — здагадаўся Лаўрэн Карпавіч і параіў Паўлу. — Бяры маю легкавую... Хутчэй толькі!

* * *

Сястра радзільнага аддзялення паведамляла Паўлу пра Машу. Нават здагадалася з яго слоў, каго Павел чакае. Не дзіўна, як і кожны бацька, ён чакаў сына. Павел нават і імя загадзя выбраў сыну: звычайнае, простае імя — Пеця!

Кожны дзень, калі Павел вяртаўся з бальніцы, Праскоўя Арсенеўна сачыла за яго настроем. То ён быў вясёлы, то хмуры, то смяяўся, то гаварыў, як будзе шкадаваць і любіць дзіця.

Аднойчы Павел не прыходзіў на абед, а толькі ўвечары вярнуўся дадому. Лёг на канапу і зірнуў на столь. Руплівымі рукамі Праскоўя Арсенеўна аклеіла яе блакітнай шпалерай, і здавалася, што адтуль напінаецца квяцісты полаг.

Ціхутка адчыніліся дзверы і ўвайшла Праскоўя Арсенеўна.

— Паша, — у голасе яе чулася занепакоенасць, — ты мне не кажаш, а можа што нядобрае з ёй?

— Нічога, Праскоўя Арсенеўна, — Павел ямчэй падклаў рукі пад галаву і з усмешкай сказаў: — Маленькая памылка. Замест сына дачка нарадзілася...

Праскоўя Арсенеўна засмяялася:

—Мір будзе, Паша, калі дзяўчынкі нараджаюцца...

Праз дзесяць дзён цішыню ў пакоі парушыла малая дачка.

— Спявачка будзе, — радаваўся малады бацька і насіў маленькую на руках.

Праскоўя Арсенеўна ў гарусавай хусцінцы і белым фартуху частавала на кухні жанчын. Як павялося ў вёсцы, суседзі і знаёмыя калгасніцы прыходзілі ў адведкі.

Сеўшы за стол, госці выбіралі дзяўчынцы імя. Перабралі ў памяці і кніжныя, гарадскія, вясковыя, і нарэшце Маша прыгадала дзяўчынку, з якой сябравала ў дзіцячым доме:

— Сіма, Сімачка... Няхай будзе Сімачка, — пяшчотна паўтарала яна.

## X

Вясна ў калгас прыходзіла са сваімі сур'ёзнымі патрабаваннямі. Нездарма ж да яе сустрэчы рыхтуюцца з самай восені. І вясною апошні снег з пагоркаў дае першы старт хлебаробам у поле. Пара клапатлівая... Кожнаму калгасніку яна прыносіць столькі турбот, што з імі цяжка ўправіцца ад ранку да змяркання. Вясна нікога не абыйдзе, нікога і ў цяньку не пакіне. Птушку і тую прымусіць гняздо будаваць. Хоць кажуць: адзін у полі не воін, затое без агранома сяўба, як трактар без кіравання. І хоць у Машы яшчэ не скончыўся дэкрэтны водпуск, але яна ў такія часы не магла сядзець дома.

З палёў цяклі апошнія раўчукі. Падсыхалі голыя пагоркі зямлі. дыханне вясны жывіла кожны парастак. Пералівам птушыных галасоў і рокатам трактараў абуджаўся навакольны абшар. Зеланеў, упрыгожваўся праскамі луг. А над кустамі ніцых лоз звінелі пчолы. Найлепшая пара сеяць лён! Дзень і ноч трактар рыхтаваў поле пад ячмень. А пад лён? «Так распарадзіўся старшыня Чарада», — бесклапотна адказаў трактарыст аграному, не заглушаючы матора.

У Машы ўскіпела злосць, бо яна дамаўлялася, каб у першую чаргу поле было падрыхтавана пад лён. Не стрымаў слова Чарада.

Маша павінна была ісці карміць Сімачку, але накіравалася да калгаснай канцылярыі, каб сустрэць Чараду. Яго ў канцылярыі не было. Сказалі, што на ферме. Пабегла туды. Адтуль да свірна. Там быў старшыня.

Дома галоднае дзіця. Прымушаная затрымка на рабоце. У жанчыны ў такі час нестае вытрымкі, і яна, нібы з аўтамата, выпаліць самыя колкія словы кожнаму: няхай гэта будзе прадстаўнік райкома ці міністэрства. Абы толькі вінаваты — трымайся, брат, жанчына не паглядзіць на твой аўтарытэт, скажа праўду.

Маша яшчэ з восені памятала наказ Чарады, што з ім усё можна зрабіць толькі «мірным шляхам».

— Ігнат Васільевіч, — ёй было смешна і прыкра, што трэба кленчыць міласці ў старшыні, каб у лепшыя агратэхнічныя тэрміны пасеяць лён... «Ну, ці гэта старшыня?» — падумала яна і запытала больш сур'ёзна. — Вы, пэўна, забыліся пра лён?

— Зробім, не хвалюйцеся, я сказаў — зробім!

— А калі?

— Калі...Я думаю, з таго тыдня, — і Чарада пачаў гутарыць з кладаўшчыком.

— Ігнат Васільевіч, — зноў пачала прасіць Маша і папярэдзіла: — я ж прышла ўладзіць мірным шляхам... як вы гаварылі...

* * *

З усходам сонца «ДТ» на ўчастку, дзе будзе расці лён, зрабіў першы загон. Да прыходу агранома паабапал поля ўзняў дзве палоскі глебы. А на павароце, пры пераключэнні хуткасці, трактарыст пачуў, што нешта трэснула пад сядзеннем, і машына спынілася. Ён плюнуў на бок і вылаяўся. Вылез з кабіны. Маша азірнулася, чакаючы, ці хутка пойдзе трактар. Юнак падняў капот над маторам. Маша падышла да яго. А калі надакучыла стаяць, запытала: «Што здарылася?» Трактарыст



яшчэ раз сам сабе пад нос сказаў тое, што не гавораць у прысутнасці жанчын, і не адказаў. Ён палез пад корпус і заўважыў, што з каробкі перадач капае масла.

— У-у-у... праламала, — толькі і сказаў ён, вылезшы з-пад машыны. Сеў на раллю.

— Не пашанцавала мне і ільну, таварыш аграном.

— А які год працуеце? — пацікавілася Маша.

— Трэці. На «ДТ» — першы.

— Можа па нявопытнасці?

— Чэснае слова, вёў, як заўсёды, — пакляўся юнак. Ён пайшоў пехатой у МТС, а Маша накіравалася ў канцылярыю калгаса. Увайшла ў пакой — і адразу ж да трубкі тэлефона. Папрасіла МТС. Тэлефаністка сказала: «Занята». Маша акінула позіркам прысутных, хацела Чарадзе сказаць, што трактар сапсаваўся, але ён, прыжмурыўшы вока, пажартаваў:

— Хоць неба блакітнае, а аграном хмурнее...

— А вам весела? — ледзь не крыкнула яна, але стрымана прамовіла: — Трактар стаў, вясна не чакае, а вы зубы сушыце.

— І «ДТ»? — Чарада здзівіўся.

— МТС! — у трубку крыкнула Маша. — Інжынера!.. А, ты? Прывітанне... Што будзеш з трактарам рабіць?.. Сапсаваўся. Не разумею: і «Наці» выйшаў са строю? Сёння раніцай «ДТ-54» пачаў рыхтаваць поле пад лён. Не ўзараў нават гектара, і лопнула каробка перадач, вілка нейкая зламалася... Ало... Ало...

Маша не пачула адказу. Пэўна, Павел павесіў трубку. Затое Чарада, па-ранейшаму прыжмурыўшы вока, цягнуў сваё:

— А гэта добра, паспрачайся з МТС і ты, ды яшчэ з мужам. Калі не вырасце лён, буду крытыкаваць агранома. Ох, і дам...

...Неўзабаве паўз акно канцылярыі пратарахцеў матацыкл. Маша выбегла на ганак. Гэта Павел пашыбаваў на поле ў кірунку «ДТ». Яна пайшла яму ўслед. Ён падлез пад трактар і разглядаў дзірку, якую вышчарбіла вілка той кавальскай накладкай. У яго вушах гучэлі словы дырэктара: «Глядзі»... «А зараз што? — спытаў сам у сябе Павел.— Я ж сам быў старшынёй камісіі па прыёму гэтых машын. «ДТ» і «Наці» на чацвёртыя суткі выйшлі са строю. У «Наці» трэба мяняць шасцярню, а тут — каробку перадач. У МТС запасных частак няма. Трэба ехаць у вобласць... І ўсё сам нарабіў... Што цяпер скажуць механізатары, Віктар?»

— Гарачы рамонт, а? — пачуўся голас Машы.

Павел выпаўз з-пад трактара і, не гледзячы на прысутных, падышоў да матацыкла.

— Чуеш! — крыкнула Маша. — Каб заўтра ж працаваў трактар!

Ён ні слова не прамовіў. Затарахцеў матацыкл, і праз хвіліну Павел схаваўся за пагоркам.

## XI

«ДТ» стаяў пятыя суткі. Павел ужо два разы ездзіў у вобласць, быў у суседніх МТС, але запасной каробкі перадач нідзе не знайшоў. І сёння зноў паехаў у вобласць. Маша бачыла, што Павел дужа хваляваўся і перажываў сваю няўдачу. Яго, напэўна, папракалі ў МТС. Машы так-

сама было непрыемна, а да ўсяго гэтага яшчэ Чарада даймаў сваімі размовамі, што лён «не вырасце на нашай зямлі». А тут заканчваліся спрыяльныя тэрміны пасеву ільну. Многія калгасы раёна, як паведамлялася ў зводках, ужо даўно яго пасеялі, а ў іх, у «Сейбіце», яшчэ не падрыхтавалі поле. «Эх, Павел, Павел, як ты падвёў», — у думках папракнула Маша.

Пакуль не выклікалі Чараду ў райвыканком, ён супакойваў Машу:

— Не турбуйся, апраном, не лён дык грэчка вырасце.

Прыехаўшы з раёна, Чарада пачаў паварочвацца хутчэй. Выклікаў да сябе ў кабінет Машу і перш чым што-небудзь сказаць па справе, стукнуў кулаком па сталу, аж чарніліца падскочыла. Яшчэ ніколі Чарада не спрабаваў перад ёй кулаком трываласць стала.

— Калі лён пасееш? План мне зрываеш!

— Трактар стаіць, запасных частак няма, — паспрабавала тлумачыць Маша.

Але Чарада і гаварыць не даў.

— Слухаць не хачу! І ты цяпер у кусты, а хто сеяць будзе? А чаго ты прыехала сюды?

Чарада пазваніў у МТС, але адтуль ніхто не адказаў.

— Вось яны, маладыя спецыялісты, — абураўся ён. — Адзін паставіў на полі трактар і некуды паехаў, а другі, вось яна, стаіць, як свечка. А толку?!.

— Меней крычыце, а лепей перавядзіце «Наці» ў Выгар, і няхай рыхтуе поле пад лён.

— Нарыхтуе, калі заўтра твой муж адрамантуе трактар, бо я сам паслязаўтра займуся ільном.

— Вы заўтра перавядзеце, — упэўнена сказала Маша і папярэдзіла: — А памарудзьце — буду званіць сакратару райкома.

— Сплетнічаць, — па-свойму заключыў Чарада. — У райкоме даўно ведаюць, што ты за сарока, ведаюць нават, чым дыхаеш: хутчэй бы адмахацца, вуды сабраць ды ў горад. Там такія, як ты, у гамаках гойдаюцца. А трактар я перавяду! Я лён пасею! А табе яшчэ ці даверыць праўленне гэтай культурай займацца... Ты толькі гаварыць умееш. Ты яшчэ нічога не зрабіла для калгаса.

Можа б і яшчэ што выказаў Чарада, але ў кабінет зайшоў парторг Лавор, і Чарада нібы ўдавіўся — толькі папярхнуўся і ветліва прапанаваў:

— Сцяпан Пятровіч, сядайце, калі ласка... Гэта мы вялі гаворку, так сказаць, пра агранамію...

— Добрая гаворка — на паўвярсты чутно.

Чарада злосна ўсміхнуўся, а Маша хацела нешта сказаць Лавору, але толькі прыкусіла губу, зморшчылася і выйшла з кабінета.

...Маша позна закалыхала Сімачку, і хоць радыё даўно сціхла, але сама ніяк не магла заснуць. «Як жыць, як працаваць? — хвалявалася яна. — Здаецца, памірыліся пасля восені, а зараз зноў узняўся на дыбкі. Мне ж таксама хочацца зрабіць што-небудзь добрае для калгаса, каб паказаць, што і я нейкі апраном. Калі б не Лавор, дык ён усякую ахвоту адбіў бы ад работы»...

Не спіцца Машы. Яна ўстала з ложка і падышла да акна. Праз голыя вершаліны дуба выглядаў месяц. Доўгія цені падалі на шыбы



і падлогу. У доме было ціха, усе даўно паснулі. Толькі Паўла ўсё яшчэ няма... Ён яшчэ раніцай паехаў у вобласць, на базу сельгасснаба атрымаць каробку перадач... Маша ўключыла святло.

У гэты час нечая рука настойліва забарабаніла ў шыбу. Маша толькі намерылася адхіліць фіранку, каб паглядзець, — зноў стук, і Павел адгукнуўся.

Прыезд мужа, здаецца, ніколькі яе не парадаваў, хоць і доўга яго чакала.

Адчыніла... Не зірнуўшы на Паўла, Маша зноў села на ранейшае месца. Ужо чацвёртыя суткі пасля спрэчкі яна не ў настроі. Але сэрца не камень. Можа б яно і адразу супакоілася, калі б хутчэй падышоў Павел ды хоць руку паклаў на плячо. Яна, безумоўна, адкінула б руку, але адразу б стала лягчэй на душы. А Павел сядзіць і ні слова. Тады яна не вытрымала, павярнулася да Паўла і запытала:

— Ты можа есці хочаш?

Ён кіўнуў галавой і ўсміхнуўся.

Ціхенька, каб не патрывожыць сон дзіцяці, Маша пайшла на кухню. Адтуль прынесла яшчэ цёплую яешню і шклянку малака.

Павел памыў рукі і сеў на сваё месца.

— Ну, хадзі ж, — сказала Маша.

А ён не варухнуўся. Маша нахмурылася:

— Зноў нічога?

— Прывёз... — і ён падышоў да Машы. Прыгарнуў да грудзей. Яна крышку адхіліла галаву, але яе плечы абвялі.

— Ну, павячэрай хоць, Паша, — але з абдымкаў яго не выпускала.

Калі Павел павячэраў, Маша заўважыла, што сёння ён не ў настроі, і запытала:

— Сумуеш, ці крыўдуеш на каго?

— Так... Маша, — адказаў Павел, — дрэнна складваецца жыццё. Хочацца, каб лепей было, а яно ўсё не так, як трэба. Калі пачынаў працаваць — думаў, памылкі не дапушчу, а як давялося, дык увесь у гразі... Пад'ядаюць, кпіны строяць, а ў мяне нервы ірвуцца на шматкі.

Павел гаварыў, а голас яго ўсё мякчэў і мякчэў. У яго цяплела на сэрцы ад Машынага спачування.

* * *

Нарэшце «ДТ» і «Наці» былі адрамантаваны. Як там ні было, а ўсё ж весялей стала Паўлу. Ён памыліўся, ён сваімі рукамі і выправіў памылку.

Ракочуць на полі цягачы. Услед за плугамі кладуцца свежыя скібы раллі. Павел пастаяў, паназіраў — усё пайшло парадкам. Тады завёў машыну. Выехаў на дарогу і накіраваўся ў МТС. І як тут абмінеш хату дзядзькі Нупрэя! Павел цяпер часта наведваў старога.

«Лятучка» спынілася насупраць дзядзькавай хаты.

Стары ветліва сустрэў пляменніка: абхапіў абедзвюма рукамі, пацалаваў. А цётка, ужо старэнькая бабулька, затупала каля печы, рыхтуючы для доўгачаканага госця пачастунак.

Мужчыны сядзелі за сталом. Павел аглядаў дзядзьку: у апошні час ён пастарэў, прыгорбілі гады Нупрэя. Пабялелі і яго валасы. Барада,

як мяцёлка, спаўзла на грудзі. Нупрэй смактаў люльку і, слухаючы гаворку Паўла, усё глядзеў у адну кропку, бясконца паўтараючы: «Так, так...» Калі Павел на нешта скардзіўся, вочы дзядзькі плюшчыліся. Замест такання ёнківаў галавой і гаварыў:

— Ведаю, ведаю, сынок. Нядобра табе тут...

Павел уздыхнуў:

— А ўсё праз бацьку... Нявесела мне сюды прыязджаць, дзядзька Нупрэй...

Нупрэй спагадліва паківаў галавой і згадзіўся.

— Так то так, пляменнік... Бацькі часам не думаюць пра сваіх дзяцей... Цяпер, Паша, працаваць трэба, — прадаўжаў Нупрэй, — так працаваць, каб усе ганебныя бацькавы справы змыць. Разумееш?

Павел доўга не затрымаўся. Развітаўся з Нупрээм, цёткай і паехаў.

Сонца апускалася ў хмару. Павел мінуў МТС і накіраваўся дадому. Машыну паставіў на двары і пайшоў у хату. Над калыскай стаяла Маша, забаўляючы Сімачку. Дзіця спрабавала сесці і зноў падала, але настойліва дабівалася свайго. На твары Машы зіхацела шчасце.

— Паша, — у мяккім голасе яе чулася свежае гучанне радасці, — навіну табе скажу, Пашачка, — а вочы яе свяціліся так ярка, нібы тая навіна не мела роўных сабе. — Сімачка сказала: «та-та...» І зводку надвор'я перадавалі — дажджы пойдуць... Лён будзе добры!





## XII

Ад лужка, які блішчаў, нібы возерца, у самай нізіне і кругом ажно да Задуб'я — уся Прыбач была засеяна ільном. Глянеш — і не акінеш вокам абшар. Здаецца, такое багацце расце, што калгас тройчы мільянерам стане. Гэта, калі вырасце, альбо... Вось гэтае «альбо» і пераважыць. Была і надзея... Але невялікая.

Спярша поле пакрылася дружнымі ўсходамі, дываном зялёных елачак, а потым усходы пачалі бляднець, а зрэдку нават утвараліся жоўтыя лапікі. Лён пачаў гінуць...

Трывожная вестка ўсхвалявала не толькі калгаснікаў і звеннявых. Маша ўспомніла, як была на практыцы ў адным калгасе і там таксама пачалі жаўцець усходы. Старшыня праўлення выклікаў агранома, бо практыканты нічога не змаглі зрабіць. Аграном параіў апыліць усходы аміячнай салетрай. Так парашыла зрабіць і Маша. А салетры ў калгасе не было. Са станцыі таксама яе разабралі. Дзе ўзяць, куды ехаць? Гэтую задачу дапамог вырашыць Лавор. Ён дамовіўся з Чарадой даслаць машыну да знаёмага яму старшыні калгаса. Маша напісала запіску, якія патрэбны ўгнаенні, і машына накіравалася ў дарогу.

Як толькі пачало світаць, Паўліна разбудзіла Дар'ю, і яны паклікалі некалькі дзяўчат. Пакуль пастух выгнаў кароў на пашу, яны справіліся рассыпаць па ўсходах некалькі куч угнаення. Замарыліся. Потым Дар'я парашыла пайсці да Лавора, каб той падаслаў яшчэ некалькі дзяўчат на дапамогу. Па дарозе спаткала Машу. Яна ішла з вядром да студні.

— Мы ўжо рассяваем, Маша! — замест прывітання пахвалілася Дар'я.

Маша пачала распытваць, якое прывезлі ўгнаенне.

— Такое, якое і летась, — адказала яна, — а зараз мяне — дык я не скажу, як яго называюць.

Машу спачатку ахапіла радасць, а цяпер падкралася і падазронасць:

— Я сказала Сцяпану Пятровічу, ён прышле яшчэ машын, і да абеда справімся.

Дар'я пачакала, пакуль Маша занесла ваду дадому, і яны разам пайшлі на поле.

Дзяўчаты, як сейбіты, набіралі муку з фартухоў у жмені і рассявалі яе. Белы пылок рассыпаўся па ільняных елачках. І так ішлі адна за адной.

Як толькі Маша глянула на кучу ўгнаенняў, яна ледзь не анямела.

— І ўсё такое?! Гэта ж суперфасфат, — прагаварыла Маша і паклікала да сябе дзяўчат.

— Што, можа новыя законы паступілі? — насмешліва запытала Гэлька.

— Угнаенне, дзевачкі, не тое, — з жалем паведаміла Дар'я.

Калі дзяўчаты даведаліся, што іхняе старанне было дарэмнае, пачалі гаварыць агулам, кожная сваё. Аўдоля нават перакрычала ўсіх:

— Аграном, дакуль нас за нос вадзіць будзеш? Ты ж выпісвала ўгнаенне, а цяпер не тое, кажаш. У галаве не тое ў цябе. Мудруе галубка...

— Аўдоля, трасца тваёй матары! — не змаўчала Дар'я.— Заткні сваё горла і маўчы. Аграном ведае, што рабіць.

— Хопіць языкамі малаціць, хопіць! — крыкнула Маша і загадала: — Прыпыніце работу і трэба ехаць за салетрай.

— Ехаць? Куды? — загулі калгасніцы.

Маша накіравалася ў праўленне калгаса. З ёй пайшла і Паўліна, якая ўсю дарогу гаварыла Машы, каб яе вызвалілі ад абавязкаў звеннявой і накіравалі на другую работу, бо лён, казала яна, загіне, а потым толькі смяяцца з яе будуць. Маша нічога ёй не адказала. Праўда, на душы было нялёгка, але яна не падавала выгляду.

У канцылярыі было мнагалюдна — Чарада праводзіў ранішнюю нараду з брыгадзірамі і калгасным актывам. Як толькі ўвайшла Маша, Чарада замест таго, каб запытаць, чаму яна спазнілася, прыжмурыў вока і хітра прамовіў:

— Начальства... затрымліваецца...

Але ніхто яго не падтрымаў нават усмешкай. Маша прысела на свабодную табурэтку і чакала, пакуль Чарада закончыць гаварыць.

— Адна машына за лесам пойдзе, чуеш, Кастусь, — ён звярнуўся да шафёра, і той, згадзіўшыся, кіўнуў галавой, — а «ЗІС»...

— А «ЗІС», — перабіла яго Маша, — а «ЗІС» за салетрай.

Чарада падняў руку — даў зразумець: супакойся, і прадаўжаў сваё:

— А на «ЗІСе», чуеш, Макар, у раён паедзем.

— Таварышы члены праўлення, Сцяпан Пятровіч, — Маша падышла да стала з разгубленым выглядам. — Я напісала запіску, няхай Макар скажа, каб аміячнай салетры прывезлі, а яны — суперфасфату. Лён загіне.

— А мне што далі, тое і прывёз, — з парога буркнуў Макар.

— Няўжо так? — запытаў Лавор у Машы.

— Чэснае камсамольскае! — адказала Маша.

У гэты час у канцылярыю зайшлі Дар'я, Аўдоля, Гэлька і яшчэ некалькі жанчын.

— Дзень добры начальству, — з парога крыкнула Дар'я, — можа вам засядаць дапамагчы?

— Я вас навучу парадку! — Чарада заківаў пальцам на крыклівых.

Тады Лавор паглядзеў на Макара і Чараду, запытаў:

— Ігнат Васільевіч, а якая ёсць патрэба сёння ехаць у райцэнтр?

Замест таго, каб адказаць на запытанне, Чарада зірнуў на Машу і, зрабіўшы выгляд, што не пачуў Лавора, дакорліва заківаў галавой:

— А яшчэ аграном называецца, прасіла сала, а ўзяла падмазку. Дык якіх ты ўгнаенняў просіш?

— Хопіць кпіны строіць! Гаварыце па справе. І каб сёння ж к вечару аміячная салетра ў Прыбачы была!

— Я скажу прама і, думаю, падтрымаюць мяне: недавучылася ты, даражэнькая, як трэба. А вопыты над ураджаем я не дазволю табе праводзіць. У мяне ўсё, таварышы, можаце ісці.

— Дык вы ж не адказалі на маё пытанне, Ігнат Васільевіч, — гэтым Лавор затрымаў прысутных і прымусіў Чараду адказаць. Той моршчыў лоб, пахруставаў пальцамі, а потым стаў адгаворвацца:

— Сцяпан Пятровіч, я табе лепей асабіста скажу. А цяпер, таварышы, пара разыходзіцца.

І Лавор не вытрымаў, каб не выказаць сваё абурэнне, бо многія сабраліся выходзіць.



— Таварышы, якая ваша думка? Пакінуць на пагібель лён ці Чарадзе на калгаснай машыне дазволім з'ездзіць да жонкі?

І Чарада, як апараны, ускочыў з месца. Ён гэтага не чакаў ад Лавора.

— Глупства!.. Падкоп!.. — крыкнуў ён, а калі заўважыў, што ўсе, хто быў у канцылярыі, паселі зноў на месца, пачаў заманліва:

— Сцяпан Пятровіч, таварышы члены праўлення і ўсе прысутныя, я еду ў раён не да жонкі, а да раённага начальства, каб ордэр на лес атрымаць для калгаса.

— Гэта можна зрабіць другі раз.

— Я яшчэ дамовіўся, каб... — але Чараду перабілі некалькі галасоў. — Таварышы... Я яшчэ не ўсё сказаў, таварышы, — не сунімаўся Чарада, але яго мала хто слухаў.

Лавор тым часам стаў каля стала.

— Макар, — сказаў ён да шафёра, — трэба заводзіць машыну і як мага хутчэй ехаць за салетрай. Толькі не забудзь выпісаць пуцявы ліст.

Калі Чарада заўважыў, што Макар памкнуўся выходзіць, ускочыў з месца і пагрозліва паківаў пальцам.

— Макар!!.

— Сядзь, Ігнат Васільевіч, і запомні, што мы рашылі...

— Ах, вось як, таварыш Лавор, — Чарада нахмурыў свае калматыя бровы і засунуў руку ў кішэню з такім выглядам, нібы хоча выняць адтуль калі не бомбу, то па меншай меры пісталет, але выцягнуў пячатку і пляснуў ёю па стале: — Бяры, кіруй!

— Крыху астынь, таварыш Чарада, — Лавор трымаў сябе спакойна і строга. — Калі мне прапануе партыя і даверыць народ гэту пячатку — не адмоўлюся. А цяпер ты завер гэтай пячаткай пуцявы ліст Макару і няхай едзе па салетру.

Члены праўлення і прысутныя пераглянуліся паміж сабой і назіралі, ці пачне Чарада завяраць пуцявы ліст, але пячатка па-ранейшаму ляжала на стале, а ён зноў пачаў гаварыць:

— Таварышы члены праўлення... Падумайце самі. Мы ўсю зіму вазілі і вазілі мінеральныя. Тады ж у яе галава не зварыла, што трэба будзе салетра, а цяпер, як трэба падкормку праводзіць, дадумалася...

— Няпраўда! — крыкнула Маша. Яна хацела прыпомніць Чарадзе, што без яе ведама завезлі ў калгас мінеральныя, яна ж была ў дэкрэтным водпуску, але Чарада перабіў:

— Хопіць! Кончым гаварыльню! Прагаласуем? Хто за тое, каб машыну адправіць у распараджэнне агранома?

— А я толькі настрыла язык, каб краянуць праўду, — пачуўся голас Дар'і. І выбух смеху заглушыў яе.

На гэтым нарада закончылася.

## XIII

Сімачка яшчэ зранку пачала плакаць. Праскоўя Арсенеўна яе не змагла супакоіць. «Сваіх дзяцей выгадавала, ну, а такой крыксухі бачыць не даводзілася», — хвалявалася яна. А Сімачка аж сінела ад плачу. Праскоўя Арсенеўна паклала яе ў калыску і пачала гушкаць —

усёроўна рады няма. Тады яна ўзяла дзіцё на рукі і пайшла ў сельсавет, каб адтуль пазваніць Паўлу ў МТС, бо Маша недзе ў полі. Так і зрабіла.

Праз нейкі час прыехаў Павел на матацыкле, а Арсенеўна ўжо і сама ледзь не плакала.

— Машу пакліч з работы. Гэта ж трэба так.... І што з ёй здарылася, а дзіцятка ты маё...

Павел узяў Сімачку на рукі. Яна на момант сунялася, а потым, пэўна адчула, што яе трымаюць не маміны рукі, зноў зайшлася плачам. Павел перадаў Сімачку бабцы, а сам паехаў у поле шукаць Машу.

Пасля дажджу і падкормкі аміячнай салетрай зелянела ільняное поле, і беленькія матылькі, як сняжынкі, лёталі над ім. Яны то садзіліся на лён, то падымаліся і жвава пералятталі з месца на месца. Павел наставіў над вачыма далонь, агледзеў усё кругом і ні адной жанчыны не заўважыў. Дзе ж Маша? Няўжо ў другім месцы? Завёў матацыкл і паехаў далей. З узгорка заўважыў, што пад Выгарам, як тыя матылькі, бялеліся жаночыя хусткі. Пашыбаваў да іх.

Сярод жанчын была Маша. Яна, як і ўсе, палола лён, які зарастаў свірэпкай і пырнікам.

— Маша! — гукнуў Павел. — Хутчэй!..

— Павел Адамавіч! — ён пачуў голас Паўліны. — Сюды!

Ён пакінуў матацыкл на дарозе, а сам падышоў да жанчын. Яны сабраліся ў адну купку і нешта рыхтаваліся сказаць яму. Але Павел быў усхвалёваны і спяшаўся.

— Маша, хутчэй паедзем дадому. Сімачка нездаровая.

Маша выцерла рукі аб фартух і неяк скоса глянула на яго, а потым сказала:

— Бачыш, — яна паказала рукой на поле, якое жаўцела ад свірэпкі, — твая работа ці не?

— Я не разумею цябе...

— Лён пустазеллем зарос!..

— А пры чым тут я?

— Таварыш галоўны інжынер, — тоненькім галаском пачала Гэлька, — мой бацька таксама сеяў ранні лён, як толькі альха пачне распускацца. Ён заўсёды казаў, што не кайся, рана ўстаючы і рана жэнячыся. Ранняя птушачка ў дзюбцы калупае, а позняя — вочкі праціpae. А ў нас атрымалася, як у тых гультаёў: калі справіліся, тады і пасеялі. Вось таму не лён расце, а свірэпка. Гэта ж таму, што інжынер дрэнна адрамантаваў трактар, а аграном цяпер адказвай за яго. А нам, жаночкам, толькі рукі закасвай.

— Мае вы бабачкі, — крычала Марфа, — залетась я на базары купіла парсючка. Ростам з рукавіцу, такі кажанок — ледзь хадзіў. Дзесятку аддала. Засмяялі мяне дома... Паверце, з гэтай «рукавічкі» на дванаццаць пудоў выкарміла парсюка. А пра нас ды пра лён гэты, паверце, што яшчэ ў газетах будуць пісаць...

Павел не змог даслухаць іх да канца, бо да яго вушэй, здавалася, далятаў плач Сімачкі. І ён настаяў, каб Маша хутчэй ехала дадому.

— Ну, жанчынкі, — адыходзячы, папярэджвала Маша, — гэты лапік да абеда трэба прапалоць. А да вечара, як сабе хочаце, каб да дарогі прачысціць.

— А вы што, пойдзеце? — хітравата запытала Дар'я. — Падумайце, таварыш аграном, каб арганізаваць яслі ў калгасе.



Маша ў адказ толькі памахала рукой і накіравалася з Паўлам да матацыкла.

— Я прыехаў дадому, чую, плача Сімачка... А цябе хто гоніць на прапалку, водпуск жа не закончыўся?..

— Ты, Павел, гоніш, ты і людзей прымусіў гарбець над гэтым ільном. Падумаць толькі, каторы дзень так кідаюся... А ты думаў, з-за чаго Сімачка плача?.. З-за цябе, з-за цябе, што зімой як трэба не адрамантаваў трактары, а цяпер і дзіця пакідаю, і пра сваё здароўе не думаю. Усё з-за цябе, Павел, ты вінават.

Ён завёў матацыкл. Маша села ззаду, і яны паехалі ў вёску.

Калі пад'ехалі да хаты, Маша яшчэ з вуліцы пачула, як плача дачка.

## XIV

Сёння споўнілася гадавіна з тае пары, калі Маша і Павел прыехалі ў Задуб'е. Як і павялося, яны парашылі пасвяткаваць у гэты дзень, запрасіць да сябе гасцей, знаёмых, каб за чаркай гарэлкі сказаць сябрам шчырае слова. Былое благое не ўспомніць, а будучае няхай будзе светлае, як сённяшні бязвоблачны дзень. Словам, парашылі запрасіць дванаццаць чалавек.

Вельмі радавалася і Праскоўя Арсенеўна, што ў яе хаце пачалося сапраўднае жыццё, як некалі пры старшыні сельсавета. Яна любіла сама падрыхтаваць святочны стол, каб госці былі задаволеныя.

Маша ўспомніла, што і Лавора трэба запрасіць. Толькі Павел сабраўся пайсці па яго, як ён сам нечакана прыйшоў.

— Дзень добры ў хату, — прывітаўся ён і адчуў сябе няёмка і разгублена, калі заўважыў багата ўстаўлены стол, але без гасцей.

— Праходзьце, праходзьце, Сцяпан Пятровіч, — Маша запрашала яго з парога.

Але Сцяпан Пятровіч развёў рукамі і нават разгубіўся.

— Разумееце... прабачце, я вас трывожыць не буду.

Якраз у гэты момант адчыніліся дзверы і на кухню зайшлі Дар'я і Паўліна. Яны былі вясёлыя і заклапочаныя.

— Ведаеце што, — сказалі яны разам, потым зірнулі адна на адну і нібы засаромеліся.

— Ну, гавары, — уступіла Дар'я Паўліне, а Паўліна пачырванела і локцем штурхнула Дар'ю.

— Ты гавары.

— Таварыш аграном, — адважылася Дар'я, — хоць, кажуць, у вас сёння нейкае свята... Ведаеце што, у нас учора адбыўся камсамольскі сход. Уся моладзь згадзілася, каб сёння арганізаваць нядзельнік па ўборцы ільну з Прыбачы. Вось мы і парашылі запрасіць вас. Паўліна мяне за руку трымала, там, кажа, людзі святкаваць збіраюцца, а я падумала, якія ўдзень юбілеі...

— Вось жа брытва, — заўважыў Лавор, а Маша ад задавальнення аж засмяялася, а потым звярнулася да Лавора.

— Сцяпан Пятровіч, які вы дзіўны... Каб не дзяўчаты, дык я не ведала б нічога.

— А лён такі, — аж зайшлася Дар'я, — што Чарада і ў сне не сніў.

— А я, дурная, баялася звеннявой быць, — сарамліва ўставіла слова Паўліна і яшчэ больш пачырванела.

— Ну, а мяне ці возьмеце на ўборку? — жартам запытаў Павел.

— Возьмем, абавязкова, — адказалі хорам дзяўчаты.

Сцяпан Пятровіч пакруціў кончыкі вусоў і адказаў:

— Я трошкі затрымаю вашу ўвагу, можна?

— Рэгламент? — сказала Дар'я.

— Дзве хвіліны. Гэта было ў дваццаць трэцім. Толькі мы прыехалі на Урал. Тыдзень папрацавалі... Ну, думаю, адпачну ў нядзелю. А тут нядзельнік абвясцілі. Ледзь паваЛокся я на работу. Пясок пасыпаць. Са мной дзяўчына працавала. Дзе тая стома падзелася... А ўвечары такое вяселле наладзілі. Тая дзяўчына пасівела, але яна і цяпер мне той нядзельнік успамінае.

— Ганна Тарасаўна, ваша жонка? — Маша аж здзівілася.

— Так.

Прасілі дзяўчаты, каб Сцяпан Пятровіч і яшчэ дзве хвіліны адвёў для ўспамінаў, але ён запярэчыў:

— Вам толькі пачні, дык вы і пра лён забудзеце. Пайшлі...

І ўсе накіраваліся ў Прыбач.

## XV

Ад першага вясновага спеву жаваранка, ад першай непаладкі ў калгасе, ад першай прынцыповай спрэчкі са старшынёй хлебароб, як свята, чакае справаздачна-выбарнага сходу. Тут ён суддзя. Радавы хлебароб, як гаспадар, адкажа на ўсе нявырашаныя пытанні. Мільянер мільянерам, а старшыня старшынёй. Не ўсе ж калгасныя багацці — вынік працы самога старшыні. Просты хлебароб — гаспадар на палявых абшарах. Яго мазалі, яго і хлеб! Ён гаспадар і на справаздачным сходзе. Хлебароба-гаспадара дужа баяцца адстаючыя старшыні-камандзіры. Ну, а Ігнат Васільевіч? Яго калгас — мільянер! Ігнат Васільевіч аж нос задраў. Але за тыдзень да справаздачна-выбарнага сходу пачаў пры сустрэчы першым вітацца з калгаснікамі.

У ноч перад самым сходам Ігната Васільевіча не браў сон. Ён раней за ўсіх прышоў у канцылярыю, бо а дзесятай гадзіне прызначан пачатак сходу. Але ў калгасе сход пачынаецца не тады, калі абвешчана ў аб'яве, а калі збяруцца ўсе калгаснікі.

На сход збіраліся марудна, але нядоўга. Нават з раёна прыехалі прадстаўнікі.

Зала запаўнялася. Людзі ўжо не мясціліся на партах, лаўках, зэдліках. Каму не хапала месца — стаялі на праходах і ўсё заходзілі, заносячы знадворку клубы холаду. Нарэшце, зачынілі дзверы, і сход пачаўся. За сталом свае месца занялі лепшыя калгаснікі, члены старога праўлення, прадстаўнікі раёна, дырэктар МТС. У зале панавала цішыня.

Пачаў гадавую справаздачу старшыня калгаса Чарада. Гаварыў спачатку ціхім голасам. Зрэдку заікаўся. Нехта з глыбіні залы патрабаваў:

— Мацней!



Чарада расказаў, што толькі ільнаводства дало каля мільёна рублёў прыбытку.

— Толькі ў гэтым годзе мы ўзнялі сцяг мільянера, гэта гонар калгасны! — І слова за словам пайшло самахвальства. Ігнат Васільевіч гаварыў надта добра. Даклад быў пабудаваны гладка, нават з цытатамі з Гогаля. Чарада крытыкаваў гультаёў і п'яніц. Даклад закончыў пажаданнем новаму праўленню калгаса працаваць лепей і зрабіць калгас двойчы мільянерам!

Як і павінна быць, спярша выступалі члены праўлення.

Яны выступалі і баяліся, бо кожны з іх аглядаўся на Чараду, і атрымоўвалася, што гаварылі аб усім і канкрэтна ні аб чым. Вяла, сумна цягнуўся сход. Відно было, што выступаючыя баяліся сказаць адкрыта ўсё, аб чым думалі. Як толькі Чарада з адабрэннем ківаў галавой, прамоўца гаварыў смялей, калі ж Чарада моршчыўся, і прамоўца пераходзіў зноў на хвалебны тон, і словы, як кветкі, сыпаліся на Ігната Васільевіча. Ён пачынаў воплескі і сам выгукваў:

— Ну, хто яшчэ? Смялей, таварышы, смялей. Больш крытыкі...

У зале запанавала маўчанне. Калгаснікі між сабой толькі пераглядваліся, але ніхто не адважваўся выйсці на трыбуну. Потым Чарада павярнуўся назад да Лавора.

— Сцяпане, давай ты скажы сваё партыйнае слова.

Можа ў гэты момант Лавор і не збіраўся гаварыць, але калі просяць, падумаў ён, то чаму і не выступіць. Ён спакойна падышоў да трыбуны. Паглядзеў на калгаснікаў, кашлянуў у кулак. Усе чакалі ад яго шчырага слова, і ён пачаў ціха, проста:

— Вось вы маўчыце, таварышы, а гаварыць ёсць аб чым. Бедны наш калгас, і мы адстаючыя. А калі адстаём, то нас білі і будуць біць... Аглянемся назад. Я добра памятаю, ды і вы не забыліся, як да нас прывезлі Чараду і прапанавалі абраць яго старшынёй калгаса. Гэта было тры гады таму назад. Што мы тады мелі ў калгасе? Успомніце. А мелі тое, што і цяпер. Праўда, лёну не сеялі. А паляводства, жывёлагадоўля? Раней па кілаграму даставалася калгаснікам на працадзень і цяпер столькі ж. Тры гады таму назад па пяць кароў было на сто гектараў і цяпер столькі. А свінаферма якая ў нас? Раней адкармлівалі па шэсць цэнтнераў свініны на сто гектараў, а цяпер толькі па чатыры. Я не раз гаварыў на партыйных сходах: «Ігнат Васільевіч, бярыся за справу, перавозь жонку ў калгас і жыві як чалавек». Таварышы калгаснікі, што нам перашкаджае вывесці калгас у перадавыя? Падумайце, выступіце і скажыце. Вы гаспадары! За вамі рашаючае слова! — Лавор яшчэ раз абвёў запытальным позіркам прысутных і дадаў: — Мы, камуністы, гаварылі між сабой... Думаю, што прыдзем на сходзе да агульнай думкі. Цяпер хочацца, каб вы сказалі.

Калгаснікі па-ранейшаму маўчалі, толькі відно было, як твары іх сталі больш сур'ёзнымі.

Калі сход маўчыць — напэўна трэба чакаць вострых выступленняў.

— Мне слова, — нарэшце папрасілася Маша, выйшла на трыбуну і пачала: — Я можа буду гаварыць няскладна, то даруйце, а калі няпраўду — пярэчце. Некаторыя выступаючыя і нават сам Чарада пахвальваліся: у гэтым годзе наш калгас мільянер. Гэта добра. Добрыя дасягненні, здаецца. А гэтыя ж дасягненні маглі быць учарашнімі. У гэтым годзе пастараліся — лён добры вырасцілі, а я проста скажу,

што лён такі можна было вырасціць дзесяць год таму назад! Гэтая ж зямля была, гэтыя ж людзі і ўсё, усё... Ігнат Васільевіч, ці праўда?

Чарада нешта буркнуў сабе пад нос, звесіў галаву над аркушам паперы і за кожным колкім словам агранома, па звычцы, пачаў ставіць гарбатыя пытальнікі, каб потым выйсці на трыбуну і даць абвяржэнне.

— Добра, — прадаўжала Маша, — сёлета ўрадзіў лён, і калгас стаў мільянерам, а калі на будучы год няшчасце якое з ільном — рахунак калгаса зноў на пустым седале. Зноў перад намі, таварышы калгаснікі, Чарада разводзе рукамі: засушлівы год. Дык хіба мы можам ганарыцца, што наш калгас мільянер? Ліпавы мільянер! Сцяпан Пятровіч прапанаваў нам, каб мы паглядзелі, у якім становішчы ферма калгаса-мільянера. Гадавы надой малака на кожную карову склаў па колькі літраў? — Маша суровым позіркам правяла па зале. — Таварыш загадчык фермы, колькі па вашаму падліку?

Той неахвотна адказаў:

— Каля тысячы, вы ж самі ведаеце...

— Гэта значыць — па тры літры за суткі, — паўтарыла Маша і падкрэсліла: — Па тры літры! Вывадаў рабіць не буду, думаю, ясна, — яна прымоўкла і яшчэ некага шукала вачыма ў зале. Потым зноў загаварыла: — А птушкаферма? Таварышы калгаснікі, колькі каштуе калгасу адно яйка?.. Не ведаеце? Таварыш Чарада, адкажыце!

— Вы не пракурор допыт рабіць.

— Добра, я за вас адкажу: у калгасе-мільянеры, дзякуючы ўмеламу кіраўніцтву, як тут выхваляўся Чарада, кожнае курынае яйка каштуе па пяць рублёў, а на рынку такое ж яйка — пяцьдзесят капеек. Далей можа таварыш Чарада адкажа, бо ў сваёй справаздачы забыўся сказаць, чаму дагэтуль пустуюць аблогі Альтанкі. Гэта больш пяцідзесяці гектараў зямлі.

— Зямля благая, — не ўтрымаўся Чарада.

— Як аграном, заяўляю — няма зямлі благой, ёсць гаспадары благія!

— Станавіся і кіруй, — узрушыўся Чарада.

Але Маша перабіла:

— Ігнат Васільевіч, — голас яе быў мяккі, але ўпэўнены, — калі вы сваім выступленнем тлумілі сход, мы мелі вытрымку цярпець...

Старшыня сходу пастукаў алоўкам па графіне, напамінаючы, што надта шумна ў зале. А потым строга папярэдзіў Чараду за непавагу да выступаючай. Гоман змоўк, і Маша прадаўжала:

— Далей, таварышы, прыгадайце, колькі разоў напаміналі, каб вывезці на поле іл з Мельнікаў і зрабіць там вадасховішча, рыбу развесці. Не думаў і не думае аб гэтым Чарада. Ён нават не цікавіцца, што заўтра нас чакае. Калі старшыня працуе, як кажуць, стук, грук абы з рук, то члены праўлення не лепей... Таму і няма дысцыпліны ў калгасе. Так далей нельга... Таварышы, можа хто думае, што я абураюся на Ігната Васільевіча па асабістых матывах? Не. Я выказала толькі тое, што павінна была зрабіць як аграном калгаса.

— Я даўно хачу сказаць, мяне паслухайце, — з залы папрасілася Дар'я. Калі ёй дазволілі, яна ўзышла на сцэну: — Я адно скажу, людцы, што няма ў нашым калгасе галавы.

У зале выбухнуў смех. Старшыня сходу толькі званком супакоіў гоман. А Чарада ўжо каторы раз выціраў пот з ілба, з твару, які буйнымі кроплямі запаўняў васпаватыя ямачкі. Ён лыпаў вачыма і ўжо нават нічога не запісваў. Калі стала цішэй, Дар'я прадаўжала:



— Я раскажу, людцы, такое здарэнне. Калі б я была дурная баба, як мяне лічыў Чарада, то я была б не звеннявой, а можа наменснікам. Усе вы ведаеце, што Дар'я Сазонькава ўдава. Аднаго разу ўвечары, куры ўжо на седала паселі, заязджае да мяне вось гэты Чарада. І пачынае ліпнуць. Пасаду добрую абяцае, кажа, пастаўлю наменснікам загадчыка свінафермы. Вось вы смяецеся, людцы добрыя, а гэта ж праўда было. А хіба да мяне да адной ён ліпнуў? Я хачу запытацца: ці ёсць час падумаць у нашага Чарады пра калгасныя справы, пра жыццё. Няма! І не хоча ён дбаць пра гэта. Вы ж самі бачылі: то ён у раз'ездах, то часта, як сам кажа, «не ў парадку». Гэта трэба разумець, выпіўшы, а часамі і п'яны. Вось мне і незразумела: ці ёсць у нас саміх галовы, што Чараду за старшыню дагэтуль трымаем?

Сход, як прарвала. Апладысменты ў зале не сціхалі. «Правільна, правільна...» — чуліся галасы.

Дар'я спакойна села на сваё месца, а ў зале падняўся лес рук. Старшыня сходу не ведаў, каму спачатку даваць слова. Пачалося! Падыходзілі да стала, гаварылі коратка, другія, перабіваючы, дапаўнялі з месца, крычалі: «Гуляка!.. Дакуль цацкацца з ім!»

Чарада спачатку спрабаваў абсякаць рэплікі, а калі старшыня сходу папярэдзіў яго, ён стаў прагна жлукціць шклянку за шклянкай ваду, якая стаяла ў графіне на стале. Потым усунуў у кішэню свае запісы з гарбатымі пытальнікамі. Сядзеў моўчкі, падпёршы абедзвюма рукамі скроні. На залу не глядзеў. Слова таксама не прасіў.

...Сход зацягнуўся да змяркання. Ужо прыцемкам пачалі вылучаць новы склад праўлення калгаса.

Выступіла звеннявая па ільну Паўліна.

— Таварышы, каб быў лён і хлеб у калгасе, каб мы і надалей ганарыліся сваім багаццем, я прапаную абраць старшынёй калгаса агранома і камсамолку Машу Матыль!

Апладысменты, як усплёскі, пакаціліся па зале. Маша папрасіла слова.

— Таварышы, — сказала яна, — можа я сваю справу і ведаю, а кіраваць вялікай гаспадаркай павінен сталы і вопытны чалавек. А хіба наш калгас не мае такіх людзей? Дазвольце мне вылучыць кандыдатуру новага старшыні, — у зале насцярожыліся. — Прыкладнага партыйнага кіраўніка, дбалага гаспадара-брыгадзіра, нашага паважанага, вунь ён вусы расправіў — Сцяпана Пятровіча Лавора!

Пасля бурных і доўгіх апладысментаў сход працягваўся.

## XVI

Цяпер Паўла чакала з работы не адна Маша. Чакала і Сімачка бацьку. Яна яшчэ мала гаварыла, але ўжо добра разумела, калі Павел браў яе на рукі і цешыў усялякімі забаўкамі. Ёй, пэўна, усё гэта дужа падабалася, і яна ўскідвала ручкамі і ўсё намагалася нешта сказаць, але яшчэ не ўмела. Маша і Павел не маглі ёю нацешыцца.

Праскоўя Арсенеўна адчувала сябе таксама не лішняй у гэтай

сям'і. Калі Маша і Павел бываюць на рабоце, яна няньчыць Сімачку. Яна радавалася жыццю сваіх кватарантаў і нават часта ўяўляла сабе, што гэта не хто іншы, а яе родныя дачка і сын, і яна для іх — маці.

Вось і сёння Павел вярнуўся з работы пазней, чым Маша. Яна папарадкавала свае гаспадарскія справы і прысела на канапу, каб дачытаць кніжку. Але Павел неяк незвычайна, як заўважыла Арсенеўна, пачаў расказваць, як дужа добра стала ў яго на рабоце, а потым выняў з кішэні газету і паказаў Машы.

— Чытай, пра мяне...

У газеце было напісана, што Задубская МТС даўно закончыла рамонт тэхнікі, займае першынство ў раёне. У артыкуле гаварылася і пра Паўла... Машы таксама было радасна, што нарэшце яе словы збыліся, што Павел у МТС становіцца перадавіком. Але, як і кожная жанчына, асцерагалася дужа захвальваць мужа і зноў прынялася чытаць кніжку. Павел скінуў зашмальцаваную ватоўку і сеў каля Машы на канапу. Узяў на рукі Сімачку. Паўлу хацелася гаварыць, жартаваць. Прыемна і радасна, калі цябе нарэшце зразумелі і ўспамінаюць добрым словам. І ён пачаў размаўляць з дачкой.

— Вось так, Сімачка, скора вясна, будзеш сама бегаць. Прыбяжыш да мяне, а дадому я цябе на матацыкле павязу... Машына гурр... паехалі, значыць.

Сімачка таксама паўтарала «гуу»..., але слова «машына» яна яшчэ добра не выгаварвала.

Весела і забаўна ў маладой сям'і.

— Паша, абавязкова Флабэра пачытай, — параіла Маша.

— Чытаў, Маша, даўно чытаў, — адказаў ён і, адхіліўшыся на спінку канапы, нешта думаў, а потым зноў перабіў чытанне Машы:

— Чуеш, ды ўдзялі ж мне хоць крышку ўвагі... А то ўвесь час са сваім Флабэрам, — і нават сам усміхнуўся.

Маша таксама засмяялася, а ён сур'ёзна пачаў:

— Ведаеш што...

— Ведаю, ты вячэраць хочаш... Пачакай, да кропкі дачытаю.

Павел нібы не пачуў, што сказала Маша, і прадаўжаў сур'ёзна:

— Вучыцца парашыў... Як, па-твойму? Падамся ў аспірантуру. Работа ж у мяне наладзілася. Эх, толькі б... — ён не дагаварыў.

Бывае, што ў самы светлы момант жыцця ўварвецца благі ўспамін, на імгненне заслоніць усё. І сапраўды, Павел успомніў Віктара. «Віктар скажа, што ў яго нават сярэдняй адукацыі няма, а я палез у аспірантуру... Эх, Віктар, Віктар... Чаму ты такі недаверлівы. Мы ж свае людзі...» Паўлу хацелася па-братэрску ўпікнуць Віктара.

* * *

І вось адбылося здарэнне, якое перавярнула ўсё дагары нагамі. Віктар Гаркуша, працуючы ў майстэрні, атрымаў цяжкую траўму. Гэта было ў абедзенны перапынак. У майстэрні знаходзіліся толькі Павел і Віктар. Людзі бачылі, што галоўны інжынер вынес ледзь жывога Віктара на двор, пасадзіў у кабіну «лятучкі» і як мага хутчэй адвёз у бальніцу.

Здарэнне было раптоўнае і недарэчнае. Многія ў МТС не разумелі,





як гэта ўсё атрымалася. А Павел усё хадзіў маўклівы, як асуджаны. Ён нікому нічога не гаварыў.

Пасля таго, як ён адвёз Віктара ў бальніцу, прайшло з тыдзень. Усе дазналіся, што Віктар будзе жыць, але пасля цяжкага ўдару ён амаль не гаворыць.

«Тут штосьці такое ёсць», — зашапталі некаторыя.

У МТС Паўла ніхто не дакараў у вочы няшчасцем Віктара, нават пры ім не ўспаміналі яго. А Павел чакаў аднаго, каб хутчэй пачаў гаварыць Віктар. Ён усё раскажа, што адбылося з ім.

У выхадны дзень Павел парашыў наведаць Віктара. На спадарож-

най калгаснай машыне заехаў у райцэнтр. Там у магазіне купіў некалькі плітак шакаладу і пайшоў у бальніцу. Каля самага ганку сустрэў Лаўрэна Карпавіча.

— І вы да Віктара?

— І ты? — Лаўрэн Карпавіч нібы здзівіўся, калі стрэў Паўла, але адказаў: — Добра, пойдзем разам.

Паўлу аж весялей стала. Ён спадзяваўся, што можа, нарэшце, Лаўрэн Карпавіч разабраўся ў гэтай заблытанай справе. А калі яшчэ не разабраўся, то абавязкова разбярэцца і перадасць сваю думку механізатарам. А мо' дагэтуль сам Віктар яму даў зразумець, што не ён, не Павел вінаваты ў яго бядзе. Калі ўвайшлі ў калідор, ён спярша запытаў у знаёмай бальнічнай сястры:

— Ну, як маецца Віктар Гаркуша?

— Зайдзіце, сам скажа, — коратка адказала дзяўчына.

Яны асцярожна адчынілі дзверы і зайшлі ў палату. Віктар ляжаў на ложку каля акна. Галава яго была завязана белым бінтам і вочы заплюшчаны, пэўна, спаў. Калі падышлі да ложка, Лаўрэн Карпавіч паклаў сваю халодную далоню на рукі Віктара. І той расплюшчыў вочы. Яны глядзелі холадна і абыякава як на Лаўрэна Карпавіча, так і на Паўла.

— Ну, здароў, Віця,— пачаў гаварыць Павел і ад радасці ўсміхнуўся. Потым паклаў сваю пакупку на тумбачку і стаў пытацца. — Як адчуваеш сябе? Скора дадому? Вясна на двары. Вунь сонейка грэе... Віця, ну чаго ж ты маўчыш?..

Віктар зноў заплюшчыў вочы і горка зморшчыўся, напэўна, вострыя боль замінаў яму глядзець, думаць, гаварыць.

У палаце, апроч Віктара, ляжала і яшчэ двое хворых. Яны падмялі галовы з падушак і ўважліва глядзелі на Віктара. Калі заўважылі, што ён заплюшчыў вочы, адзін з іх сказаў:

— Ён многа спіць, а калі выспіцца, бывае і скажа што-небудзь.

— Нічога! Пакуль жаніцца, усё загаіцца, — падаў свой жарт другі.

Лаўрэн Карпавіч задумліва глядзеў у акно. Доўга глядзеў некуды ў адну кропку, а потым коса зірнуў на Паўла. Павел зразумеў яго. Ён зірнуў яшчэ раз на Віктара і першым выйшаў з палаты.

Стаў у калідоры ля акна. Нахіліўся на падаконнік і глядзеў з другога паверху. Глядзеў і нічога не бачыў. З галавы не выходзіў Віктар. Напэўна, Віктар скінуўся аднекуль і ўдарыўся аб цэментавую падлогу, здагадваўся Павел і заключыў, што яшчэ не скора ён вернецца ў МТС, не скора высніцца праўда.

А калі з палаты выйшаў Лаўрэн Карпавіч, злосны і хмуры, у Паўла яшчэ больш занылa ў грудзях.

— Ну што, Лаўрэн Карпавіч, можа што сказаў? — Паўлу не цярпелася, ён чакаў, каб як мага хутчэй развеяўся гэты густы туман недавер'я.

— Нічога, ён вельмі хворы, — сказаў Лаўрэн Карпавіч, і ад гэтых слоў Паўлу стала яшчэ цяжэй.



## XVII

Хоць канчалася вясна, але ў калгаснікаў усёроўна для работы дзень малы. Як заўсёды раніцай, у канцылярыю калгаса прыходзіць шмат калгаснікаў. Кожны па сваіх справах. Але быў позні час, а старшыні ўсё няма. Адзін з малодшых, нецярплівы юнак, часта выходзіў на ганак і глядзеў у той бок, адкуль павінен ісці старшыня. Нарэшце, цікаўны вяртаецца назад і абвяшчае:

— Ідзе! — і займае сваю чаргу на прыём да старшыні.

Сцяпан Пятровіч, перш чым павітацца, папрасіў у калгаснікаў прабачэння за спазненне і нават расказаў, хто і з-за чаго яго прытрымаў. У кабінет за Лаворам зайшла Маша. Яна спярша хацела параіцца з ім наконт пасеву грэчкі. Толькі заікнулася пра сваё, як у канцылярыю ўвайшоў калгаснік. Сцяпан Пятровіч перапыніў Машу.

— Сцяпан Пятровіч, — сказаў калгаснік, — як бы на адзін дзянёк з работы звольніцца. Салому са страхі скінуў, шыферу прывёз, трэба ж накрыць, бо калі пойдзе дождж...

— А як справы з вадасховішчам? — пацікавіўся Лавор.

— Так пасля Пятроўкі можа і ваду пусцім.

— Да Іллі рыбы налавіць трэба! — нібы загадаў Лавор.

— Можа і так. Я ж не рыбны інжынер,— не хацеў пярэчыць калгаснік.

— За дзень управішся накрыць?

— Шыферам, дык скора...

Не паспеў зачыніць дзверы першы, як увайшоў другі.

— Таварыш старшыня, я яшчэ ў гэтым годзе не прасіўся ў вас, і ў будні дзень і ў святочны іду і іду, сёння трэба пчолак агледзець.

— А можа б пайшоў працаваць на калгасную пасеку? Да слова, а колькі ў цябе рамовікаў?

— Дванаццаць, маніць не буду, я чалавек адкрыты, дванаццаць...

— Пару штук трэба калгасу прадаць на развод, як ты думаеш?

Калгаснік зірнуў у акно, падумаў і сказаў:

— Добра, пагаманю з бабай сваёй. Не ведаю, як на болей, а на пару штук дамовімся неяк... А на пасеку магу пайсці працаваць...

У канцылярыі калгаса, як на прыгарадным вакзале: адзін выходзіць, другі прыходзіць. Пасля таго, як Сцяпан Пятровіч закончыў справу з наведвальнікамі, пагаварыў з Машай наконт пасеву грэчкі.

І Маша накіравалася па палявой дарожцы да сеялкі. Па дарозе яна прыпомніла, што хацела сказаць Сцяпану Пятровічу аб тым, што трэба пасадзіць яшчэ два гектары кармавых буракоў. Зімой як знойдзеш такі корм. Ды і расада ёсць. Хацела вярнуцца назад, але парашыла сказаць аб гэтым у наступны раз.

Поле, шырокае калгаснае поле... Вабяць вока багатыя пасевы. І Маша думала, што сапраўды пры новым старшыні гаспадарскія справы набываюць разгон. У надыходзячым леце палі абяцаюць шчодры ўраджай. І Маша радавалася гэтаму.

* * *

Аднойчы надвячоркам Павел вярнуўся дадому. Вылез з кабіны. Выцершы хусцінкай успацелы лоб, паволі падаўся ў кватэру.

Пераступіў парог — і дзіву даўся: усё выглядала па-святочнаму.

Стол заслаты не кляёнкай, а белым абрусам, ложак — блакітным пакрывалам. На вокнах свежы ветрык пакалыхваў новыя гардзіны. Апранутая ў бардовую святочную сукенку, Маша абувала Сімачку ў новыя чаравікі. Праскоўя Арсенеўна ў белым фартуху рупліва ўвіхалася каля стала, засцілаючы наверсе кваяцістую дарожку.

Павел ад здзіўлення моўчкі пацісну плячыма і падумаў: ці не жартуюць?

Маша кінулася да яго.

— Нарэшце мы адсвяткуем нашу гадавіну, — сказала яна.

— Тата, — Сімачка ўчапілася за брудныя калошы Паўлавага камбінезона.

Павел паглядзеў уніз на малую. Яна ручкамі абхапіла яго нагу.

— Паша, Віктар вярнуўся з бальніцы. Ён быў тут,— ласкава сказала Маша, — скідай камбінезон! Ён яшчэ прыдзе... З Лаўрэнам Карпавічам.

Яна расчулена паклала руку на плячо мужа і схіліла галаву яму на грудзі.

Ён адчуў, як жонка прытулілася да яго, хоць ён быў у брудным камбінезоне, а яна — у святочнай сукенцы. Асцярожна, нібы баючыся спалохаць, прашаптала скрозь слёзы:

— Як я рада!

Праз нейкі час у хату ўвайшлі Лаўрэн Карпавіч і Віктар. Віктар быў у новым касцюме, надзвычай вясёлы і бадзёры. Упершыню ўбачыў Павел, які прыветлівы, просты і шчыры ў Віктара твар. А Віктар кінуўся яму насустрач, схапіў за плечы, прыцягнуў да сябе і пацалаваў. Павел на хвіліну разгубіўся. Ён зірнуў на Віктара і не ўбачыў у яго вачах ні падазронасці, ні пагрозы.

— Паша, ты крыўдзішся на мяне?

— Я?.. Не, Віктар... Не крыўджуся...

— Даруй, Павел. Дрэнна пра цябе думаў. Памыліўся глыбока. А ты мне жыццё выратаваў. Гэта ж электратокам шыбанула мяне, і я ўпаў галавой аб цэментны пол... Ну, і забыў усё. Бывае так, мне і ўрачы казалі. І вось успомніў. Ну, не крыўдзішся?

— Ды не, Віктар.

У Паўла раптам стала лёгка і радасна на душы, быццам уся немач, якая дасюль не давала яму жыць, адвалілася, як кара.

Лаўрэн Карпавіч тым часам апынуўся каля сяброў.

— А мы, Павел, прышлі цябе віншаваць. Ад душы... З узнагародай!

У гэты момант на двары пачулася музыка. У сенцах загрукалі ногі. Сюды ішло многа людзей.



Янка Скрыган нарадзіўся ў 1905 годзе ў сяле Труханавічы на Случчыне. Вучыўся ў рэальным вучылішчы, у змешанай гімназіі, у сельскагаспадарчым тэхнікуме. У 1933 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1924 годзе ў слуцкай акруговай газеце «Вясковы будаўнік». У 1929 годзе была выдадзена першая кніжка прозы «Затока ў бурах».

Апошнімі выйшлі «Апавяданні» (1956 г.), «Наталя» (1957 г.).

**Янка СКРЫГАН**

# НЯПРОШАНАЯ СЛЯЗА

## Апавяданне

Мал. П. Калініна.

### I

Марына была ўпэўнена, што ні ў кога другога няма такога харошага сяброўства, як у яе з Міхалём Ермаліцкім. Яна нават не памятала, як гэта пачалося, і не сказала б, чым лепшы за другіх быў Міхаль. Каб сказаць, што ён быў надта прыгожы, дык не — звычайны, нават крыху нелюдзімы, як бы сярдзіты або нездаволены чым. Адно, што кідалася ў вочы ў яго, дык гэта чорныя кучаравыя валасы і бялявыя бровы. Можа іменна ад гэтай бялявасці броў здавалася, што трохі рэзкавата глядзяць з-пад іх зусім шэрыя вочы. Хацелася, каб яны былі мяккія, каб усміхаліся, але яны былі халаднавата-дзёрзкія. Гэтую асаблівасць Марына заўважыла ў першы дзень, калі паступала на завод. Галоўбух прызначыў яе да Міхаля ў памочнікі — рахункаводам. Міхаль распытаў, што яна можа рабіць. Аказалася, што да гэтага яна працавала касіркаю, па бухгалтэрыі ведала мала, і Міхаль адмовіўся ад яе.

— Тады вам трэба і паступаць у касіркі, — сказаў ён.

— Мне там надакучыла, таварыш бухгалтар, — адказала Марына. — Я б хацела чаму большаму навучыцца. Няўжо ж мне так век і быць касіркаю.

— То перш трэба навучыцца, паважаная дзяўчына. Бо мне трэба такія, каб ужо працавалі. А то што ж — замест помачы я буду мець дакуку: абучаць вас.

Галоўбух наш, Мікалай Варанецкі, меў вельмі добрае сэрца. Ён не захацеў крыўдзіць Марыны. Ён ведаў, што іменна з гэтае маладое пары трэба вельмі беражліва і чула ставіцца да чалавека. Марына спадабалася яму найбольш мабыць тым, што прасілася на такое месца, дзе было б цяжэй і дзе б яна чаму навучылася. Паглядзеў ён на яе,— госпадзі, такая маладая і так хораша думае! — і не захацеў адпусціць ад сябе. Паабяцаўшы, што пазней усё само стане на месца, ён выклікаў старога касіра Клакоцкага.

— Андрэй Рыгоравіч, — сказаў ён. — Вы даўно скардзіліся, што не па вашых гадах бегаць па банках ды стаяць у чэргах. Вы стары рахункавод. То можа вы пойдзеце да Ермаліцкага? А на ваша месца мы паставім вось гэтую дзяўчыну.

— Калі ласка, Мікалай Сямёнавіч. Не толькі згодзен, а вельмі прашу.

Так Марына і асталася ў нас на заводзе касіркаю.

## II

Міхаль Ермаліцкі працаваў бухгалтарам па заработнай плаце. Ці то таму, што па характару работы ён быў найбольш звязаны з касаю, ці то таму, што аднойчы раптам заўважыў Марыніны тонкія і вельмі зграбныя пальцы, калі яна перагортвала выплатныя ведамасці, але яго пачало цягнуць туды. Пасля нечакана для сябе ён заўважыў і другое: што светлыя валасы Марыне вельмі да твару, што яна не па-дзявочы сур'ёзная, што не надта падае на гаворку і нават усміхаецца не так, як усе: рэдка, але так, што ад усмешкі яе хораша і цёпла. Марына не ведала, што Ермаліцкі раскайваўся цяпер, не ўзяўшы яе ў свой аддзел, і разумела ўвагу яго, як чыста дзелавую: чалавек хоча, каб яна дзе не памылілася. Гэта вось так робіцца, гэта вось так.

— Дзякую, таварыш Міхаль, але ж гэта я крыху сама ведаю.

— А я думаў, што вы на першым часе...

— От бачыце, як мне шанцуе. На першым часе, — знарок падкрэсліла Марына Міхалёвы словы, — вы баяліся, што я буду ў вас не помач, а немач, а на другім часе самі напрошваецеся ў настаўнікі...

— Ну, мала што, — сканфузіўся Ермаліцкі, добра зразумеўшы гэты далікатны намёк. — Вам жа сказаў Мікалай Сямёнавіч — ваша ўсё не за гарамі. Ды я і не вучу, а... проста, каб мець упэўненасць...

На пачатку Ермаліцкі ў касу заходзіў часта, бо гэта ўспрымалася, як клопаты аб маладым работніку. Але з часам рабіць гэта стала нязручна. Кожны ведае, як не хочацца паказаць другім, калі пачынаецца першая духоўная патрэба часцей бачыцца з любым табе чалавекам. Гэта як бы нейкая маленькая тайна, у якой вельмі многа трывожнай няпэўнасці, і хочацца, каб ніхто не ведаў пра гэта. Ермаліцкі пачаў цікаваць той час, калі канчаецца работа, каб неяк знячэўку апынуцца каля Марыны і правесці яе дахаты. Пасля іх часта пачалі бачыць разам у парках, у кіно. Ужо ні для кога не было тайнай іх сяброўства,



і яны ні ад кога не хавалі яго. Мы не пазнавалі Марыны. Яна неяк перамянілася на вачах. І да гэтага ўся яна была харошая, зграбная, неяк вельмі ўмеру сціплая і самастойная, маладая і дарослая, а то адразу стала яшчэ харашэй. Ці заўважалі вы, што ад шчасця нават непрыгожыя людзі свецяцца нейкім на дзіва празрыстым веснавым святлом? А што ж было гаварыць пра Марыну: нават хада ў яе стала такая, што можна было стаяць ды любавацца, калі яна ішла. Поруч з ёю Міхаль Ермаліцкі здаваўся проста нязграбным: ступаў шырока, непаваротліва, нібы ўвесь час баяўся стаць з ёю поруч. І твары ў іх былі розныя: у Марыны ясны, адкрыты, на ім адразу былі відны яе вочы, у якія хацелася доўга глядзець; у Ермаліцкага — роўны, занадта спакойны, і вочы на ім запаміналіся толькі пасля.

Так дружба іх цягнулася можа з год. Яны ведалі, што былі патрэбны адно аднаму, і нават тых слоў, якія гаворацца ў такіх выпадках, калі ўпамінаецца каханне, не сказалі адно аднаму. Можа гэта залежала ад іх характараў, а можа ад таго, што сустрэчы іх былі адначасова ж і лірычныя, і дзелавыя. Хто яго ведае, але яны не любілі пераказваць у словах тое, што і так адчувалася кожным. Нават першае прызнанне ў пачуццях было выказана не зусім звычайна. Летась пад восень Міхаль прынёс у касу ведамасці на выплату заработнай платы. Марына, як заўсёды, прагледзела іх, малюсенькім дотыкам рукі папраўіла валасы, хоць яны ляжалі вельмі акуратна.

— Па ўсіх ведамасцях плаціць? — запыталася яна.

— Па ўсіх. Як і звычайна — кацельнай, механічнаму і кіслароднаму ў першую чаргу. Адмперсанал пачакае.

Каса была маленькая: выплатное акенца, столік каля яго. З аднаго боку сейф, з другога — за кратамі, акно ў двор. Марына сядзела на тонкім гнутым крэсле. Міхаль стаяў у яе за плячыма. Мабыць і папраўіла яна валасы, ведаючы, што ён глядзіць на яе.

— А навошта, каб адмперсанал чакаў? — цераз плячо павярнула яна галаву. — Грошай жа ўсім хопіць.

— Ну, так ужо заведзена. Каб не было гаворкі, што мы перш самі палучаем, а тады ўжо рабочым даём...

— Смешна трохі, — памаўчаўшы, сказала Марына. — Чаму гэта мы так папрывыкалі ўсё рабіць казённа? Кожны ж ведае, што гэта толькі форма. Грошай хапае: у каго ёсць палучыць, няхай прыходзіць і палучае, і якая розніца, хто за кім?

— Ну, мала што, — пагадзіўся Ермаліцкі. Але тут жа папраўіўся, нібы спахапіўшыся, што ў такіх прынцыповых выпадках пагаджацца ён не мае права. — Парадак — ёсць парадак. Папускацца ў гэтым нельга.

Марына паціснула плячыма, як бы сказаўшы: «А мне што да таго? Як хочаце, так і рабіце».

Ермаліцкі трохі пастаяў у яе за спінаю. Хораша, неяк не так, як у другіх, была нагнута над сталом яе галава. Ермаліцкі сказаў:

— От выплацім, і адразу стане лягчэй. У мяне заўсёды так: пакуль не выплаціш, то як бы нешта вісіць над галавою. І сыбота якраз... Я гэта от што хацеў сказаць, Марына. Няхай толькі вам не падумаец-

ца чаго. Мы б маглі заўтра паехаць у Ждановічы. Вельмі добра там, і лес, і наогул... Калі толькі вы... Як вы думаеце?

Па тым, як застылі Марыніны плечы і чуць-чуць прыўзнялася над сталом галава, Міхаль зразумеў, што Марына думае. Думала яна не доўга. Павярнулася, зірнула ў вочы і сказала:

— Як вы хочаце, Міхаль, так і зрабіце. Добра?

Гэта было сказана так шчыра і так даверліва, што больш не трэба было ніякага прызнання.

III

І от здарыўся выпадак, які парушыў нечакана спакой і ў нашым службовым жыцці, і ў жыцці Марыны.

На работу да нас паступіў Собіч. Невысокі ростам, сціпла, але акуратна адзеты чалавек гадоў больш за трыццаць пяць, ён здаўся нам вельмі непрыкметны і звычайны. Пачыналася квартальная справаздача, старшы наш бухгалтар Наўроцкі збіраўся пасля яе пайсці на пенсію, трэба было даць яму некага ў памочнікі. Якраз на гэты час натрапіўся Собіч. Справаздачу згарнулі вельмі скора і ўдала, Собіч бадай што ўсё зрабіў за Наўроцкага, і Мікалай Сямёнавіч неўзабаве прызначыў яго старшым бухгалтарам.

Звычайна кожны чалавек па сабе ведае, што калі ён трапляе на новае месца, то яму ўсё здаецца не так, як яно павінна было б быць. Ён адчувае сябе не зусім зручна. І людзі незнаёмыя, і ты не ведаеш, як з імі трымаць сябе, і працуюць яны быдта не так, як ты хацеў бы, і парадкі не такія, да якіх ты прывык. Тут адно з двух: калі ты наняўся як радавы работнік, то пачнеш да ўсяго пакрысе прывыкаць і неўзаметку асвойтаешся і ўцягнешся ў чужы парадак; калі ж у тваіх руках будзе хоць невялікая магчымасць каманды, то пачнеш усё ламаць і перарабляць па-свойму. Такая ўжо наша навука бухгалтэрыі, што з тых далёкіх часоў, калі італьянскі вучоны-манах Лука Пачыолі выдумаў яе, яна не перастае быць актыўным удзельнікам эканамічнага працэсу. Яна можа быць мёртвай у руках чыноўнікаў і бюракратаў, і можа тварыць цуды, калі хоць трошкі ўдыхнуць у яе творчай неспакойлівасці. От Собіч якраз і трапіўся такі няўрымслівы. Увесь наш прывычны парадак механічнай работы пачаў трашчаць на ўсіх за́стаўках. Калі фігуральна сказаць, то да гэтага часу кожны з нас быў як бы моцна прыкуты да свайго стала, каб выконваць адну і тую ж даўно завучаную функцыю. Пад канец кожнага месяца да нас паступаць справаздачы. Кожны бухгалтар перагорне іх, стукне для прыклёпу на лічыльніках ці крутне арыфмометрам, каб зрабіць выгляд, што правярае, і настрочыць праводак. Рахункаводы разнясуць гэтыя праводкі па картатэках. Старшы бухгалтар зробіць абаротны, пасля сальдавы баланс, прыложыць да яго калькуляцыі і формы, патрэбныя па наменклатуры, — і справаздача гатова. Галоўбух Варанецкі падпіша ўсё гэта, занясе на подпіс дырэктару; баланс адправяць у дзяржбанк, адашлюць у главк, і — зноў, бухгалтэрыя, паціхеньку варушыся, абы дзень прайшоў, да наступнай справаздачы. Прыблізна вось так роўна і гладзенька круцілася наша службовая машына. Варанецкі надта ў нашы справы не ўмешваўся, паверыўшыся цалкам на старшага бухгалтара, а таму, старэнькаму, — абы спакой ды цішыня.



Як толькі за старшага стаў Собіч, мы адразу адчулі, што ўсё гэта скончылася. Пачалося з таго, што ён вярнуў праводку Валі Арэшцы.

— Валянціна Андрэеўна, — пазваў ён яе да сябе. — Вы спісваеце фільтравое палатно з дапаможных матэрыялаў. Гэтага не можа быць. Гэта ж — асноўныя матэрыялы.

— Ой, няўжо ж я памылілася? — усклікнула Валя, уся загарэўшыся чырванню, як гэта заўсёды было з ёю, калі нечакана хто рабіў ёй заўвагу. — Ну, нічога, я дам сторна.

Такі тэрмін у нас азначае, калі няправільны запіс трэба скасаваць. Гэта запісваецца чырвоным чарнілам і ў падлічванні мінусуецца.

— Не, сторна тут не трэба. Трэба проста даць правільную праводку. Каб не прывыкаць да неахайнасці, — спакойна, ні то раячы, ні то загадваючы, сказаў Собіч.

— Добра, Усевалад Кірылавіч, зараз перараблю.

Яшчэ большы канфуз выйшаў, калі новую праводку Собіч зноў вярнуў назад.

— Вы, мабыць, паспяшаліся, Валянціна Андрэеўна. Цяпер вы спісваеце добра, але на вытворчасць адносіце няправільна. Вы адносіце на цэхавыя расходы, а гэта ж — асноўныя затраты.

Валя зноў загарэлася чырванню. Ведаючы, што да іх гаворкі прыслухоўваюцца, Собіч пачаў ціха пасняць Валі, чаму ў яе так здарылася. Нельга апрацоўваць дакументаў спехам, выбіраючы на выпадковых кавалках паперы лічбы. Трэба дакументы сістэматызаваць, парабіць ім рэестры, каб было добра відаць, што, адкуль і куды ідзе. Каб гэта было гаспадарліва і культурна.

— Гэта не толькі вам патрэбна, Валянціна Андрэеўна, і не толькі сёння, — тлумачыў Собіч. — Трэба, каб ваш дакумент чытаўся адразу ясна і мною, і другімі, і праз любы час. А найбольш гэта трэба, каб вы самі ўяўлялі сэнс свае работы: кожны ваш запіс абавязкова адгукнецца на вытворчасці. Пад канец месяца ён пакажа, як мы працавалі: добра ці дрэнна, дорага ў нас выйшла наша прадукцыя ці танна. Калі добра — мы будзем рады. Калі дрэнна — павінны падымаць трывогу, шукаць прычын. Вось таму вы павінны быць упэўнены ў сваёй рабоце... Давайце на першы раз мы разам з вамі апрацуем вашы дакументы. Я пакажу вам, як гэта ўсё можна зрабіць. А тады вы будзеце так ужо і пільнавацца. Добра?

— Канешне, Усевалад Кірылавіч! Я буду дзякаваць вам...

Валя Арэшка была чалавек пакладзісты, ахвочы. Лёгка прыняў парады і Бабырка. Вусаты, акулярысты, вельмі дабрадушны, ён паглядзеў на Собіча ўзбоч акуляраў, сказаўшы толькі:

— Вы забываецеся, Усевалад Кірылавіч, на адну ісціну: колькі дурня ні вучы, усёроўна ён зробіць разумна — пампрэ.

Найбольш трывожна аднесліся да гэтага мы — рахункаводы ды картатэчнікі. Мы баяліся аднаго — хаця б уся гэтая пературбацыя не дала нам больш работы. А пературбацыя ішла ўсё да́лей і да́лей. Собіч заявіў, што няправільна ў нас вядзецца каса — калі там быць з галавою, то можна добра грэць рукі, гэта значыць, шальмоўстваваць. Што па-панібрацку ўлічваем аўтатранспарт, даючы шафёрам магчымасць не толькі рабіць левака, а ўсе гэтыя штукарствы спісваць на дзяржаву. Што ў рабочых нарадах ёсць пабочныя работы, не аднесе-

ныя на заказчыка. Што прадукцыя на старану адпускаецца без праверкі запазычанасці, і такім чынам без патрэбы растуць дэбіторы. Словам, я пачаў расказваць можа вельмі нудныя рэчы, але ж без гэтага нельга абысціся, каб можна было зразумець хоць трошкі характар нашых перамен. Кожны пачаў адчуваць, што ён не толькі павінен адбываць работу, а нешта рабіць, у нечым даваць сябе знаць.

Міхаль Ермаліцкі адразу неўзлюбіў Собіча. Ён быў наогул не вельмі прыязны да людзей і крыху закаханы ў сябе. Ва ўсякіх размовах ці спрэчках ён перш доўга маўчаў, выслухоўваючы другіх, а тады ўжо любіў сказаць, каб яго слова было апошняе і, канешне, аўтарытэтнае. Свой аддзел ён лічыў самым важным і цяжкім, і, само сабою зразумела, што пасля Наўроцкага лічыў і сябе як самага моцнага бухгалтара. Усведамляючы гэта, ён і трымаў сябе наводдаль ад другіх і трохі фанабэрыста. Калі ж сказаць праўду, то ён ведаў работу толькі свайго аддзела і быў чалавек вузкі. Аднак жа яго вельмі пакрыўдзіла, што Варанецкі пасля Наўроцкага назначыў на пасаду старшага бухгалтара не яго, старога кадравага работніка, а нейкага прайдзісвета Собіча. Кожнае Собічава слова ці заўвага да каго-небудзь, ці нават простая гаворка з кім выклікала ў ім злосць. Не маючы сілы стрымаць сябе, ён падыходзіў да Бабыркі, да Клакоцкага ці яшчэ да каго, прасіў прыкурыць і, нагінаючыся, стараўся шапнуць:

— От бог начальніка нам даў! Штучка...

Ведаючы слабасць Валі Арэшкі пагаварыць з Ленай Сініцкай пра жаніхоў, якіх да гэтага часу бог не сырычыў ёй, і тое, што яна ахвоча ўспрыймала ўсе Собічавы заўвагі, ён нагінаўся і да яе вуха:

— Ну, Валя, нарэшце і табе жаніх знайшоўся. Больш, больш завіхайся каля яго, а то прамаргаеш...

— Дурань! — адказвала Арэшка, заліваючыся сваёй чырванню і чуючы, як тохкае яе сэрца і папраўдзе злоўленае на гэтым слабенькім спадзяванні.

Ермаліцкі шукаў выпадку, каб надзярзіць і самому Собічу. Аднойчы, як звычайна, Собіч сядзеў за сваім сталом, разносячы праводкі па журнале. Але ён разносіў не так, як мы прывыклі бачыць: ён перш праглядаў канціроўку — гэта так завецца ў нас зашыфраваны запіс на праводцы, — перагортваў дакументы, зноў варочаўся і чытаў канціроўку, даставаў прамфінплан, нешта правяраў, над нечым падоўгу думаў. Ермаліцкі разы два з папяросаю ў зубах прайшоўся па канторы, а тады суняўся каля яго стала і гучна, каб усе чулі, і, відаць, падтрымалі яго, запытаўся:



— Мабыць, таварыш старшы бухгалтар, усё думаеце, якую б нам яшчэ работу прыдумаць? Дарэмна гэта, мы і так загружаны.

Ермаліцкі зірнуў на сталы. Праўда, усе перасталі працаваць, яўна зацікаўленыя такой размовай.





У гэты час зайшла Марына. Яна, мабыць, зайшла, як гэта рабіла часта, да Ермаліцкага, каб можа чаго і папытацца ці проста пабыць каля яго. Думаючы, што ён заняты па справе, яна прайшла і села за яго стол, пачакаць.

— Хочаце, каб мы круціліся, як машыны! — больш настойліва, відаць, каб Марына звярнула ўвагу, запытаўся Ермаліцкі.

— Навошта ж мне гэта рабіць, Міхаль Пятровіч? — здзівіўся Собіч.

— От і я так думаю. Працавалі мы дагэтуль не дрэнна, усё ў нас ішло добра, а вы ўсё хочаце перакруціць. Толькі горш гэтым робіце!

— Не, не, Міхаль Пятровіч. Усё якраз будзе вельмі добра, самі пабачыце. Я хачу, каб ніхто не гаварыў пра бухгалтэрыю, як гэта гавораць цяпер, што мы толькі блытанікі, канторскія пацукі ці чарнільныя душы. Нас з вамі павінны паважаць, Міхаль Пятровіч, як гэта і належыць па нашым абавязку дзяржаўнага кантролю.

— От цяпер ясна, таварыш Собіч, — яшчэ больш упэўнена і рэзка сказаў Ермаліцкі. — Вы хочаце выслужыцца на нашым гарбе. Ордэн зарабіць. Але нешта не чуваць, каб бухгалтараў дзе ўзнагароджвалі. Дарэмна будзеце напінацца. Для ордэнаў хапае рабочых ды інжынераў, хто ўсё-такі нешта робіць. А мы з вамі толькі люстэрачнікі, разумееце?

— Як гэта, люстэрачнікі?

— А так, як напісана ва ўсіх падручніках. Нават падручнікі не даюць вам права на ордэн, бо там сказана ясна: улік з'яўляецца адлюстраваннем гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства. Вы можаце толькі адлюстроўваць чужое, а не лезці ў стваральнікі, таварыш старшы! І не выдумляйце нам усякай непатрэбшчыны!..

Собіч таксама дастаў папяросу, але не закурыў яе, пакруціў у пальцах і паклаў ля чарнільнага прыладку. Ён не разумеў, ад каго гаворыць Ермаліцкі — ад сябе, ці за ўсіх? Зірнуў на сталы: і Бабырка, і Клакоцкі, і Сініцкая, і Марына — усе восем чалавек... не, спагады Ермаліцкаму ў іх вачах не знайшоў. Хутчэй за ўсё на тварах у іх можна было прачытаць збянтэжанасць, здзіўленасць, нават горыч. Марына глядзела ў стол, нешта корпаючы на ім. Стары Бабырка, абапёршы галаву на руку з забытым між пальцамі алоўкам і выставіўшы ніжнюю губу, як бы гаварыў: «Скажы ты, да чаго дакаціўся чалавек». Валя Арэшка глядзела ў акно, і неўзвычай твар яе быў не чырвоны, а нават белы; яна прыкусвала губу, мабыць, стараючыся не заплакаць. Клакоцкі высока падняў галаву, глядзеў у столь, відаць намагаючыся разабрацца

ў тым, што чуе. Твараў дзяўчатак-рахункаводаў Собіч не мог разабраць — на ўсіх іх ляжаў нейкі агульны цень перапалоху.

— Ясна, — сказаў, падумаўшы, Собіч і пераклаў папяросу з месца на месца. — Не ведаю, Міхаль Пятровіч, ці трэба мне спрачацца з вамі. Вы нават падручнік узялі сабе ў падмогу — як тэарэтычнае абгрунтаванне. То можа нам варта прачытаць падручнік і трошкі далей. Там жа, проста ў тым самым месцы, сказана і другое, Міхаль Пятровіч, можа вы не ўспелі дачытаць. Што ўлік з'яўляецца сродкам кантролю і кіравання вытворчымі і гаспадарчымі з'явамі. Што на аснове ўліковых паказчыкаў складаюцца планы і правяраецца іх выкананне. Што ўлік аберагае сацыялістычную маёмасць, умацоўвае працоўную дысцыпліну. Што правільны ўлік дае магчымасць зніжаць сабекошт прадукцыі, а значыць, даваць прыбыткі прадпрыемству. От, бачыце, як многа залежыць ад бухгалтэрыі. Дык трэба ж усяго гэтага дамагчыся, каб не быць толькі люстэрачнікамі, як вы гаворыце. Я не паверу, калі вы скажаце, што адмаўляецеся ад ордэна, а заслужыць яго ўсюды можна, таварыш Ермаліцкі. Але калі не заслужыць яго завод, то не заслужыце і вы... Вы шкадуеце, што кончыцца ваша прывычка спакойна сядзець за сталом, больш нічога... Не будзем лепш гаварыць пра гэта, я думаю, што ваша сённяшняя злаславасць — проста памылка.

Нарэшце, Собіч узяў і прыкурыў папяросу. Яшчэ было вельмі ціха, і хоць не моцна, але ўсе пачулі, як Бабырка сказаў:

— От смаркач які знайшоўся. Зазнайка!

— А вас ніхто не просіць лезці ў чужыя дзіркі! — агрызнуўся Ермаліцкі.

З усведамленнем таго, што апошняе слова сказана ім, Ермаліцкі пайшоў за свой стол. Марына ўстала, даючы яму месца, і прайшла міма.

— Ты чаго хацела, Марына? — наўздагон запытаўся Ермаліцкі.

Нічога не адказаўшы, Марына выйшла з канторы.

## IV

Закаханыя людзі бываюць крыху сляпыя. Яны бачаць у другім толькі тое, што ўбачылі ўпершыню і за што пакахалі. Створаны ўяўленнем вобраз, тым больш любага чалавека, не так лёгка разбурыць. Усё ў ім толькі самае лепшае, толькі тваё. І няйначай, як стаўшы збоку, зірнуўшы другімі, чужымі вачыма, можна заўважыць і тое, што здалося не сваім, непатрэбным.

Марыне было горка раптам не пазнаць Міхаля, даведацца, што ён трошкі не той, якога яна пакахала. І гэта была першая крыўда ў яе ад Міхаля і першая сварка з ім. Яна цягнулася доўга, можа тыдняў са два. Было відаць, што яна пазбягала яго.

Часамі здаралася, што ў касе аперацый было мала, рабіць не было чаго, а аставацца там ёй адной было цяжка. Яна прыходзіла да нас у кантору і падоўгу сядзела каля стала то ў аднаго, то ў другога, просячы даць ёй чым заняцца. Найбольш яна сядзела ля Валі, памагаючы рабіць ёй то рэестры, то што-небудзь падлічваючы.

— Я зайздрошчу табе, Валя, — гаварыла яна. — У цябе так многа клопату, і ты бачыш, што папраўдзе нешта робіш.

— Не кажы, Марынка. Я і сама не ведала, што ў мяне можа быць



так многа гэтага клопату. Ты разумееш, у мяне цяпер нават прамфінплан ляжыць вунь у той шуфлядзе, і ліміты ляжаць. Я цяпер як той прафесар — сама да ўсяго дападаю, і скажу табе — што так, а што не гэтак.

— А цікавей за ўсё, мабыць, на вытворчым аддзеле. Там усё бачыш папраўдзе, як у люстэрку.

— Ага... Не, яно ўсюды, Марынка, відно.

Трэба сказаць, што сапраўды ў нас стала ўсё цікавей, бо мы адчулі, што кожны з нас абавязкова звязаны нечым з другім. Цяпер не рэдка было, калі не толькі бухгалтары, а нават мы, рахункаводы, пачыналі спрачацца адзін з адным, што на нас няправільна, альбо не тое, што трэба, запісана.

І от недзе ў гэты час здарылася такая падзея. Цяпер у нас увайшло ў абавязак кожны раз пасля справаздачы правяраць усё зробленае. На гэты раз Собіч выклікаў начальніка кацельнай Касцюкевіча.

— Я слухаю вас, — сказаў той, увайшоўшы. Гэта быў мужчына вельмі мажны, высокі, з вялікімі рукамі, з буйнымі рысамі твару, непаваротлівы і нават, здавалася, нясмелы, як гэта звычайна бывае ў людзей такой пароды. Гаварыў ён таксама не спяшаючыся, паважна. — Я вам патрэбен быў, таварыш бухгалтар? — запытаўся ён, павольна выгаворваючы словы.

— Але, вельмі добра. Мне хацелася высвеціць з кацельнай, — сказаў Собіч. — Сядайце... У нас з вамі вельмі дорага выходзіць пара. Вельмі дорага — аж на чатыры рублі даражэй на кожнай мегакалорыі супраць плана. А значыць, дорага пайшла і ўся прадукцыя.

— Не ведаю, як у вас, а ў мяне нармальна, — паволі сказаў Касцюкевіч, апускаючыся ў крэсла, якое аж застагнала пад ім.

— Як гэта?

— А так. Я сябе скрозь сам правяраю — у мяне ўсё запісана. Гэта, мабыць, як звычайна, вы ў сябе тут, у бухгалтэрыі, наблыталі.

Касцюкевіч дастаў з іспадняе кішэні спяцоўкі блакнот, і разам з Собічам яны пачалі правяраць усе выдаткі. У Касцюкевіча было запісана на дзіва ўсё дакладна: колькі ён страціў вугалю, колькі ўзяў вады — і прэснай, і хімічна ачышчанай, колькі спатрэбіў на бягучыя рамонты, звыдаткаваў масла, нават пакулля. Усё гэта з бухгалтарскімі запісамі сышлося, не сыходзілася толькі заработная плата і паслугі дапаможных прадпрыемстваў.

— Добра, дзякую, — сказаў Собіч. — Мы тут праверым, пашукаем, што за разрывы.

— Калі ласка, — пагадзіўся Касцюкевіч і падняўся. — А вы што, — запытаўся ён здзіўлена, — выпадкова гэта праверылі, ці што падазравалі можа?

— Не, мы будзем так правяраць не толькі вас, а ўсіх кожны месяц. Трэба ж нам аналізаваць сваю работу.

— От гэта правільна. Гэта, я вам скажу, проста надзвычай важна. От слухайце...

Касцюкевіч зноў сеў, зноў прымусіўшы жаласліва застагнаць крэсла, і пачаў расказваць, чаму іменна важна, каб штомесячна цэхі маглі правяраць сябе.

Касцюкевіч пайшоў, а Собіч пачаў корпацца то ў праводках, то ў запісах. Разрывы ў зарплаце знайшліся вельмі лёгка: аказалася, што на кацельную выпадкова быў запісаны цэхавы персанал хімвадаачысткі.

А от з паслугамі дапаможных прадпрыемстваў разабрацца было цяжэй: трэба было правяраць нарады. Работа гэта была Ермаліцкага. Але Ермаліцкі правяраць адмовіўся.

— У вас памылкі пазнаходзіліся, вы і займайцеся імі, — сказаў ён.

Але тут яшчэ пра сёе-тое трэба расказаць.

## V

Вынікі нашага лёгкага жыцця то там, то сям цяпер давалі сябе знаць. За гэты час здарылася гісторыя з фальшывым касавым ордэрам, пра што як-небудзь я раскажу асобна. Сам галоўбух ледзьве выблытаўся з гэтай гісторыі і пасля яе адразу даў дазвол завесці ў касе новы парадак афармлення дакументацыі. Балазе яшчэ ён успомніў, што пячаткаю часта забаўляўся механік кіслароднага цэха. Не будучы ні ў чым вінаватай, Марына плакала і яшчэ больш неўзлюбіла сваю работу. Ермаліцкі стараўся ўпэўніць яе, што ў непрыемнасці гэтай вінаваты толькі Собіч.

— Я ж казаў, што яму трэба выслужыцца. А ты яшчэ хацела, каб я перапрошваў яго. От цяпер сама бачыш, што гэта за чалавек.

— Адчапіся ты, — гаварыла Марына. — Лезеш сляпіцаю толькі са сваім. Ты нічога не хочаш бачыць... апроч сябе.

— Не, мабыць, трохі пачынаю бачыць, — спрабаваў рабіць намёкі Ермаліцкі, добра памятаючы, што іменна праз Собіча да гэтага часу яшчэ не прытухла як след іх сварка.

Марына казала, што кіне работу, Ермаліцкі ўпрошваў яе не рабіць гэтага.

— А што ж ты параіш? — пыталася Марына. — Ну, скажы, Міхалька, што?

— Пачакаць, — адказваў Ермаліцкі. — Я думаю, што гэты злыдзень доўга не будзе. Накаламуціць тут у нас, паперавярочвае ўсё дый дасць лататы яшчэ куды. Або дачакаецца, што высвецяць.

Але Марына на параду пайшла да Собіча. І нечакана лёгка ўсё ўладзілася, як лепш не трэба. Лена Сініцкая даўно прагла самастойнасці, яна згадзілася пайсці на касу, а замест яе да Валі Арэшкі пайшла Марына. Яна была рада, павесялела, ажыла, зноў засвяціліся яе на ўвесь свет адкрытыя вочы.

У гэты вось час і здарылася, што Ермаліцкі адмовіўся правяраць нарады. Ён сам ведаў, што робіць гэта нядобра, у душы даўно раскайваўся і разумеў, што натварыў глупства, і нават хацеў бы, каб настала якое прымірэнне. Але прымірэнне павінна было пайсці так, каб Собіч у нечым прызнаў сябе вінаватым. Ці хоць бы зрабіў такі выгляд. Каб, скажам, правяраць нарады загадаў не Собіч, а галоўбух. Ермаліцкі так і чакаў, што Собіч пойдзе са скаргаю да Варанецкага, і калі той скажа, то ён пачне правяраць. Але гэтым самым будзе падкрэслена тое, што ў Собіча аўтарытэту няма. Тады можна будзе нават пацілху і прымірыцца.

Собіч жа за праверку нарадаў узяўся сам. Каб рабіць гэта спакойна, не адрываючыся, ён заняўся гэтым увечары, пасля работы. Перш-наперш ён уважліва прагледзеў усе нарады і размеціў па шыфрах. Тут таксама трэба паясніць, што гэта такое. Звычайна ў нарадах пішацца рабочае заданне, а зверху ставіцца шыфр аддзела, цэха ці аб'екта, куды будзе аднесена гэта работа. Па гэтых шыфрах і размяркоўваюцца затраты. Ужо з самага пачатку знайшліся недакладнасці. Шыфр наверсе стаяў адзін, а работа была розная — для розных цэхаў і гаспадарак. Выдзяляючы дакладна сумы, Собіч сваім тоўстым сінім алоўкам пачаў стаўляць новыя шыфры, не зважаючы на старыя.

На другі вечар, калі Собіч у нязвычна ціхім, пустым і ад гэтага вельмі прасторным пакоі адзін сядзеў за сваім сталом, перачытваючы аднастайнае апісанне работ, у кантору нячутна ўвайшла Марына. Яна пастаяла ля дзвярэй, не асмельваючыся парушыць гэтай адзінокай цішыні, аж пакуль Собіч не заўважыў яе.

— От не чакаў. Як жа гэта вы тут? А чаму адны? — запытаўся ён, разумеючы пад некім другім Ермаліцкага.

— Я прыйшла памагчы вам, Усевалад Кірылавіч. Чаму гэта вам трэба больш за другіх рабіць?

Собіч рассмяяўся. Ён зразумеў гэта як жарт.

— А не шкодзіла б, каб у мяне было больш такіх памочнікаў. Ну, пасядзіце трошкі ды раскажыце што. А я буду — і рабіць, і слухаць... Куды вы ідзяце?

— Да вас, я сур'ёзна сказала, Усевалад Кірылавіч.

Собіч нахмурыўся. Ён як бы толькі цяпер заўважыў, што апроч Марыны-работніка ёсць яшчэ Марына-чалавек, жанчына, і цяпер дзівіўся, гледзячы на яе. Іменна толькі цяпер ён заўважыў і дзівіўся, што ў яе, як і ў другіх, туга напялася прыцямнелая падпахаю карычневая шарсцяная сукенка, калі яна, падняўшы рукі, вешала пыльнік на ўбіты ў шафу цвік; што гэтак жа, як у другіх, у яе хораша выгінаецца лінія пляча; што ў сукенку, аж выхільваючыся краямі, уядаецца чорны паясок; што ў яе светлыя валасы і, мабыць, з такім жа, як у другіх, п'янючым пахам. Невядома па якой сувязі і чаму іменна цяпер Собіч асабліва востра адчуў, што ён адзін, і ўсё тое, што цяпер кранулася яго, баліць яму. Нешта вельмі знаёмае, патрэбнае і дарагое было ў гэтых пачуццях.

— Вас Ермаліцкі паслаў? — запытаўся ён.

— Не, я сама. Папраўдзе, дайце я памагу вам. І мне ж лепш будзе, калі я навучуся чаго ад вас.

— Вам небяспечна брацца за гэта. Тут будзе многа нядобрага, і ён падумае бог ведае што. Можа разладзіцца ваша дружба.

— Значыць, будзе ясна: патрэбна такая дружба ці не.

— Добра, — згадзіўся Собіч. — Магу загадзя падзякаваць. Тады зробім так: я буду далей праглядаць нарады, шыфраваць іх, а вы будзеце па гэтых шыфрах набіраць у ведамасці. Толькі... як жа гэта, мне проста нязручна — вы столькі змарнуеце часу.

— Усевалад Кірылавіч, я ж вам кажу — гэта мне нават вельмі хочацца.

Марына працавала не адрываючыся, каб не перашкаджаць ні сабе, ні Собічу. Сям-там хіба папытаецца чаго і — зноў над сталом нагінаецца яе бялявая галава...

Прыйшла яна і назаўтра. Гэтыя доўгія вечары, аж да летняга змяркання, праходзілі вельмі скора. Не разумеў Собіч — чаму ж усё-такі яму хораша, што яна сядзіць каля яго? Ведаў жа ён добра, што толькі збоку можна глядзець на яе...

## VI

Назаўтра ўвечары зайшоў і Ермаліцкі. На дзіва ён мякка сказаў «Добры вечар», хоць удзень усе яны бачыліся, і відно было, што гэтая мяккасць адрасована Собічу. Нават па твары было відаць, што ён хвалюецца. Каб не паказаць, аднак, што яго цікавяць вынікі перагляду, ён адразу звярнуўся да Марыны:

— А я думаў, што вы ўжо кончылі, ды зайшоў па цябе. Можа пойдзем?

— Не, Міхаль, яшчэ не ўсё. Тут работы яшчэ многа, — адказала Марына.

— Ну і як? — не ўтрываў-такі Ермаліцкі. — Многа блох налавілі?

— Тут, Міхаль Пятровіч, будуць не толькі блохі, а нават сланы, — сказаў Собіч, адчуваючы, што Міхалёва пытанне было накіравана не да Марыны, а да яго. — І вельмі шкада, што вы самі не захацелі паглядзець на ўсё гэта. Больш як каму гэта патрэбна было б вам.

— Яно так, канешне, — нават нечакана для сябе пагадзіўся Ермаліцкі. — Ну, але... заўсяголаў, — махнуў ён рукою.

Яны з Марынаю адышліся ўбок, аб нечым пашапталіся. Пасля Марына сказала — «ідзі» і правяла яго на вуліцу. Вельмі хацелася Собічу падняцца і падысці да акна, каб паглядзець на іх, але ён стрымаў сябе.

У гэты вечар яны скончылі ўсю работу. Падбілі калонкі, праверылі напярэкрыж — зарплата сышлася адразу як мае быць. Гэта была проста ўдача. Собіч нават здзівіўся.

— Гэта ж рэдка бывае, Марына Барысаўна. Вы проста малайчына — так акуратна разнесці.

— А што цяпер рабіць?

— Зараз зробім новыя падрахункі, паглядзімо, што ў нас палучылася.

Марына цяпер сядзела збоку; усё, усё, што рабіў Собіч, было цікава для яе. Ён перш напісаў новую праводку — усю чырвоным чарнілам, старніровачную, як у нас кажуць, — каб зняць тую, што даваў Ермаліцкі. Пасля напісаў другую — чорным чарнілам — па выніках праверкі. Собічаў твар быў светлы. Марына не бачыла ў яго такога твару і не думала, што можа быць вось такі — не начальніцкі, не дзелавы, а самы звычайны, нейкі хатні, просты.

— Здорава! Ой, здорава, Марына Барысаўна! Вы бачыце, што ў нас выходзіць цяпер? — падняўшы высока бровы, гаварыў Собіч ні то з сабою, ні то сапраўды з Марынаю. Ён браў то адны карткі, то другія, запісваў на аркушах паперы лічбы, паціскаў плячыма, дзівіўся, хмурыў бровы, усміхаўся.

— То што ж вы там бачыце, Усевалад Кірылавіч, хоць раскажыце.

— Любата! Проста любата, Марына Барысаўна! Цяпер у нас зусім другая карціна. Бачыце, па́ра ўжо не даражэй, як па плану, а нават дзешавей. Ай, які маладзец гэты начальнік кацельнай Касцюкевіч, які гаспадар! Нездарма ён сваім блакноцікам выхваляўся.

— А што ж здарылася, чаму вы не скажаце? — Марына не ведала, адкуль бачыць усё гэта Собіч.



— Здарылася вельмі важнае. Тое самае люстэрка, пра якое гаварыў Міхаль Пятровіч, стала не крывое, а сапраўднае. Бачыце, чаму абзываў нас блытанікамі Касцюкевіч? Усю разгрузку вугалю Ермаліцкі аднёс не на вугаль, як гэта трэба было б, а на кацельную. Кацельная ў механічным цэху заказвала сабе металічныя скрыні, бачкі пад ваду, усялякі другі інвентар, і ўсё гэта не апрыходавана, а запісана, як рамонт. Ды гэта ўжо драбяза, Марына Барысаўна, адначасна мы з вамі зрабілі так многа другіх, нават больш важных паправак, што цяпер мяняюцца ўсе калькуляцыі, уся прадукцыя мае зусім другі выгляд.

Здаецца, усё ўжо было гатова, можна было, лёгка ўздыхнуўшы, цяпер падацца дахаты ці пайсці адпачыць, разгуляцца, але Собіч не мог адарвацца ад сваіх паперак, бясконцых лічбаў. Гледзячы на іх, ён забываўся, відаць было, што ў галаве ў яго ішла нейкая работа, што за лічбамі і паперкамі ён бачыў нешта трапяткое, жывое, што магло яго або радаваць, або засмучаць.

— Ясна, — гаварыў ён сам сабе і браў у рукі то баланс, то журнал, усыпаны аднымі лічбамі, нанізанымі ў радкі, як у нейкім стройным парадзе. Там не было ні адной літары, ні аднаго слова, для Марыны яны былі, як кажуць, цёмным лесам, а Собіч нібы гаварыў з імі.

— Трэба будзе паправіць... Трэба будзе мець на ўвазе і гэта, — мармытаў ён сабе.

— Ніколі не думала, — сказала Марына, што вы такі рамантык. Што вы там бачыце? Што шэпчаце?

— Марына Барысаўна! — сказаў Собіч, згарнуўшы нарэшце паперы і беручы даўно паложаную каля чарнільнага прыладку папяросу. — Можа і для вас калі-небудзь адкрыецца гэтая паэзія. Мудрая, добрая паэзія чалавечае дзейнасці. Далёкія ад нашай прафесіі людзі лічаць яе сухой, не цікавай. Гэта няпраўда. Усё, што ты робіш з любоўю, будзе цікава, ва ўсім убачыш карысць. Вы кажаце — рамантык. Хіба ж не паэзія ў тым, што, беручы вось гэтыя сухія, бяскроўныя лічбы, дзе няма ні аднаго слова, я чытаю цэлую найцікавейшую кнігу? Кожная з гэтых лічбаў гаворыць мне сваёю моваю, кожная або хвалюе, або радуе мяне, бо яны мяне выводзяць за межы вось гэтае канторы, раскрываючы перада мною такія прасторы чалавечае дзейнасці, што кружыцца галава. Праз іх я бачу ўвесь наш завод, праз іх я магу кіраваць ім, камандаваць, прымушаць усю дзівосную тэхніку, якая размешчана на многіх кіламетрах тэрыторыі нашага завода, рабіць тое, што трэба мне, чалавеку. Ні з кім не гаворачы, нікога не пытаючыся, па гэтых лічбах я магу сказаць, што ў нас сёння вельмі трывожна ў галоўным корпусе, што механічны цэх не ўкладваецца ў накладныя выдаткі, што мы працуем з прыбыткамі або з датацыяй, што рабочыя зарабляюць у нас многа або мала. Бачыце, колькі творчасці можа быць у нашай сухой, як многія кажуць, прафесіі. Хіба не паэзія лічбаў, не іх найдзівоснейшая музыка адкрыла і разгадвае тайну атама, хіба не яна нарадзіла і закінула ў космас наш савецкі штучны спадарожнік Зямлі? Ва ўсім, што любіш, Марына Барысаўна, будзе і рамантыка, і паэзія. Нават у нашых лічбах.

Марына нават збянтэжылася ад такой неспадзеўнасці. Зноў Собіч здаўся не такі, як толькі што яна яго бачыла: яна думала, што ён хатні і просты, што з ім можна сядзець поруч, як з роўным, а ён, аказваецца, вунь як далёка ад яе.

— Божа мой, — са шчырай непасрэднасцю сказала Марына, — як

добра, што вы так многа ведаеце і так разумееце ўсё. Я, мабыць, ніколі такая не буду.

— Будзеце, Марына Барысаўна. Ермаліцкі не будзе, а вы будзеце, гэта я вам прарочу. У вас душа такая... харошая, чалавечая. Вы не можаце крывіць або любіць што напалавіну... Ну, усё, Марына Барысаўна, усё. Цяпер можам пайсці. Ах, як добра сёння мы з вамі папрацавалі. Якія мы з вамі малайцы! Мне б нават хацелася за гэта...

Ён не дагаварыў. Як бы апамятаўшыся, ён пачаў прыбіраць са стала. Марына надзела пыльнік, адышлася да акна. Заходзіла сонца, на макаўках заводскіх дымароў слізгалі апошнія яго промні, а ўнізе, у прысадах, што цягнуліся ад заводакіраўніцтва да вуліцы, клаліся першыя вечаровыя змрокі. З заводскага двара выязджала нечая запозненая машына, вахцёр, са стрэльбаю на плячы, правяраў у шафёра пропуск. Праверыўшы, ён стаў на падножку, зазірнуў у кузаў, а злезшы, махнуў рукою: праязджай!

Собіч даўно прыбраў стол, але чакаў, глянуўшы на Марыну: яна стаяла каля акна, задумаўшыся. Собічу не хацелася чапаць яе. Пра што яна думала? Чым хвалявалася яе душа? Чаму такія неспакойныя цені ляглі на твар? Собіч ціха падышоў, ледзьве крануўшы за локаць. Марына ўздрыгнула.

— Усевалад Кірылавіч, — горача загаварыла яна. — Вы такі разумны, добры, харошы — памажыце мне. Скажыце, чаму я не люблю Міхаля?

— Як? — перапытаў Собіч.

— Вы разумееце, тут нейкі фальш. Мне здавалася, што я ўжо самая шчаслівая, што мне добра, хораша з ім, але нешта скрозь насцярожвала мяне. Той, каго ты кахаеш, павінен быць даражэй за самога сябе, у ім нечага сумнявацца, нельга дрэнна думаць пра яго, а я часта ў сябе пытаюся — ці той Міхаль, каго я шукаю? Нешта ў ім ёсць такое, чаго я не магу прызнаць.

Яна памаўчала, правяла пальцамі па ілбе, як бы супакойваючы самую сябе. Але тут жа загаварыла зноў:

— Мне цяжка пра гэта гаварыць, Усевалад Кірылавіч, але я чую, што мне трэба ў нечым разабрацца, што я як бы трошкі заблыталася. І мне ні кропелькі не брыдка прызнацца, што ў гэтым вінаваты вы, Усевалад Кірылавіч... Заўсёды шукаеш нечага харошага, такога... вельмі табе патрэбнага і — я думала, што знайшла. Але ж я пачынаю параўноўваць вось... вас і Міхаля. А якое ж гэта каханне, калі пачынаеш параўноўваць? Гэта ўжо — нешта вельмі грэшнае.

— Вы раней кахалі каго? — запытаўся Собіч.

— Не.

— То мабыць Міхаль такі не суджаны вам, і гэта не першае каханне. Першае каханне яшчэ будзе ў вас, Марына Барысаўна. І яно будзе вось такое, як вы хочаце, вы адразу адчуеце яго. Толькі трэба да яго як след прыгледзецца, не надта бегчы яму насустрач... Прыгледзецца да яго не пасля, а спачатку... Я вельмі баюся, каб вы, барані божа, не падумалі, што я хачу вас адпудзіць ад Міхаля. Ён не дрэнны хлопец са сваімі маленькімі слабасцямі, як і ўсе мы, грэшныя. Але ж сям'я — гэта на ўсё жыццё, і памагчы вам у гэтым...

Гледзячы на тое, як Марына хвалюецца, папраўляючы то пасамку валасоў над ілбом, то мнучы манжэту рукава, Собіч зразумеў, што ён не мае права жартаваць тут нічым. Трэба, каб Марына пачула нейкую яснасць для сябе, дзеля якой яму трэба нават пакрывіць душою, схлусіць, бо ён не можа, не мае права жартаваць яе лёсам. Яна маладая, яна павінна быць шчаслівая па-сапраўднаму. Розніцы ж у іх больш за пятнаццаць год...

— Я б хацеў, каб у вас была хоць такая сям'я, як у мяне, — сказаў ён.

— А вы жанаты? — палахліва павярнуўшыся, запыталася Марына.

— Жанаты.

— А дзе ж ваша жонка?

— У экспедыцыі. І сын з ёю. Дванаццаты год яму. Мабыць, таксама геолагам будзе. От чакаю ўвосень іх. Жду. І больш нікуды не адпушчу ад сябе... І такая от, як вы, жонка ў мяне. Можа таму мне таксама было на нейкую хвіліну вельмі добра з вамі...

Марына глыбока, але лёгка ўздыхнула. На двары ляжалі ўжо густыя змрокі, у заводскіх прысадах, прасвечваючы лістоту маладых яшчэ ліп, гарэлі ліхтары. У іх няпэўным, цьмяным святле здалося Собічу, што ён убачыў, як бліснула і скацілася па шчацэ ў Марыны сляза.

— Я рада гэтаму, — праз хвіліну сказала Марына. — Я так рада, што мы сёння пагаварылі і... рада за вас... Вучыце мяне, Усевалад Кірылавіч, каб я была такая, як вы. Каб магла так думаць, як вы, працаваць так, як вы, усё ведаць, разумець ясна і чыста. Каб была такая харошая, як вы. Каб і я, гэтак, як вы, ва ўсім бачыла паэзію, пра якую вы так добра гаварылі сёння. Я буду вас слухацца ва ўсім. Добра?

— Мне самому хочацца ва ўсіх вучыцца, Марына Барысаўна. Нават у вас... У вас тым больш...

На паваротцы з прысадаў на вуліцу іх чакаў Ермаліцкі. Гэта было неспадзявана і для Собіча, і для Марыны.

— А я думаў, цябе трэба правесці, — сказаў ён канфузліва.

— Давай, Міхаль, мы разам правядзем Усевалада Кірылавіча. Усевалад Кірылавіч, як вы — згодны? — запыталася Марына, вачыма просячы, каб ён згадзіўся.

Недзе глыбока ў душы Собічу стала шкада Ермаліцкага. Ён добра бачыў, што дружбы тут ужо не будзе. І можа ад гэтай шкадобы сказаў:

— Не, дзякую. Я трошкі прайдуся адзін, падумаю...

Марына з Ермаліцкім пайшлі паперадзе, але здавалася, што Марына марудзіла, што ёй не хацелася пакідаць Собіча аднаго.

«Вось так будзе і добра, — думаў Собіч. — Няхай сабе я сказаў і няпраўду. А жонка... што ж, яна і папраўдзе была. Але калі б яна была такая, як Марына, то ніколі не пакінула б мяне...»





Сяргей Грахоўскі нарадзіўся ў 1913 годзе на Піншчыне. Пасля вучобы ў сямігодцы працаваў рабочым на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце і вучыўся ў вячэрнім рабфаку. У гэты час у часопісу «Маладняк» і ў літаратурным дадатку да газеты «Камуніст» пачалі з'яўляцца яго вершы.

У 1935 годзе С. Грахоўскі скончыў літаратурны факультэт Мінскага педінстытута і доўгі час працаваў выкладчыкам у школах Беларусі і Сібіры.

У гэтым годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў зборнік яго вершаў «Дзень нараджэння».

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

**Камсамольцам трыццатых гадоў прысвячаю.**

# РАВЕСНІЦА




**Ужо не лета, і яшчэ не восень,**
**А павуцінне ў кропельках расы**
**Плыве, трымціць і туга заплялося**
**Табе у залатыя валасы.**

**Яшчэ цвіце і дзяцельнік і мята,**
**А плечы зводзіць першым халадком.**
**Ты помніш, як калісьці, у трыццатым,**
**Хадзілі мы з табою у райком?**

**З далёкай камсамольскае ячэйкі**
**Паслалі нас даведацца сябры,**
**Калі і як, і на якія рэйкі**
**Перавядуць сялянскія двары.**

**А нашы сходы, першыя лікбезы,**
**Пытанняў і адказаў вечары!**
**Калі на нас дзесяткамі абрэзаў**
**Кулацкія глядзелі хутары.**

І па сяле хадзілі пагалоскі,
Што мы, нібыта, дзеці сатаны.
Тады яшчэ не вельмі дружна вёскі
Ішлі на свята першай баразны.

Мы самі уставалі да світання,
Аралі межы кулакам назло,
Збіралі сходы,
Толькі пра каханне
Пагаварыць нам часу не было...

Ты ганарышся сталымі сынамі,
Ты замуж аддаеш сваіх дачок,
Але і сёння побач з ардэнамі
Ляжыць маленькі кімаўскі значок.

## СЛЯДЫ



Месячная ноч, нібы тады,
Як пасля кароткае разлукі
Беглі аж да самае вады
Мы з табой, пабраўшыся за рукі.

Ты пытала: «Ну нашто, зачым
Гэтыя таемныя сустрэчы?»
Але зноў да берага Пцічы
Мы з табой хадзілі кожны вечар.

Ты, нібы шукаючы гусей,
Берагам ішла ка мне з усмешкай,
І на дымнай чэрвеньскай расе
Засталіся толькі нашы сцежкі...

...Месячныя ночы на Пцічы
Пахнуць мёдам і мурожным сенам,
Але, даўняй сцежкай ідучы,
Я цябе ніколі не сустрэну,

Не пабачу шалік на вярбе,
Але ты — заўжды перад вачыма,
Хоць і пэўна знаю, што табе
Не прыйсці ніколі з Асвенціма.

Пад вярбой ля самае вады
Двое незнаёмых абняліся,
Дзе твае маленькія сляды
На пяску вільготным засталіся.

Хай цяпер да самага відна
Юнакі стаяць над стромкай кручай,
Хай іх не палохае вайна
І нішто на свеце не разлучыць.



## ЧАКАННЕ



Над Іртышом гудзе завея,
Шляхі і сцежкі замяла,
І пасмы белыя, як змеі
Паўзуць па вуліцах сяла.

Растуць калматыя сумёты,
Прысады гнуцца да зямлі.
За тыдзень нават самалёты
Даставіць пошту не змаглі.

Мароз усё яшчэ лютуе,
Да клямкі прыстае рука,
А каляндар нібы жартуе,
Што ўжо канец сакавіка.

Што недзе вербы ў завушніцах
Стаяць па плечы у вадзе.
Вясна мне вельмі часта сніцца,
Але чамусьці не ідзе.

Маўчыш і ты каторы тыдзень,
Хоць напісала б слова ты.
Калі вясна не хутка прыдзе,
Хоць бы прыйшлі твае лісты.

## ПАМЯЦЬ



Ніхто, нідзе не здолее запляміць
Глыбокі след раўеснікаў маіх,
Пра іх ніколі не сатрэцца памяць,
І час ніколі не састарыць іх.

Даўно дажджы прыбілі горкі попел,
Травой пазарасталі курганы.
І сёння ходзіць песня па Еўропе,
З якой не разлучаліся яны.

Ніхто, нідзе, ніколі не парушыць
Спакойны сон раўеснікаў маіх.
Я помню іх, і аж да скону мушу
Не толькі жыць, а і тварыць за іх.

Марк **СМАГАРОВІЧ**

## НЕ БЯДУЮ



Хоць бывае цяжка — не бядую,
Не шукаю лёгкага ў жыцці, —
Крочу, нібы на гару крутую,
На якую суджана ўзыйсці.
Адплываюць бурна вёсны, леты
У нямую глыбіню вякоў.
Засталося да жаданай мэты
Некалькі яшчэ зрабіць рыўкоў.
Зморaны, апошнія аршыны
Крокамі адлічваю: раз, два...
Не бядую, што, як гор вяршыні,
Пасівее хутка галава.
Шлях свой пачынаючы з падножжа,
Я спакою не шукаў ні дня.
Зведаю за гэта падарожжа,
Што такое ніз і вышыня!

Сцяпан **АЛЕКСАНДРОВІЧ**

# ЮНАЦТВА ПАЭТЭСЫ

Думаць усюды аб народзе,
Родны край усюды сніць...

Цётка. «Мае думкі».

### КАЗКІ БАБКІ ЮГАСІ

Ліза за кожным стукам аканіцы падымае галаву і ўзіраецца ў акно: а мо' едуць дзядуля з бабусяй? Але там відаць толькі бяроза, абвіслае голле якой гайдае вецер, на фоне снежных гурбаў чарнеюць яблыні ў садзе, а далей, за плотам, дзе на пагорку бачны гасцінец з прысадамі, гуляе завіруха... Дзяўчынка насцярожвае слых: ці не чуваць бомаў? Не, глуха і спакойна шуміць лес, які падыходзіць да самага прыгумення.

У бакоўцы цёмна, толькі на кухні гарыць газоўка. Праз адчыненыя дзверы відаць нерухомы цень нянькі — бабкі Югасі.

Лізе адной сумна, і яна кліча:

— Бабуня, га, бабуня! Ты спіш?

Цень схіснуўся, і ў дзвярах паказалася бабка Югася. Яна маленькая, крыху кульгавая, шчуплы твар яе ўвесь у зморшчыках. У вачах — ласка і пяшчота.

— Чаго ж ты не спіш, мае дзеткі? Я табе баяла-баяла байкі, потым бачу, ты прытаілася нішком, дык я шамуль-шамуль, ды ў мыцельнік. Спі сабе, думаю... А яна і не думае спаць...

— Калі ж прыедуць з кірмашу? — запытала Ліза — Чаму ж так доўга няма?

— Блізкі свет Васілішкі. Трэба гэта было ім ехаць такой крутавеіцай... Спі, мая галубка! Не скора яшчэ яны прыедуць.

— Нешта мне спаць не хочацца, — адказвае Ліза і зноў падымаецца паглядзець у акно.

— Чаму ж, хіба занядужала? — бабка Югася прыклала сваю халодную шурпатую далоню да ілба дзяўчынкі, потым да яе цёплых пятак. — Гэта ж, пане мой, цалюткі дзень на двары гойсала, ледзьве ў хату дазвалася... А цяпер трэба будзе выпіць бабчыных зёлак... Усялякая хвор адразу пройдзе...

— Не хачу я зёлак...

Але бабка пайшла на кухню і прынесла ў вялікай меднай конаўцы свае лекі.

Ліза знае гэтыя лекі. Стаяць яны на самай верхняй палічцы пад столлю ў слоіках і чарапках — там настойваюцца розныя карэнні і кветкі. Частка зёлак сохне каля коміна ў торбачках і пучках, многа іх і ў куфэрачку, што стаіць у каморы.

— А раскажаш, бабуня, казку, то палавіну вып'ю, — падымаецца Ліза і ўмошчваецца на падушцы.

— Усё, усё, Лізанька, дык раскажу што-небудзь...

Дзяўчынка ўзяла ў рукі цяжкую конаўку, паднесла к губам, а ў вачах, якія пазіралі на бабку Югасю, засвяціліся смех і гарэзлівасць.

— Будзе дзве казкі, дык усё вып'ю...

— Будзе, будзе...

Ад лекаў духмяніць пахам ліпавых кветак, малін і суніц...

— Вось і ўсё, і на здароўе, — кажа бабка і ласкава ўсміхаецца. Пасля падбівае падушку, укрывае Лізу коўдрай, садзіцца на ўслончык і некалькі хвілін маўчыць.

— Ну, бабуня, расказвай, — просіць Ліза.

— Якую ж бо табе расказаць, — пачынае ўспамінаць бабка Югася. — Ну, слухай хіба гэтую...

Дзяўчынка прытаілася пад коўдрай і думае, дзе зараз той зайчык, што бегаў учора ў іхнім садзе і пакінуў сляды каля Лізінай яблынькі. Нябось, недзе бегае, а мароз шчыпле яму за лапкі. Ліза зноў падымаецца і пазірае ў акно.

— Ляжы, ляжы, нікога там яшчэ не відаць, — гаворыць бабка.

— А зайкі не відаць ля яблынькі? — пытае малая і пільна ўзіраецца.

— Няма зайкі, спіць недзе пад кустом і сніць, што капустачку жымрыць... — кажа Югася. — Лепш ляжы і слухай...

Бабка некаторы час маўчыць, збіраецца з думкамі, а потым пачынае апавядаць:

— Жылі-былі два гаспадары, аднаго звалі Пятрусь, другога — Ясь. Жылі яны недалёка, адзін, скажам, у Тарэсіне, другі ў Пяшчынцы. Жылі дружна і хадзілі часта адзін да другога ў госці. Прыдзе Пятрусь да Яся на каляды, пасадзіць гаспадар госця на покуць, частуе пірагамі і мядовым крупнікам. Гасцюе Пятро тыдзень, другі, трэці, аж пакуль сонца цераз кажух у плечы не прыгрэе і саламяныя стрэхі з-пад снегу не пакажуцца. Тады толькі госць пачне дамоў збірацца. Ясь яго за вароты праводзіць ды ўпрошвае яшчэ пагасцяваць. Гэтак жа бывала, калі і Ясь прыходзіў да Петруся. Прыдзе вясной, на Міколу, збіраецца дамоў на Купалу, і то Пятрусь упрошвае застацца. Аднойчы адзін прыяцель упікнуў другога: «Ці ў мяне мулка спаць? Ці ў мяне мёд не крэпкі? Чаго ты так ірвешся дамоў?» «Дык і ты ж у мяне ніколі доўга не ўседзіш!» — адказвае другі. Слова за слова, чуць сябры не пасварыліся. На шчасце, сварка закончылася тым, што яны далі слова гасцяваць да таго часу, калі гаспадару ўжо больш не захочацца ўтрымліваць госця...

Ліза слухае ўважліва; яна забыла ўжо і пра зайку, што бегае ў садзе, і пра дзеда з бабкай, якіх так доўга няма з кірмашу. Ёй нават думаецца, што Пятрусь — гэта дзядзька Місюра, якога таксама так зваць, а Ясь — гэта Ясь Барысік, па мянушцы «Папсуй», які надта любіць гарэлку.

— Вось прышоў пасля гэтага Пятрусь да Яся, — працягвае бабка. — Сядзяць яны, частуюцца. Праходзіць месяц, праходзіць два. Пачаў раставаць снег, заспявалі жаваранкі, пачарнела дарога, а госць і не думае збірацца дахаты. Прайшоў яшчэ тыдзень: забулькалі ручайкі, загулі пчолы, заклекаталі буслы, паказаліся пупышкі на дрэвах. Пачухаў Ясь патыліцу: неўзабаве пара будзе за саху брацца, а госць сядзіць сабе ў хаце, п'е мёд ды песні пяе. Гаспадар асцярожна сказаў Петрусю аб гэтым, і зноў спрэчка ўшчалася. «Гоніш, значыцца, мяне, — кажа госць, — а я не пайду дамоў, пакуль не пачую самую лепшую на свеце песню». Нічога не парадзіш, пайшоў Ясь шукаць спевакоў па ўсёй ваколіцы. Прывядзе каторага, толькі той зацягне песню, як госць рукамі махае: «Чуў, чалавеча, гэтую песню, не тая...» З ног збіўся гаспадар. Што рабіць? Выганяць госця? Не, не выпадае! Выйшаў аднойчы госць раніцай на ганак, пастаяў гэтак, паслухаў, потым увайшоў у хату, узяў шапку і падае руку гаспадару. «Ну, дзякуй, браце! Мне пара дамоў. Сёння пачуў, як людзі самую лепшую песню співаюць». «Што ж гэта за песня хаця?» — пытае Ясь, праводзячы госця. «Слухай!» — паказвае Пятрусь у поле, дзе з'явіліся першыя барозны і селянін паганяў каня: «Но, гняды! Но, варушыся!»

«Гэта і ёсць самая лепшая песня!» — сказаў госць і заспяшаўся дахаты.

... Глухі трэск, нібы стрэл, пачуўся на двары.

Бабка прыслухалася і заківала галавой:

— Бач, як мароз страляе...

— Бабуня, а што ж далей было?

— А далей было вось што... Адсеяўшыся і ўхадзіўшыся з гаспадаркай, пайшоў Ясь да Петруся ў госці. Сядзіць тыдзень, сядзіць другі, п'е мёд і песні пяе. Петрусю пара ўжо ісці касіць, а тут трэба з госцем піць і «Зязюльку» спяваць. Потым госць і кажа, што тады толькі дамоў пойдзе, калі самую лепшую шапку пабачыць. Кінуўся Пятрусь сюды-туды, каб знайсці лепшую шапку. Ясь толькі галавой круціць: «Э, не-е-э, не тая!» Нарэшце, прышло жніво, і госць убачыў жытнія бабкі. «Ну, і мне пара! Убачыў лепшую шапку», — паказаў ён на сноп, якім была накрыта бабка. Сабраў Ясь лахі пад пахі ды пайшоў дамоў...

Бабка Югася змоўкла. Маўчала і Ліза. Толькі завіруха, якая, здавалася, таксама пад акном слухала бабку, зноў сярдзіта завыла і застукала аканіцай.

— Бабуня, яшчэ адну, — просіць Ліза.

— Ну, яшчэ пра Юрку-пісара збаю і — спаць... Юзік вунь на другі бок пераварочваецца. Ну, слухай...

Тут раптоўна пачуліся званочкі, і на панадворак уз'ехалі сані.

— Прыехалі! Прыехалі! — ухапілася Ліза і ўткнулася носам у халодную шыбіну.

— Хавайся, Лізанька, пад коўдру і напалохаеш дзеда з бабкай, — параіла Югася і пайшла адчыняць дзверы.

Неўзабаве ў хату ўвайшла бабка і пачала церці застылыя рукі. Адагрэўшыся, яна падышла да Лізінага ложка і запытала ў Югасі:

— Спіць?

Югася нічога не адказала, і бабка павесіла вязку абаранкаў на біла, каля Лізінай падушкі.

Калі бабка адышла, Ліза працягнула руку да абаранкаў, ціхенька зняла іх і пацягнула пад коўдру. Потым яна чула, як увайшоў у хату дзед, скінуў бурку і пачаў тупаць па кухні цяжкімі ботамі.

— Ціха, а то Лізачку пабудзіш, — супакойвала дзеда бабка.

— А хіба яна спіць? — запытаў дзед. — Я ж ёй гасцінец прывёз...
І дзед з бабкай увайшлі ў бакоўку, дзе спала ўнучка.
— А-ё,— а дзе ж дзеліся абаранкі?!— пляснула рукамі бабка. — Я ж іх тут вешала...

З-пад коўдры пачуўся прыглушаны смех, а неўзабаве паказалася і ўскудлачаная галава дзяўчынкі.
— Ха-ха-ха! — смяяўся дзед. — Яна і не думала яшчэ спаць. А бабка кажа: «Не грукай, бо дзіця пабудзіш»...

— Гэта ж я кажу, пара ўжо спаць, — пачала тлумачыць Югася, — а яна мне: «Бай байкі, пакуль з торгу не прыедуць...» Мусіла баяць...
— Што табе тыя простыя байкі слухаць, — сказала бабка. — Ты цяпер, Лізачка, будзеш вучыцца па кніжцы. Дзед, дзе тая кніга, што мы сёння купілі?

— А я і забыў... Зараз, зараз, — усхапіўся стары і пайшоў на кухню, дзе вісела яго бурка. — На, унучка, вучыся, — працягнуў ён Лізе польскі буквар.
Дзяўчынка з радасцю ўхапілася за кнігу і, жуючы абаранкі, стала разглядаць малюнкі. Потым паклала буквар пад падушку і заснула...

## ВУЧЫСЯ — БУДЗЕШ ТЭЛЕГРАФІСТКАЙ

На прадвесні занядужала Лізіна бабка і больш не ўставала з пасцелі. У жніво яна памёрла. Старой Югасі, якая недабачвала, цяжка было ўправіцца з гаспадаркай ды яшчэ дагледзець Лізу і Юзіка. Таму Сцяпан Пашкевіч у хуткім часе прыехаў забраць сваіх дзяцей дамоў, у фальварак Стары Двор.

Югася стала збіраць малых у дарогу, непрыкметна выціраючы слёзы.
— Бабуня, даражэнькая, не плач, — абняла дзяўчынка старую няньку. — Я прыеду слухаць казкі...

Сцяпан Пашкевіч укладаў на воз небагаты пажытак дзяцей і пазіраў на Лізу, якая стаяла, утуліўшыся ў фартух Югасі, і ніяк не магла расстацца з нянькай. Толькі малога Юзіка нішто не засмучала, ён даўно ўмасціўся на возе. Яму абы ехаць! Бацька сеў на воз, узяў пугу ў рукі і чакаў Лізу. Цяпер адчуў ён, як зжылася яго дачушка з дзедавай сям'ёй, як цяжка пакінуць ёй Тарэсін, дзе яна гадавалася шэсць гадоў.

Выручыў дзед. Ён падняў дзяўчынку пад пахі, тройчы пацалаваў, укалоўшы сівой барадой, і пасадзіў побач з Юзікам.

Калі выехалі за вароты, на сэрцы Лізы стала неяк балюча-балюча, і яна заплакала. Шкада было пакідаць дзядуню, які за апошнія дні неяк зусім пастарэў, шкада было і бабкі Югасі, што стаяла і выцірала слёзы палінялай хусткай.
Было гэта ў 1885 годзе.

Хутарок іхні стаяў непадалёку ад гасцінца. Ля самай хаты шумелі сосны, за хлявом працякала рачулка, за ёй раскінуліся панскія сенажаці. Асабліва любіла Ліза гуляць на высокім кургане, што стаяў пры гасцінцы на Васілішкі. Адсюль адкрываліся прыгожыя краявіды: за хвойнікам віднеліся хаты вёскі Стары Двор, буслінае гняздо на падсохлым дубе каля хаты Будзевіча, а вакол смуга лясоў. Цікава было з кургана назіраць, як у чацвер і нядзелю гасцінцам тарахцелі падводы,— сяляне ехалі на кірмаш у мястэчка.



Так прайшло лета, а першымі замаразкамі Ліза ўзялася за навуку. Яшчэ ў Тарэсіне Лізіна бабка сяды-тады прыхваткамі, у вольную часіну, вучыла ўнучку па-польску. Ліза ўжо ведала літары і магла складаць словы. Нават вершык вывучыла напамяць:

Яскулэчка до нас враца
З аддалёнэй догі.
Спевэм віта вёскэн мілон,
Мілэй хаты прогі.

Аднойчы бацька прывёў «дарэктара» — высокага сутулага дзядзьку ў чорным паношаным паліто з латкамі на локцях і ў парваных ботах. Рыжаватае шчаціннe тырчала на яго твары, чырвоныя вочы пазіралі неяк сонна і асалавела.
— Ну, дачушка, вось табе будзе настаўнік — пан Вінцусь, — сказаў бацька.
Ліза ваўчком пазірала на гэтага незнаёмага чалавека, але пакланілася яму.
— Вучыся, старайся, Лізачка! Вывучышся — тэлеграфісткай будзеш, — прамовіла маці.
Чаму іменна тэлеграфісткай — маці і сама не адказала б. Ёй неяк давялося бачыць у Лідзе на пошце, як дзяўчына завіхалася каля нейкай машыны, якой «адбіваюць» тэлеграмы. Маці зрабіла тады вывад, што тэлеграфістка вельмі вучоная, калі ёй даверылі такі апарат, а значыць яе праца адказная і ганаровая.
«Дарэктар» з асалавелымі вачыма вучыў добра, але часам прападаў недзе па цэламу тыдню ці прыходзіў п'яны, і бацька пасылаў яго адсыпацца ў гумно. Тады ў Лізы былі «канікулы».

Вясною пан Вінцусь зусім недзе знік, і ў хаце Пашкевічаў з'явіўся новы настаўнік — Антось Зарэмба, якога за нейкія цёмныя справы выгналі з Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. Гэта быў хлопец высокі, шыракаплечы. Апранаўся ён досыць прыгожа, быў надта ветлівы, меў шляхецкія звычкі. Але ўся гэтая «гжэчнасць» прападала, калі ён выходзіў за весніцы Пашкевічавай сядзібы. Зарэмба гарланіў песні, па-заліхвацку вытанцоўваў «Юрачку» на вечарынцы, заляцаўся да дзяўчат і ў першы ж дзень пабіўся з вясковымі хлопцамі.
Назаўтра ён прышоў на заняткі з падпудраным сіняком пад вокам, але ў вясёлым настроі, і пачаў расказваць пра жыццё польскіх каралёў. Ліза слухала, слухала, а потым прамовіла:
— Бабуня Югася не так пра каралёў расказвала...
— А хто такая Югася? — запытаў Зарэмба.
— Наша тарэсінская бабуня, яна мне казкі расказвала... Такія цікавыя — слухаеш не наслухаешся...
— Фі, прастэча, — закапыліў нос настаўнік. — Што там можа быць цікавае ў мужыцкіх казках? Трэба, панна Алаіза, адвыкаць ад гэтых казак і простай гаворкі... Трэба размаўляць па-польску...
— А чаму нельга па-нашаму, як бабуня Югася казкі расказвае і дзяўчаты песні пяюць? — дапытвалася Ліза.
— Гэта тутэйшая гаворка непісьменных мужыкоў, а вучоны чалавек павінен гаварыць культурна: па-польску ці па-расійску...

Праз год Лізу вучыла дачка настаўніка са Старога Двара Вера Тацішчава — прыгожая, стройная дзяўчына з доўгімі косамі і васількавымі вачыма. Прыходзіла яна ў прооценькай сукенцы, заўсёды з кнігамі і свежы-

мі пецярбургскімі газетамі. Вера не толькі вучыла Лізу рускай мове, але расказвала ёй пра студэнцкае жыццё ў далёкай сталіцы, дэкламавала напамяць вершы, спявала забароненыя рэвалюцыйныя песні. Настаўніца і вучаніца пасябравалі, разам хадзілі ў ягады і грыбы, часта ляжалі на прыдарожным кургане, і Вера чытала ўголас:

В полном разгаре страда деревенская...
Доля ты!.. — русская долюшка женская!

У самы прыпар прыехала на хутар бабка Югася, каб паглядзець дзяцей, пакуль маці і бацька будуць упраўляцца з касьбою і жнівом. Прыезду бабкі асабліва была рада Ліза. Яна памагала Югасі даіць кароў, карміць дзяцей,— не адступала ад яе ні на крок і нават спаць лягла разам. Дзяўчынцы хацелася паслухаць новыя казкі, і бабка доўга іх расказвала. Была тут казка пра дачку беднага селяніна, які знайшоў залатую ступу, пра ганарлівую варону і многа-многа іншых.

Раніцай Ліза апавядала Веры казкі, якія чула ад бабкі. Тая слухала ўважліва, дзівілася прастаце і народнай мудрасці і ўголас выказвала сваё захапленне:

— Гэта ж цудоўна! І як паэтычна!

А праз некалькі дзён Вера прывяла пажылога чалавека, з выгляду пана, які хацеў паслухаць і запісаць бабчыны казкі. Югасяаднеквалася і баялася: навошта спатрэбілася яму яе байкі? Веры і Лізе доўга прышлося ўпрошваць, пакуль яна згадзілася «збаяць байкі».

— Памяць у мяне стала, як рэшата, — гаварыла Югася, — нічога ўжо не трымаецца.

— Не бойцеся, бабуня. Пан Уладзіслаў вучоны, ён у кнізе надрукуе вашы казкі, і ўсе будуць чытаць.

Бабка Югася была кабета памяркоўная і, нарэшце, дала згоду.

— Ну, добра... Збаю вам пару казак...

У густым вішняку паставілі стол, пан Уладзіслаў параскладаў свае паперы. Акружаная дзецьмі, бабка Югася сядзела на ўзмежку і расказвала:

— Жылі-былі дзед з бабаю. Нічога яны не мелі, жылі надта бедна. Пайшоў дзед араць і выараў залатую ступу...

Слухала Ліза казку і наглядала, як незнаёмы чалавек старанна запісваў бабчыны казкі. «Мусіць, нешта добрае ёсць у гэтых простых расказах бабуні, калі такі вучоны чалавек іх запісвае...» — падумала Ліза.

Увосень Вера Тацішчава стала збірацца ў дарогу. Аднойчы яна прышла пазней звычайнага і стала развітвацца. Сцяпан Пашкевіч, не скупячыся, расплаціўся з настаўніцай, падзякаваў за навуку і прасіў на другое лета ізноў займацца з дзецьмі.

— Не ведаю, як яно выйдзе на той год, але калі прыеду да бацькі, то не міну вашу хату...— гаварыла Тацішчава.— А ты, Ліза, чытай больш, займайся сама. У цябе ёсць вялікія здольнасці... Не губі іх! Ну, хадзі, мая даражэнькая, пацалую на развітанне!..

## «НА УСХОДЗЕ КРАСНА НЕБА...»

Са Старога Двара рукой падаць да маёнтка царскага генерала Прыбыткі. Трэба толькі перайсці грэбляй невялічкі лужок, заросшы кустамі алешніку, і за пагоркам пачынаюцца генеральскія палеткі.

Жнівеньскім ранкам 1905 года па роснай сцяжынцы, што вяла ад гэтых палеткаў, ішлі дзве жанчыны, адзетыя па-гарадскому. Спяшаліся яны не на жніво, сярпоў у іх не было, толькі адна несла скрутак нейкіх газет і кніг. Кідалася ў вочы яшчэ, што старэйшая з іх, худзенькая рухавая дзяўчына са шчуплым круглым тварам, вялікімі вясёлымі вачыма і высокім ілбом, добра ведае гэтыя мясціны. Малодшая выглядала ніжэй ростам, у яе быў прадаўгаваты твар і чорныя, як смоль, валасы.




Цётка (А. Пашкевіч).
Здымак друкуецца ўпершыню.

— А што будзе, Алаіза, калі нас жнеі не паслухаюць і пасмяюцца толькі? — запытала малодшая.

— Не бойся, Настася! Паслухаюць... Там ёсць старадворскія жанцы, яны мяне ведаюць... — адказала тая, якую назвалі Алаіза.

Гэта была сапраўды Алаіза Пашкевіч — колішняя дзяўчынка, што прыходзіла сюды на лужок збіраць кветкі. Прайшло шмат часу, як яна слухала казкі бабкі Югасі і чытала на кургане з Верай Тацішчавай вершы Някрасава.

За плячыма ў яе былі ўжо гады вучобы ў Віленскай прыватнай жаночай гімназіі Прозаравай. Жыла яна тады з братам Юзікам у старэйшай сястры Стэфкі, якая мела сваю хату на Кальварыі. Вучылася ўпарта і старанна, часта хварэла, а калі прыязджала ўлетку дамоў, маці гаварыла:

— Кінь, дачушка, гэтую навуку. На ліха яна табе, толькі здароўе сушыць...

Але ў Лізы было кволае здароўе і вялікая цяга да навукі. Яна, папрацаваўшы год настаўніцай у царкоўнапрыходскай школе каля Астрына, паехала ў 1902 годзе ў Пецярбург на агульнаадукацыйныя курсы Лесгафта. У сталіцы яна трапіла ў самы бурлівы вір жыцця, у асяроддзе перадавой студэнцкай моладзі. Кожная навіна грамадскага жыцця выклікала працяглыя спрэчкі і абмеркаванне. Студэнты даставалі забароненую літаратуру і нелегальныя газеты, былі ў курсе ўсіх падзей у краіне і за мяжой.

Асабліва пасябравала Алаіза са студэнтамі-землякамі, якія збіраліся разам, арганізоўвалі ў складчыну вечарынкі, спявалі рэвалюцыйныя і беларускія народныя песні. Аднойчы пасля такой вечарынкі адзін студэнт даў пачытаць Алаізе невялікую кніжачку. На вокладцы лацінкай было напісана: «Дудка беларуская Мацея Бурачка».

Прышла яна на кватэру і пачала чытаць. І дзіва дзіўнае! У кнізе быў адказ на тое, аб чым не раз думала Алаіза. «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-

Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Вершы ў гэтай кнізе былі таксама такія простыя і шчырыя:

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

Прачытала Алаіза гэтую кнігу раз, другі, трэці, і ёй захацелася самой паспрабаваць што-небудзь напісаць. Скажам, пра летні дзень у сяле, вясковае ігрышча і прыгажуню Касю, на якую ўсе заглядаюцца. Так з'явіўся першы верш «Лета», а за ім — «Восень». Неўзабаве Пашкевіч трымала ў руках тоненькую кніжачку «Песні», выдадзеную нелегальна ў Лондане ў 1904 г. Там быў і яе адзін верш «Мужыцкая доля». У тым жа годзе яе вершы былі надрукаваны ў зборніку «Калядная пісанка».

Восенню 1904 года Алаіза Пашкевіч пераехала ў Вільню, каб тут, у губеранскім горадзе, акунуцца ў рэвалюцыйныя справы. Знайсці месца настаўніцы было нялёгка, і ёй прыйшлося ісці на працу фельчарыцай у Нова-Вілейскую псіхіятрычную лячэбніцу. Дарэчы прыйшліся веды, набытыя па медыцыне на курсах Лесгафта.

У лячэбніцы яна хутка ўвайшла ў каляю грамадскай дзейнасці. Знайшліся і тут аднадумцы: доктар Сільвановіч з-пад Навагрудка, медыцынская сястра Настася...

Цяпер Алаіза Пашкевіч прыехала ў Стары Двор не проста ў адпачынак. Было жаданне прыглядзецца, чым жыве вёска, як яна можа дапамагчы гораду...

...Калі Алаіза з сяброўкай узышлі на ўзгорак, перад імі раскінуўся вялікі палетак даспелага аўса. Чалавек дзесяць жанцоў ужо завіхалася, толькі паблісквалі на сонцы сярпы.

Жанчыны спынілі працу і падышлі да дзяўчат.

— Што ж вы нам скажаце? — запытала Алена Будзевіч — статная маладзіца, муж якой загінуў пад Ляаянам.

— Хочам пагаварыць з вамі пра вашыя справы, — сказала Алаіза. — Вось ты, Алена, засталася з малымі дзецьмі, палажыў сваю галаву Міхаль, ваюючы з японцамі, а што табе даў цар за гэта?.. Колькі табе плаціць Прыбытка за тваю катаржную працу?

— Як і ўсім, па 50 капеек...

— Чаму ты, Алена, не можаш разам з жанкамі пайсці да пана, што збірае капіталы з вашых мазалёў, і сказаць: «Плаці па рублю ў дзень, а не дык пакінем жаць!» Усе так робяць у горадзе, і ў вёсцы падышла пара...

— Ды яно праўда. Мы ўжо самі думалі аб гэтым. Ну, як, кабеткі, — звярнулася Алена да жней. — Пойдзем у двор і скажам, чаму нас добрыя людзі навучаюць?

І жнеі рушылі натоўпам у напрамку да панскага двара.

Пасля Алаіза з Настасяй даведаліся, што Алена стала завадатарам жней. Генерал спачатку ўзлаваўся, пачуўшы патрабаванні плаціць па рублю, пагражаў наняць новых жней, але жанчыны на работу не пайшлі ні ў той дзень, ні назаўтра. А на трэці дзень прыехаў конна канторшчык з панскага двара і сказаў, што Прыбытка згадзіўся плаціць па рублю ў дзень...



* * *

Доктар Сільвановіч, мужчына гадоў за трыццаць з хваравітай чырванню на твары, сустрэўшы Алаізу і Настасю на двары лячэбніцы, вельмі ўзрадаваўся:

— Вас, дзяўчаткі, расцалаваць трэба!

— Няўжо вы ведаеце пра нашы поспехі на вёсцы? — запытала Алаіза.

— Ведаць не ведаю, але здагадваюся... Я рад вашаму прыезду, тут надта патрэбна ваша дапамога... Віленскія рабочыя ўзняліся на барацьбу, нам трэба ўзварушыць і заводы Мозера і Посела. Там у нас ёсць свае людзі, таварыш Сцяпан дапаможа... Ведаеце, хто гэта такі?

— Чаму ж не... Вігілёў... — адказала Пашкевіч.

— Так, ён... Ёсць яшчэ адна навіна. Дастаў я дваццаць рэвальвераў. Памятаеце, я пісаў у канцылярыю генерал-губернатара Фрозе, каб персаналу лячэбніцы выдалі зброю з тае прычыны, што небяспечна хадзіць каля некаторых хворых. Там не расшалопалі што да чаго і выдалі рэвальверы. Можам узброіць дружыну...

Была гэтая размова 2 верасня, а назаўтра вечарам Сільвановіч шапнуў Алаізе:

— У нас новы хворы ёсць...

— Хто?

— Таварыш Сцяпан...

— ?..

— Сёння яго арыштавалі, але яму ўдалося ўцячы з турмы і забегчы да аднаго нашага таварыша, які пастараўся пераправіць Вігілёва сюды. Пакуль у нас можна перачакаць, але трэба пашукаць больш надзейнае месца... Як вы, Алаіза Сцяпанаўна, глядзіце?

— Можна да мае сястры Стэфы... Хата ў яе свая... Прытулак ёсць надзейны — цёплы скляпок, дзе мы лістоўкі стукаем.

Пачаліся дні, поўныя кіпучай дзейнасці. У Вільні адчувалася трывога і неспакой. Баставалі рабочыя чыгуначных майстэрняў і грузчыкі. На некаторых заводах і фабрыках пачалі стварацца ўзброеныя рабочыя дружыны.

Алаіза Пашкевіч паспявала ўсюды. З самага ранку ехала ў Нова-Вілейск, выступала там на мітынгах, ездзіла ў Кускурушскую школу і выступала перад сялянамі, ноччу пісала вершы, дапамагала друкаваць лістоўкі. Спала ў суткі не больш 3—5 гадзін, але адчувала сябе бадзёрай і радаснай, як ніколі.

У кастрычніку 1905 года пачалася стачка на чыгунцы, а пасля перакінулася на фабрыкі і заводы. Вузенькія вуліцы старажытнай Вільні не бачылі яшчэ такіх вялікіх і магутных дэманстрацый. Паліцыя і салдаты атрымалі загад страляць у рабочых. Пралілася кроў. Алаіза Пашкевіч за адну ноч напісала верш «Мора. Рэвалюцыя народная»:

Такі бой вякамі жджэцца,
Такі бой гігантаў дасць,
Ў такім баю толькі грэцца,
Ў такім баю толькі пасць.

Праз некалькі дзён падпольная друкарня Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі выпусціла лістоўкі з вершамі «Мора», «Пад штандарам» і

«Хрэст на свабоду». Прынёс гэтыя прадаўгаватыя каляровыя лісточкі Алаізе рабочы Ліцкевіч — зямляк з-пад Ліды.

— Ну і хвацка тут сказана, — захапляўся ён: —

На усходзе красна неба,
Нас не дзівіць — так і трэба!

Першымі замаразкамі прышла вестка, што ў Маскве на Прэсні пачалася ўзброеная барацьба рабочых. Гэта акрыліла віленскіх сацыял-дэмакратаў, і яны вырашылі вывесці на дэманстрацыю рабочых Нова-Вілейска ў знак салідарнасці з маскоўскім пралетарыятам.

У абедзенны перапынак Пашкевіч, Сільвановіч і яшчэ адзін віленскі рабочы рушылі на заводскі двор. Там ужо сабраўся вялікі натоўп. Выступаў нейкі прамоўца ў пенснэ, з чорнымі вусікамі. Рабочыя гучным свістам перапынялі яго.

— Вось дактары нам праўду скажуць, — пачуліся галасы рабочых, якія ведалі прамоўцаў з лячэбніцы.

На штабель скрыняў узышла Пашкевіч.

— Таварышы рабочыя! У Маскве льецца кроў працоўных. Ідзе барацьба не на жыццё, а на смерць за нашу волю і свабоду. Наша задача — падтрымаць маскоўскіх рабочых! Выйдзем на вуліцы шчыльнымі калонамі і скажам буржуям: «Мы — сіла! Мы — права!»

Пасля выступалі Сільвановіч і віленскі рабочы — прадстаўнік партыі сацыял-дэмакратаў.

З'явіліся чырвоныя сцягі, некалькі лозунгаў, і рабочыя рушылі ў вароты. Наперадзе палымнеў лозунг з надпісам: «Далоў самаўладства!».

* * *

Пакойчык у Настасі маленькі: справа стаіць ложак, злева ля печкі — тапчан, пасярэдзіне — круглы столік. Шкляныя дзверы, што вядуць на веранду, служаць і за акно. Таму ў пакойчыку не толькі цесна, але яшчэ і цемнавата.

Улетку тут добра — адчыні дзверы насцеж і слухай, як шумяць сосны і крычаць дзеці дачнікаў. Пані Мураўская тыя гады здавала гэты пакойчык толькі на дачны сезон, а сёлета ёй пашанцавала: трапілася кватарантка, якая будзе жыць і зімой. Таму гаспадыня нічога не мае супраць, калі ў кватаранткі пагасцюе некалькі дзён яе сяброўка. Пані Мураўская ведае, што Ліза Пашкевічанка працуе фельчаркай у псіхіятрычнай лячэбніцы і жыве ў сястры ў Вільні. Заходзіла Пашкевічанка і раней да Настасі, а з тыдзень таму назад прышла з чамаданам і заначавала. Ад старэчага ўважлівага вока пані Мураўскай не схавалася тое, што гэтая худзенькая, проста адзетая сімпатычная дзяўчына, з яснымі вясёлымі вачыма, за апошнія дні спахмурнела і відавочна нечым занепакоена. Увесь дзень сядзіць дома, на работу не ходзіць, нешта чытае і піша, не чуваць яе вясёлага смеху. «Не інакш, сардэчныя справы... Ох, гэтыя дзяўчаты!» — робіць вывад гаспадыня.

І сапраўды, Алаіза Пашкевіч была заклапочана і ўстрывожана. Заставацца ў Вільні далей нельга. Дома, на хутары, таксама не ўратуешся. Што прыдумаць? Цэлы тыдзень яна не паказваецца да Стэфкі ў Кальварыю. Суседскі хлапец наказаў, каб Алаіза не прыходзіла дамоў: у сястры пад вокнамі тупае пераапрануты шпік. У той жа дзень прышлі два жандары і ў лячэбніцу, але там памяшканне вялікае, шмат «чорных» ходаў і галоўнае — сваіх людзей...



Праз тры дні новы, 1906 год, а на сэрцы так нявесела. Што ж прынясе гэты год?

За акном цярушыць сняжок. У пакойчыку ціша, якая прыгнятае сэрца. Мерна стукае гадзіннік, недзе пад падлогай скрабецца мыш. Алаіза падыходзіць да дзвярэй і ўзіраецца ў мерны лёт сняжынак. Сыплецца іх многа, і здаецца, што яны не падаюць на зямлю, а зноў падымаюцца і мітусяцца ў паветры. Так стаяла яна да таго часу, пакуль з бяздум'я не вывеў паштальён, які падышоў і ўлажыў у клямку газеты. Навіны былі невясёлыя. «Виленский вестник» і «Северо-западное слово» паведамлялі пра ліквідацыю забастовак у Маскве і Сормаве, Вільні, Шаўлях і Мінску. Галаву падымалі чорныя сілы. Новы генерал-губернатар-Паўночна-Заходняга краю генерал ад інфантэрыі Кржывіцкі ішоў крывавай дарогай Мураўёва.

Алаіза тупала па пакоі, пакуль гадзіннік не выбіў чатыры гадзіны. Пасля села за стол, і самі сабой паплылі радкі:

Загарак б'ецъ, ляцяць мінуты,
Дзевяцьсот пяты кончу год.
Хаджу па хаце, як атруты,
У жылах чую зімны лёд.
Ах, страшны, страшны быў год гэты,
Яшчэ страшнейшы будзе зноў!

У снежні змяркае хутка, і на шэрай гадзіне добра думаецца і пішацца. Успомніліся сустрэчы Новага года ў Тарэсіне. Колькі было радасці і бесклапотнай весялосці. А сёлета? Што яе чакае? Алаіза сядзела ў крэсле, не варушачыся, і думала невясёлую думу.

Потым яна раптоўна ўсхапілася. Прэч хандру! Няма чаго падаць духам! Мы яшчэ пазмагаемся! Яна хуценька апранула паліто і чуць не подбегам пайшла сцяжынкай у бок магазіна, дзе спыняюцца рамізнікі.

— У горад, бацька, — сказала яна старому, што кляваў носам, седзячы на козлах.

Неўзабаве яна ўлілася ў людскі паток на Георгіеўскім праспекце і зайшла ў вялікі будынак, дзе змяшчаўся тэлеграф і тэлефонная станцыя. «Сёння павінен дзяжурыць дзядзька Ігналь, — падумала Алаіза. — У яго могуць быць навіны».

Надаўшы твару заклапочаны выгляд, яна некалькі разоў уважліва агледзелася, ці не сочыць хто за ёй. Не, нічога падазронага не бачна... Пасля падышла да акенца, у якім сядзеў дзядзька Ігналь. Той ледзь улоўна кіўнуў галавой і працягнуў тэлеграфны бланк, на якім было напісана: «Грошы атрымала. Спяшайся ў госці. Стэфа.»

Алаіза гэтай весткай была задаволена. Сястра падганяла спяшацца з выездам. Відаць, зноў прыходзілі і пыталі, дзе дзелася фельчарка, што бунтавала і падбухторвала людзей. «Як добра, што аддала ў надзейныя рукі шапірограф, а так і сястры не здабраваць было б!» — падумала Алаіза.

У гэты час дзядзька Ігналь прамовіў:

— Грошы сястра мне перадала... Каб не выклікаць падазрэння, я вам дам распісацца.... Сёння абавязкова загляньце на Херсонскую вуліцу. Васіда чакае.

— Няўжо?! Як добра! Вялікае дзякуй вам!

Праз некалькі хвілін Алаіза Пашкевіч ішла ля будынка гімназіі Про-

заравай, дзе калісьці вучылася. За гімназіяй яна звярнула ў нейкі гразкі дворык, прайшла па кладцы ў брамку мураванкі, што ўехала па вокны ў зямлю, тройчы пастукала.

Спачатку забражчэў ланцуг, гультаявата забрахаў сабака, а потым зарыпелі дзверы і нехта спытаў:

— Хто там?

— Цётка, — адказала Пашкевіч, як было дамоўлена.

Бразнула засаўка, і паказаўся нізенькі тоўсты чалавек з кароткімі рукамі. У прыхожай цьмяна гарэла лямпа, стаяў пах цыбулі і селядцоў.

Калі Пашкевіч крыху агледзелася, яна заўважыла, што на вешалцы вісела шмат штацкіх паліто, а між імі пракідаліся і форменныя чыноўніцкія шынялі. Дзесьці з другога пакоя даносіліся п'яныя галасы.

— Можа, я не ў добрую пару трапіла?

— Нічога, нічога! — замітусіўся чалавек, падаючы крэсла. — Абы грошы ў вас былі, мігам гешэфт зробім... Гы-гы!

Пачуўшы гэты смех, Алаіза ўспомніла словы дзядзькі Ігналя пра Васіду — віленскага махляра і кантрабандыста: «За грошы ён роднага бацьку і маці прадасць, і яму не ікнецца...»

Пашкевіч паклала дамоўленую суму на стол, і Васіда праз які момант прынёс паперы, звязаныя суровай ніткай.

— Вось прашу! Дакуменцікі на яць! Лепш, чым сапраўдныя... Можаце ехаць у Львоў ці Кракаў, як вам пажадаецца. Трэба будзе, заходзьце — Васіда заўсёды выручыць...

Вярнуўшыся на дачу Мураўскіх, Алаіза знайшла ключ на ранейшым месцы. Настася, значыць, не прыходзіла. Яна ўвайшла ў пакой, запаліла лямпу. На сэрцы быў нейкі ўздым і весялосць, хацелася спяваць і радавацца. Трапіў на вочы недапісаны верш, што ляжаў на стале. Алаіза перачытала яго і напісала загаловак «Перад Новым годам». У сэрцы нараджаліся і прасіліся на паперу словы, поўныя мужнасці і аптымізму:

Як я разважыў — добры год,
Як я раздумаў — будуць плёны,
Будзе добры ураджай.
Біце ў звоны, біце ў звоны!
Новы год, народ, страчай!

## «БЯГУ ДУМКАЙ У КРАЙ ДАЛЁКІ...»

На першым часе ў Львове прыйшлося цяжка. Не кажучы пра сяброў, тут нават знаёмых не было. Праўда, Алаіза Сцяпанаўна мела некалькі лістоў да знаёмых Сільвановіча і дзядзькі Ігналя, але вырашыла схадзіць да іх, калі ўладкуецца з кватэрай і вучобай. Бацька і старэйшы брат Войцэх абяцалі грашовую падтрымку, настойвалі ў адзін голас, каб Алаіза абавязкова паступала вучыцца ў Львоўскі ўніверсітэт. Яна і сама даўно думала аб гэтым... Але ці ўдасца паступіць, ці прымуць?

Алаіза Сцяпанаўна пакрысе знаёмілася з Львовам, які тут афіцыйна называлі на нямецкі лад — Лемберг.

Горад нечым нагадваў Вільню. На кожным кроку былі гістарычныя і архітэктурныя помнікі рознага часу і стылю, побач з раскошнымі палацамі з фантанамі і скульптурнымі фігурамі суседзілі нязграбныя купецкія мураванкі і крамы. Як і ў Вільні, многа было пакручастых вузкіх і напоўзмрочных вуліц, дзе можна было пачуць і ўкраінскую, і польскую, і яўрэйскую гаворкі. Нямецкая мова гучала толькі ў цэнтры, дзе былі багатыя магазіны і ўрадавыя ўстановы.



Кідалася ў вочы вялікая колькасць касцёлаў, цэркваў. Шукаючы прыдатную кватэру, недарагую і бліжэй да цэнтра, Пашкевіч знаёмілася з горадам. Вось старадаўняя Успенская царква. Велічная вежа яе званіцы ўзвышаецца над Львовам. Раскошны ў стылі барока сабор св. Юрыя, змрочныя муры касцёла бернардынцаў... Прыгожа і велічна выглядае тэатр оперы і балету з алегарычнымі фігурамі Славы, Перамогі і Кахання, просты і лёгкі помнік Адаму Міцкевічу.

Кожны будынак у цэнтры горада быў па-свойму цікавы і арыгінальны: відавочна было, што польскія і нямецкія магнаты не шкадавалі грошай, каб выхваліцца сваім багаццем. Гэта было відаць нават і на Лычкоўскіх могілках, дзе стаялі пышныя мармуровыя фамільныя склепы...

Быў студзень месяц, калі на Беларусі стаяць самыя моцныя маразы, а тут толькі цярушыў рэдкі сняжок і трымаліся лёгкія замаразкі. Алаіза Сцяпанаўна памалу прывыкала да новага жыцця ў незнаёмым горадзе. Наведала канцылярыю ўніверсітэта і падала прашэнне, каб залічылі на філасофскі факультэт, але ёй адказалі, што прынята яна можа быць толькі з пачатку новага навучальнага года.

Не мелі поспеху і спробы паступіць на працу, праўда, знаёмы Сільвановіча — Петранюк, урач нейкай прыватнай бальніцы, абяцаў дапамагчы.

Каб дарэмна не марнаваць час, яна паступіла за невялікую плату ў тэатральную студыю, дзе слухала лекцыі па сцэнічнай мове, а вечарамі праседжвала ў бібліятэцы Асалінскіх.

Тут быў багацейшы збор разнастайнай літаратуры па гісторыі, этнаграфіі, фальклору Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Алаіза Сцяпанаўна зацікавілася вывучэннем гісторыі роднага краю і вуснай народнай творчасці. Кожны вечар у чытальнай зале бібліятэкі яна адкрывала для сябе невядомую старонку гісторыі Беларусі, поўную драматычнай барацьбы народа за незалежнасць і свабоду. Як ні вылузваліся са скуры польскія нацыяналістычныя і царскія афіцыйныя пісакі-гісторыкі, каб даказаць, што няма Беларусі і беларускага народа, Алаіза Сцяпанаўна ў іх жа даследаваннях знаходзіла многа вельмі цікавых матэрыялаў. Факты гісторыі сведчылі, што лепшыя сыны гэтага занядбанага краю былі патрыётамі, любілі свабоду і асвету, але часта іх веды і талент па розных прычынах станавіліся здабыткам суседніх культур.

Аднойчы Алаізу Сцяпанаўну чакала неспадзяванка. Пераглядаючы матэрыялы пра беларускі фальклор, яна натрапіла на кнігу Уладзіслава Вярыгі «Беларускія паданні», выдадзеную ў Львове ў 1889 годзе. Неўзабаве яна трымала ў руках тоненькі томік у палатнянай вокладцы. Пачала гартаць і натрапіла на казкі бабкі Югасі. Там былі казкі пра Юркупісара, ганарлівую варону, селяніна, што знайшоў залатую ступу...

«Дык гэта ж кніга таго вучонага, што прыходзіў з Верай Тацішчавай», — успомніла Алаіза Сцяпанаўна.

Даўно ўжо няма ў жывых бабкі Югасі, гадоў з дзесяць, калі не больш, спачывае яна пад крыжам, але яе казкі, простае і мудрае слова жыве...

* * *

Пашкевіч пакрысе абжывалася і прывыкала. У пачатку сакавіка Алаіза Сцяпанаўна паступіла на працу медыцынскай сястрой у гарадскую

бальніцу, — дапамог знаёмы Сільвановіча, урач Петранюк. Прыходзілася дзяжурыць тыдзень днём, а тыдзень — ноччу. Праца была вельмі дарэчы, бо грошы, якія яна ўзяла з сабою, разыходзіліся хутка. Заробак быў, вядома, невялікі, але на сэрцы стала весялей. Усё ж такі свае грошы, можна і ў тэатр схадзіць, і кнігу купіць...

Зрэдку прыходзілі весткі з радзімы. Бацька пісаў пра гаспадарскія навіны, калегі з Нова-Вілейскай лячэбніцы паведамлялі, што арыштавалі Сільвановіча і справа перададзена ў Віленскую судовую палату. Кожны ліст трывожыў сэрца. А з вясновымі днямі, калі львоўскімі вуліцамі пацяклі ручайкі і на бальнічным двары засвісталі шпакі, пацягнула дамоў. Хацелася хоць на дзень — другі заглянуць у Стары Двор, сустрэцца з віленскімі сябрамі, нагаварыцца ўдоваль, паслухаць родныя песні...

Так, зажурыўшыся, сядзела Алаіза Сцяпанаўна ў акне тым памятным вечарам, які прынёс новыя турботы і радасці, акрыліў да працы, надаў творчае натхненне. Час быў пасля вячэры, хворыя ўкладваліся спаць, на калідоры было ціха, і Пашкевіч на бальнічным бланку стала накідваць радкі верша:

Бягу думкай у край далёкі,
У лес цёмны, у лес высокі...

У гэты час з трэцяй палаты вышаў на мыліцах Пшанічны — пажылы чалавек з лысай галавой і доўгімі вусамі.

Алаіза Сцяпанаўна пазнаёмілася з Пшанічным месяц таму назад. Прынеслі яго ў палату з прастрэленымі нагамі, і ён доўга не мог устаць з ложка. Прайшоў адзін тыдзень, другі, але ніхто не прыходзіў адведваць хворага. Пашкевіч прыносіла яму кнігі з дому, купляла газеты, а потым сёе-тое з ежы: бальнічныя харчы былі вельмі слабыя...

— Гэта памылка, мабыць... Відаць, не мне перадача, — сказаў Пшанічны, калі Алаіза Сцяпанаўна першы раз прынесла ў палату скруткі з булкамі, каўбасой і яблыкамі, якія купіла за свае грошы.

— Вам, вам!

— А дзе гэты чалавек?! — усхапіўся хворы.

— Перадаў і адразу пайшоў.

Пшанічны, усхваляваны, разгарнуў скрутак. Відаць, ён шукаў запіскі. Яе не было.

Так было і назаўтра.

— Гэта, мабыць, вы, Алаіза Сцяпанаўна, мне купляеце, — пачаў здагадвацца Пшанічны.

А ўвечары на кватэру да Пашкевіч прыйшоў літовец Земрыбас.

— Я даведаўся, што вы працуеце ў бальніцы... Там ляжыць адзін наш чалавек... Пшанічны яго прозвішча, у трэцяй палаце... Трэба яму перадаць...

— О, дык я яго ведаю, — усміхнулася Алаіза Сцяпанаўна і расказала, што ніхто да яго не наведваецца і яе сэрца не вытрымала...

— Прывітанне вам, дзядзька Пшанічны, ад Земрыбаса і таварыша Ткачэнкі, — шапнула яна хвораму сёння, прыйшоўшы на дзяжурства, — Увечары, як лягуць усе спаць, пагаворым.

— Сапраўды?! — спалох і радасць адбіліся на твары старога, і ён паціснуў руку сястры. — Няўжо?

— Ціха, не хвалюйцеся.. Пасля ўсё раскажу.

І вось Пшанічны выйшаў з палаты, каб паслухаць навіны.

— Таварыш Земрыбас перадаў вам ліст ад Ткачэнкі і грошы, а так-



сама кнігі і газеты. Ён прасіў, каб вы пісьмо знішчылі, а кнігі і газеты вярнулі мне...

Хворы прабег вачыма пісьмо раз, другі, потым моцна паціснуў руку Алаізе Сцяпанаўне і прамовіў:

— Дзякуй, вялікае дзякуй вам, сястрыца!

Праз некалькі дзён Пшанічны, такім жа чынам атрымаўшы новую перадачу, падышоў да Алаізы Сцяпанаўны і сказаў:

— Сястра, я крыўдую на вас. Усё вы пра мяне ведаеце: што я граніцу пераходзіў і ранены быў, а вось не сказалі, што вершы самі пішаце... Мы іх мігам на друкарскі прэс, і вось вам кніга! Я па гэтых справах спец, будзьце ўпэўнены...

— Добра, я падумаю.

Прапанова была такая, што грэх было адмаўляцца. Як гэта было б дарэчы і прынадна надрукаваць тую кнігу і прывезці на Беларусь!.. І паэтэса стала збіраць чарнавікі і перапісваць лепшае. Як быць? Частку вершаў можна друкаваць смела. Гэта «Скрыпка», «Вам, суседзі», «Лета», «Восень», «Мае думкі», «Вера беларуса», «Мужык не змяніўся» і інш. Усяго дванаццаць вершаў. І назва добрая кладзецца: «Скрыпка беларуская», якраз такая, аб якой марыў Мацей Бурачок. Псеўданім таксама прыдатны — «Гаўрыла з Полацка», якім падпісвала вершы ў «Калядная пісанцы».

На дзяжурстве паэтэса паказала зборнічак Пшанічнаму.

— Не вельмі я разумею па-беларуску, але бачу, што добра, — адказаў той. — Проста і сардэчна! Толькі мала!

— Ёсць у мяне яшчэ некалькі вершаў, але яны для нелегальнага выдання. А дзіцячыя вершыкі і апавяданні я ў Пецярбург паслала, маюцца там нашы беларусы чытанку выдаць...

— А ну, паказвайце, што там у вас крамольнае... Дый чытанку мы можам тут адгрукаць... «Скрыпку» пусцім легальна, а другі зборнічак — тайком...

— А дорага каштаваць гэта будзе? — запытала Алаіза Сцяпанаўна і, задумаўшыся, дадала: — Хіба дамоў напісаць, каб падкінулі з сотню якую...

— Не, не вельмі дорага, — адказаў Пшанічны. — З паўсотні разам з папераю... Я ж не гаварыў вам яшчэ... Каб не мазоліць вочы львоўскай паліцыі, мае сябры падшукалі больш зацішнае месца. Ачуняю, дык паеду ў Жоўкву, у друкарню базыльянаў. Там у мяне ёсць свае хлопцы... Пастаў ім кварту-другую за фатыгу, дык справа пойдзе, як па масле...

Сваё слова стары друкар Пшанічны стрымаў. Выпісваючыся з бальніцы, ён захапіў з сабою рукапісы, а праз пару тыдняў наказаў праз Земрыбаса, што аўтарку чакаюць у Жоўкве.

Адразу ж пасля начнога дзяжурства Алаіза Сцяпанаўна накіравалася на вакзал і села ў прыгарадны цягнік, які ішоў у Раву-Рускую.

Ехаць прыйшлося нядоўга. Праз якую гадзіну паказаліся ў зеляніне дрэў маленькія белыя хаткі, над якімі ўзвышаліся касцёлы і вялікія змрочныя манастырскія муры. Гарадок яшчэ спаў, калі Алаіза Сцяпанаўна выйшла з вагона і накіравалася ціхімі вулічкамі, на якіх сям-там снавалі постаці манахаў у чорных сутанах. На пытанне, дзе друкарня базыльянаў, нейкі дзядзька, што ехаў у поле, паказаў пугаўём у бок касцёла з зялёным дахам.

Шукаць доўга не давялося. За касцёлам пачыналіся манастырскія будыніны, якія ўпіраліся ў старадаўнюю трохпавярховую камяніцу невыраз-

най архітэктуры. Праз адчыненыя вокны даносіўся характэрны грукат друкарскіх машын і відны былі штабялі кніг.

Дзядзька Пшанічны ў скураным фартуху завіхаўся ля нейкай машыны, калі Алаіза Сцяпанаўна ўвайшла ў вялікі змрочны пакой друкарні.

— О, які ранні госць! — узрадаваўся стары друкар. — Хадзем да мяне. Там пагаворым...

У маленькім пакойчыку Алаіза Сцяпанаўна сядзела над праўкай карэктуры «Скрыпкі беларускай».

— Ну, а вось і «Хрэст на свабоду», — прынёс Пшанічны яшчэ мокрыя адбіткі.

Пасля паўдня Алаіза Сцяпанаўна вярталася дамоў. На сэрцы была незвычайная радасць і ўзбуджанасць. Праз тыдняў пару будуць кнігі... Як жа іх пераправіць на радзіму? А што, каб самой паспрабаваць з'ездзіць дамоў?..

У вагоне людзей было мала, і Алаіза Сцяпанаўна дастала з сумачкі адбіткі і пачала разглядаць. Трапіліся на вочы словы з верша «Мае думкі»:

Думаць усюды аб народзе,
Родны край усюды сніць...

Цягнік імчаў між зялёных пагоркаў і пералескаў, і шырокія неаглядныя далі раскрываліся перад вачыма...




**Алесь ВЕЧАРКОЎ**

# НА ЗАВОДЗЕ ШКЛЯНОГА ВАЛАКНА

## РЭПАРТАЖ

Некалі людзі можа здзіўляліся гэтак жа, калі вучоныя ўпершыню са звычайнага сыпучага пяску здабылі шкло, без якога сёння мы не ўяўляем нашы штодзённыя будні жыцця.

У наш час стала вядома аб новых, здзіўляючых здагадках чалавечага розуму. Са шкла — валакно, мяккія, як шоўк, ніткі, толькі куды больш тонкія і трывалыя за шаўковыя і за ўсякія, што вырабляюцца з арганічных матэрыялаў. Шкляное валакно мае шмат пераваг перад усімі іншымі арганічнымі тканінамі, якія ведала дагэтуль вытворчая практыка.

Шкляная тканіна не гарыць, не мокне, валодае добрымі тэрмаізаляцыйнымі якасцямі. Вельмі пругкае і трывалае шкляное валакно выкарыстоўваецца ў самых разнастайных галінах тэхнікі — у электрапрамысловасці, авія- і суднабудаванні, у металургіі і транспартным машынабудаванні. Больш тонкіх валокнаў, чым шкляныя, тэхніка не ведае. Шклянымі ніткамі абгортваюцца кабель і правады; са шклянога валакна можна вырабляць ізаляцыйныя пліты, сухую тынкоўку, кузавы для аўтамабіляў і г. д.

Вытворчасць шклянога валакна — самая маладая галіна прамысловасці. Першы завод па вырабу шклянога валакна ў нас пачаў дзейнічаць у Гусь-Хрустальным пятнаццаць год таму назад.

...У Полацку, у цэнтры горада, над Дзвіной, узвышаецца прыгожы чатырохпавярховы будынак, яшчэ не поўнасцю вызвалены ад рыштаванняў. На пляцоўцы яшчэ грукочуць бульдозеры, завіхаюцца будаўнікі. Але над гмахам разносіцца зычны голас сірэны, і людскі паток запаўняе прасторны, яшчэ не прыбраны заводскі двор, шумна расцякаючыся па зацішных полацкіх вуліцах.

Новы, з вялізнымі светлымі вокнамі гмах над Заходняй Дзвіною, дзе безупынна, як хвалі прыбою, рытмічна шумяць машыны, — гэта Полацкі завод шклянога валакна, дзецішча шостай пяцігодкі. Завод толькі нарадзіўся. Яшчэ ідзе поўным ходам мантаж абсталявання, не закончана ўнутраная адстройка корпуса, але жыццё завода віруе, струменіць крыніцай.

Знаёмства наша з заводам пачалося ў кабінеце дырэктара, маленькім пакойчыку жылога дома, дзе пакуль што размясцілася заводакіраўніцтва. Аляксей Піліпавіч Чудзінаў, паказваючы нам першы ўзор сваёй прадукцыі — прыгожы намотак пераліўчатасерабрыстых нітак, — коратка расказаў пра новае прадпрыемства, пра яго першыя крокі. Потым прапанаваў:

— А лепш за ўсё ідзіце ў цэхі, паглядзіце самі, што і як...

Па дарозе нам сустрэлася сакратар заводскага камітэта камсамола Аляксандра Чаховіч. Яна прызналася, што сама яшчэ не зусім добра вывучыла вытворчасць, бо толькі нядаўна прыйшла з гаркома, дзе дагэтуль працавала. Тым не менш адразу ж пачала цікава расказваць пра завод, пра яго перспектывы, пра заводскіх камсамольцаў. Ужо цяпер на заводзе больш шасцісот членаў ВЛКСМ. А колькі будзе праз год, калі прадпрыемства пашырыцца ўдвая!

Аляксандра Чаховіч ахвотна пайшла з намі і папрасіла пачаць з цэха электрапечаў, дзе, уласна, і адбываецца працэс ператварэння невялічкіх зеленаватых шкляных шарыкаў у танюсенькія серабрыста-белыя валокны, накшталт шаўковых ці віскозных нітак.

У прасторным светлым цэху ў тры рады стаяць вялікія ацынкаваныя жалезам агрэгаты. Над імі — спляценні правадоў, разнастайных трубак... Сярод іх — невялікія каробачкі-прамавугольнікі з узнятымі ўгару латкамі-коўшыкамі. Гэта і ёсць электрапечы. Ля іх гаспадараць дзяўчаты-аператары ў сініх халатах з закасанымі вышэй локцяў рукавамі, праворна перахопліваючы тонкія, малочнабелыя струменьчыкі, якія, нібы павуціна, выцягваюцца з палаючага электранагравальніка, у адзін пучок-нітку і накіроўваюць яе ўніз, на бабіну, якая прымацавана тут жа, пад рукамі. І на вачах таўсцее серабрыстая намотка нітак... Але вось нітка абарвалася, дзяўчына націскам кнопкі спыніла шпулю, а сама спецыяльнай палачкай дакранулася да палаючай ружовай палоскі ў печы, левай рукой спрытна падхапіла мяккую цёплую нітку, накінула на шпулю, і зноў лагодна паплыло бясконцай ніткаю серабрыстае валакно... Здаецца, усё проста і лёгка. Але гэта на першы погляд, калі глядзіш збоку, не ўнікаючы ў складаны працэс нараджэння шкляной ніткі.

Аляксандра Чаховіч пазнаёміла нас з начальнікам цэха Іванам Януковічам, тэхнолагам Тадэушам Казелам, начальнікам змены Алай Бразгоўскай. Усе яны — ветэраны завода, прыйшлі ў цэх год назад з дыпломамі выпускнікоў Мінскага політэхнічнага інстытута. Пазней мы даведаліся, што іх з політэхнічнага ў гэтым галоўным цэху аж восем чалавек. І Лена Гваздзёва, і Вольга Грак, і Фаіна Качур, і Соня Кармазінава, і Мікола Ананіч, які прыбыў на завод крыху пазней, дазнаўшыся, што яго аднакурснікі на заводзе занялі камандныя вышыні, — усе яны прынеслі з сабой у новы, толькі што народжаны рабочы калектыў невычэрпны запал маладосці, неўтаймаваную прагу творчасці і дзярзання.




Аператар Ядзя Варапаева.

З кім ні пагутарыш — усе яны, маладыя інжынеры, натхнёна расказваюць пра цэхавыя будні, пра сваю справу, якую паспелі палюбіць і, напэўна, зрадніліся з ёю назаўсёды. Нашай спадарожніцай і кансультантам аказалася начальнік другой змены цэха Ала Бразгоўская, спакойная, цёмнавокая дзяўчына ў простай, як у многіх заводскіх работніц, штапельнай хусцінцы ў гарошынку і ў рабочым халаце, з-пад якога прыгожа выглядаў свежы бэзавы каўнерык кофтачкі. Ала спачатку гаварыла нясмела, бянтэжылася, а потым хутка асвойталася і ўсё з большым гонарам расказвала пра свой завод, сваіх новых заводскіх сяброў.

З дапамогай Алы мы неўзабаве дазналіся пра тэхналагічны працэс вырабу шклянога валакна. Паўтараем, на першы погляд гэты працэс не складаны. У спецыяльныя электранагравальныя печы засыпаюцца шкляныя шарыкі вагою па 9—10 грамаў. Гэтыя шарыкі выпрацоўваюцца на простых аўтаматах на заводзе ў Гусь-Хрустальным з бясшчолачнага барасілікатнага шкла.

Перад закладкай шарыкі старанна прамываюцца ў гарачай вадзе. Унутры электрапечы ёсць спецыяльныя награвальнікі-лодачкі, зробленыя са сплаву плаціны і родзія, куды трапляюць тры — чатыры шарыкі. Праз папярэчнае сячэнне награвальніка праходзіць электрычны ток пад напружаннем 3—4 вольты (сіла току 2—3 тысячы ампер). У плавільным сасудзе ёсць 104 фільеры — нябачныя адтуліны, праз якія цячэ расплаўленае шкло, праходзіць праз замасліваючы апарат і ператвараецца ў танюсенькія валаконцы будучай шкляной ніткі.

Такім чынам, нітка, якая намотваецца на бабіну, утварылася з ста чатырох танюсенькіх валокнаў, таўшчыня аднаго 5—6 мікрон (мікрон — тысячная доля міліметра). З аднаго шарыка атрымліваецца 1,5—1,7 кіламетра ніткі, скручанай з ста чатырох валаконцаў. Каб яны добра і раўнамерна склейваліся ў адну нітку, пад фільерамі ўстаноўлены так званы замасліваючы апарат, у які паступае спецыяльная эмульсія, якой змочваюцца шкляныя валокны.

Норма валакна з адной печы ў змену — 6 кілаграмаў. Але многія маладыя работніцы-аператары ўжо сёння здымаюць значна больш. У цэху ўстанаўліваюцца новыя, высокапрадукцыйныя агрэгаты, якія дазволяць значна павысіць прадукцыйнасць працы. У

калектыве з кожным днём шырыцца спаборніцтва за тое, каб дамагчыся запланаванай магутнасці завода — 950 тон шклавалакна ў год.

Электрацэх сёння працуе яшчэ не на поўную магутнасць. У чэрвені дзейнічала пакуль што сорак электрапечаў, а к канцу года будзе 121 печ. І спецыялісты, і рабочыя заняты думкай: хутчэй змантыраваць усе агрэгаты і забяспечыць іх высокапрадукцыйную работу.

Аператар — чалавек, які кіруе працэсам выплаўлення валакна са шкляных шарыкаў. Аператары на Полацкім заводзе — гэта пераважна маладыя дзяўчаты, якія год — два таму назад прышлі са школьнай парты. Вельмі многія з іх маюць атэстат сталасці. Першая партыя аператараў, як і рабочыя іншых спецыяльнасцей — снавальшчыцы, круцільшчыцы, ткачыхі, — вучылася ў Гусь-Хрустальным, у лепшых шклавікоў краіны, якім належыць гонар першаадкрывальнікаў неарганічнага валакна.

І вось гэтыя самыя дзяўчаткі, якія год назад былі самі вучаніцамі, з поспехам авалодалі сакрэтам ператварэння звычайных шкляных шарыкаў у мяккае, бліскучае валакно.

Ля адной з печаў завіхаецца танклявая, цёмнавалосая дзяўчына. Рухі яе прадуманыя, позірк сканцэнтраваны. Уся ўвага накіравана на апаратуру, дзе плавіцца шкло, адкуль бясконцым ледзь бачным струменем цячэ валакно. Знаёмімся з дзяўчынай. Гэта Галя Ракіціна. Камсамолка, як і большасць дзяўчат-аператараў. Скончыла дзесяцігодку. Адразу выбрала для сябе шлях — на завод. Любіла фізіку і хімію. І цяпер не раскайваецца, што пайшла ў электрацэх, — веды вельмі прыгадзіліся. Яна адна з першых у цэху авалодала сваёй спецыяльнасцю. Цяпер сама мае двух вучаніц — Рэню Крупенчык і Галю Кісялёву, якія з вячэрняй школы толькі што прышлі ў цэх. Усё, што для Галі Ракіцінай цяпер проста і зразумела, для яе новых сябровак — складаная справа. «Нічога, дзяўчаткі, — супакойвае іх маладая настаўніца. — Пройдзе месяц — два, і вы будзеце разбірацца не горш за мяне».

Слухае гэтую размову дзяўчат Ала Бразгоўская і цёпла, шчыра ўсміхаецца. Ці даўно было, што гэтая ж Галя надакучала інжынеру самымі простымі, дробязнымі пытаннямі, ці даўно яна гублялася перад гэтай новай машынай? А сёння яна вучыць такіх, якой была сама ўчора. Сёння і Галя — адна з прыкладных, старанных аператараў — правафлангавых на заводзе. З такімі людзьмі працаваць лёгка, за іх можна смела па ручыцца, што не падвядуць, што вытрымаюць самыя цяжкія выпрабаванні.

Ала — сакратар камсамольскага бюро ў цэху, і яна заўсёды цікавіцца, чым жывуць яе камсамольцы, якія ў каго планы на будучае, якое каму даць даручэнне, каб было яно па душы. Набліжаецца канец змены, і камсорг абыходзіць цэх, цікавіцца, у каго якая выпрацоўка, напамінае, што заўтра — збор заводскага хору і дзяўчаты не павінны падвесці. Хутка слаўны юбілей — 40-годдзе Ленінскага камсамола, таму ва ўсіх вялікі клопат — прынесці на свята свае працоўныя падарункі, даць краіне больш шклавалакна.

Ала ідзе да другога агрэгата, акідвае позіркам грудкі шпулек серабрыстага валакна, кранае за плячо дзяўчыну і пытае:

— Колькі ў цябе сёння, Ядзя?

— Кілаграмаў дзесяць, напэўна, — з усмешкай адказвае Ядзя Варапаева.



— А ў цябе, Франя?

Франя Сочнева ўспыхвае макам, сарамліва апускае вочы:

— У мяне мала — кілаграмаў восем...

— Чаму ж гэта? — заклапочана перапытвае Ала Бразгоўская і ўважліва выслухоўвае тлумачэнне маладога аператара, а потым раіць, як і што зрабіць, каб павысіць прадукцыйнасць працы.

Ядзя Варапаева дала слова ў гонар 40-годдзя ВЛКСМ здымаць па 10—12 кілаграмаў валакна. І па яе пачыну разгарэлася полымя спаборніцтва ў цэху. У яе адразу знайшліся паслядоўнікі — Галя Ракіціна, Валя Нясон, Марыя Калужонак, Надзя Зелянкова, Клава Севасцянава, Ларыса Сівая. Упэўнена дамагаецца тэмпаў і Франя Сочнева. Не можа яна дапусціць, каб не дагнаць сяброўку. Хіба ў Франі рукі не такія?.. Дагоніць, абавязкова дагоніць, дайце ёй толькі час!

Ала размаўляе з дзяўчатамі, што нясуць цяжкую вахту ля электрапечаў, а ў самой у галаве віруе думка: як бы гэта хутчэй дамагчыся, каб на новым агрэгаце адзін рад (тры печы) абслугоўвалі не тры, як цяпер, а адзін аператар. Ці хутка гэта будзе? Інжынер пераконана, што хутка. З такімі людзьмі, як гэтыя дзяўчаты-аператары, неўзабаве можна будзе перайсці на паточны метад абслугоўвання электрапечаў. Гэта блізкая задача заўтрашняга дня.

Можна было б шмат яшчэ расказваць пра гэты, бадай, галоўны цэх, пра яго людзей — аператараў, наладчыкаў, электрыкаў, кантралёраў, якія, нібы чарадзейнікі, на вачах ператвараюць шкло ў шаўкавістае валакно. Але наперадзе — яшчэ тры цэхі, праз якія праходзіць свой шлях толькі што атрыманая шкляная ніць.

... Серабрыстыя бабіны з ніткамі перадаюцца на паверх ніжэй — у размотачна-круцільны цэх. Працаўнікі-машыны ператвараюць валакно ў пражу. Скручванне шкляных нітак робіцца ў прынцыпе так, як і ваўняных ці шаўковых, але крутка значна меншая. Пража вырабляецца рознай таўшчыні, якая патрэбна заводу.



Праборшчыцы Мая Дабрасельцава і Зоя Цімошына.

У размотачна-круцільным цэху адбываецца перапрацоўка валакна. Гэта — адказны ўчастак. Трэба няспынна сачыць за якасцю, асабліва на падрыхтоўцы так званай таварнай пражы. Пры нязначным недаглядзе за машынай можа выйсці брак. Дастаткова сказаць, што за змену норма гэтай пражы — 4,5 кілаграма. І ў гэтым цэху шмат перадавікоў, людзей, якія ўмеюць узяць ад машыны ўсё, што можна. Камсамолка Святлана Шведава на падрыхтоўцы таварнай пражы выконвае заданне на 140 працэнтаў. Ёсць усе падставы меркаваць, што яна дасягне

новых паказчыкаў, як Яўгенія Сударава і іншыя лепшыя работніцы цэха. Змаганне ідзе за тое, каб выконваць за змену дзве нормы, не зніжаючы якасці прадукцыі.

Наступны этап, які праходзіць валакно,— гэта падрыхтоўчы цэх, дзе з нітак робяць аснову і ўток для ткацкай вытворчасці.

— Наш цэх,— расказвае стары тэкстыльшчык Уладзімір Канстанцінавіч Разумоўскі,— самы малалікі, але вельмі важны на заводзе. — Потым, паказваючы сваю гаспадарку, начальнік цэха дадаў: — Я назваў бы наш цэх сэрцам завода...

У гэтых словах, між іншым, вялікая доля праўды. Каб зрабіць з тых намотаных на пачаткі нітак тканіну, з іх трэба перш за ўсё зрабіць сноўку — пераматаць на вялікі навой. Сноўка робіцца згодна зададзенаму разліку, з адпаведнай мэтай. Затым сноўка, накручаная на навоі, перадаецца на праборны станок, дзе заканчваецца падрыхтоўка асновы. Самая адказная аперацыя ў падрыхтоўчым працэсе — сноўка. Вельмі важна, каб пры сноўцы кожная нітка нацягвалася з аднолькавай трываласцю, зусім нязначнае адхіленне ад нормы вядзе да браку. Справа ў тым, што шкляное валакно мае сваю асаблівасць — яно дае зусім нязначную пругкасць у параўнанні з валакном арганічнага паходжання.

Уладзімір Канстанцінавіч паведаміў, што над гэтым пытаннем моцна задумаліся цэхавыя рацыяналізатары. Яны ўжо сёе-тое зрабілі. Памочнікі майстра Віктар Барзоў і Сяргей Котаў разам з токарам А. Вераценнікавым удасканалілі лінейку на снавальнай машыне. Мяркуецца ў хуткім часе ўдасканаленне шпулярніка. Усё гэта паспрыяе аблягчэнню карпатлівай працы снавальніц.

Як і на іншых участках, у падрыхтоўчым цэху ўсю працоўную нагрузку нясе моладзь. Завод ужо ганарыцца многімі маладымі работніцамі, якія грунтоўна авалодалі новымі спецыяльнасцямі і дамагаюцца высокіх вытворчых паказчыкаў.

— Абавязкова адзначце Кучміну Валю,— наказвае на развітанне Уладзімір Канстанцінавіч.— Гэта наша выдатная праборшчыца. Апроч таго, авалодала сумежнай спецыяльнасцю — снавальшчыцы. Не забудзьце ўпамянуць і Ніну Шэндаль, і Марыю Шымко, і Зою Цімошыну, і Вікторыю Васіленка... Залатыя рукі ў дзяўчат. З імі і працаваць у ахвоту — нават забываеш, што цябе гады клічуць на пенсію!..

... Мы яшчэ ні слова не сказалі пра наступны цэх — ткацкі. Тут асабліва наглядна бачна, якая гэта перамога нашай айчыннай навукі — вырабіць са шкла валакно!

Вялізны, на ўвесь паверх корпуса ткацкі цэх застаўлены невялічкімі, зграбнымі машынамі-варштатамі. Іх — шмат, стаяць, напэўна, не меней, як у дзесяць радоў. Пры кожнай — засяроджаныя дзяўчаты-ткачыхі. У шуме і грукаце не чуваць, як час-ад-часу яны коратка перагаварваюцца адна з другою, нешта паказваюць суседка суседцы і зноў моўчкі назіраюць за работай машын.

У цэху грукат, здаецца, аж вокны дрыжаць. Але адсюль выходзіць не хочацца. Можна гадзінамі назіраць, як увішна ходзіць механічнае бёрда, сплятаючы мяккія беласнежныя ніткі, на вачах утвараючы стужку шаўкавістага палатна. Стужка павялічваецца і марудна спадае ўніз, укладваючыся хвалістымі складкамі. Возьмеш у рукі гэтую тканіну — ніяк не можаш паверыць, што яна са звычайных, празрыстага колеру шкляных шарыкаў, якія, калі іх засыпаць у бункер электрапечы, нагадваюць недаспелы вінаград... Самы звычайны штапель, толькі больш бліскучы, з яркім серабрыстым адлівам.



Вышэй ужо гаварылася, што гэтая тканіна ідзе на тэхнічныя патрэбы. Падкрэсліваем, яна незамянімая ў шмат якіх галінах прамысловасці і будаўніцтве. Патрэбнасць у ёй расце з кожным днём. Недалёкі той час, калі асартымент шкляной тканіны будзе значна пашыраны. Нездарма партыя заклікае народ прыняць актыўны ўдзел у развіцці вялікай хіміі.

... Уздым незвычайнай творчай актыўнасці, гарачы працоўны энтузіязм пануе ў маладым калектыве новага завода ў горадзе над Заходняй Дзвіной. У тыя дні, калі мы хадзілі па яго цэхах, гутарылі з рабочымі, з камсамольскімі актывістамі, разгортвалася дзейсная падрыхтоўка да 40-годдзя БССР і слаўнага юбілею Ленінскага камсамола. Кожны рабочы, кожная брыгада і змена ўзялі абавязацельствы, і спаборніцтва набыло належны размах.

Аператар Франя Сочнева.
Фота А. Дзітлава.



Па выніках спаборніцтва за чэрвень пераходны Чырвоны сцяг забралі да сябе ткачы. Як начальнік цэха Лідзія Іванаўна Верына, так і ўсе камсамольцы перакананы, што сцяг будзе ў іх, яны яго не выпусцяць са сваіх рук.

Новы завод у Полацку яшчэ перажывае працэс станаўлення. Шмат якія цяжкасці перашкаджаюць нармальнай працы. Але гэта цяжкасці росту. І яны хутка будуць пераадолены. І заданне партыі — даць 950—1000 тон валакна ў год — будзе выканана з гонарам. Пра гэта нам гаварылі і рабочыя, і дырэктар завода, і тыя ж камсамольскія актывісты Аляксандра Чаховіч і Ала Бразгоўская, з якімі нам давялося зрабіць незабыўнае, цікавае падарожжа па заводу.

— Прыязджайце да нас праз год,— шчыра запрашалі нас на развітанне полацкія тэкстыльшчыкі з радасным бляскам у вачах.— У нас будзе свой Палац культуры, яшчэ адзін вытворчы корпус, новыя жылыя дамы...

Такія слаўныя людзі, як на заводзе шклянога валакна, зробяць усё, што задумалі, на што заклікае іх родная Камуністычная партыя.

**Алег ЛОЙКА**

# ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК І БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ПАЭЗІЯ

Тое, аб чым марыла працоўнае чалавецтва, за што змагаліся пакаленні рэвалюцыянераў, здзейснілася з перамогай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Геній вялікага Леніна, мужнасць і самаадданасць пралетарыяту, бяднейшага сялянства і ўсіх прагрэсіўных сіл Расіі разбілі аковы капіталізма, упершыню ў гісторыі пакончыўшы з эксплуатацыяй, з палітыкай дыскрымінацыі правоў чалавека. На шырокую дарогу сацыяльнага, палітычнага, культурнага прагрэсу выйшлі ўсе народы былой царскай Расіі, у тым ліку і беларускі. Пры братняй падтрымцы вялікага рускага і іншых народаў СССР за гады савецкай улады Беларусь з адсталай паўкаланіяльнай ускраіны ператварылася ў квітнеючую сацыялістычную рэспубліку.

Вялікі Кастрычнік адкрыў новую старонку ў гісторыі беларускай літаратуры. І тым ярчэйшай выглядае яна, калі параўноўваеш яе з літаратурай пярэдадня рэвалюцыі.

Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч, З. Бядуля, Ц. Гартны, А. Гурло, Я. Журба, К. Буйла — вось амаль і ўсе пісьменнікі дакастрычніцкай Беларусі. А поруч, як красамоўны доказ вызваленчай сутнасці Кастрычніка, як паказчык духоўнага росквіту разняволенага рэвалюцыяй народа, — масавыя літаб'яднанні 20-х гадоў, сённяшні Саюз пісьменнікаў Беларусі, які налічвае каля 200 пісьменнікаў-прафесіяналаў.

Тры зборнікі вершаў Я. Купалы, адзінкавыя зборнікі Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, напоўненыя песнямі жальбы аб горкай долі беларуса-мужыка, гнеўным пратэстам супраць паднявольнага жыцця, — такою была дакастрычніцкая беларуская лірыка. І поруч, як сведчанне росквіту талентаў беларускага народа пасля рэвалюцыі, — дзесяткі і дзесяткі зборнікаў беларускіх савецкіх паэтаў, радасныя песні аб шчаслівым, сонечным жыцці калгасніка, аб індустрыяльнай магутнасці рэспублікі.

Пачаткі эпічнай паэзіі ў Я. Купалы, Я. Коласа да рэвалюцыі — і поруч, пасля Кастрычніка, росквіт эпічнага таленту Я. Коласа, паэмы Я. Купалы, М. Чарота, А. Куляшова, З. Астапенкі, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Звонака, А. Александровіча і інш.

Вобраз мужыка, рэалістычныя малюнкі дакастрычніцкай беларускай вёскі і горада, поўныя рэвалюцыйнага адмаўлення тагачаснай рэчаіснасці, — такім быў ідэйна-мастацкі пафас перадавой беларускай дакастрычніцкай паэзіі. І поруч, як вынік мудрай ленінскай нацыянальнай палітыкі, клопатаў партыі аб няспынным росце матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных СССР, — беларуская савецкая паэзія сённяшняга дня, адзін з перадавых атрадаў усёй савецкай паэзіі, пафас якой — ва ўслаўленні новага жыцця, у адкрытым стаўленні да будаўніцтва камунізма, да выхавання камуністычнай маралі, у жыццесцвярджальным гучанні, у яркіх рэалістычных фарбах.

Саракагадовы юбілей сацыялістычнай Беларусі, на парозе якога яна стаіць, — гэта свята і народжанай рэвалюцыяй беларускай савецкай паэзіі. Сённяшні яе юбілей — багаты юбілей.

Паэма Я. Коласа «Новая зямля» — векапомная, усеабдымная аповесць аб дакастрычніцкім сялянстве Беларусі; напоўненая музыкай жыцця паэма «Сымон-музыка» — твор аб таленце з народа, аб антынароднасці эксплуататарскага ладу; манументальная «Рыбакова хата» — эпічная песня аб уз'яднанні беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве; прасякнутая высакародным гневам, нянавісцю да нямецка-фашысцкіх захопнікаў лірыка паэта перыяду Вялікай Айчыннай вайны і шматлікія іншыя вершы, — падымаючы ўсё гэта сёння, мы ганарымся геніем Я. Коласа, а тое, што ўсе велічныя творы паэта напісаны ў савецкі час, красамоўна сведчыць аб тым, што толькі Вялікаму Кастрычніку абавязаны мы росквітам коласаўскага таленту.

Толькі ў савецкі час па-сапраўднаму расквітнеў і талент Я. Купалы. Радасна-ўзнёслы верш «Арлянятам», песенна-лірычнае «Безназоўнае», прасякнутыя пафасам стваральнай працы паэма «Над ракой Арэсай», вершы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», «Песня будаўніцтву», «Лён», высокапатрыятычныя вершы часоў Вялікай Айчыннай вайны — «Партызанам», «Паўстаў народ...», «Грабежнік» — усе яны ўвайшлі ў залаты фонд нашай паэзіі.

З глыбокім хваляваннем перачытваем мы зараз вершы і паэмы М. Чарота, П. Труса, Ул. Хадыкі, З. Астапенкі, з пашанай азіраемся на шляхі, пройдзеныя паэтамі старэйшага пакалення. Сатырычныя вершы і паэмы К. Крапівы; паэмы «Праз горы і стэп», «Кацярына», «Беларусь», «Хлеб» і вершы П. Броўкі; «Матчыны казкі», «Мужнасць», «У тыя дні» П. Глебкі; лепшыя вершы А. Звонака, М. Хведаровіча, А. Александровіча — усё гэта несумненны, каштоўны ўклад у нашу паэзію.

Радуемся мы сёння паэзіі А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі. Паэмы А. Куляшова «Сцяг брыгады», «Толькі ўперад», «Грозная пушча»; зборнікі вершаў М. Танка «Каб ведалі», «На камні, жалезе і золаце», «У дарозе», «След бліскавіцы»; «Іранскі дзённік», «Патрыятычная песня» П. Панчанкі, яго вершы ў абарону міру, сатырычна завостраныя творы — усё гэта жамчужыны нашай паэзіі, бляск якіх бачны далёка за межамі Беларусі.

Аднак карціна застанецца недамаляванай, калі не адзначыць усёй разнастайнасці стыляў, творчых почыркаў стваральнікаў нашай паэзіі.

Паэзія Я. Коласа ўзнікае перад намі як велічны эпічны жывапіс, спалучаны са спакойнай плынню задумённага, класічнага верша, з нахілам да філасофскага роздуму, з пушкінскім уменнем уздымаць самыя будзённыя факты да ўзроўню паэзіі, ці то ўводзячы іх у сілавое поле вялікага лірычнага напружання, ці то з мудрай усмешкай пазіраючы на іх.

Іншае абліччa паэзіі другога «песні беларускай уладара» — Я. Купалы. Гэта — рамантычны, песенна-былінны эпас, палымяная, тэмпераментная песня, заклік, зварот, роздум, якія спалучылі ў сабе багацце паэтыкі беларускага фальклора з невычэрпнай артыстычнай фантазіяй паэта. Лірызму купалавай песні спадарожнічае вострае адчуванне драматычнага і яшчэ ўсмешка — дабразычлівая або гнеўная.

Зусім з іншага боку раскрыў нацыянальны характар беларуса К. Крапіва, стыхія таленту якога — сатыра. У байках, вершах, паэмах Крапівы скрозь пануе сялянскі саланаваты гумар. Смех Крапівы — гэта смех, які ў імя сацыялістычнага ідэалу бязлітасна б'е ўсё, што перашкаджае руху наперад.

І як не падобны да сатыры К. Крапівы нястрымны каскад эпічнай паэзіі М. Чарота, які, бурна пенячыся, грукочa, грыміць, сцвярджаючы веліч непераможнай сілы — паднятых рэвалюцыяй на барацьбу мільённых працоўных мас.

А поруч з паэзіяй Чарота — разліў натхнёных песень П. Труса. Вобразамі, гучаннем, глыбінёй і цеплынёй закладзенага ў іх пачуцця яны як бы судакранаюцца з музыкай, падобна ёй дасягаючы самых патаемных глыбінь чалавечае душы.

Па-іншаму высакародную задачу паэта здзяйсняе П. Глебка. Яго разумны, багаты культураю верш, нібы адшліфаваны камень, цешыць вока; ён узбагачае розум і сэрца.

Сваёй дарогай ідзе ў паэзіі П. Броўка, напаўняючы верш публіцыстычным пафасам, спалучаючы пластычнасць паказу з народна-песеннымі вобразамі, інтанацыямі, супрацьпастаўляючы мудрагелістай вычурнасці яснасць думкі, прастату форм.

А поруч — Аркадзь Куляшоў, талент лірычнага складу, увесь у імкненні паказваць жыццё чалавека ў найвышэйшых момантах яго праяўлення. У спалучэнні двух пачаткаў — уласна лірычнага і эпічнага, якое ідзе ад жадання раскрываць рэчаіснасць цераз падзеі і характары, — у гэтым унутраная своеасаблівасць паэзіі А. Куляшова. Гэта — арганічны сплаў манеры апавядальніцкай з традыцыямі вуснай паэзіі.

Поўнаю рамантычнага пафасу, жаданнем не прамінуць высакароднага, гераічнага, увекавечваючы кожнае іх праяўленне, узнікае перад намі лірыка М. Танка. Яна, неабсяжная кругаглядам, крыштальная чысцінёй пачуццяў, надзвычай багата выяўленчымі сродкамі, выключная па прыгажосці форм.

А побач з ёю — усхваляваная, глыбока эмацыянальная лірыка П. Панчанкі, адметная своеасаблівым лірычна-іранічным позіркам на рэчы.

Яркія, арыгінальныя галасы М. Лужаніна, А. Зарыцкага, А. Вялюгіна, К. Кірэенкі, В. Віткі, С. Грахоўскага, А. Бялевіча і іншых паэтаў — усё гэта таленты добрыя і розныя.

Багатая і шматгранная тэматыка нашай паэзіі. Але ёсць у ёй адна тэма, якая як бы ў адзін вузел звязвае ўсе, — тэма Вялікага Кастрычніка. І гэта таму, што ў



цэнтры нашай паэзіі — жыццё савецкага чалавека на савецкай зямлі, а ў нас няма сёння ніводнага кутка, дзе б свой адбітак абнаўлення не паклала рэвалюцыя, ніводнага сэрца, якое б не жыло ідэямі Кастрычніка.

Арганічна звязаная з усёй тэматыкай савецкай паэзіі, тэма Кастрычніка, аднак, вылучаецца і як асобная, як імкненне нашай літаратуры асэнсаваць і вобразна раскрыць сутнасць велічных кастрычніцкіх падзей і чалавека, які перамог на барыкадах рэвалюцыі.

Для беларускай літаратуры яна — тэма дзяржаўнасці, упершыню ў гісторыі атрыманай беларускім народам з рук савецкай улады, тэма барацьбы беларускіх рабочых і сялян пад кіраўніцтвам бальшавікоў за Саветы ў Петраградзе, Маскве, Беларусі, на франтах грамадзянскай вайны, барацьбы ў саюзе з вялікім рускім і іншымі народамі былой царскай Расіі.

Вось ужо 40 гадоў, як яна ў цэнтры ўвагі беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Яны прысвяцілі ёй свае лепшыя творы, і не знойдзеш у нас паэта, якога б не ўсхвалявала яна. Гэта і не дзіўна: народ вуснамі сваіх песняроў услаўляе дзень, які пачаў яго новае, шчаслівае жыццё, які адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва.

Мы можам толькі ганарыцца, што лепшыя творы лепшых нашых паэтаў — якраз аб Кастрычніку, аб Леніне — правадыры рэвалюцыі, аб яе барацьбітах.

Азіраючыся сёння на пройдзены нашай паэзіяй шлях, бачыш, як многа зроблена, колькі добрых і розных талентаў сплятала вянок славы Кастрычніку і наколькі ў даўгу яшчэ нашы паэты перад велічнай тэмай эпохі.

Адной з першых спроб мастацкага асэнсавання і адлюстравання Кастрычніка была ў нас так званая масавая паэзія перыяду грамадзянскай вайны.

Для гэтай паэзіі рэвалюцыя, барацьба за перамогу былі самім жыццём, у якім яна — паэзія — была зброяй і лозунгам.

Адгрымелі баі на барыкадах рэвалюцыі, на франтах грамадзянскай вайны, і падзеі рэвалюцыі, гераічная барацьба народа ўжо станавіліся для літаратуры гісторыка-рэвалюцыйнай тэмай. Але калі б ні падымалі яе паэты, яны заўсёды ўспрымалі яе як надзённую, вырашалі яе ў сувязі з тымі гістарычнымі зменамі, якія адбываліся ў нашай краіне на працягу яе саракагадовай гісторыі.

З усёй сілай свайго паэтычнага таленту ўславіў веліч Кастрычніка, рамантыку рэвалюцыйных баёў М. Чарот. Яго паэма «Босыя на вогнішчы» была апублікавана да чацвёртай гадавіны Кастрычніка.

«Босыя на вогнішчы» — гэта ўсхваляванае эпічнае апавяданне аб падзеях рэвалюцыі і грамадзянскай вайны на Беларусі, трыумфальная песня Кастрычніку, палымяны заклік не спыняцца ў дарозе да поўнай перамогі ідэалаў рэвалюцыі.

Другая паэма М. Чарота «Ленін» — адна з першых спроб стварэння вобраза Леніна ў беларускай савецкай паэзіі. У паэме праўдзіва раскрываецца нараджэнне любві працоўнага сялянства да Леніна, глыбокі боль сялянства, смутак, з якім яно праводзіла Ільіча ў апошні шлях. Вобразы бацькі-селяніна і сына, які з фронта прыносіць у бацькаву хату ленінскую праўду, выпісаны з вялікай экспрэсіяй, жывымі рэалістычнымі фарбамі.

Першым, хто ў беларускай савецкай паэзіі стварыў вобраз героя рэвалюцыі, быў Я. Купала

(верш «На смерць Сцяпана Булата», 1921).

Абагулены вобраз барацьбіта рэвалюцыі намаляваў Я. Колас у вершы «Змагальнікам за Кастрычнік» (1927).

З. Бядуля спрабаваў сюжэтна, у рэалістычных карцінах, праз лёс асобных герояў раскрыць падзеі Кастрычніка (паэма «З сказаў буры і віхораў», 1924).

Радуючыся таму, што

Ужо выбіла часіна
На вялікую прыгоду
Выйсці з мутнай каляіны
Беларускаму народу,

Я. Купала ўслаўляў Кастрычнік, паказваў гістарычнае значэнне яго перамогі ў лёсе беларускага народа.

Пасля «Босых на вогнішчы» паэма Я. Купалы «Бязназоўнае» — новае, яркае слова беларускай паэзіі аб Кастрычніку. Рамантычныя, яркія карціны рэвалюцыі:

Масты старыя спалены —
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сцягі;

дзяржаўнасці Беларусі:

Беларусь на куце
У хаце сваёй села, —
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела, —

вось пафас гэтай паэмы.

У шэрагу лепшых твораў 20-х гадоў, прысвечаных Кастрычніку, стаіць паэма П. Труса «Дзесяты падмурак». Яна была задумана, як паслядоўнае апісанне падзей недалёкага мінулага, рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, сучаснага паэту дня. У выніку з'явіўся твор яркі, арыгінальны, бо ў ім увесь П. Трус — самабытны паэт-лірык, а сама тэма Кастрычніка паднята па-новаму, смела, непаўторна. Усхвалёванае апяванне рэвалюцыі спалучана ў паэме з марай аб новай Беларусі.

Край палёў...
О, край, —
Калі ж ты станеш
Краем фабрык дымных
І машын? —

усклікаў паэт, апяваючы ўрачыстасць рэвалюцыйнай явы, імкнучыся зазірнуць у заўтра сваёй краіны.

Сярод лепшых твораў аб Кастрычніку пачэснае месца займаюць і іншыя паэмы і вершы П. Труса — «Юны змаганец», «Астрожнік», «Аб Леніне», «У семнаццаты год». П. Труса ў першую чаргу цікавіў чалавек, які рабіў рэвалюцыю.

Сярод значных твораў паэзіі 20-х гадоў аб Кастрычніку — «Паэма імя вызвалення» А. Александровіча, паэма «Загай» А. Звонака, «Алесь Камінскі» М. Хведаровіча, асобныя лірычныя вершы шматлікіх паэтаў.

У цэлым паэзія 20-х гадоў — яркая, цікавая старонка, са сваім мастацкім рашэннем тэмы Кастрычніка.

Рамантычнае ўспрыйманне рэвалюцыі як стыхіі, мастацкае афармленне яе ў разгорнутых увасабленнях-сімвалах — вось сутнасць паэзіі 20-х гадоў, яе галоўная асаблівасць. А з гэтым было звязана іншае — аслабленая ўвага да канкрэтнасці, да рэальнага чалавека, так званая бурапеністасць стылю, што адмоўна адбівалася на развіцці паэзіі.

Пераадольваючы рыторыку, слоўна-вобразнае штукарства, лявацкае адмаўленне культурнай спадчыны, усё больш спыняючыся на паказе рэальнага чалавека, абапіраючыся на рэалістычныя традыцыі беларускай і рускай паэзіі, творча засвойваючы традыцыі Ул. Маякоўскага, — такім шляхам ішла паэзія 20-х гадоў.

Даўшы шэраг арыгінальных твораў аб Кастрычніку, яна не змагла яшчэ з усёй сілай падкрэсліць стваральную моц рэвалюцыі, не змагла даць паўнакроўны вобраз яе героя — арганізатара, натхняльніка, барацьбіта.



Гэтая задача ўсім сваім цяжарам клалася на плечы паэтаў 30-х гадоў. І трэба прызнаць, што яны паспяхова спраўляліся з гэтаю задачаю. Адна за адной з'яўляюцца ў гэты час паэмы — «Праз горы і стэп» П. Броўкі (1932), «Антон Шандабыла» А. Куляшова (1932—1934), «За строем дат і рубрык» Ул. Хадыкі (1934), «Мужнасць» (1934), «У тыя дні» (1937) П. Глебкі, «Песня аб разведчыках» А. Куляшова (1935—1937), «Кацярына» П. Броўкі (1938) і інш. Ніхто з паэтаў не ўспрыймаў цяпер рэвалюцыю як нешта стыхійнае, бураломнае. У трактоўцы паэзіі 30-х гадоў яна — заканамерны крок, падрыхтаваны ўсім эканамічна-палітычным развіццём краіны, здзейснены воляй шырокіх працоўных мас. Паказ стваральнага пачатку рэвалюцыі — вось што на першым плане ў творах 30-х гадоў.

Разумеючы Кастрычнік як подзвіг народа, Леніна, Партыі, паэты імкнуцца стварыць карціны гераічнай барацьбы народа, паказаць вобразы Леніна, камуністаў, якія былі ў першых шарэнгах барацьбітоў за новае жыццё.

Значным фактам эпічнага асваення тэмы Кастрычніка ў гэты час з'явілася паэма П. Броўкі «Праз горы і стэп». Яна апавядае аб паходзе Самарскай кавалерыйскай дывізіі, якая з цяжкімі баямі прарываецца з акружэння белых. Не лёс паасобных герояў раскрывае паэт у сваім творы; ён паэтызуе грамаду людзей, аб'яднаных рэвалюцыйнай барацьбой у адзін сапраўды непераможны «жалезны паток». Герой паэмы — зборны герой. Ад яго імя вядзецца апавяданне, яго вачамі глядзіць паэт на карціны гераічнага змагання. Нібы на экране, мільгаюць яны, выпісаныя скупымі, але выразнымі дэталямі. Напружаны тэмп апавядання, «рубленыя» радок удала перадаюць дынамічнае развіццё падзей. А ўжо з іх апісання мяркуем мы аб гераізме ўдзельнікаў пахода, аб герою рэвалюцыі.

Дасягненнем беларускай паэзіі 30-х гадоў была паэма П. Глебкі «Мужнасць», прысвечаная дзесяцігоддзю з дня смерці Леніна. Гэта твор аб тым, як смерць вялікага Леніна перажывалі народ і партыя. Усхваляваны да глыбіні душы, паэт раскрывае ў лірычна-драматычных маналогах эпічныя карціны, ахінаючы іх то пачуццём глыбокага чалавечага болю, то інтанацыямі ўрачыстага рэквіема, то водгуллем мужнага поступу людзей, што праходзілі ля труны Леніна, прысягаючы ў вернасці яго запаветам.

Паэма П. Глебкі «У тыя дні» ўскрывае веліч кастрычніцкіх падзей, Леніна і Камуністычнай партыі як натхняльнікаў і арганізатараў рэвалюцыі.

Падзеі, пачатак якім паклаў Вялікі Кастрычнік, апявае і лірычная паэма Ул. Хадыкі «За строем дат і рубрык» — уся ў пачуццях, закліках, прызнаннях, якімі поўнілася душа самога паэта, прагная

Знайсці такое слова залатое,
Каб пець народжаны
ў змаганні свет,
Каб з новай эраю вітаць
зямлю.

Больш плённа тэма Кастрычніка рэалізавалася ў буйных эпічных творах, асабліва ў сюжэтных, такіх, як паэмы «Кацярына» П. Броўкі, «Песня аб разведчыках» А. Куляшова.

У паэме П. Броўкі няма, праўда, карцін рэвалюцыйнага змагання, у цэнтры яе — не герой рэвалюцыі. Лёс непрыкметнага рада-

вога чалавека апявае яна. Але на лёс гераіні твора зыход рэвалюцыйнай барацьбы ўплывае самым непасрэдным чынам. Паэт паставіў сабе мэтай раскрыць вялікую пераўтваральную сілу рэвалюцыі, паказаць, як яна змяніла лёс працоўных людзей, зрабіўшы іх гаспадарамі зямлі, сваёй долі. Кацярына — бабылёвая дачка — з бяспраўнай батрачкі да рэвалюцыі ва ўмовах савецкага ладу вырастае ў чалавека, да голасу якога прыслухоўваецца ўся дзяржава. Такім чынам, у вобразе яе П. Броўка адлюстраваў эпахіяльнае значэнне Кастрычніка, яго ролю ў гісторыі беларускага народа.

Шырыня эпічнага ахопу рэчаіснасці, сюжэтнае вырашэнне тэмы, нацыянальны каларыт мастацкіх выяўленчых сродкаў зрабілі паэму П. Броўкі «Кацярына» адным з лепшых твораў нашай паэзіі аб Кастрычніку.

У 30-я гады тэма Кастрычніка вырашалася ў сувязі з велічнымі зменамі, якія адбыліся ў краіне за гады пяцігодак, у час Вялікай Айчыннай вайны — у сувязі з самаадданай барацьбой за сваю сацыялістычную Радзіму, у пасляваенны час — з поспехамі сацыялістычнага будаўніцтва, з ростам міжнароднага аўтарытэту СССР, з барацьбой савецкага народа і ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва за мір ва ўсім свеце.

Услаўляючы Кастрычнік, паэзія 30-х гадоў стварыла шэраг твораў, пафас якіх — у кантрасным супастаўленні змрочнага мінулага і сонечных дзён савецкай рэчаіснасці. Лепшыя сярод іх — «Вялікаму Кастрычніку» (1932), «Беларусі ордэнаноснай» (1935), «Святочныя вершы» (1937) Я. Купалы, «Савецкай Беларусі» Я. Коласа (1938), «Пра вясну і рэвалюцыю» П. Глебкі (1938) і інш.

Колькі натхнення, запалу і урачыстасці ў радках купалаўскага верша «Нашаму святу»:

Расчыні шырока дзверы,
Мілая старонка,
Выйдзі стрэнуць свой
Кастрычнік
Песняй гулкай, звонкай!

Перад намі ў сонцы,
ў зорах
Будучыня наша,
Кожны дзень сягоння лепшы,
Як быў учарашні.

Мы ідзем у сонцы з сонцам
Маладым паходам.
Слава бацькаўшчыне нашай
І яе народам!

Тымі ж пачуццямі напоўнены і вершы аб Кастрычніку Я. Коласа.

Звонкія, радасныя песні аб Кастрычніку абарваў вераломны напад на нашу краіну нямецкафашысцкіх захопнікаў. Калі зграі фашыстаў рваліся да Масквы, крыкліва выхваляючыся, што свята Кастрычніка стане датай іх перамогі над Масквою, Я. Колас, выражаючы настроі мільёнаў савецкіх людзей, пісаў:

Масква, надзея долі новай!
Няўжо ў Кастрычніцкія дні
Налучыць лёс цябе суровы,
Каб загасіць твае агні?

Ты не была вавек рабою
І не схіляла галавы.
І сёння ты гатова к бою,
Бо слаўен шлях твой баявы.

Не допускаючы нават думкі, што Масква схіліць галаву перад ворагам, Я. Колас сцвярджаў неўміручасць ідэй Кастрычніка, вернасць ім савецкага народа, які век не выпусціць са сваіх рук заваёў Кастрычніка. Так у новых умовах па-новаму стала раскрывацца тэма Вялікага Кастрычніка.

Савецкія людзі, абараняючы сацыялістычную Радзіму, памяталі, што яны абараняюць гэтым заваёвы Кастрычніка. Абарона Радзімы — абарона Кастрычніка, — думку гэтую, якой поўнілася ўся баявая беларуская савецкая паэзія перыяду Вялікай Айчыннай вайны, высокамастацка сфармуляваў А. Куляшоў у вядомым вершы «Камуністы»:

Не ўміраюць рэвалюцыі
салдаты:
Ім, упаўшым, сняцца
будучыні сны.
Ля Кранштата і ў руінах
Сталінграда
Спяць, абняўшыся навек
з зямлёй, яны.

Матыў абароны заваёў Кастрычніка, сацыялістычнай Радзімы ў беларускай савецкай паэзіі ваеннага часу арганічна зліваўся з вобразам Беларусі, часова запалоненай ворагам, за вызваленне якой самаадданa змагаўся ўвесь савецкі народ. Менавіта ў гэты час Я. Колас піша высокапатрыятычны верш «Голас зямлі», П. Броўка — паэму «Беларусь», П. Глебка — «Аб чым спяваюць салаўі», «Родны хлеб», «Беларусі», М. Танк — «Байцу Беларускага фронта», А. Куляшоў — «Над брацкай магілай», П. Панчанка — «Краіна мая», «Беларусі» — вершы, прасякнутыя пачуццём любві да Беларусі, якую нарадзіў Кастрычнік і на якую пасягнуў крывавы вораг.

Паэты малодшага пакалення, якія нарадзіліся і выраслі ва ўмовах новага ладу, сутыкнуліся цяпер твар у твар са старым светам. Як ніколі дагэтуль, з усёй паўнатой усвядомілі яны веліч Кастрычніка і асуджанасць старога свету, і гэта знайшло ў іх творчасці шырокі адбітак.

Верш «Маё і тваё маленства» П. Панчанкі (1944) — адзін з найярчэйшых твораў нашай паэзіі аб сацыялістычнай Радзіме, аб лёсе чалавека ў савецкім краі, аб нечалавечнасці эксплуатацыі і фашызма.

Герой верша, равеснік Кастрычніка, апрануты ў ваенны шынель, успамінае свае светлае, радаснае маленства, якое 1917 год

...адгарадзіў... сцяной
Ад слова «раб», ад свісту
бізуноў,
Ад бацькаўскіх нішчымніц,
Ад апекі
Усемагутнай медзяной
капейкі.
Плыла, плыла, як човен,
праз сады
Мая калыска ў сталыя
гады, —

успамінае герой. Не такім стала дзяцінства яго «земляка, народжанага ў годзе сорак першым» у рабстве фашыстаў. Герой абяцае вярнуць дзіцяці ўкрадзенае дзяцінства, паўстаючы перад намі не толькі байцом Савецкай Арміі, а і байцом рэвалюцыі, які, як яго бацькі ў 1917, цяпер сам адгароджвае сцяной ад слова раб дзяцінства іншых.

Гэты лірычны герой і перамогу ў вайне ўспрыняў як пераможны поступ Кастрычніка.

«Узняты Кастрычнікам сцяг» і свята краіны, якая перамагла і ўпэўнена крочыць наперад, услаўляе ў адным з лепшых сваіх вершаў паэт Максім Танк.

У вобразе былiннага волатаасілка раскрываў веліч Кастрычніка А. Куляшоў («Быліна пра волата»), а ў адказ тым, хто пагражаў свету атамнай зброяй, ён, сцвярджаючы сусветнае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі, пісаў:

Мы большыя справы рабілі,
Не робячы з іх сакрэту,
Ў семнаццатым расшчапілі
Мы атам старога свету.

З ядра яго вызвалялі
Не нейкія там нейтроны, —
З сябе ланцугі зрывалі
Вызваленыя мільёны.

(«Слова да Аб'яднаных Нацый»)

Пранікнёныя лірычныя вершы аб Кастрычніку ў пасляваенныя гады напісаў П. Панчанка. Не самі падзеі рэвалюцыі, а тое, што прынесла яна чалавеку, чалавецтву, паэтызуе ён.

Па-новаму тэму рэвалюцыі, Кастрычніка і Беларусі азарыла ў яго вершах прадчуванне недалёкай камуністычнай будучыні, якім яны напоўнены.

Мы жыццём прысягаем,
Што ў семнаццатым годзе
дала ты нам
Збудаваць камунізм,
Зберагчы ад навалы
праклятае, —

ад імя равеснікаў Кастрычніка прысягае лірычны герой П. Панчанкі (верш «Прысяга»).

Звяртаючыся да роднай Беларусі, П. Панчанка цяпер піша:

Ты ідзеш шляхамі небывалымі,
І ўжо блізка той жаданы год, —
Ты сустрэнеш пад сцягамі
алымі
Камунізма светлага прыход.

Тэма Кастрычніка і Беларусі ва ўмовах пасляваеннага часу знаходзіць сваё адлюстраванне ў карцінах, убачыць якія было калісьці запаветнаю мараю П. Труса. Вершам К. Кірэенкі «Мая рэспубліка» беларуская паэзія як бы дала абагулены вобраз пераўтворанай Кастрычнікам Беларусі.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай цёмных лясоў!
Паглядзіце —
Над ёю свецяцца
Агні завадскіх карпусоў.
Не завіце маю рэспубліку
Краінай ціхіх далін!
Паслухайце —
Як грымяць над ёй
Галасы магутных турбін.

Апяванне сацыялістычнай Беларусі гучыць сёння як гімн Вялікаму Кастрычніку, які складае народжаная ім рэспубліка.

Залатымі літарамі выпісвае беларуская паэзія і вобразы тых, хто вёў народ на штурм капіталізма і царызма — вобразы вялікага Леніна і камуністаў.

Лепшы з лепшых лірычны верш Я. Коласа апявае незабыўнага Ільіча:

З глыбінь жыватворных
народнага духу
Прышоў ён світаннем да
нас,
Ён праўду і мудрасць народа
падслухаў,
Каб споўніць народа наказ.

Ён зрокам прарочым угледзеў
разлогі,
Што людзям нябачны былі.
Ён, Ленін, азначыў, акрэсліў
дарогі
У новую праўду зямлі.

На гонях раскутых, на нівах
калгасных
Ляжыць яго праўды пячаць,
І мудрыя словы так проста
і ясна,
Як вечныя песні гучаць.

Між нас жыве Ленін, як сонца,
як зоры,
Як мудрасць вялікай зямлі,
І сее прамені, агні непакоры,
Каб людзі шчасліва жылі.

(«Жыве між нас геній»)

Лепшы з лепшых вершаў А. Куляшова раскрывае веліч і красу камуністаў — барацьбітоў за шчаслівую будучыню чалавецтва.

Камуністы — гэта слова, як са
сталі,
Камуністы — гэта слова, як з
агню.
Маркс і Энгельс нам імя такое
далі
Сто гадоў таму назад
упершыню.



Мы не верым ані ў бога, ні ў
малітвы,
І няма для нас другіх
святцейшых слоў,
Апроч лозунгаў і заклікаў да
бітвы,
Апроч песень, ад якіх бунтуе
кроў.

Нас не раз яны ўздымалі, як
загады,
Камунізма даль — наш вырай
дарагі,
Гнёзды нашыя — з каменняў
барыкады,
Крылы нашыя — чырвоныя
сцягі.

(«Камуністы»)

У пасляваенны час напісана і лепшая з нашых паэм аб радавых байцах вялікага Кастрычніка — «Песня аб слаўным паходзе» А. Куляшова (1951). Яна ўзнікла як карэнным чынам перапрацаваны варыянт «Песні аб разведчыках», напісанай паэтам у 1937 годзе.

У паэтычных творах 30-х гадоў быў адзін сур'ёзны недахоп: тэма Кастрычніка адлюстроўвалася ў іх нельга сказаць, каб няправільна, але з нейкім неправамерным ухілам да паказу ахвяр рэвалюцыі. Даніну гэтай слабасці аддаў у «Песні аб разведчыках» і А. Куляшоў.

Калі ў рэдакцыі паэмы 1937 года адзін з герояў гіне, а другі адмаўляюся ад каханай дзяўчыны, бо ў яе хаце быў закатаваны яго таварыш, дык зусім інакш складаецца лёс разведчыкаў у другой рэдакцыі паэмы. Люты вораг рэвалюцыі і яго прыспешнікі разбіты. Застаюцца жыць і Адам і Якуб — героі паэмы, а разлучаныя Адам і Арына знаходзяць сваё шчасце, плячо ў плячо ідучы цяпер у слаўным паходзе.

І гэта таму, што ў новай рэдакцыі твора па-новаму асэнсоўваецца паэтам рэвалюцыя як «светлы час», як

Паход, што людзям мір нясе,
Варштат і хлеб — рабочаму,
Да працы век ахвочаму,
Зямлю і плуг аратаму,
Суд — багачу праклятаму.
Жыццё — бядой замучаным,
Вясёлы смех — засмучаным,
Любоў — усім разлучаным.

Новых паэтычных твораў аб Кастрычніку чакаем мы зараз, калі наш народ урачыста спатыкае слаўную гадавіну Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Народу патрэбны эпас рэвалюцыі, патрэбна лірыка аб незабыўным 1917 годзе. Ён хоча бачыць у паэзіі аб Кастрычніку чалавека, хоча глядзець у яго абвеяны рэвалюцыяй твар, адчуваць біццё яго мужнага сэрца, бачыць яго велічную постаць, чуць шолах чырвоных сцягоў, якія развяваліся і развяваюцца на працягу сарака гадоў. Ён чакае новых песень аб рэвалюцыі, аб Леніне, аб камуністах, пад кіраўніцтвам якіх перамог ён у Кастрычніку.

І мы ўпэўнены, што беларуская савецкая літаратура, у актыве якой ёсць такія ўзоры эпічнага пісьма, як «Новая зямля», «Рыбакова хата», якая так багата на лірычныя таленты, — створыць яшчэ сваю лепшую, і не адну, песню аб Вялікім Кастрычніку, якому яна абавязана сваім росквітам, якому беларускі народ абавязаны ўсім тым, што ён сёння мае, чым ён сёння стаў.

Б. КЛЕЙН

# КОБРЫНСКІЯ ПАЎСТАНЦЫ

### Старонкі рэвалюцыйнага падполля

## I

Гэта было на Палессі дваццаць пяць год таму назад.

«... Палессе — гэта XIII або XIV стагоддзе, — пісала ў 1934 годзе варшаўская буржуазная газета «Ілюстраваны кур'ер цодзенны». — Каменныя будынкі тут складаюць менш пяці працэнтаў агульнай колькасці памяшканняў. Непісьменных звыш сямідзесяці працэнтаў. Спажыванне вугалю — 23 кг у год на жыхара, цукру — 3,96 кг, цэменту — 3,19 кг і г. д.».

Ёй ва ўнісон падпявала другая газета — «АБЦ»:

«Селянін ускраіны жыве зусім як першабытны чалавек. Стары кажух на плячах і сярмяга, якая яшчэ памятае лепшыя часы. Новыя боты, якія каштуюць 22 злотых, з'яўляюцца недасягальнай раскошай. Кожны дзень носяць лапці або да старых галяніпічаў прыбіваюць драўляную падэшву».

Калі параўноўваеш гэтыя два артыкулы, напісаныя ў адным і тым жа годзе, прыходзіш да пераканання, што першы з іх яшчэ прыхарошвае становішча. Цукар, па словах газеты «АБЦ», таксама адносіцца да галіны паданняў. Сахарын ужываецца толькі ў святы. Нават чорны жытні хлеб — і той стаў ласункам. «Жыхары харчуюцца вадзяністымі жмыхамі з аўса і жыта. Соль ужываецца толькі кармавая. Каб яе абясшкодзіць, гаспадыні загортваюць гэтую соль у анучкі і вымочваюць у вадзе да таго часу, пакуль вада не стане салёнай; астаткі — чырвоную або чорную соль аддаюць жывёле, а салёная вада прыбаўляецца да ежы...»

Сфатаграфаваць кантрасты «Польшчы — А і Б», вывесці на ўсеагульны агляд «дзікага палешука», казырнуць тым або іншым жахам з крэсовага побыту — вось і ўсё, што дазваляла сабе буржуазная прэса панскай Польшчы. Дзіўна было б чакаць ад яе праўды аб прычынах народных бедстваў.

Гэтую праўду не баялася сказаць на ўвесь голас Камуністычная партыя. Чужаземная акупацыя, панаванне буржуазіі і памешчыкаў, якое ахоўвалася штыком салдата, дубінкай паліцэйскага і пяром наёмнага пісакі, — вось корань зла. Паводле дадзеных перапісу 1921 года, у Палескім ваяводстве нязначная кучка — 1.027 уласнікаў распараджаецца 67,6% усёй зямельнай плошчы. Каля 70.000 бядняцкіх гаспадарак мелі ўсяго 5,8% зямлі. Праведзеная ў наступныя гады зямельная рэформа не палепшыла становішча працоўнага сялянства. Панскі двор, непадалёк — сядзіба кулака, асадніка, а побач гнёзды ліхвяра, чыноўніка, плебанія касцёла... Не за палавіну, а за дзве трэціх ураджаю здае памешчык селяніну ў арэнду зямлю, і бядняк згаджаецца. Адработкі за даўгі, за штрафы, бясплатная працгужпавіннасць — шарваркі, зборы капытовыя, рагатковыя, маставыя, касцёльная дзесяціна — забыты свет сярэдневякоўя... Новыя цяжкасці прынёс сусветны эканамічны крызіс: упалі цэны на сельскагаспадарчыя прадукты. І зусім не пад сілу становіцца цяжар падаткаў. За адзін толькі 1938 год фашысцкі ўрад увёў каля 10 новых падаткаў. Падлічана, што з участка ў 3 гектары для выплаты падаткаў селянін павінен быў прадаць да трох тон жыта — амаль увесь свой ураджай.



Але працоўныя людзі ведалі, што на зямным шары ўжо існуе Савецкі Саюз. І пачаўся вялікі рух, выхад з сярэдневяковай ночы ў дваццаты век. Палессе ўступіла ў барацьбу за свабоду, за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю.

Адну з яркіх старонак у летапісу гэтай барацьбы запаўняе расказ пра кобрынскіх паўстанцаў.

## II

Перад намі — адзін з фотаздымкаў, зробленых паліцыяй у час следства па справе кобрынскіх паўстанцаў.




У перакладзе назва плана гучыць так: «Карта тэрыторыі гміны Навасёлкі, Кобрынскага павету, на якой дзейнічала банда» (так паліцэйскія называлі паўстанцаў). Знізу змешчаны ўмоўныя абазначэнні. У першай калонцы чытаем: «Сядзіба гміннага кіраўніцтва і ўчастка паліцыі; месца, дзе бандытамі перарэзаны тэлефонныя лініі; месца, дзе ўчастковы Кнароўскі першы раз сустрэў банду; месца, дзе ўчастковы Кнароўскі другі раз сустрэў банду і дзе яго абстралялі».

Трэцяе жніўня 1933 года. У 9 гадзін вечара паліцэйскі Кнароўскі, праязджаючы на веласіпедзе, на скрыжаванні дарог каля вёскі Паўлапаль сустрэў вялікую групу сялян, у асноўным — моладзі. Убачыўшы яго, яны на момант спыніліся. Па натоўпу прайшоў гоман.

Адчуўшы небяспеку, спалоханы

паліцэйскі хутка падаўся ў бок Навасёлкаў.

Па шляху ён сустрэў другі атрад, які накіроўваўся з Навасёлак да перакрыжавання, дзе знаходзілася першая група.

— Доконд, панове? — затрымаўшыся на хвіліну, пацікавіўся Кнароўскі.

У адказ раздалося:

— Бі яго!

Пакінуўшы веласіпед і сумку, паліцэйскі кінуўся ўцякаць.

Услед грымнулі стрэлы. Але і на гэты раз яму пашанцавала. Кнароўскі атрымаў толькі лёгкія раненні і, як потым выявілася, дабраўся да Навасёлак, дзе знаходзіўся ўчастак.

Гэта была першая памылка, якую зрабілі паўстаўшыя. Паліцэйскі падняў трывогу.

Між тым, на перакрыжаванні ўжо сабралася вялікая група сялян з вёсак Дарафеевічы, Навасёлкі і Паўлапаль. Вядома, далёка не ўсе былі ўзброены. Пасля кароткага роздуму, параіўшыся, атрад рушыў далей.

А Кнароўскі тым часам дакладваў каменданту аб тым, што адбылося на навасёлкаўскай дарозе. Твар каменданта аж пасінеў ад злосці. Бунт! Узброеныя атрады! I ніхто неданёс?!

У той час Навасёлкі налічвалі каля 1200 жыхароў. Тут размяшчалася гміннае кіраўніцтва, участак паліцыі і паштовае агенцтва. Камендант паспяшаўся звязацца з начальствам. Ён пазваніў у Кобрын, але трубка маўчала. Сувязь перарвана.

Камендант звязаўся з суседнім, дзівінскім участкам, і перадаў, што ў гміне пачынаецца бунт. Праўда, калі праз некаторы час ён другі раз паспрабаваў злучыцца з Дзівінам, яго напаткала няўдача. Але паведамленне пра «бунт» ужо было перададзена.

Так паўстанцы зрабілі другую памылку. Навасёлкаўская група, перарэзаўшы адну лінію сувязі (з Кобрынам), рушыла на злучэнне з таварышамі, і толькі потым, спахапіўшыся, паўстанцы спілавалі тры слупы на лініі Навасёлкі — Дзівін. У выніку, праз кароткі



час, на падаўленне паўстання выступілі буйныя сілы паліцыі.

Але паўстанцы яшчэ захоўваюць свабоду дзеянняў. Яны абкружаюць Бельск — сядзібу асадніка — і стукаюць у дзверы. Гаспадар Ксенскі не адчыняе. Тады дзверы ўзламваюць. Да смерці перапалоханы асаднік аддае карабін, шаблі і сёдлы. Пайшоўшы далей, паўстанцы абяззбройваюць яшчэ двух асаднікаў. Атрымана тры рэвальверы. Але дзе склад зброі «стшэльцаў»? Не інакш, як на ўчастку.

Адчуўшы на секунду прыліў храбрасці, адзін з асаднікаў пытаецца:

— Хто вы такія?

Як ён потым пасведчыў на следстве, прагучэў адказ:

— Мы не бандыты. Мы антыбуржуазная арганізацыя.

Хтосьці дадаў:

— Цяперашняя ўлада ўжо скончылася. Цяпер будзе наша ўлада.

Атрад выступае ў кірунку да Навасёлкаў. Паўстанцы абкружаюць будынак, дзе засела паліцыя.



Па іх патрабаванню асаднік падыходзіць да дзвярэй і стукае.

У адказ грыміць залп...

Паўстанцы не засталіся ў даўгу. Пачалася перастрэлка.

Паліцыя абаранялася. Час ішоў. Тады нехта прапанаваў падпаліць дом. Але дзе ў палескай вёсцы знойдзеш газу? Стральба ўзмацнілася. I тут прышла вестка, што набліжаюцца карнікі на аўтамашынах. Прышлося адступіць.

Няўдача, якая стала відавочнай, па-рознаму была ўспрынята паўстанцамі: частка з іх разыйшлася па хатах; другія ж, не склаўшы зброі, пайшлі ў лясы, і доўга потым шнырыла паліцыя па слядах невялікіх атрадаў.

Так закончылася ўзброенае выступленне кобрынцаў.

Улады добра ўяўлялі сабе небяспеку, якая хавалася за гэтым, здавалася б, мясцовым эпізодам: у Навасёлкі прыбывалі ўсё новыя і новыя злучэнні паліцыі. Арыштоўвалі ўсіх, хто трапляўся пад руку. Катавалі, калечылі, дамагаліся прызнанняў. Обер-кат, палескі ваявода Косцек-Бернацкі асабіста выехаў на месца «расследавання». Драгічынскі староста, які імкнуўся не дапусціць распаўсюджвання вестак аб падзеях у Навасёлках, даў загад арыштоўваць усіх прыезджых і затрымліваць пешаходаў на дарогах.

У паспешным парадку была сфабрыкавана справа на 8 сялян, да іх далучылі раней захопленую Рэгіну Каплан.

2-га верасня ў Кобрыне ўжо засядаў надзвычайны суд.

Вось вытрымка з плаката, які красаваўся ўсюды ў Польшчы к таму часу: «У надзвычайным працэсе прымяняюцца наступныя меры пакарання:

...а) замест пакарання звыш 5-ці год турмы — **смяротная кара;**

б) замест іншых мер пакарання — турэмнае заняволенне ад 10 да 15 год.

Прыгаворы і пастановы суда, якія вынесены ў парадку надзвычайнага працэсу, **не належаць абскарджанню.**

Смяротныя прыгаворы выконваюцца **на працягу 24 гадзін** з моманту іх вынясення».

Схапіўшы 9 паўстанцаў і назваўшы іх «верхаводамі» паўстання, улады вырашылі ўвянчаць свае намаганні шыбеніцай і трупамі пакараных перагарадзіць дарогу рэвалюцыйнаму руху.

...Вуліцы невялікага беларускага гарадка былі забіты войскамі і паліцыяй. Ваявода пасылае міністру ўнутраных спраў першую тэлеграму аб адкрыцці суда (у далейшым такія тэлеграмы пасылаліся штодзённа).

Займае свае месцы абарона: дзевяць адвакатаў, сярод іх такія вядомыя людзі з Варшавы, як Лурач, Вінавер і іншыя.

Калі заканчваецца чытанне абвінаваўчага заключэння, падсудным ставіцца пытанне: ці прызнаюць яны сябе вінаватымі?

— Не, не прызнаем.

Выяўляецца, што на следстве да ўсіх абвінавачваемых прымяняліся страшэнныя катаванні — прапускалі праз цела электраток, лілі ваду ў нос, білі да страты прытомнасці. У камеру да Р. Каплан была падсаджана зладзейка Мінкусава.

— Наша аддзялённая, — пасведчыла яна на судзе, — мела да мяне давер. Яна сказала, каб я распытала Каплан аб усім, а затым данесла ёй.

Тым часам вестка аб кобрынскіх падзеях даходзіць ва ўсе куткі Польшчы і нават за мяжу. У дзень адкрыцця працэсу аб ім ін-

фармue варшаўская газета «Работник». Назаўтра, 3 верасня, у БССР газета «Звязда» публікуе наступнае паведамленне: «Узброенае выступленне сялян у Заходняй Беларусі. Дзевяці ўдзельнікам выступлення пагражае смяротная кара».

У гэты ж дзень аб працэсе кобрынцаў даведваецца ўвесь Савецкі Саюз з газеты «Правда».

Разгортваецца шырокая кампанія пратэсту: група польскіх пісьменнікаў, саюз былых палітзняволеных і іншыя арганізацыі патрабуюць адмены надзвычайнага суда. Пралетарыят Варшавы, тэкстыльшчыкі Беластока, рабочыя Вільнюса і Брэста на масавых мітынгах і дэманстрацыях патрабуюць пакласці канец сярэдневяковаму варварству. Сакрэтныя данясенні паліцыі гавораць аб магутнай хвалі абурэння, якое ўзнялося на Палессі. Так, у ноч з 1 на 2 верасня ў вёсках Руднікі і Замошша паяўляюцца транспаранты, у вёсках Баравікі, Ражковіцы, Казлы — плакаты, у вёсках Харава — адозвы супраць фашысцкага суда. Не застаюцца ў баку і Навасёлкі, якія падвергліся самай жорсткай пацыфікацыі. Тут вывешаны транспарант. Лістоўкі раскідваюцца на вуліцах горада Пружаны, у вёсках Сілічы, Руднікі і інш.

«Правда» змясціла 6 верасня наступнае апісанне: «Будынак суда ў Кобрыне на час працэсу абкружан моцнымі атрадамі ўзброенай паліцыі. Публіка ў зал суда прапускаецца па асобных прапусках і складаецца амаль выключна з мясцовых чыноўнікаў і паліцэйскіх. Падсудных прывялі ў залу суда закаванымі ў кайданы».

Працэс падыходзіць да канца. Дапрошана 35 сведкаў (амаль усе шпікі), 2 эксперты.

Выступае пракурор:

— Смяротны прыгавор праз павешанне для дзевяці падсудных, — злосна крычыць ён, — будзе добрым прыкладам для ўсіх камуністычных арганізацый у Польшчы.

Абарона абвяргае довады абвінавачання і патрабуе перадачы справы ў звычайны суд.

З апошнім словам 8 верасня выступае Рэгіна Каплан, якая ўзяла на сябе задачу — ад імя ўсіх падсудных, ад імя партыі выкрыць фашысцкі суд, закляйміць увесь прагніўшы рэжым панскай Польшчы.

«Я веру, — чытаем мы ў судовым пратаколе, — што прыдзе дзень, калі не будзе надзвычайных судоў. Я не разумею наогул, як у век культуры, асветы і развіцця тэхнікі можа быць што-небудзь падобнае».

Адозва ЦК КПЗБ ад 28 верасня 1933 года паведамляе:

«Тав. Каплан... на надзвычайным судзе ў Кобрыне пад пагрозай шыбеніцы горда заявіла фашысцкім суддзям, што не баіцца шыбеніцы, што толькі суд пралетарыяту мае права яе судзіць... дала прыклад паводзін рэвалюцыянера перад судом класавых ворагаў».

І вось абвешчаны прыгавор. Восем чалавек прыгавораны да пажыццёвага зняволення. Справа Р. Каплан перадаецца на новы разгляд звычайнаму суду.

Такім чынам, навальніца народнага гневу змяла з твару зямлі шыбеніцы, падрыхтаваныя для падсудных. Бітай аказалася і другая стаўка ўлад — зрабіць працэс пахавальнай паніхідай па рэвалюцыі. Упартае адмаўленне віны ўсімі падсуднымі, палымяныя прамовы Р. Каплан, мноства падпольных адозваў КПЗБ, брашура («За што судзілі кобрынскіх сялян»), мітынгі і дэманстрацыі — усё гэта разагнала туман маны, раскрыла сапраўдны сэнс і значэнне кобрынскіх падзей.






Рэгіна Каплан. (Здымак зроблены пасля арышту, у дэфензіве).

Не трэба думаць, што судзілі толькі дзевяцярых. У архівах знойдзена яшчэ чатыры працэсы ўдзельнікаў кобрынскага паўстання. Агульная колькасць падсудных дасягае 40 чалавек. Самы буйны «працэс 22-х» адбыўся ў Кобрыне 13—17 снежня 1933 года. Грабайла, Захарчук, двое Альшэўскіх атрымалі па 12 год турмы, наступныя 14 чалавек — па дзесяць год, дваім меру пакарання вызначылі ўмоўна, а двое былі апраўданы.

Калі зараз, праз чвэрць стагоддзя пасля апісаных падзей, мы імкнемся ўсвядоміць іх гістарычнае значэнне, для нас на першы план выступае не тое, што ў арганізацыі ўзброенага выступлення было нямала пралікаў, што кіраўніцтва падпольнага акруткома не змагло ўзняць рабочых у падтрымку сялянам, што самі гэтыя дзеянні часцей за ўсё былі разрозненымі і г. д.

І ў тым выглядзе, як яны адбыліся, выступленні рэвалюцыйных сялян Кобрыншчыны зрабілі глыбокі ўплыў на развіццё вызваленчага руху ва ўсёй Заходняй Беларусі. Як указваў ЦК КПЗБ, яны былі накіраваны супроць усіх акупантаў — памешчыкаў, асаднікаў і паліцыі. Яны прадэманстравалі непахісную волю мас, гатоўнасць да барацьбы.

Зараз многія з удзельнікаў кобрынскіх падзей працуюць на калгасных палях у родных мясцінах. ВасільНіканчук цяпер партыйны работнік. Рэгіна Каплан — персанальны пенсіянер, жыве ў Маскве...

Ідучы да слаўнага саракагоддзя рэспублікі, беларускі народ шануе і захоўвае ў сваёй памяці подзвігі, зробленыя ў імя свабоды працоўных.

*Насустрач 40-годдзю ВЛКСМ*

# КАМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ НУМАР 12261192

Было лета 1941 года. У садах наліваліся сокам яблыкі; на лясных палянках спелі ягады; палавела жыта. Гэткімі летнімі сонечнымі днямі ў вёску Крывое ўварваліся фашысцкія танкі. Застукалі аўтаматы, заціўкалі кулі. Едкі дым пажару паплыў над вёскаю.

Так усталёўваўся «новы парадак».

Ненавісны быў гэты парадак жыхарам вёскі Крывое. У сэрцы кожнага з іх закіпала лютая злосць да ворага. Вясковыя хлопцы Юстын Ясюковіч і Сямён Татун здабылі сабе зброю і патроны. Сябры абдумвалі свае планы помсты.

Юстын заўсёды насіў пры сабе сшытак і каляровыя алоўкі:

— Гэта таксама зброя, — сказаў Юстын аднойчы свайму сябру і разгарнуў перад ім некалькі лісткоў, на якіх былі намаляваны карыкатуры на фашыстаў. На адным з лісткоў — Гітлер з доўгім, раздвоеным, як у гадзюкі, языком.

— Карыкатуры гэтыя трэба парасклейваць на сценах і няхай людзі глядзяць, — ціха параіў сябру Сямён.

— Дык я іх намалюю яшчэ лепш...

Неўзабаве знайшлі паперу, фарбы. Працавалі ўвесь дзень. А ўночы ўсе пяць карыкатур парасклейвалі на сценах хат.

Раніцай па вёсцы пачалі шмыгаць паліцаі, дапытваліся, шукалі вінаватых. Збівалі ўсіх, хто трапляў пад руку.

— Юстына Ясюковіча трэба арыштаваць, — сказаў немцам начальнік паліцыі Мацыеўскі. — Гэта, напэўна, яго работа. Пры Саветах ён маляваў партрэты і плакаты...

Хлопца арыштавалі, прывялі ў камендатуру. Доўга збівалі гумавымі палкамі, але ён маўчаў. Яго аблівалі халоднай вадой, калі траціў прытомнасць, і зноў білі. Тры дні мучылі, але нічога не дабіліся. Тады пайшлі на хітрасць: выпусцілі, але пачалі сачыць за ім.

Змучаны, счарнелы вярнуўся Юстын дадому. Маці з плачам прытуліла да грудзей сына, завойкала. Але нядоўга праляжаў хлопец у пасцелі. Неўзабаве зноў стрэўся са сваім сябрам Сямёнам Татуном.

— Нам удваіх цяжка, — сказаў Юстын. — Трэба стварыць пад-






КОМСОМОЛЬСКИЙ БИЛЕТ
№ 12261192
КОМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ
№ 12261192

Юстын Ясюковіч (1941 г.) і яго камсамольскі білет.

польную арганізацыю і абавязкова завязаць знаёмства з партызанамі. Я думаў пра ўсё гэта.

Для пачатку рашылі прыдбаць больш зброі, каб пры зручным выпадку ўзяць яе ў рукі. Усю восень сябры збіралі вінтоўкі, гранаты, патроны і падбіралі сабе надзейных хлопцаў. Адным з першых да іх далучыўся Мікола Хоміч, які перадаў чатыры карабіны. За ім прышлі новыя падпольшчыкі.

Непрыкметна настала зіма са сваімі мяцеліцамі і лютымі маразамі. Але работа ў юных падпольшчыкаў не спынілася. Аднойчы Юстын вяртаўся з вечарынкі і на вуліцы сустрэўся з Фёдарам Ясюковічам. Гэтага чалавека баяліся ў вёсцы: вядома, стараста!

Юстын думаў прайсці моўчкі, але стараста спыніў яго:

— Пачакай, пагаворым!

— Нам, здаецца, няма пра што гаварыць, — не тоячы сваёй злосці, адказаў Юстын. — Калі за мною сочыце, то бярыце, я не хаваюся!

— Эх, Юстын, гарачая галава, — ціха сказаў стараста. — Чакаю я сапраўды цябе. Ужо змёрз, стоячы. Толькі навошта чакаў — ты не ведаеш.

— І ведаць не хачу, — сказаў Юстын, хоць сам збянтэжыўся.

— Дарэмна, — усміхнуўся стараста. — Я даўно прыглядаюся да цябе і да Сямёна і ўхваляю ўсе вашы справы. Ты думаеш, я не ведаю, хто лістоўкі раскідваў, карыкатуры маляваў, сцяг вывешваў?.. Ведаю... Зрэшты, тут не месца для размоў. Прыходзь заўтра да мяне ў госці. І Сямёну накажы.

Усю ноч Юстына трывожыла думка: стараста свой чалавек або хітры правакатар? Параіўшыся раніцай, хлопцы рашылі схадзіць да яго. І што ж? Фёдар Сямёнавіч, на радасць сяброў, сказаў, што мае сувязь з партызанамі і працуе па іх заданню старастам.

Юстын ад радасці ледзь не плакаў:

— Даруйце, Фёдар Сямёнавіч, за ўчарашняе.

«Стараста» аказаўся верным таварышам і вопытным падпольшчыкам. Разам яны адрамантавалі дэтэктарны прыёмнік, які Сямён знайшоў у сваім доме на га-



**У Крупіцкім сельсавеце Мінскага раёна адбылося свята моладзі.**
На здымку: **Калгасныя спартсмены спаборнічаюць у бегу на 1500 метраў.**
Фота А. Дзітлава.



**Многія вучні мінскіх школ набываюць спецыяльнасці, праходзячы вытворчую практыку на прадпрыемствах.**

На здымку: **вучань 51-й школы Уладзімір Ляпарскі, які за час вытворчай практыкі на фабрыцы імя Куйбышава атрымаў кваліфікацыю токара III разрада.**

Фота А. Дзітлава.



Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР кіраўніку Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі Ефрасінні Зяньковай прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Зараз т. Зянькова працуе ў адной з дзяржаўных устаноў Віцебска.

Фота А. Дзітлава.



Марат Казей, юны герой Вялікай Айчыннай вайны. Скульптура С. Селіханава.

Фота А. Дзітлава.

рышчы. Па начах у доме Фёдара Сямёнавіча слухалі радыёперадачы з Вялікай зямлі, з роднай Масквы. Цяпер у іх былі свежыя навіны пра становішча на фронце.

Падпольшчыкі, атрымаўшы звесткі па радыё, пісалі лістоўкі, распаўсюджвалі іх сярод вясковых людзей. Гэта прыводзіла ў шаленства нямецкія ўлады. «Абураўся» і «шукаў чырвоных бандытаў» і староста Фёдар Сямёнавіч...

Сувязь падпольшчыкаў з партызанамі расла. Камсамолец Юстын Ясюковіч па заданню Фёдара Сямёнавіча некалькі разоў хадзіў да лесніка, дзе сустракаўся з Рыгорам Крукавым. Гэты чалавек быў арыштаваны немцамі і прыгавораны да пакарання смерцю. Выпадкова яму ўдалося ўцячы з-пад варты. Пасля гэтага ён узначаліў невялікую партызанскую групу з ваеннапалонных. З таго дня паміж партызанамі і маладымі патрыётамі вёскі Крывое ўстанавілася рэгулярная сувязь. Пра ўсё, што рабілася ў гарнізоне, добра ведалі партызаны, якія жылі ў лесе.

...У адзін з цёплых дзён мая 1943 года ў вёску Крывое наляцелі карнікі. На вуліцы з грамады моладзі быў схоплены Юстын Ясюковіч. Схапілі яго ў момант, калі ён іграў на скрыпцы і спяваў.

— Паглядзім, як ты цяпер запяеш, — зласліва працадзіў скрозь зубы нямецкі падбрэхічперакладчык.

— Невядома яшчэ, як сам запяеш, — Юстын з пагардай плюнуў перакладчыку ў вочы.

Кароткі трэск пісталетных стрэлаў перапыніў словы патрыёта. Страляў афіцэр. Перад смерцю камсамолец Ясюковіч крыкнуў:

— Няхай жыве камунізм!

Усю абойму афіцэр выпусціў ужо ў мёртвага Юстына.

Ноччу, калі неба асвятлілася заравам пажарышча, карнікі пакінулі вёску Крывое. Раніцаю маці Юстына, Надзежда Валяр'янаўна, якая тады схавалася ў склепе ў суседзяў, прынесла мёртвага сына дадому. З падкладкі парванага пінжака дастала яго камсамольскі білет, заліты крывёй, загарнула яго ў ручнік і схавала. Сына пахавала пад акном, у гародчыку.

З таго часу мінула пятнаццаць год. Але моладзь Дунілаўшчыны не забыла свайго земляка Юстына Ясюковіча. Па прапанове камсамольцаў у вёсцы Крывое ў гэтым годзе яму пастаўлены помнік.

Надзежда Валяр'янаўна беражліва захоўвае сынаў камсамольскі білет, заліты крывёю.

**Міх. ЧАПРАСАЎ.**



# ПОДЗВІГ ХВЯДОСА СМАЛЯЧКОВА

Чатырнаццацігадовым хлопчыкам Хвядос Смалячкоў адправіўся са сваёй роднай вёскі Чырвоная Слабада, што на Быхаўшчыне, у Ленінград вучыцца на муляра.

Непрыкметна прайшоў час вучобы ў школе ФЗН. Смалячкоў стаў звеннявым муляраў і хутка заваяваў першынство на будоўлі. Ужо тады ўсім, хто працаваў з ім побач, кідалася ў вочы яго настойлівасць і рашучасць.

Яшчэ ў школе Хвядос быў аматарам спорту, лепшым стралком. І ў горадзе ён не закінуў гэты занятак — паступіў на снайперскія курсы Асаавіяхіму.

У дзённіку Смалячкова, які ён вёў у Ленінградзе, ёсць такі запіс ад 15 лютага 1941 года:

«Ітак, таварыш Смалячкоў, віншую Вас з заканчэннем снайперскіх курсаў!» Сказаўшы гэта, старшы лейтэнант моцна паціснуў мне руку і па-сяброўску дадаў: «Жадаю табе, Федзя, удачы...»

Неўзабаве пачалася вайна. Вораг набліжаўся да Ленінграда. Усе ленінградцы, хто мог трымаць зброю, сталі на абарону роднага горада. Хвядос Смалячкоў уступіў у рады апалчэнцаў, а крыху пазней пайшоў на фронт.

Воіны займалі абарону на Пулкаўскіх вышынях. У тыя дні Смалячкоў стаў стралком-снайперам. У засаду пайшлі ўдваіх — Смалячкоў і Шушкін.

Марудна цягнецца час у засадзе. Ляжыш гадзіну, другую — і ні душы. Нарэшце, з варожага дзота высунулася каска. Хвядос праверыў прыцэл, стаіў дыханне. Націск на курок, і ляснуў стрэл.

— Ёсць адзін, — шапнуў Хвядос таварышу.

— Будзе і другі, — ціха адказаў той.

Тры забітыя фашысты — такі рахунак баявога дня снайпера Смалячкова. А ўвечары таго дня байцы-таварышы прынялі Хвядоса ў камсамол. Тады ён і заявіў:

— Кожная куля, выпушчаная з маёй вінтоўкі, будзе біць па ворагу!

З дня ў дзень Хвядос Смалячкоў хадзіў у засаду. І заўсёды ўдала. У студзені 1942 года на яго рахунку было 107 забітых фашыстаў.

Захавалася запісная кніжка снайпера Аляксея Зібрава, які быў пасля смерці Шушкіна Хвядосавым напарнікам. У ёй ёсць цікавыя запісы:

«Выйшлі ў 6 раніцы. Выбраліся за баявую ахову і за дрот. Знішчылі 7. З іх аднаго забіў я — Зібраў».

«Сёння ў 6 раніцы былі на старым месцы. Падышлі яшчэ бліжэй да варожых траншэй. Знішчылі 6. Двух забіў я — Зібраў».

«Зямлянку пакінулі ў 6 раніцы. Цэлы дзень правялі ў хляве, вялі назіранне. Мінамёты і гарматы фашыстаў білі па нашаму пярэдняму краю. Знішчылі 5. На рахунку Зібрава — 0».

«Фашысцкі кулямёт стракатаў за хлявом. Федзя знішчыў 6. Мароз быў 36 градусаў».

Пра снайпера Смалячкова разнеслася слава па ўсім фронце.

«Бі без промаху! Па адной кулі на фашыста!» — з такім заклікам звярнуўся воін-камсамолец да ўсіх байцоў Ленінградскага

фронта. Аб яго снайперскім майстэрстве пісалі франтавыя газеты. У яго знайшлося шмат паслядоўнікаў — Іваноў, Волкаў, Лугоўскі, Хобзаў, Палубан і многія-многія іншыя героі-патрыёты першых дзён Айчыннай вайны.

Хвядос Смалячкоў зрабіў 126 выстралаў, знішчыўшы 125 гітлераўцаў.

19 студзеня 1942 года абарвалася жыццё маладога воіна-патрыёта. Верныя таварышы, рызыкуючы жыццём, вынеслі з бою Хвядоса Смалячкова і пахавалі з воінскімі ўшанаваннямі.

— Клянуся тут, на магіле тваёй, дарагі дружа, што адпомшчу ворагу за тваю смерць, за кроў і слёзы майго народа, — прачула гаварыў снайпер Сталяроў, якому перадалі вінтоўку № 13914, што належала загінуўшаму герою.

У лютым 1942 года беларускаму хлопцу-камсамольцу Хвядосу Смалячкову, які смерцю мужных загінуў пры абароне Ленінграда, пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Савецкі народ шануе памяць героя. У Ленінградзе ёсць вуліца імя Смалячкова. Яго імя носіць піянерская дружына 121-й школы горада Леніна, а таксама пасёлак на Карэльскім перашыйку.

У Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі ўстаноўлены бюст героя, створаны беларускім скульптарам, народным мастаком БССР З. Азгурам.

**М. СУША.**

*Спорт*

**Мікола МАРУШКЕВІЧ**

# СПАРТЫЎНАЕ ЛЕТА РАДЫЁЗАВОДЦАЎ

### Дзень пачынаецца зарадкай

Пра фізічную зарадку на Мінскім радыёзаводзе загаварылі летась. Шчыра кажучы, нямнога было тады людзей, якія верылі, што гэта добрая справа.

— Якая там зарадка, хопіць таго, што восем гадзін ля станкоў «практыкуешся»!

Інструктар фізкультуры Уладзімір Церлюкевіч заходзіў у цэхі, прасіў на некалькі хвілін спыніць работу. Неахвотна сустракалі яго рабочыя. Толькі некаторыя з іх «не саромеліся» паўтараць практыкаванні. Тым часам на завод наведаўся прадстаўнік з Цэнтральнага Савета прафсаюзаў і пацікавіўся вытворчай фіззарадкай. Каб, як гаворыцца, не ўдарыць тварам у гразь, прафсаюзныя, а разам з імі камсамольскія актывісты пайшлі па цэхах і пачалі рабіць тое, з чаго, бадай, і трэба было пачынаць, — тлумачыць рабочым, якая гэта карысная справа, як яна патрэбна для здароўя.

Так прыезд прафсаюзнага работніка і зрушыў з месца справу. Да таго ж камсамольцы механічнага цэха выпусцілі «Калючку» з трапнымі карыкатурамі на тых юнакоў і дзяўчат, што цураліся зарадкі. Такія сатырычныя лісткі з'явіліся і ў кожным цэху...

Гэта было летась. А сёлета?

Зойдзем у цэх а дзесятай гадзіне раніцы. Дастаткова ў гэты момант на парозе цэха паказацца спартсмену ў чырвонай майцы, як шум станкоў змаўкае.

— На пяцімінутку станавіся!

Цэх раптам ператвараецца ў своеасаблівую спартыўную залу.

Так пачынаецца спартыўны дзень на заводзе.

... Кожную вольную мінуту — у абедзенны перапынак і пасля работы — загарэлых, дужых юнакоў і дзяўчат у чырвоных майках можна ўбачыць у ціры, на валейбольных пляцоўках, ля штангі, на гарадскіх стадыёнах. Ідуць трэніроўкі, заняткі секцый, таварыскія сустрэчы, спаборніцтвы...

### Удзельнікаў удвая больш

У прасторным пакоі, у так званай «прахадной», побач з плакатамі і заклікамі, вісіць вялізная

зашклёная рамка. У ёй — прыгожа аздоблены малюнкамі «План спартыўных мерапрыемстваў на лета 1958 года...» Бадай кожны, хто праходзіць міма, спыніць свой позірк на гэтым малюнку-аб'яве. Тут шмат цікавага: і спаборніцтвы, і таварыскія сустрэчы, і абавязацельствы спартсменаў у гонар 40-й гадавіны ВЛКСМ і 40-годдзя Беларусі. Галоўнае ж — гэта летняя спартакіяда заводскай моладзі.

Але не будзем спыняць увагу на плане, бо добры план — гэта яшчэ не ўсё. Лепш заглянем на зялёнае поле стадыёна, на спартыўныя пляцоўкі і памосты.

...Стадыён інстытута фізкультуры. Пад гукі духавога аркестра лепшыя спартсмены завода Радзіён Савіцкі, Тамара Стаселька і Святлана Станюта ўзнялі флаг спар-

Кантралёр Мая Лагішынец мае другі разрад па стральбе.



такіяды. Пасля ўрачыстага шэсця спартсменаў пачаліся спаборніцтвы. У барацьбу за першынство ўступілі футбалісты і стралкі, валейбалісты і тэнісісты, лёгкаатлеты і цяжкаатлеты, шахматысты і шашысты, плыўцы...

У той час яшчэ невядомыя былі канчатковыя вынікі, бо спартакіяда была ў самым разгары. На пляцоўках і памостах ішло гарачае змаганне. Але прыемна адзначыць, што сёлета на спартакіяду выйшла ўдвая больш удзельнікаў, чым у мінулым годзе. Футбалісты выставілі пяць каманд, у той час як раней на заводзе была ўсяго адна каманда. З тэлевізарнага цэха, дзе фізоргам Уладзімір Яроцкі, на спартакіяду, акрамя лёгкаатлетаў, плыўцоў і іншых аматараў спорту, выйшлі дзве мужчынскія і дзве жаночыя каманды валейбалістаў. Амаль што па ўсіх відах праграмы на спартакіядзе выступаюць каманды з механічнага цэха. Хоць маладым спартсменам давялося пацярпець некалькі паражэнняў ад больш вопытных, такіх, як, скажам, валейбалісты рамонтна-механічнага і зборачнага цэхаў, у складзе якіх гуляюць ігракі зборнай каманды завода, але гэта не бяда. Будучае пакажа, у якім цэху самыя мацнейшыя спартсмены.

На спартакіядзе выявілася шмат новых здольных маладых спартсменаў. Васемнаццацігадовы хлопец — рабочы зборачнага цэха Георгі Драгун нечакана для ўсіх паказаў сябе здольным футбалістам, і, вядома, яго адразу залічылі членам зборнай каманды завода. Ніна Валодчанка — работніца цэха тэлевізараў, Пятро Шыпянок — рабочы зборачнага цэха, жаночая каманда з дрэваапрацоўчага цэха і многія іншыя ўдзельнікі спартакіяды выканалі нарматывы спартыўных разрадаў.

Няма, бадай, патрэбы пераліч-





Камсамолец Гарык Тарусель у час абедзеннага перапынку на трэніроўцы.

ваць усіх лепшых спартсменаў, іх на заводзе многа. А калі ёсць добрыя спартсмены, то будуць і выдатныя паказчыкі, будуць на заводзе і свае разраднікі, і свае майстры спорту.

### Яшчэ адно параўнанне

Аматараў-штангістаў непакоіла адно: дзе займацца? Клуб, у якім павінна быць спартыўная зала, яшчэ будуецца. Хіба дзе-небудзь у цэху? Дык наўрад ці знойдзецца дзе такое месца, каб можна было зрабіць памост. А можа зноў, як у мінулыя гады, давядзецца пазычаць інвентар і прасіць месца для заняткаў у суседзяў. Не! Пакуль знойдзем усё гэта, некалі будзе і трэніравацца...

Не маркоціўся толькі Гарык Тарусель, які ўзначальваў секцыю цяжкаатлетаў.

— Не хвалюйцеся, сябры, — супакойваў ён сваіх паплечнікаў, — на спартакіяду выйдзем у баявой форме.

Што ж надумаў хлопец? А вось што.

— Хіба мы не майстры на ўсе рукі? — сказаў ён таварышам. — Хіба мы паўтараста кілаграмаў металу для штангі не знойдзем на заводзе?

І дастаткова было толькі падаць гэтую ідэю, як праз тыдзень цяжкаатлеты мелі зробленую сваімі рукамі сапраўдную штангу. А з'явілася штанга — знайшлося месца і для памосту, яго зрабілі самі хлопцы на двары, там, дзе звычайна адпачываюць рабочыя ў час абедзеннага перапынку. Лепшага месца нельга было і выбраць. Цяпер у час перапынкаў памерацца сіламі сходзяцца аматары-штангісты. А Гарык выступае ў ролі трэнера.

Словам, нядрэнна атрымалася. Моладзь сваімі сіламі зрабіла пляцоўку. Цяпер ёсць месца, дзе можна пагуляць у валейбол, трэніравацца маюць магчымасць адразу і мужчынскія і жаночыя каманды. Камсамольцы, моладзь завода стварылі сабе ўмовы для заняткаў яшчэ адным захапляючым відам спорту. На тэрыторыі завода цяпер ёсць свой цір. А калі ёсць дзе займацца, дык знаходзіцца ўсё больш і больш аматараў. Сёлета ўжо і многія з дзяўчат пачалі займацца стралковым спортам.

Так вось і разбагацелі заводскія спартсмены. Хіба можна цяпер ім адставаць ад іншых спартыўных калектываў? Ні ў якім разе! Так мяркуюць самі спартсмены. Яны ўдала сёлета абараняюць свой спартыўны гонар. Пакуль што ні ў адной таварыскай сустрэчы не падкачалі ні футбалісты, ні валей-

балісты, ні лёгкаатлеты. А ў спаборніцтвах заваяваны новыя прызы.

**Ёсць 600, будзе 850!**

Пытанне аб гэтых двух лічбах узнікла ў нас амаль што выпадкова. Размаўляючы з адным юнаком — камсамольскім актывістам, сакратар камітэта камсамола завода Гарык Вольскі сказаў неяк яму:

— Наперад, дружа, трэба глядзець смялей... Памятаеш, як моладзь нас папраўіла наконт членаў спартыўнага таварыства. Мы выказвалі свае меркаванні, а нам гавораць: не, трэба браць вышэй!..

Не паглыбляючыся ў сэнс таго, аб чым ішла размова з тым хлопцам, пытаемся ў сакратара, што ён меў на ўвазе, калі ўспамінаў аб членах спартыўнага таварыства. І ён расказаў нам надзвычай простую, цікавую рэч:

— Вясною мы шырока абмяркоўвалі свае спартыўныя абавязацельствы ў гонар 40-й гадавіны камсамола. Мы прапаноўвалі давесці лік членаў нашага дабраахвотнага спартыўнага таварыства да 700 чалавек. Дык вось нас тады і папраўіла моладзь. Змагаемся цяпер за тое, каб заводскі калектыў фізкультуры к канцу года налічваў у сваіх радах 850 чалавек...

— А ў наступным годзе ў нас будзе тысяча спартсменаў, — дапоўніў сакратара фізорг Уладзімір Церлюкевіч.

Ужо сёння на заводзе больш сямісот фізкультурнікаў. Бурны прырост спартсменаў дала летняя спартакіяда.

Цікавасць да заняткаў фізкультурай мацнее ўвачавідкі. Яшчэ летась сярод пажылых рабочых і служачых можна было сустрэць толькі некалькі чалавек, якія цікавіліся шашкамі ці шахматамі. А вось зусім нядаўна «старыкі» пачалі асаджаць Уладзіміра Церлюкевіча:

— Арганізоўвай і для нас спартыўны гурток...

— І прыходзіцца варушыцца, — расказвае Уладзімір, — ствараем нешта накшталт новай секцыі. Вядома, майстроў-лёгкаатлетаў з яе яшчэ не выйдзе, але прыемна бачыць сярод нас заўсёды бадзёрых і жыццерадасных сваіх старэйшых таварышаў. Пастараемся, каб гурток стаў распаўсюджвальнікам бадзёрасці і задору.

Ёсць, праўда, і такія задумы ў заводскіх спартсменаў, якія пакуль што не ажыццёўлены. Пакуль што, напрыклад, не наладжана работа секцыі турызму — гэтага захапляючага, сапраўды масавага віду спорту, не наладжана работа веласіпеднай і некаторых іншых секцый. Але ёсць галоўнае — гарачае жаданне саміх людзей, саміх аматараў далёкіх паходаў, загарадных масавых прагулак, веласіпедных гонак. Ёсць і добры вопыт, уменне самім клапаціцца аб сваіх любімых занятках, а не чакаць, пакуль будзе падана ўсё гатовенькае.

*Публікацыі*

# ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ ЧАСОПІСАЎ

У 1934 годзе маскоўскі часопіс «Барацьба за тэхніку» звярнуўся да вучоных і пісьменнікаў нашай краіны з заклікам: «Створым навукова-мастацкую літаратуру, вартую нашай вялікай эпохі!»

На заклік часопіса адгукнуліся і выступілі са сваімі меркаваннямі акадэмікі Камароў і Ферсман, пісьменнікі А. Талстой, Ф. Гладкоў, В. Катаеў і многія іншыя. Падзяліўся сваімі думкамі з чытачамі часопіса і Янка Купала. Нажаль, гэтае яго выступленне на старонках часопіса «Барацьба за тэхніку» мала каму з чытачоў вядома. Яно не ўпамінаецца нават у бібліяграфіі. А між тым, цікавасць яго — вялікая.

Янка Купала пісаў:

«Мы жывем у казачны час, калі тэхніка крочыць уперад не па гадах, а па гадзінах. Авіяцыя, гідратэхніка, выкарыстанне малакаштоўных відаў паліва, вытворчасць самых складаных машын, будаўніцтва гіганцкіх каналаў, паднящце з марскога дна патопленых караблёў і да т. п. — усё гэта знамянуе сабою незвычайнае развіццё тэхнічнай думкі. Але наша літаратура ў гэтых адносінах адстае і не знаходзіць яшчэ дастатковых сродкаў для таго, каб адлюстраваць гэты гіганцкі размах тэхнічнай думкі, якаяператварылася ў сапраўднасць.

Калі Жуль Верн за многа дзесяткаў год змог прадсказаць такое развіццё тэхнікі, якое для нас стала рэальным жыццём, то наша літаратура — празаікі і паэты — не толькі не змаглі яшчэ прадугадаць нашу тэхнічную будучыню, але нават не змаглі адлюстраваць нашу рэальную рэчаіснасць, такую багатую і казачную. У лепшым выпадку мы маем добрыя нарысы і два—тры навуковыя раманы, якія ні ў якой меры яшчэ не адлюстроўваюць тэхнічнага прагрэсу вялікай краіны Саветаў.

Савецкім пісьменнікам і паэтам трэба імкнуцца напісаць такія творы, якія наглядна паказалі б наша цудоўнае жыццё. Але гэтыя творы павінны не толькі гаварыць аб шляху, пройдзеным ужо, а і намячаць шляхі будучага нашай тэхнікі і, прымяняючы ў сваім творчым метадзе фантастыку, з'яўляцца нібы прароцтвамі. Нам трэба, падымаючыся да грані фантастыкі, павучыцца гэтаму ў такіх майстроў, як Беламі, Жуль Верн, Уэлс, Келерман і інш.».

Гэтае выступленне змешчана ў часопісе «Барацьба за тэхніку» № 17—18 за 1934 год.

Цяпер застаецца толькі зрабіць некаторыя каментарыі. Ужо сам пералік аўтараў, якіх упамінае Янка Купала, адлюстроўвае не толькі яго інтарэсы, як чытача, але і тое, што сацыяльная навуковая фантастыка ўсё больш прыцягвала да сябе ўвагу класіка на-

шай літаратуры. Купалу было знаёма імя Беламі (1850—1898), супярэчлівая ўтопія якога «Праз сто гадоў» закранала жывыя струны душы яго сучаснікаў; ён быў знаёмы з творамі Жуль Верна — прызнанага ўладара юнацкіх душ, аўтара раманаў пра стваральнікаў навукі; з навукова-фантастычнымі творамі Герберта Уэлса і з творамі Бернгарда Келермана, які ў сваіх раманах «Тунель», «Горад Анатоль» паказаў канфлікт паміж стваральнікамі тэхнікі і прагнымі гаспадарамі манаполій — магільшчыкамі прагрэсу.

За час, што прайшоў пасля апублікавання артыкула Янкі Купалы, савецкія людзі першымі ў свеце падпарадкавалі сабе энергію атама, вывелі на арбіты штучныя спадарожнікі Зямлі.

Штодзённыя справы савецкіх людзей перасягнулі ўсю дасюлешнюю фантастыку.

**Д. ФАКТАРОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**Юліус ФУЧЫК**

# ЧЭШСКАЯ КУЛЬТУРА ПАД УПЛЫВАМ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Уся літаратурная спадчына нацыянальнага героя Чэхаславакіі Юліуса Фучыка — гэта сведчанне непрымірымай барацьбы пісьменніка-камуніста за інтарэсы рабочага класа, сведчанне яго вялікай сімпатыі да савецкага народа — будаўніка першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы.

Артыкулы, рэпартажы і нарысы Юліуса Фучыка, выдадзеныя ў нашай краіне, заўсёды выклікалі і выклікаюць вялікую цікавасць.

Артыкул, які мы прапануем увазе нашых чытачоў, яшчэ не друкаваўся ў рускім перакладзе. Ён надрукаваны ў газеце «Рудэ права» ў 1927 годзе (11 снежня, № 293) і прысвечаны дзесяцігоддзю Савецкай дзяржавы.

Знайшла артыкул, пераклала яго з чэшскай мовы і склала каментарыі да яго кандыдат філалагічных навук В. М. Цімафеева.

*

Ад чэшскага буржуазнага перавароту [1]) ў нашым культурным жыцці засталіся толькі ўспаміны: мы дагналі еўрапейскі ўпадак.

Чэшскую літаратуру доўгі час ажыўляў нямецкі імперыялізм. Наша буржуазія не мела поўнай улады, знаходзілася ў пастаянным страху перад нямецкай буржуазіяй, перад пагрозай падпарадкавання ёй. З гэтага палітычнага фактару выцякала неабходнасць паяўлення «патрыятычнай» літаратуры, г. зн. той чэшскай літаратуры, якая ставіла сваёй мэтай служыць міжбуржуазнай чэшска-нямецкай барацьбе. Пасля перавароту паэты-патрыёты памерлі, і ў чэшскім культурным жыцці настаў густы буржуазны змрок. Гэта амаль у той момант, калі Кастрычніцкая рэвалюцыя рускага пралетарыяту адкрыла працэс адраджэння ва ўсіх галінах чалавечай творчасці.



У той час, як буржуазная літаратура, абцяжараная спадчынай старога свету, канала ў безнадзейнай блытаніне і лаяльных закутках дзяржаўнай журналістыкі, у той час, як мяшчанскі тэатр узяўся «вучыць, вучыць і яшчэ раз вучыць» сваю незадаволеную і знясіленую публіку ціхай абывацельскай дабрачыннасці, падымаецца магутная хваля культуры, выкліканая рускай рэвалюцыяй, уздзеянне якой стала пастаянным фактарам, які прадаўжаў дзейнічаць і пасля таго, як была ліквідавана першапачатковая, памылковая ў сваёй аснове, эра «пралетарскага мастацтва» і «пралетарскай культуры».

Асабліва моцна рэагуе на гістарычны факт рускай рэвалюцыі сучасная паэзія. Перш за ўсё вершы. Сейферт:

«Там,
на ўсходзе, вочы бачаць ратунак,
там, на ўсходзе, удалечыні
выступае сілуэт —
у вянку жытніх калоссяў —
молат і серп».

(Пераклад падрадковы — **В. Ц.**).

Затым — артыкулы, якія інфармуюць аб імкненнях рускага «пралеткульта», прасякнутыя яго ідэямі. Затым — калектывізм, які стаў вядучым у культурнай дзейнасці. І нарэшце — метад, які стаў асновай усёй сучаснай чэшскай культуры і які вызначае яе мэты і крытычныя нормы.

Руская рэвалюцыя абнавіла сілу марксізма, скрытую і падарваную ў Заходняй Еўропе рэфармізмам і рэалістычнымі прафесарамі [2]), дала марксізму магчымасць пранікнуць у культуру, якой ён да гэтага часу быў чужым і заўсёды недаацэньваўся. Масарыкаўскае «Сацыяльнае пытанне» — гэтая работа чалавека, для якога Маркс застаўся незразумелым і далёкім, была ў нас дапаможнікам для вывучэння марксізма. Цяпер аб ёй уздыхаюць толькі кандыдаты ўніверсітэцкіх сталіц, а незаплямленая спадчына Маркса ўпершыню ўзята за аснову тымі, хто працуе ў галіне культуры. Ленін, так трапна названы «сацыяльным інжынерам», толькі цяпер апеты ў вершах паэтаў-камуністаў; рэвалюцыйны дух пранік у самыя карэнні сучаснай культурнай творчасці, стаў яе сілай, яе праграмай і не знікае з яе.

У гэтай сувязі застаецца толькі назваць мастакоў, якія згуртаваліся ў «Дзеветсіле» [3]) — акрамя Сейферта, Бібла, Тэйге, Хозлы, Волькера, Гары, ёсць шэраг іншых дзеячоў культуры старэйшага пакалення, якія не мінулі магутнага ўплыву рускай рэвалюцыі. «Натоўпы», «Дзіця» і новыя крытычныя работы Шальды, «Чырвоныя гімны» Нэймана, «Ленін» Томана, эпізод у творы Совы і іншыя, няхай і дробныя, але ўсё-такі важныя літаратурныя факты, уяўляюць сабой дакументы найглыбейшага ўплыву Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Яскрава выражана гэта і ў эвалюцыі непасрэдных водгукаў на Кастрычнік у чэшскай літаратуры. Ні адна з падзей апошняга дзесяцігоддзя не атрымала такога рэзанансу ў нашай пісьменнасці, як руская рэвалюцыя ў СССР. Злосны паклёп у брашурках аб бальшавіцкіх зверствах і бессэнсоўным кровапраліцці не мог са сваімі аргументамі доўга ўстаяць супраць праўды Кастрычніка. Так, з 1924 года (у іншых краінах значна раней) у нас праяўляецца велізарнае імкненне ацаніць краіну Саветаў. У СССР накіроўваюцца дэлегацыі, якія, вяртаючыся, публікуюць у перыядычным друку і салідных зборніках усё новыя і новыя радасныя матэрыялы, якія выклікалі велізарнейшую грамадскую цікавасць. Вось тут мы і можам параўнаць

водгук, які атрымала рэвалюцыя рускага пралетарыяту, з водгукам на рэвалюцыю чэшскай буржуазіі. У нас, акрамя ўрачыстых лістовак, маюцца толькі ўспаміны правадыроў чэшскага супраціўлення... Яны ўспамінаюць, як рабілі рэвалюцыю[4]), пераконваюць нас, што рабілі рэвалюцыю, паколькі мы не бачым яе вынікаў і паколькі велізарная большасць народа, увесь рабочы клас падвяргаецца куды горшай эксплуатацыі і куды горшаму самавольству ўлад, чым было да перавароту. Руская рэвалюцыя вызваліла рабочы клас, выканала вялікую гістарычную справу вызвалення, пра якое нашым «рэвалюцыянерам» і не снілася. Вынік гэтага — яркае адлюстраванне рэвалюцыі ў літаратуры.

Рэвалюцыя паслужыла фундаментам, на якім выраслі выдатныя працы не толькі ў рускай навуковай, сацыялагічнай, эканамічнай і мастацкай літаратуры, але і ў зарубежнай — англійскай, французскай, нямецкай і, нарэшце, чэшскай літаратуры.

Было б вялікай памылкай тлумачыць гэта русафільствам. Чэшскае русафільства было буржуазным русафільствам, павярхоўным захапленнем некалькімі рускімі класікамі. Гэтае захапленне знікла, як толькі да слова Расія трэба было дадаць эпітэт «рабочая». Масарык, таксама як і Крамарж [5]) — гэтыя прадстаўнікі чэшскага русафільства, адвярнуліся ад рабочай Расіі, гэтак жа, як і рабочы клас ад іх. Але з сённяшняй Расіяй чэшская культура мае самыя жывыя ўзаемаадносіны, куды больш ажыўленыя, чым калі-небудзь раней, а яе сімвалам стаў цяпер не Дастаеўскі і Талстой, а Ленін.

Кастрычніцкая рэвалюцыя дала новы канкрэтны сэнс жыццю, і культура, прасякнутая ёю, знайшла ў гэтым свой ратунак. Гэтаму факту сучасная чэшская культура абавязана тымі добрымі якасцямі, якія інакш засталіся б недаступнымі для яе.

---

[1]) Ю. Фучык мае на ўвазе пераварот 28 кастрычніка 1918 года, у выніку якога была абвешчана «незалежная» буржуазная Чэхаславацкая рэспубліка.

[2]) Прафесар філасофіі Пражскага ўніверсітэта Т. Г. Масарык (з 1918 па 1935 год — прэзідэнт Чэхаславацкай рэспублікі) быў заснавальнікам і ідэолагам ліберальна-буржуазнай «Чэшскай народнай (рэалістычнай) партыі».

[3]) Культурная асацыяцыя, што аб'ядноўвала ў 1921—1922 гадах маладых літаратараў і мастакоў, якія абвясцілі аб сваім пралетарскім светапоглядзе.

[4]) Маецца на ўвазе пераварот 28 кастрычніка 1918 года.

[5]) К. Крамарж — лідэр нацыянал-дэмакратычнай партыі, якая выражала інтарэсы буйнай чэшскай буржуазіі.



# НА ЗАКЛІК ПАРТЫІ

З вялікай удзячнасцю, як новае праяўленне клопатаў і ўвагі Камуністычнай партыі да развіцця савецкай музычнай культуры, успрынялі беларускія кампазітары і музыказнаўцы пастанову ЦК КПСС ад 28 мая 1958 года «Аб выпраўленні памылак у ацэнцы опер «Вялікая дружба», «Багдан Хмяльніцкі» і «Ад усяго сэрца». Абмяркоўваючы на сваім агульным сходзе гэтую пастанову, музычныя дзеячы рэспублікі зусім слушна падкрэслівалі, што ўсе партыйныя дакументы па пытаннях савецкай музыкі патрабуюць ад мастацтва партыйнасці, народнасці і рэалізма. Прамоўцы гаварылі таксама і аб тым, што беларуская прафесіянальная музыка заўсёды адчувала на сабе клопаты і ўвагу Камуністычнай партыі, бо гэтая музыка створана і развівалася ў гады савецкай улады. Выключнае значэнне для дзеячоў беларускага мастацтва мае пастанова ЦК КПСС зараз, калі ўся рэспубліка рыхтуецца да свайго вялікага нацыянальнага свята — 40-годдзя Беларускай ССР. І гэта сапраўды так, бо новы партыйны дакумент з'яўляецца праяўленнем высокага давер'я да нашых кампазітараў, заклікам Камуністычнай партыі прыкласці ўсе намаганні, каб пісаць такую музыку, якая праўдзіва адлюстроўвала б усё багацце жыцця, была вартая свайго народа, клікала яго наперад, на здзяйсненне лепшых мар чалавецтва.

Як жа адказваюць беларускія кампазітары сваёй творчасцю на заклік партыі?

За апошнія месяцы напісана значная колькасць музычных твораў і многія з іх знаходзяцца ў стане завяршэння. Усе яны сведчаць аб імкненні беларускіх кампазітараў працаваць у розных музычных жанрах і адлюстроўваць у музыцы розныя бакі жыцця савецкіх людзей. Каштоўнай адзнакай новых твораў з'яўляецца і тое, што яны напісаны ў рэалістычных традыцыях, яснай музычнай мовай, што ў іх не губляюцца індывідуальныя рысы таленту кожнага кампазітара, яго творчы почырк.

Беларускі Дзяржаўны тэатр оперы і балету пачаў працаваць над пастаноўкай «Яснага світання». Аб гэтай новай оперы кампазітара А. Туранкова (лібрэта пісьменніка А. Бачылы) мы пісалі ўжо ў адным з ранейшых нумароў часопіса. Тэатр прыступіў таксама да пастаноўкі новага камічнага балету маладога беларускага кампазітара Г. Вагнера. Балет назы-

ваецца «Падстаўная нявеста» і напісаны па лібрэта драматурга Я. Рамановіча.

Больш чым два акты новай оперы «Раскіданае гняздо» закончыў старэйшы беларускі кампазітар, 89-гадовы Мікалай Мікалаевіч Чуркін. Лібрэта оперы напісалі рэжысёр А. Скібнеўскі і паэт А. Астрэйка па вядомай драме Я. Купалы. Аўтар оперы мае намер закончыць твор да 40-й гадавіны БССР.

З твораў опернага жанру трэба яшчэ назваць «Паўла Карчагіна» і «Брэсцкую крэпасць». Першую оперу днямі закончыў П. Падкавыраў на ўласнае лібрэта па раману «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага.

Лібрэта «Брэсцкай крэпасці» напісаў А. Бачыла, музыку пачаў пісаць Ул. Алоўнікаў. Аўтары імкнуцца паказаць увесь трагізм сітуацый і героіку абаронцаў не праз масавыя батальныя сцэны, а скрозь прызму ўспрыймання падзей асобнымі героямі.

Два цікавыя творы закончылі беларускія кампазітары ў кантатным жанры. Гэта «А хто там ідзе» Р. Пукста і «Памяці Канстанціна Заслонава» маладога аўтара Ю. Семянякі. Абедзве кантаты напісаны для змешанага хору, салістаў і сімфанічнага аркестра. Першая з іх — на тэксты Я. Купалы, П. Труса, М. Клімковіча, К. Кірэенкі; другая напісана на тэкст маладога пісьменніка Н. Алтухова. Кожная з іх складаецца з некалькіх частак і малюе старонкі з гераічнага мінулага беларускага народа.

Яркая музыка ў апошнія месяцы створана і ў сімфанічным жанры. Так, М. Аладаў закончыў «Сімфаньету» ў 3-х частках і «Фантазію для флейты і сімфанічнага аркестра». Пятую сімфонію напісаў Я. Цікоцкі, «Сімфаньету» — Л. Абеліёвіч, рапсодыю для фартэпіяна з аркестрам — Д. Камінскі, «Тры сімфанічныя карціны» Я. Дзягцярык і Першую сімфонію — Я. Глебаў. Апошнія два аўтары з'яўляюцца самымі маладымі членамі Саюза кампазітараў БССР, але, мяркуючы па гэтых творах, якія яны зараз напісалі, абодва зрабілі вялікі крок наперад у галіне авалодання майстэрствам і выходзяць у першыя рады беларускіх сімфаністаў.

Да свята 40-годдзя рэспублікі заканчвае цікавы сімфанічны цыкл «Песні міру» Ул. Алоўнікаў. У гэтай сюіце тры часткі: «Песня гневу», «Песня смутку» і «Песня ўрачыстасці перамогі». Кожная з іх адлюстроўвае пэўны этап у барацьбе народаў за мір ва ўсім свеце.

Зразумела, што, акрамя гэтых твораў у складаных, буйных музычных формах, беларускія кампазітары напісалі рад твораў масавых. Тут трэба ўказаць на вакальны цыкл з шасці рамансаў на словы санетаў А. Звонака, што па-майстэрску напісаў Р. Пукст. Кожны з гэтых рамансаў быццам раскрывае адну са старонак багатага духоўнага жыцця чалавека.

Своеасаблівымі рамансамі-песнямі, з вельмі мяккім гумарам з'яўляюцца творы М. Аладава «Каля хаты» і «Шкодны месяц» на словы А. Ставера, «Блізіцца вечар» на словы А. Дзеружынскага. Не меней цікавыя яго хоры а-капела (без суправаджэння) «Шчабятуха» і «Пушчы-бары» на словы М. Клімковіча. Майстэрскія хоры «Блізіцца вечар» (словы А. Дзеружынскага) і «Восень» (словы М. Танка) напісала Э. Тырманд. Добрым падарункам нашым дзецям з'явяцца п'есы для скрыпкі і фартэпіяна Я. Дзягцярыка.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Аляксандр **АЛЯКСАНДРАЎ**

# НА АРЭНЕ — ТЫГРЫ!

Са мной нічога не здарылася. Гэта была толькі першая перамога, уверцюра да больш складанай работы — падрыхтоўкі нумароў.

Вам, напэўна, хочацца ведаць, як дрэсіруюць дзікіх звяроў? Пастараюся задаволіць вашу цікаўнасць. Не думаю, што пасля гэтага мне давядзецца баяцца вашай канкурэнцыі. Не так проста быць дрэсіроўшчыкам, хоць на справе і не так гэта небяспечна, як здаецца з першага погляду.

Дрэсіроўшчык дзікіх звяроў некаторым гледачам уяўляецца нейкай таямнічай істотай з незвычайнай, ледзь не магічнай сілай у вачах, якая прымушае звера рабіць усё, што захоча чалавек.

— Бачыш, як ён глядзіць на звера: нібы гіпнатызуе яго, — нярэдка чутно ў залі.

— Справа не ў вачах, а ў бізуне. Бачыш, як ён ляскае ім. Гэта напамінак пра страшныя лабоі. Звер баіцца і выконвае яго загады, — адказваюць другія.

І першыя і другія таварышы памыляюцца.

Магу запэўніць вас, што дрэсіроўшчыкаў-гіпнацізёраў не існуе. Не вытрымлівае крытыкі і дрэсіроўка страхам. Не страх прымушае звера каціць па арэне вялізны шар. А што ж?

Звернемся да самага простага прыкладу. Хіба страх прымушае каня цягнуць нагружаны воз? Вы скажаце, што конь — хатняя жывёла. Але ж калі вы першы раз запрагаеце маладога паджарабка, дык ён брыкаецца, лажыцца ў аглоблях, ідзе не ўперад, а назад, і толькі зразумеўшы, што ад яго патрабуюць, паслухмяна пачынае выконваць загад чалавека. Вядома, дзікі звер — не малады конь. Каб яго прывучыць, патрабуецца значна больш намаганняў.

Перш за ўсё ў зверу патрэбна выхаваць дабро, знішчыўшы або аслабіўшы лютасць. Дрэсіроўшчыку ў гэтым дапамагае вельмі развіты інстынкт звяроў да чалавека. Яны адгукаюцца на чалавечую ласку, адказваюць на давер'е даверʼем. Ласка ў спалучэнні з цярпеннем — вось што дае дрэсіроўшчыку магчымасць выпрацаваць у звера ўмоўныя рэфлексы.

Я заманьваю звера на тумбу. Пасля таго, як звер выканаў мой загад, ён атрымлівае пачастунак. Драпежнік прывыкае да таго, што, выканаўшы той або іншы загад, ён атрымае кавалак мяса. Паступова ў звера выпрацоўваецца рэфлекс, і ён ужо будзе выконваць загады дрэсіроўшчыка нават тады, калі не будзе атрымліваць падачак.

Безумоўна, страх патрэбны, каб назаўсёды адвучыць звера ад спроб супраціўлення чалавеку. Але гэты страх не павінен быць вельмі моцным: інакш звер не будзе адчуваць сувязі з чалавекам. Мне заўсёды прыпамінаецца адзін наш колішні дрэсіроўшчык тыграў. Ён наганяў на звяроў такі страх, што тыя, бывала, выходзяць на арэну, трасучыся і азіраючыся. Што можа быць больш агідным, як гэты перапалоханы ўладар лесу. Глядач хоча бачыць на арэне тыгра, а не нейкае пужлівае кацяне. З другога боку, такі звер, даведзены дрэсіроўшчыкам да апошняй грані роспачы, з'яўляецца самым небяспечным праціўнікам. (Асабліва, калі прырода ўзнагародзіла такога «труса» моцнымі кіпцюрамі і клыкамі). І нічога няма дзіўнага ў тым, што і знаёмы мой дрэсіроўшчык пацярпеў ад сваіх выхаванцаў: тыгры, нягледзячы на страх, разарвалі яго.

Значыць, выхоўваць страх неабходна тактычна і ўмела. Звер павінен адчуваць, што чалавек — яго ўладар, а не наадварот.

Часам у мяне пытаюцца: «Чаму вас баяцца звяры?». Я адказваю: «Бо яны не здагадваюцца, што я іх баюся». У гэтым жартаўлівым адказе ёсць свая праўда. Дрэсіроўшчык заўсёды насцярожаны, бо звер застаецца зверам. Але ён ніколі не паказвае гэтай сваёй насцярожанасці. Таму тыграм і ў галаву

Заканчэнне. Пачатак у № 7 за 1958 г.

не прыходзіць, што адзін удар лапай — і яны будуць пазбаўлены ад свайго няпрошанага выхаваццеля.

Вы скажаце — а ўсё ж звяры часам кідаюцца на дрэсіроўшчыка. Так, гэта здараецца. Кідаліся яны і на мяне. Пішучы гэтыя запіскі, я яшчэ раз прааналізаваў усе выпадкі, якія здараліся са мной у цырку. І зноў прыйшоў да вываду, што заўсёды быў вінават не звер, а чалавек. Зробіш няправільны рух, не ўлічыш настрою звера, дапусціш яшчэ якую-небудзь памылку, і звер немінуча захоча паспрабаваць: чаго варта гэтая двуногая істота. Такі «жарт» звера можа закончыцца вельмі дрэнна.

Летась у Львоўскім цырку, у час выступлення, на мяне раптам кінуўся тыгр «Акбар». Відаць, я неасцярожна прайшоў ля яго, і звер адчуў маю слабасць. Удар лапай — я падаю. «Акбар» адскоквае за тумбу, напэўна, сам спалохаўшыся свайго ўчынку. Але ён ужо «зразумеў», што дрэсіроўшчык у тэты момант слабы, і зноў кідаецца на мяне. Я закрываю рукамі шыю, прыціскаю жывот і грудзі да тумбы. Абараняцца няма ніякай магчымасці: цяпер у барацьбу з тыграм уступаюць мае памочнікі. Яны адганяюць «Акбара», прымушаюць яго ўцячы ў вагон. Але ён помніць пра тое месца і тыя мае неасцярожныя рухі, якія дазволілі яму выйсці з-пад маёй улады.

Пасля хваробы я зноў пачаў рэпеціраваць з «Акбарам». Правяраю, што ён будзе рабіць, калі я зноў паўтару сваю памылку. Звер, які бездакорна выконвае ўсе мае загады, пры паўтарэнні памылкі зноў спрабуе напасці на мяне. Але я раблю рэзкі рух, і «Акбар» разгублены. Гэты рух паказвае яму, што ўладаром на арэне з'яўляюся я, а не ён. Прайшло ўжо нямала часу, але і дасюль «Акбар» падпільноўвае імена тое наладжэнне, калі ён, адчуўшы чалавечую слабасць, кінуўся на мяне. Пройдзе час, і «Акбар» забудзе на свой дрэнны ўчынак. А пакуль мы вядзём з ім барацьбу. Звер, нарэшце, адчуе, што я зусім яго не баюся.

Першая якасць дрэсіроўшчыка — гэта шчырая любоў да сваіх звяроў. Таму, хто яго не любіць, звер ніколі не падпарадкуецца, хоць рэж яго на кавалкі. Вядома, гэта зусім не азначае, што звер палюбіць кожнага, хто любіць яго. Некаторыя звяры мяне любяць, другія да мяне раўнадушныя, а ёсць і такія, што ненавідзяць. Небяспека існуе заўсёды, але без любві, без ласкі яна была б куды большай. Любоў садзейнічае таму, што звер пачынае разумець чалавека. Дрэсіроўшчык і звер павінны дзейнічаць узгоднена, робячы адзін другому ўступкі.

Дрэсіроўшчык абавязан добра ведаць магчымасці звера, схаваны ў ім «талент», а таксама яго псіхалагічную маску.

Нічога асаблівага тут няма. Кожны звер сапраўды мае сваю індывідуальную фізіяномію. Па звярыных абліччах я бачу настроі сваіх выхаванцаў. Таму звяртаюся да кожнага з іх са спецыяльнымі прыёмамі, нават размаўляю з імі розным голасам. Усё гэта зразумела толькі мне, другія гэтага ўлавіць не могуць.

Дрэсіраваны звер з'яўляецца тварэннем мастацтва і навукі. Мастацтва дрэсіроўшчыка, яго воля, настойлівасць, цярплівасць у спалучэнні з вучэннем вялікага фізіёлага І. П. Паўлава аб умоўных рэфлексах ствараюць тыя цуды, якія так захапляюць гледача.

Расказваць пра агульныя законы дрэсіроўкі нудна і доўга. Таму я пастараюся на асобных прыкладах работы з леапардамі і тыграмі «рассакрэціць» некаторыя прыёмы падрыхтоўкі нумароў.

За выключэннем мяне, да леапардаў *ніхто не набліжаўся*. Трэба было дамагчыся таго, каб звер усвядоміў, што ежа, вада, мяккая подсцілка — усё зыходзіць ад мяне. Я дамагаўся, каб звер зразумеў, што чалавек не хоча ўчыніць над ім расправу, што ён з'яўляецца яго сябрам. Потым я вывучаў, які з леапардаў і да чаго здатны. Бо звяры *толькі на першы погляд здаюцца аднолькавымі*.

Самае цяжкае ў дрэсіроўцы леапардаў — іх няўжыўчывасць. У той час, як, напрыклад, ільву можна прыпісаць некаторае пачуццё таварыскасці, леапард адносіцца нецярпіма да ўсякага звера і нават да сваіх братоў. Калі двух незнаёмых леапардаў звесці ў адной клетцы, дык яны будуць біцца на смерць. Аднак усё гэта было пераадолена ўжо маім папярэднікам. Небяспека ўсё ж была надзвычай вялікая. Я нічога не ведаў пра звычкі сваіх выхаванцаў, пра іх слабыя бакі. Усё трэба было пачынаць спачатку.

Першы перыяд знаёмства кончыўся хутка. Настаў другі, самы адказны — падрыхтоўка нумароў.

Леапард умее вельмі добра скакаць, лазіць. Вось гэтыя прыродныя даныя я і выкарыстаў у рабоце.

Заманьваючы леапарда кавалкам мяса, я прымушаў яго залазіць на тумбы, *лезці па шасту пад купал цырка*. Неўзабаве леапарды скакалі праз усю арэну, праз кола, лазілі, хадзілі па гарызантальнай рэйцы, балансавалі на шарах.





**Хутка леапарды выконвалі самыя складаныя нумары.**

Самым, напэўна, цяжкім было навучыць леапарда скакаць праз абруч усляпую.

Спачатку леапард прывык скакаць праз звычайны абруч. Калі ён добра авалодаў гэтым відам спорту, я заклеіў абруч паперай.

Леапард сядзіць на тумбе, гатовы скакаць. Я падымаю заклеены паперай абруч — леапард спалохана пазірае на яго — і ні з месца. Спрабую заманіць яго кавалкам мяса. Нічога не дапамагае. Відаць, звер зразумеў усё па-свойму: папера ўявілася яму страшэнна моцнай сцяной. А нават зверу не хочацца разбіваць галаву. Тады ў паперы я выразаў вялікую адтуліну. Цяпер звер без усялякага прымусу скочыў праз абруч. Ад рэпетыцыі да рэпетыцыі адтуліна памяншалася і нарэшце стала зусім малой — не больш за галаву леапарда. І раптам звер адмовіўся скакаць. Што рабіць? У чым справа? Як і заўсёды, калі над чым-небудзь многа думаеш, выхад быў знойдзены. Я разважаў прыблізна так. Леапард праз вялікую адтуліну ў абручы нічога не бачыў, апрача шэрай плямы. Белая ж папера стварыла ілюзію сцяны. Значыць, трэба лівідаваць гэтую ілюзію. Але як? А што, калі пафарбаваць паперу ў шэры колер? Разлікі апраўдаліся. Леапард без усялякага прымусу скочыў, прабіў паперу і, ужо седзячы на тумбе, здзіўлена азірнуўся. Як бачыце, падрыхтоўка гэтага нумара, які заўсёды выклікаў захапленне, — ланцуг бесперапынных рэпетыцый.

Так рыхтаваліся і іншыя нумары. Але мяне гэта ўжо не задавальняла, хоць глядач па-ранейшаму ўспрымаў маё выступленне надзвычай добра. Наспявалі новыя планы, новыя задумы. Папершае, я вырашыў павялічыць лік маіх «артыстаў», увёўшы ў трупу пантэр. Падругое, мне хацелася дамагчыся развядзення леапардаў у няволі.

Неўзабаве мне прыслалі з заапарку чорную пантэру «Вугалёк». Дзікая, неўтаймаваная, надзвычай агрэсіўная — такая была мая новая «артыстка». Калі хто-небудзь блізка праходзіў ля клеткі, пантэра пагрозліва рыкала, кідалася на сталёвыя пруты. Падоўгу я стаяў ля клеткі, прывучаючы «Вугалька» да сябе, да свайго голасу, задабрываючы яго кавалкам мяса. Нарэшце, звер прызнаў мяне. Цяпер трэба было прывучыць яго да арэны, да сеткі, у якой давядзецца выступаць. Непрывычная да новай абстаноўкі, пантэра кінулася на сетку, відаць, не заўважыўшы яе. Раз, другі, трэці... Нарэшце, яна супакоілася.

Прайшло яшчэ шмат часу, пакуль я адважыўся зайсці за агарожу. Вось з вагона выпусцілі «Вугалька». Адчыняю дзверы, заходжу на арэну. «Вугалёк», здаецца, і не заўважае мяне. Ён зусім абыякавы да маёй персоны. І раптам скачок да мяне, да горла. Жалезныя вілы балюча ўпіваюцца зверу ў грудзі. «Вугалёк» адскоквае, але намераў сваіх не кідае. Яшчэ адзін, другі, трэці напад... «Вугалёк» незадаволена адыходзіць прэч.

Як быццам перамога поўная. Але гэта зусім не так. Я працягваю зверу кавалак мяса, а ён нават не глядзіць на яго. Звер пагардліва адварочваецца ад гэтай падачкі. Здаецца, усім сваім выглядам, учынкамі хоча сказаць: «Адпусці мяне на волю, альбо хоць у клетку і пакінь у спакоі». «Вугалёк» галадаў, але не здаваўся. У клетцы ён з задавальненнем з'ядаў прызначаны яму кавалак мяса, але на арэне нізавошта не дакранаўся да яго. Тры тыдні прадаўжалася ўпартая барацьба. Нарэшце аднаго дня пантэра з апетытам паснедала на арэне. Вы здагадваецеся, што такая настойлівасць дыктавалася простай прычынай: калі звер не бярэ мяса, дык як жа ты падрыхтуеш нумар?

Цяпер можна было пачынаць рэпетыцыі. Пантэра аказалася вельмі здольнай вучаніцай, хоць характар у яе застаўся няўжыўчывым, упартым і помслівым.

Заставалася звесці пантэру з леапардамі. Гэтую задачу я вырашаў, не спяшаючыся. Спачатку звяры любаваліся адзін на другога са сваіх клетак. Кожны дзень адлегласць паміж клеткамі рабілася меншай. І вось ужо звяры побач, разгароджаныя толькі двума радамі кратаў. Нарэшце, звяры былі выпушчаны на арэну. Вялікай дружбы ў іх не атрымалася, хоць і выступалі яны даволі зладжана. Напэўна, усяму віною быў «Вугалёк» з яго зацятым характарам. Што наважаны зрабіць гэты каварны звер у наступную хвіліну, ніколі нельга было прадбачыць. Сядзіць на тумбе гэткі дабрадушны чорны кот і нібы дрэмле. І раптам скачок, дзікі бляск вачэй — аказваецца, кот мае страшныя кіпцюры і звярыную злосць.

Прыпамінаецца адзін даўні выпадак, які здарыўся ў Свярдлоўскім цырку. Была нядзеля. У гэты дзень мы звычайна выступаем перад гледачамі тры разы. Канчалася другое прадстаўленне. Адзін за другім леапарды пакідалі арэну. Грымелі апладысменты, на задніх радах больш нецярплівыя гледачы пакідалі свае месцы. Я раскланьваўся публіцы і раптам адчуў небяспеку. Павярнуўся, — «Вугалёк», як раз'юшаная

Аляксандр Аляксандраў са сваім выхаванцам.



кошка, кідаецца мне на грудзі. Я бачу перад сабой яго вострыя кіпцюры, злосны аскал зубоў. Усё далейшае адбылося імгненна, нават гледачы не паспелі ахнуць. Ударам лапы «Вугалёк» выбіў у мяне бізун, павіс на маіх грудзях. Улучыўшы момант, я моцна б'ю пантэру па носе. Кіпцюры адпускаюць вопратку, звер, фыркнуўшы, адскоквае на другі бок арэны і — тут жа зноў кідаецца на мяне. Усё паўтараецца спачатку. Зноў звер адагнаны і зноў кідаецца на мяне. У чацвёрты раз «Вугалёк» не адважваецца мерацца сіламі і, незадаволена фыркаючы, бяжыць у тунель.

Не трэба думаць, што такі дзікі нораў быў толькі ў пантэры. Кепскі нораў быў і ў леапарда «Ранжа». Гэты прыгажун-халасцяк двойчы спрабаваў уцякаць з клеткі.

У 1940 годзе мы вярталіся з Севастопаля ў Маскву. На станцыі Курск я выйшаў з вагона, у якім падарожнічалі мае чатырохногія артысты. На гэты час там засталася жонка нашага супрацоўніка Несцерава з дзіцём. Тут жа бегаў і невялічкі пакаёвы сабачка. Нечакана маладая жанчына пачула незвычайны шоргат. Павярнулася — у некалькіх кроках стаяў «Ранжа», уважліва пазіраючы на мірную сям'ю. Жанчына не разгубілася. Ухапіўшы венік, яна пачала моцна хлопаць ім аб падлогу.

Відаць, звера і напалохала гэтая дзіўная рэч, якая нарабіла столькі шуму. «Ранжа» адскочыў, здзіўлена пазіраючы, што будзе далей. Несцерава наступала. Леапард спалохаўся і, ускочыўшы на клетку, пазіраў адтуль на сваю нечаканую дрэсіроўшчыцу. Толькі цяпер Несцерава заўважыла, што дзверы вагона адчынены. Звер можа выскачыць, а гэта ўжо вельмі небяспечна. Не перастаючы стукаць венікам, жанчына схапіла дзіця, сабаку, вылезла з вагона. Паспрабавала зачыніць дзверы, але сіл ужо нестапала.

— Дапамажыце хутчэй зачыніць дзверы, — папрасіла яна чыгуначніка, які ішоў паўз вагоны.

Той, не спяшаючыся, зачыніў дзверы і толькі потым пажартаваў:

— Дык каго гэта вы там спяшаліся зачыніць?

— Леапард выскачыў з клеткі.

Чыгуначнік спалатнеў.

Хутка ля вагона сабраўся вялізны натоўп. Я выйшаў з вакзала і адразу зразумеў: нешта здарылася. Прышлося адкрываць люк, залазіць у вагон і заганяць «Ранжа» ў клетку.

З таго часу мы па некалькі разоў правяраем клеткі. Такія ўцёкі могуць скончыцца і не так шчасліва.

Жыццё цыркавога артыста — бяскон-



цыя камандзіроўкі. Разам са сваімі «партнёрамі» я аб'ездзіў усю краіну. Масква, Крым, Сахалін, Украіна, Далёкі Усход, Каўказ, Сярэдняя Азія. Сотні тысяч кіламетраў, тысячы выступленняў. Ішлі гады. Мая звярыная трупа папоўнілася малышамі-леапардамі, якія нарадзіліся тут жа, у цырку. Спачатку гэта былі бяскрыўдныя, рахманыя і вельмі мілыя стварэнні. Яны лашчыліся да мяне і маёй жонкі, як кацяняты, нават задаволена мурлыкалі, калі іх гладзілі ля вушэй. Але вось маленькія леапарды выраслі, узмужнелі, нарэшце зусім сталі дарослымі, але не ручнымі. Яны былі ўведзены ў трупу, з поспехам выступалі перад гледачамі.

З часам я папоўніў трупу яшчэ адной пантэрай і пумай. Цяпер гэта быў сапраўдны дрэсіраваны звярынец. Былі падрыхтаваны новыя нумары, якія заўсёды выклікалі цікавасць у гледача.

За кароткімі трыма гэтымі фразамі хаваецца ўпартая работа, мноства няўдач і перамог, горкіх і смешных выпадкаў і эдарэнняў.

Помню, як аднойчы, у час рэпетыцыі пасля чарговага прадстаўлення ў Батумі, вырваўся на волю «Парыс» — злосная пантэра. Знікла яна непрыкметна, як гэта і належыць зверу-кошцы. Усе мы былі змораны пасля выступлення, і мой памочнік Жэня Плахотнікаў нямоцна зачыніў дзверы клеткі.

— Дзе «Парыс»? — запытаўся я ў Жэні.

— У клетцы, — спакойна адказаў той.

Я выбег на цыркавы двор. Кінуўся туды-сюды, нічога не відаць. Над горадам вісела цёмная паўднёвая ноч. Вестка аб тым, што ўцёк «Парыс», хутка разнеслася па цырку. Артысты, дапаможны склад — усе, хто застаўся яшчэ ў цырку, пахаваліся. Забарыкадыраваўся ў сваім кабінеце і дырэктар цырка. Ён хуценька набраў нумар аддзялення міліцыі, папрасіў выслаць узмоцнены нарад, — трэба ж неяк злавіць пантэру. Хтосьці, відаць, падслухаў яго размову. І вось у дырэктарскім кабінеце зазванілі званкі. Першы пазваніў урач хуткай дапамогі. «Мне трэба ехаць на візіт, але ў вас уцякла пантэра. Дык што рабіць?» Дырэктар супакоіў перапалоханага ўрача, хоць сам усё яшчэ сядзеў забарыкадыраваны сталом. Потым званілі з розных месц; усіх цікавіла адно— ці злавілі пантэру?

Між тым, на двары падзеі разгортваліся сваёю чаргой. Пад паветкай я заўважыў два зялёных агеньчыкі: вочы выдалі ўцекача з галавой. Захапіўшы кавалак мяса, я пайшоў пад паветку. «Парыс» пакваліўся на прыманку і неўзабаве сядзеў ужо ў клетцы. Трывога ўлеглася.



Мы выйшлі на двор, закурылі, абмяркоўваючы нядаўняе здарэнне. Раптам з-за цыркавога плоту нясмела выглянула адна, другая, трэцяя галава: гэта міліцэйскі нарад прыбыў лавіць пантэру. Мы супакоілі іх, што пантэра на месцы, і яны вельмі дзівіліся таму, што звера ўдалося вярнуць у клетку. А некаторыя так і засталіся пры сваёй думцы, што над імі жорстка пажартавалі.

Хоць звяры доўгі час і выступаюць разам, але вялікай дружбы паміж імі не бывае. Нярэдка яны накідваюцца адзін на другога, і даводзіцца ўмешвацца чалавеку, каб развесці заўзятых забіяк. Аднаго разу ў канцы выступлення, калі ўжо былі адчынены дзверы ў тунель пантэра «Парыс» пакінулася на леапарда «Фі-фі». Нападзенне было такое імклівае, што леапард не паспеў як след абараніцца. Пантэра ўгрызлася ў яго горла, задушыла і выцягнула з арэны ў тунель. Як бачыце, звер застаецца зверам, хоць ён і навучаны выконваць складаныя нумары.

Прайшло многа гадоў. Мяне ўжо не задавальняла мая работа. Хацелася зрабіць нешта новае, цікавае, такое, што задавальняла б і мяне, і маіх гледачоў. Так я прышоў да думкі паспрабаваць свае сілы на дрэсіроўцы дарослых тыграў.

### Усурыйцы прыходзяць на арэну

Атракцыён, які сёлета бачылі мінчане, нараджаўся ў Рызе. Нават не ў Рызе, а на Далёкім Усходзе, у таежнай глухамані, на беразе невялікай рэчкі Хуніхоза. Спачатку да яго я не меў ніякага дачынення. Адбылося гэта ў студзені 1953 года.

Брыгада паляўнічых-аматараў пад кіраўніцтвам камбайнера Чырвонаармейскай МТС І. Т. Трафімава выйшла на промысел. Наперадзе беглі сабакі, за імі ўпэўнена, смела ішлі паляўнічыя. Людзі задумалі рызыкоўную справу: злавіць жывымі тыграў. Крок за крокам ідуць паляўнічыя наперад, забіраючыся ў непралазны гушчар. Далёка засталося роднае сяло. Стаіць самотная таежная цішыня. І раптам сабакі насцярожана спыніліся. Значыць, тыгры недалёка. Спакойна, разважліва дзейнічаюць паляўнічыя. Хвіліны рашаюць не толькі поспех, ад іх залежыць жыццё.

Вось сабакі абступілі звера. Тыгр, ашаломлены дружным нападам, спрабуе адбіцца ад насеўшага ворага. Не марудзячы ні секунды, тыгралоў кідаецца да звера, прыціскае яго шыю да зямлі спецыяльнай рагацінай. Але ў

тыгра моцныя лапы: адзін удар і— найздаравейшы конь падае мёртвым. Трэба звязаць зверу лапы. Без мітусні, смела і ўпэўнена робяць сваю небяспечную справу тыгралловы. І вось ужо тыгр скручаны і спавіты вяроўкамі. Цяпер яго можна везці ў сяло.

У той дзень тыгралловам пашанцавала. Яны натрапілі на цэлы вывадак тыграў. У сяло вярталіся з багатай здабычай: тры маладыя тыгры ляжалі на санях паляўнічых. Двух з іх — «Падснежніка» і «Ландыша» тыгралловы накіравалі ў Рыгу. Тут усурыйскіх гасцей чакаў я, і не адзін...

У Рыжскім заапарку ўжо дзесяць гадоў жыў бянгальскі тыгр «Цэзар». Лянівa заплюшчыўшы вочы, тыгр прэўся на сонцы, выказваючы ўсім сваім выглядам пагарду да няволі. Часам, праўда, ён усхопліваўся, бегаў па клетцы, размінаючы здранцвелыя ногі. Потым зноў клаўся.

Вось з гэтага на выгляд лянівага звера і задумаў я зрабіць «артыста». Знайшліся і яшчэ два маладыя бянгальскія тыгры — «Акбар» і «Бембі». Браты-блізняты, яны таксама нарадзіліся ў няволі, хоць па крыві былі чыстымі бянгальцамі. Цяпер я чакаў яшчэ двух усурыйскіх братоў-блізнят. І вось з берагоў Ціхага акіяна тыгры прыехалі на бераг Балтыкі. Новыя знаёмыя былі звярамі сур'ёзнымі. Відаць, добра яшчэ памятаючы «ласку» людзей, якія гэтак няпрошана ўварваліся ў іх таежнае жыццё, звяры не давяралі чалавеку. Яны галадалі, але нічога не хацелі браць з чалавечых рук. Праўда, калі не было сведак, тыгры з'ядалі ўсё, што ім давалі. Відаць, не хацелася тыграм есці тое мяса, што не самі сабе здабылі.

Новых «артыстаў» запісалі ў кнігі пад прозвішчамі «Тарзан» і «Раджа». Трупа «артыстаў», як бачыце, была сабрана «з бору, ды з сосенкі». Што ні звер, то свая біяграфія. Трэба было адчыняць школу, вучыць сваіх непаслухмяных вучняў азам дрэсіроўкі.

Зразумела, цяпер я быў не навічок. Леапарды напэўна страшней за тыграў. Тыгр куды больш «высакародны» за леапарда. Калі тыгр задумае напасці, дык ён не зробіць гэта тайком, як леапард. І ўсё ж многа новых задач стаяла перада мной.

Два усурыйцы яшчэ зусім нядаўна бегалі па тайзе, нападалі на дзічыну, жылі, як і належыць дзікаму зверу. Як жа будуць трымаць сябе гэтыя трохгадовыя дзеці на арэне? Можа, убачыўшы жывую істоту, яны зноў уявяць сябе на таежнай сцежцы і зробяць так, як рабілі не раз, — нападуць. Як падысці да іх? Што патрэбна, каб скарыць гэтых найдрапежнейшых, наймацнейшых кошак?

Наша работа пачалася са знаёмства. Гэта было крыху дзіўнае знаёмства. Я стаяў ля клетак, а тыгры бегалі па іх, кідаліся на сцены і нават грызлі сталёвыя пруты рашотак. Замарыўшыся, яны клаліся на падлогу і, паклаўшы галовы на лапы, абыякава глядзелі перад сабой. Потым усхопліваліся і зноў пачыналі кідацца па клетках.

Але мы знаёміліся. Я вывучаў характары сваіх будучых партнёраў, яны прывыкалі да мяне. Я іх карміў, прыбіраў клеткі, гаварыў з імі. Так, так, я ўвесь час гаварыў. Няхай яны прывыкнуць да майго спакойнага, ласкавага голасу. Няхай адчуюць, што я нічога не хачу зрабіць ім дрэннага.

І вось мы пазнаёміліся. Калі тыгры чулі мой голас, яны паварочвалі галовы ў мой бок. А хіба гэта не сведчыць пра наша знаёмства?

Цяпер трэба было гэтае знаёмства замацаваць. У клетку заходзіць пакуль было рана. Я прасунуў за краты палку. Тыгр абурыўся: што гэта яшчэ за непавага да яго асобы! Палка была згрызена дашчэнту. На змену ёй прышла дру-

Аляксандр Аляксандраў у час рэпетыцыі з тыграмі.





гая, трэцяя... Вынік адзін — звер лютаваў. Але аднойчы тыгр паглядзеў на палку і не накінуўся на яе. Ён толькі здзіўлена пазіраў: маўляў, не надакучыць жа гэтаму чалавеку прасоўваць да мяне палку...

Я асцярожна падсунуў палку бліжэй да тыгра. Нічога, звер не выказвае асаблівай непрыхільнасці. Тады я пачаў пагладжваць тыгра. Відаць, зверу гэта спадабалася. Ён нават прыплюшчыў ад задавальнення вочы. Адно і тое ж паўтаралася некалькі дзён. Звер прывык да таго, што чалавек яго гладзіць. Відаць, можна паспрабаваць пагладзіць яго ўжо не палкай, а рукой. Асцярожна прасоўваю руку, дакранаюся да звера, прыгладжваю яго мяккую, нібы аксамітную поўсць. Перамога! Хутка можна і на арэну.

Зноў арэна абгароджана сталёвымі прутамі. Да тунеля падвезены тыгры. Я стаю на арэне, чакаючы сустрэчы з усурыйцам «Раджой». Тыгр даўно прывык да арэны, але ў яго клетцы яшчэ ніколі не быў чалавек.

— Пускай! — крычу я.

Адчыняюцца дзверы клеткі. Звер выскаквае ў тунель. Яшчэ адны дзверы — і звер на арэне. Але што зрабілася з цяжкім і заўсёды флегматычным тыграм! Проста з ходу, спачатку прыпаўшы да зямлі, «Раджа» кінуўся на мяне. Я чакаў і не такога. Спрытна адскокваю, звер пралятае ля мяне і адразу ж нападае ў другі раз. Вострыя зубы вілкі ўпіваюцца ў грудзі, магутны струмень вады б'е ў нос. Агрызаючыся, «Раджа» адступае. Прыходзіцца прымірыцца з тым, што на арэне заўсёды будзе з ім чалавек.

Бянгалец «Цэзар», вышаўшы на манеж, відаць, здзіўлены маёй прысутнасцю, спыніўся, некаторы час падазрона пазіраў на няпрошанага госця, але кончыў гэтак жа, як і «Раджа»—рынуўся на мяне. Яго спынілі ўдарам вады. Фыркаючы, ён адбегся і больш не паўтараў агрэсіўных намераў. Напэўна, зразумеў, што гэта бескарысна.

Прайшло некалькі дзён. Пра першыя поспехі дазналіся на кінастудыі. Ну, як не зрабіць некалькі кадраў для кінахронікі! Спрабаваў я гаварыць таварышам, што гэта яшчэ рызыкоўна, што рэпетыцыі толькі пачаліся, апаратары даказвалі, што іх імена гэта і цікавіць. Прышлося згадзіцца.

На манеж выпусцілі усурыйцаў «Раджу» і «Тарзана». Загарэліся юпіцеры. Затрашчалі апараты. Пачаліся здымкі. Ну і, вядома, аказался, што «Тарзан» не на месцы, што ён не лезе ў кадр і яго трэба падагнаць бліжэй да брата. Я ледзь дакранаюся палкай да «Тарзана». Тыгр паслухмяна пайшоў наперад, потым кру-



Нарэшце тыгр навучыўся скакаць праз абруч.

та павярнуўся і кінуўся мне на грудзі. Хоць удар быў і не вельмі моцны, я ўпаў. У адно імгненне апынуцца пад тыграм—перспектыва незайздросная.

— Вада!—крыкнуў я.

Але «Тарзан» не баяўся вады. Тыгр прывык да усурыйскіх ліўняў. Што яму гэты душ! Над маім тварам—гарачы аскал тыгрынай пашчы. Я выпростваю руку і з усяе сілы б'ю звера па носе. Тыгр не адступае. Злаўчыўшыся, б'ю наском бота ў жывот. «Тарзан» на імгненне адступіў. Гэтага было дастаткова, каб я ўскочыў на ногі, схапіўшы цяжкую тумбу, запусціў ёю ў тыгра. Звер пакорліва пайшоў у тунель. А я накіраваўся ў бальніцу.

Калі я расказваю пра гэты выпадак, слухачы нярэдка спыняюць мяне пытаннем:

— Дык няўжо ж у вас няма пісталета? Трэба страляць у такіх выпадках.

Тыгр — найвялікшая каштоўнасць. Справа нават не ў тым, што ён каштуе пяцьдзесят тысяч рублёў золатам. Справа ў тым, што усурыйскі тыгр амаль такая ж рэдкая з'ява, як белавежскі зубр. Хіба ж падымецца рука на звера, калі вінаваты сам! Трэба ўсё зра-

біць, каб адагнаць яго. І тут заўсёды на дапамогу прыходзіць вытрымка, упэўненасць і спрытнасць. Як бачыце, я застаўся жывы, а «Тарзан» і дасюль выступае на арэне цырка.

Вядома, я заўсёды помню словы Клімента Яфрэмавіча Варашылава, сказаныя мне аднойчы пасля выступлення з леапардамі: «Будзьце асцярожны, таварыш Аляксандраў, не падыходзьце да іх так блізка, вы ж так вельмі эфектна паказваеце сваё майстэрства, смеласць і мастацтва упраўляць звярамі». Але адна справа асцярожнасць, другая—беражлівыя дзяржаўныя адносіны да такіх рэдкіх звяроў, як тыгры.

Па няпісаных законах цырка, звер, які накінуўся на дрэсіроўшчыка і падмяў яго пад сябе, павінен быць спісаны з цырка ў заасад або звярынец.

«Што рабіць з «Тарзанам»? — думаў я, лежачы ў бальніцы.—Няўжо трэба развітацца з ім? Няўжо нельга перамагчы яго? Вялікая небяспека? Так, вялікая. Але ці ж можна жыць на свеце, баючыся небяспекі?»

Зноў і зноў успамінаў я сваё жыццё. Колькі разоў здавалася, што жыццю прыходзіць канец. А вось жа жыву, працую. Лягчэй за ўсё апусціць рукі, сказаць: здаюся. А калі паспрабаваць, наперакор усяму, прадаўжаць работу? Не, нельга пасаваць перад першай цяжкасцю.

Рашэнне было прынята, і цяпер, праз пяць гадоў, я не раскайваюся ў ім. Яно было правільнае.

Пасля бальніцы пачалася сапраўдная вучоба тыграў. Вы, напэўна, здагадваецеся, што вучыць даводзілася кожнага паасобку. Братоў, вядома, можна звесці, а вось паспрабуй адразу звядзі, напрыклад, «Тарзана» і «Цэзара». Яны адразу ж накінуліся б адзін на другога.

Я ўжо расказваў пра дрэсіроўку і таму паўтарацца не варта. Але пра асобныя цяжкасці раскажу.

Возьмем, напрыклад, «Бембі». У гэтага бянгальца была дзіўная прывычка: ён не хацеў садзіцца на тумбу, а залазіў пад яе. Залезе і сядзіць там, агрызаючыся і рыкаючы. Прышлося пакласці пад тумбу скрыню. «Бембі» ўсёроўна не хацеў лезці на тумбу. Ён прыціскаўся да клеткі і злосна пазіраў на мяне. Што ўжо толькі я ні рабіў: гладзіў, падштурхоўваў, прыманьваў мясам, нарэшце, караў—ніякага зруху. Тады ўжыў апошні сродак. На «Бембі» накіравалі струмень вады. Пасля халоднага душа тыгр стаў больш паслухмяным.

Хутка тыгры навучыліся скакаць праз палаючы абруч, скакаць з тумбы на тумбу, гушкацца на качэлях, ляжаць, абняўшыся, хадзіць па рэйцы, рабіць піраміды. На ўсё гэта патрабаваўся і час, і многа работы.

З вялікай цяжкасцю ўдалося мне навучыць «Тарзана» стаяць на задніх лапах. Але аднойчы, удзельнічаючы ў пірамідзе, тыгр упаў і адмовіўся рабіць нумар. А то раптам «Раджа» не захацеў ісці па арэне. У чым справа? Ларчык адкрываўся проста: «Раджа» адчуў, што «Цэзар» збіраецца на яго напасці, калі ён паварочваецца да старога бянгальца (а «Цэзар» самы стары) спіной. Прышлося перасадзіць звяроў.

А што такія выпадкі бываюць, гавораць хоць бы такі факт. Аднойчы ў Омску ішла рэпетыцыя. Тыгры выконвалі ўсе мае ўказанні. І раптам здарылася нечаканае. Выканаўшы чарговы нумар, «Цэзар» пайшоў на тумбу. Яго шлях ляжаў ля «Акбара». Той сядзеў, не выказваючы ніякіх намераў. Але варта было «Цэзару» паказаць спіну, як «Акбар» кінуўся на яго. Пачалася сапраўдная баталія. Іх ледзьве разагналі моцнымі струменямі вады. У выніку «Цэзар» быў моцна паранены. Яго становішча амаль было безнадзейным. На шчасце, здарылася гэта ў наш час, калі медыцына мае такія моцныя сродкі, як антыбіётыкі. Прышлося змясціць «Цэзара» ў клініку. Праўда, гэта была спецыяльная клетка, у якой ветэрынарныя ўрачы пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры хірургіі Омскага ветэрынарнага інстытута Н. А. Обухава лячылі параненага тыгра. Трэба сказаць, што «Цэзар» вельмі цярпліва пераносіў усе працэдуры. Яму выстрыглі поўсць, прамылі раны, зрабілі ўколы. Ён нібы разумеў, што гэта пойдзе на карысць. І сапраўды, «Цэзар» паздаравеў і неўзабаве зноў выступіў перад гледачамі.

У тыграў заўсёды ёсць старэйшы важак. Праўда, гэтае старшынства не доўга ўтрымліваецца. Спачатку гэта быў «Цэзар», потым стаў «Акбар», за ім «Раджа», потым зноў «Цэзар». Але гэта не значыць, што ўсе яго слухаюць. Усе яны ў першую чаргу падпарадкоўваюцца чалавеку, які здольны ўтаймаваць іх дзікі нораў. І няхай не думаюць чытачы, што гэты чалавек павінен мець незвычайную сілу і яшчэ нейкія асаблівыя якасці.

У мяне ёсць сын Юра. Калі яму было 14 год, ён упершыню зайшоў у клетку да звяроў, і яны выконвалі па яго загаду піраміды, каталі шар, скакалі. Асабліва любілі глядзець гэтую праграму дзеці. Яно і зразумела: такі ж, як і яны, хлопчык—і раптам кіруе злымі звярамі. Цяпер часова Юра не дрэсіруе звяроў, але, напэўна, як толькі яму споўніцца 18 год, зноў возьмецца за гэтую поўную рамантыкі прафесію.

Цыркавыя дарогі прывялі мяне ў Арменію. І вось тут мне зноў давялося сустрэцца з кінаработнікамі. На гэты раз я атрымаў запрашэнне здымацца сумесна з тыграмі ў армянскай кінакамедыі «Згублены мільён». Маім выхаванцам адводзіўся ў ім рад пацешных эпізодаў. Здымкі вяліся за Эгміадзінам у трыццаці кіламетрах ад Ерэвана. Яны былі самыя незвычайныя з усіх, у якіх да гэтага часу прымалі ўдзел драпежнікі. Дасюль у фільмах звяроў здымалі звычайна ў павільёне, у клетцы або на невялікім адгароджаным месцы на паветры. У гэтым фільме тыграм прадстаяла дзейнічаць у вальеры плошчай 400 квадратных метраў.



Для работы ў кіно я ўзяў братоў — «Бэмбі» і «Акбара». Як і ўсе выканаўцы, яны павінны былі «асвоіцца» з абстаноўкай. Справа ў тым, што за тры гады тыгры прывыклі ўжо да няволі. А ў фільме дзеянне адбываецца на волі. Значыць, неабходна зноў выклікаць у драпежнікаў прыродныя іх звычкі.

Усё спачатку было незвычайным для звяроў: сонца, прастора, вецер. Каб тыгры адчувалі сябе спакойна, іх спачатку змясцілі ў чатырохметровы вальер разам з прывычным для іх цыркавым рэквізітам.

Па ходу фільма тыгр павінен узлезці на слуп. Бэмбі ахвотна выконваў гэты нумар. Але як толькі на слупе аказаўся артыст, тыгр узбунтаваўся. Ён не захацеў лезці на слуп, дзе ўжо сядзіць чалавек. Прышлося яму пагаладаць, і тады ён выканаў свой нумар.

Тым часам тыгры былі выпушчаны ў вялікі вальер. Цяпер кінаработнікі захваляваліся: а раптам што здарыцца! Давялося ім залазіць у чатырохмятровы вальер і адтуль рабіць здымкі.

Мне хацелася, каб эпізоды з тыграмі ішлі без камбініраваных здымкаў. Ёсць у фільме такі момант: «Бэмбі» сустракаецца з героем камедыі з вока на вока. Доўга ўпрошваў я народнага артыста Армянскай ССР Габрыэляна «рызыкнуць» і самому прыняць удзел у гэтай сустрэчы. Нарэшце ўгаварыў. «Бэмбі» я пасадзіў на заднія лапы, а ў выпадку скачка быў напагатове закрыць сабой артыста ад тыгра. Усё абышлося добра. Эпізод быў зроблены.

Я прывёў гэты выпадак з удзелам у здымках толькі для таго, каб яшчэ раз даказаць вам, што не такі ўжо страшны звер, як пра яго кажуць. Галоўнае — майстэрства дрэсіроўкі, уменне адшукаць у звера яго схаваныя «таленты» і выкарыстаць іх. Безумоўна, праца гэта нялёгкая, але вельмі цікавая і ўдзячная.

Ужо закончыліся мае гастролі ў Мінску—у тым горадзе, дзе я першы раз выступаў на арэне. Не хочацца пакідаць гасцінных мінчан, горад, які так змяніўся, папрыгажэў і, як гэта ні дзіўна, памаладзеў. Але цыркавыя дарогі клічуць мяне. Наперадзе Талін, Кіеў...

І калі хто-небудзь з вас, прачытаўшы гэтыя запіскі, захоча быць дрэсіроўшчыкам, калі ласка, прыходзьце да нас, у нашу цыркавую сям'ю.

Літаратурная апрацоўка
А. АСІПЕНКІ.



На рэпетыцыі.

*Давайце пагаворым...*

# ТВАЯ СЦЕЖКА

Мабыць ніколі, як у юнацтве, нашым сэрцам не авалодвае столькі разнастайных і пераменлівых адчуванняў: нястрымная весялосць і невыразны смутак, бестурботная гарэзлівасць і задумлівая засяроджанасць, трывожны неспакой і прага нязведанага. У гэтую пару кожны адчувае сябе крышачку Калумбам: увесь вялікі і складаны навакольны свет, усё тое, што пазнана ўжо іншымі, для нас адкрываецца нанава. Хвалюючая радасць адкрыцця спадарожнічае нам усюды. Яна і ў непаўторным позірку русакосай аднакласніцы, які адрасаваны табе аднаму; і ў зялёным шуме маладых дрэўцаў, пасаджаных тваёй рукой каля школы; і нават у знаёмстве з законам Архімеда, адкрытым шмат стагоддзяў таму назад... І чым больш мы прыглядваемся да жыцця і задумваемся над ім, тым мацней яно вабіць сваімі неабсяжнымі прасторамі. І натуральна, сама па сабе ўзнікае думка: а якое месца павінны ў ім заняць мы?

Гэтае пытанне хвалюе кожнага семнаццацігадовага. І колькі патрэбна з боку старэйшых разумнага такту, клапатлівай увагі і бацькоўскай дабразычлівасці, каб дапамагчы сваім юным сябрам знайсці на яго правільны адказ! А тое, наколькі гэтае пытанне важнае, няма неабходнасці даводзіць: ад яго вырашэння ў значнай ступені залежыць, як складзецца лёс чалавека, што прынясе ён з сабой у жыццё, чым узбагаціць і ўпрыгожыць яго.

Вядома, што мара аб пэўнай прафесіі ў многіх нараджаецца вельмі рана. Звычайна яна ўзнікае як неўсвядомленае захапленне, неакрэсленае жаданне. Хлопчыкі, напрыклад, часта мараць стаць лётчыкамі, дзяўчынкі — актрысамі... Зразумела, няма нічога кепскага, што мары ў юнацтва — высокія: маладосці ўласціва рамантыка. І ўсё ж менавіта тут мы сутыкаемся з акалічнасцю, якая прымушае задумацца. Чаму рамантыку юнакі і дзяўчаты бачаць толькі ў прафесіі лётчыка, актрысы, паэта? Чаму яны не заўважаюць яе ў працы мільёнаў звычайных працаўнікоў, чыімі рукамі ствараюцца ўсе матэрыяльныя каштоўнасці?

Вялікую віну за гэта павінна ўзяць на сябе наша педагогіка, якая да апошняга часу амаль не займалася працоўным выхаваннем школьнікаў. Школа вельмі мала рабіла, каб паказаць гераіку і, калі хочаце, рамантыку прафесій людзей фізічнай працы — трактарыстаў, камбайнераў, токараў, кранаўшчыкоў і г. д.

Прыемна, што зараз становішча паступова паляпшаецца. Значную ролю тут адыгралі рашэнні XIII з'езда камсамола і выступленне на ім М. С. Хрушчова.

Не так даўно нам давялося пазнаёміцца з вучэбна-выхаваўчай работай у школе № 2 раённага цэнтра Талачына. Тое, што мы ўбачылі, не магло не ўзрадаваць. Амаль усе вучні старэйшых класаў, апрача вывучэння праграмнага матэрыялу, займаюцца працай. Справа арганізавана так, што кожны знаходзіць сабе занятак па душы. Многія дзяўчаты наведваюць гурток вышывання і шыцця, хлопцы — гурткі кінамеханіка і шафёра. Аматары раслінаводства вырошчваюць ураджаі кукурузы на прышкольным участку.



Цесную сувязь падтрымлівае школа з суседнім калгасам «Перамога». Вучні прыходзяць да калгаснікаў не проста пагасцяваць, а дапамагчы ім у іх пачэснай працы. І цікавая рэч: ніхто з вучняў не толькі не цураецца так званых «чорных» фізічных работ, але і лічыць за гонар займацца імі. Калі сёлета ў школе стваралася вучнёўская вытворчая брыгада, колькасць пажадаўшых працаваць у ёй пераўзышла ўсе спадзяванні: запісаліся амаль усе вучні. Праўда, знайшлося некалькі чалавек, якія па тых ці іншых прычынах ухіліліся ад працы ў полі. Але ніхто неяк не звярнуў на гэта ўвагі, не пацікавіўся, у чым справа: гэта ж былі лічаныя адзінкі. Ці варта вакол іх падымаць шум?

Каля трыццаці юнакоў, якія закончылі сёлета талачынскую сярэднюю школу № 2, разам з атэстатам сталасці атрымалі пасведчанні кінамеханікаў і шафёраў. Гэтую кваліфікацыю яны набылі, займаючыся ў аматарскіх гуртках, якія створаны пры школе. Вядома, што для іх зараз не існуе праблемы, дзе ўладкавацца на працу. Гэта не значыць, што кожнаму з іх прадпісана ўсё жыццё «круціць баранку» або завіхацца ля кінаапарата. Дзверы ў ВНУ не зачынены нікому: было б толькі сапраўднае жаданне. Вельмі важна тое, што кожны з іх, рыхтуючыся да вучобы ў інстытуце, будзе працаваць не на выпадковай рабоце, а на той, да якой ён праяўляе цікавасць.

Шкада, што пакуль толькі невялікая частка выпускнікоў выходзіць са сцен школы, атрымаўшы рабочую кваліфікацыю. Думаецца, настала пара паставіць пытанне так, каб кожны юнак, кожная дзяўчына, раней чым атрымаць атэстат сталасці, не толькі мелі магчымасць, але і былі абавязаны набыць пэўную вытворчую кваліфікацыю. Вырашыць гэтае пытанне адной школе не пад сілу, патрэбна дапамога партыйных і савецкіх арганізацый, а таксама ўсёй грамадскасці.

Паляпшэнне працоўнага выхавання дзяцей у школе, якое адбылося ў апошні час, відавочнае. Аднак гэта толькі пачатак. Аб тым, што яшчэ шмат нявырашанага, шмат нязробленага, — гавораць факты.

Не так даўно нам давялося пабываць у вёсцы Слабодка (калгас «Перамога» Талачынскага раёна).

Уявіце сабе такі малюнак. Вясковая вуліца. Летні поўдзень. Бязлітасна паліць сонца. Нямая цішыня. Усё наўкол нібыта вымерла. І толькі дзесьці далёка-далёка, за млявай зелянінай прысад, за сіняватым мроівам, якое ахутвае далі, чуюцца прыглушаныя адлегласцю галасы... Уся вёска — ад малога да старога — у полі. Але што гэта там бялее каля доміка ў гародчыку пад зялёным шатром, утвораным з галін дрэў? У вялізнай прасціні, падвешанай з двух бакоў да сукоў, гушкаецца чалавек. Можа ён хворы? Аднак, паглядзеўшы на яго зблізку, гэтага не скажаш: крамяны, засмужаны твар, шырокія, моцныя плечы... Час-ад-часу чалавек пераварочваецца з боку на бок, салодка пазяхае і пачынае махаць каля носа складзенай веерам газетай: стварае штучную вентыляцыю. Ляжаць хоць і прыемна, аднак надакучае. Таму юнак праз нейкі час пакідае сваю калыску і накіроўваецца ў сасновы бор, які непадалёку ад вёскі, — паблукаць па лясных сцежках...

Стаміўшыся, ён зноў вяртаецца ў гародчык, дзе ўжо сумуе па ім палатняная калыска... І гэта праходзіць дзень за днём, не ўносячы нічога новага і цікавага ў бестурботныя будні васемнаццацігадовага Генадзя Машкарова.

Год таму назад юнак скончыў дзесяцігодку. Ён быў не з тых, хто захапляўся рознымі грамадскімі мерапрыемствамі, якія праводзіліся ў школе. Ведаў толькі адно — кнігі. Займацца ў вучнёўскім тэхнічным гуртку, як гэта рабілі яго таварышы, ён проста лічыў несалідным для выпускніка, які вось-вось павінен атрымаць атэстат сталасці. Не дзеля таго ж, каб стаць нейкім там майстравым, цэлых дзесяць год праседзеў за партай: пазбаўляючы сябе многага, ламаў галаву над матэматычнымі задачамі, зубрыў розныя формулы, пацеў над сачыненнямі.

Калі напярэдадні вясновых палявых работ у школе арганізоўвалася вучнёўская вытворчая брыгада, Генадзь аказаўся ў ліку тых нямногіх, хто не пажадаў у яе запісацца. Знайшлася і ўважлівая прычына: нейкія непрадбачаныя «здарэнні» ў бацькоў, якія прымушаюць яго заставацца дома... Ніхто хлопца не мог, вядома, дакараць за гэта. А непрыязныя позіркі некаторых аднакласнікаў, якія ён часамі сустракаў, не надта бянтэжылі: проста зайздросцяць яму і ўсё...

Свет школьных сцен Генадзю пачаў здавацца цесным. Застаючыся адзін у пакоі, сам-на-сам з календаром, юнак нецярпліва падлічваў на ім, колькі яшчэ дзён да таго часу, калі ўжо яго ўрачыста павіншуюць са здачай апошняга школьнага экзамена. А далей?.. А далей

ва ўяўленні малявалася нешта вельмі цікавае і заманлівае.

*І вось доўгачаканая часіна настала.* З невялічкім запасам правізіі і білетам у кішэні, набытым за бацькавы грошы, Генадзь пагойдваецца ў вагоне цягніка. Едзе *паступаць у політэхнічны... Яшчэ,* мабыць, ніколі юнака не апаноўваў такі прыўзняты, такі святочны настрой. Нейкае асаблівае адчуванне прасторы і шырыні напаўняла *ўсю яго істоту. Але гэ*таму настрою не суджана было працягвацца доўга. Ужо на першым уступным экзамене Генадзь *адчуў,* што ён слабей за іншых.

Не прынеслі нічога суцяшальнага і астатнія экзамены: Генадзь і тут не бліснуў сваімі ведамі.

Вярнуўся дадому хлопец сумны і паніклы. І як тут не засумуеш: гэтак нечакана рухнулі ўсе яго надзеі, усе спадзяванні!

Лічачы сябе пакрыўджаным, ён адседжваецца зараз дома, на бацькоўскім утрыманні: гэтак спакайней...

У калгасе «Перамога» не адзін Генадзь пакутуе ад бяздзелля. Яго аднавяскоўка Таіса Грушэўская, якая год таму скончыла дзесяцігодку, таксама ніяк не можа знайсці сабе занятку па густу. Праўда, яна часамі паяўляецца ў калгасе на працы: падмяняе маці, калі дома патрэбна мыць падлогу або бялізну...

І вось, калі задумаешся над гэтымі фактамі, міжвольна ўзнікае пытанне: ці толькі самі Генадзь і Таіса вінаваты ў тым, што яны апынуліся ў такім тупіку? Думаецца, не толькі яны.

Мы ўжо гаварылі, што за фармаванне светапогляду вучняў, іх адносін да жыцця перш за ўсё адказнасць нясе школа. Калі б у свой час настаўнік здолеў абудзіць у Генадзя і Таісы цікавасць да якой-небудзь прафесіі, выхаваць у іх пэўныя працоўныя навыкі, яны, напэўна, не адседжваліся б зараз у бацькоўскім доме.

Але здзіўляе і другая акалічнасць. Чаму так абыякава ставяцца да лёсу сваіх таварышаў камсамольцы? Ёсць жа ў калгасе камсамольская арганізацыя, якая робіць шмат карыснага ў выхаванні моладзі. А вось тое, што двое маладых людзей з атэстатамі сталасці сланяюцца без усялякага занятку, чамусьці застаецца незаўважаным. Ніхто не пацікавіўся, якія думкі іх зараз займаюць, што яны мяркуюць рабіць далей. Ніхто не паспрабаваў дапамагчы ім знайсці выйсце са становішча.

... Сакратар райкома камсамола нам *доўга расказваў аб тых мерапрыемствах,* якія праводзяцца ў раёне з выпускнікамі дзесяцігодак: сустрэчы з перадавікамі сельскай гаспадаркі і вытворчасці, дыспуты аб любімай прафесіі, вечары *на тэму «Кім быць» і г. д.*

Райком камсамола выпускае спецыяльны друкаваны бюлетэнь, у якім паказваюцца працоўныя поспехі *маладых калгаснікаў і рабочых, якія прышлі* ў калгасы і на прадпрыемствы пасля дзесяцігодкі. Яшчэ, здаецца, не было выпадку, каб райком раўнадушна аднёс*ся да лёсу камсамольцаў, якія звярта*юцца сюды пасля заканчэння школы з пытаннем «як быць?..» Колькім семнаццацігадовым дапамаглі тут знайсці сваю сцежку ў жыцці, цвёрда *стаць на ногі!* Спытайцеся ў даярак Марыны Купрыянец і Ніны Лісоўскай з калгаса «Перамога» (дарэчы, з таго самага калгаса, у якім не знаходзяць сабе справы Генадзь Машкароў і Таіса Грушэўская), ці могуць яны ўявіць зараз сваё жыццё без працы на жывёлагадоўчых фермах, — і вы зразумееце, што тут яны знайшлі сваё сапраўднае месца, выявілі свае здольнасці, адчулі хараство сваёй прафесіі. І калі яны рыхтуюцца зараз паступаць у вышэйшую навучальную ўстанову, дык ні ў які іншы інстытут, як у сельскагаспадарчы.

Камсамольская пуцёўка дапамагла знайсці сваё прызванне і Тамары Савіцкай, і Генадзю Чумраю, і Надзеі Швайкавай, якія працуюць цяпер у арцелі «Чырвоны тэкстыльшчык» і выконваюць вытворчыя заданні на 150—170 працэнтаў.

Расказваючы пра гэта, сакратар райкома дастаў з жалезнай скрыначкі вялікі стос бланкаў камсамольскіх пуцёвак. Прыемна было слухаць яго і глядзець на гэтыя маленечкія лісцікі, якія паказалі многім семнаццацігадовым кірунак, куды ісці... І ў той жа час падумалася аб іншым. У гэтым стосе паперы ляжаць недзе незапоўненыя пуцёўкі і Генадзя Машкарова, і Таісы Грушэўскай, і іншых нядаўніх выпускнікоў, якія, пасля няўдалых спроб уладкавацца ў інстытуты, сумуюць зараз без заняткаў. Іх не надта *многа, але яны ёсць амаль у кожным* калгасе. А ў раёне каля пяцідзесяці калгасаў. Трэба спадзявацца, што райком камсамола сур'ёзна зацікавіцца іх *лёсам і дапаможа ўсім ім знайсці, куды* прыкласці рукі.

Мы закранулі толькі некаторыя пытанні, якія хвалююць тых, хто ступае на парог жыцця. Хочацца думаць, што на гэтым размова не скончыцца, што яе прадоўжаць самі чытачы, якія выкажуць свае меркаванні, як палепшыць працоўнае выхаванне моладзі.

**П. МАКАЛЬ.**

# Бібліяграфія

## ПОДЫХ ЮНАЦТВА

Наўрад ці можна было б вызначыць у вершах Артура Вольскага нейкую адну галоўную тэму. Ён піша аб усім, што яго цікавіць. А кола інтарэсаў паэта сапраўды шырокае. Гоман беларускіх бароў і рокат балтыйскіх хваляў, барыкады парыжскіх камунараў і бессмяротны подзвіг Веры Харунжай, мелодыя малдаўскай дойны і задушэўныя песні Мантана, — усё гэта прыцягвае ўвагу паэта.

І ўсё ж, нягледзячы на вялікую тэматычную разнастайнасць, ёсць у вершах А. Вольскага нешта агульнае, што ўласціва для іх усіх і што робіць цэласным яго зборнік «Водбліскі далёкіх маякоў». Гэта — гарачы подых маладосці, нястомнай у пошуках, нястрымнай у імкненнях; адчуванне шырыні і хараства навакольнага свету, значнасці падзей, якія ў ім адбываюцца. Стрыманасць у пачуццях і ў той жа час сардэчная шчодрасць, душэўная сціпласць і разам з тым глыбокае ўсведамленне высокага прызвання чалавека ў жыцці, прага цяжкіх, патрэбных народу спраў,— вось галоўная рыса лірычнага героя паэзіі А. Вольскага.

Усё жыццё —
Нялёгкая вандроўка.
Бывае часам стомішся,
аднак
пагрэешся ля вогнішча
і зноўку
камені на шляху табе няўзнак.
То напрасткі
імкнешся без сумнення,
то вобмацкам брыдзеш,
як той сляпы.
Бягуць,
бягуць
твае дні нараджэння,
нібы кіламетровыя слупы.
Здараецца,
да ніткі дождж прамочыць,
ці высеча няшчадна
жорсткі град.
Але і ў непагоду
хочуць вочы
асветлены убачыць далягляд.

У гэтых радках з верша «Дарога жыцця» добра акрэслены той агульны настрой, які характэрны для ўсяго зборніка.

Хочацца падрабязней спыніцца на вершы «Маладосць». Тэма яго не новая, ды і напісаны ён у агульным, публіцыстычным плане. І ўсё ж верш хвалюе. І гэта таму, што ў ім ёсць свой падыход да вырашэння тэмы, публіцыстычная ўсхваляванасць і паэтычная ўзнёсласць. Верш сцэментаваны адзінай скразной думкай. Усе лепшыя імкненні маладосці, як эстафета, пераходзілі з пакалення да пакалення, каб спраўдзіцца ў нашы дні, у нашай сённяшняй рэчаіснасці.

Маладосць!
Гэта ты пад прыцэлам
варожым
Несла разам з Гаўрошам
Поўны кулямі кошык...
Мне шкада, што Гюго
Не заўважыў таго,
Як пайшоў ён, спяваючы
весела штосьці,
Праз гады
На спатканне з другой
маладосцю.

На спатканне з гераічнай маладосцю Аляксандра Матросава і Рымы Шаршнёвай, Зоі Касмадзям'янскай і Алега Кашавога. У іншы час і ў іншых умовах рабілі яны свае бессмяротныя подзвігі, але ў сэрцах гарэў той жа агонь, які ўзнімаў на змаганне іх слаўных папярэднікаў.

Як своеасаблівае прадаўжэнне «Маладосці» ўспрымаецца верш «Мацней за бронзу і граніт» — адзін з лепшых у зборніку. Тут паэт ужо ставіць перад сабой больш акрэсленую задачу — стварыць вобраз нашай сучасніцы, легендарнай дачкі беларускага народа Веры Харунжай. Па свайму сюжэту верш нагадвае баладу. Яркімі штрыхамі, каларытнымі мазкамі перадае аўтар эпізоды мужнага жыцця гераіні. Асабліва кранаюць радкі, у якіх расказваецца аб яе апошніх перадсмяротных хвілінах:

> У скрыжаванні наваконных
> крат —
> Нябёсаў родных зрэзаны
> квадрат.
> А ластаўкі —
> Якая ім бяда! —
> Знайшлі сабе тут месца для
> гнязда...

Тут не толькі дакладнасць мастацкага малюнку, але і глыбіня паэтычнага падтэксту.

Вельмі ўдала гучыць рэфрэн: «Чакайце! Я прыду яшчэ да вас». Гэтыя словы, якія паўтараюцца ў вершы некалькі разоў, нясуць у сабе значную ідэйна-мастацкую нагрузку: яны падкрэсліваюць неўміручасць справы, за якую загінула Вера Харунжая.

Гэткімі ж пачуццямі хвалююць і вершы «Ранеты», «Сустрэча з зубрамі», «Сама вясна», «Пасля вахты». На кожным з іх можна было б спыніцца асобна: захапляцца паэтычнымі знаходкамі, удалымі мастацкімі абагульненнямі... Але наўрад ці гэта прынесла б карысць маладому паэту. Таму хочацца пагаварыць аб тым, што, на наш погляд, з'яўляецца слабым месцам у паэтычнай працы А. Вольскага і што перашкаджае яго творчаму росту.

Мы ўжо адзначылі, што Артур Вольскі не адчувае цяжкасці ў выбары тэмы. І гэта натуральна: чалавеку, які сочыць за падзеямі часу, уважліва прыглядаецца да жыцця, ёсць аб чым і ёсць што сказаць. І ўсё ж менавіта тут, у падыходзе да з'яў рэчаіснасці, у выбары тэмы, паэт праяўляе часам неразборлівасць і лёгкасць.

Некалі Уладзімір Маякоўскі гаварыў, што пісаць верш патрэбна толькі тады, калі думкі і пачуцці нельга выказаць ніякімі іншымі сродкамі, апрача паэзіі. Наўрад ці хто будзе аспрэчваць гэтае меркаванне. Але, відаць, А. Вольскі ў сваёй паэтычнай рабоце прытрымліваецца іншых прынцыпаў. Бо нічым іншым не вытлумачыць тое, што з-пад яго пяра паяўляюцца вершы тады, калі можна было б, на нашу думку, абмежавацца... артыкулам ці проста інфармацыяй. Адсюль і нарадзілася ў паэта цэлая серыя, так сказаць, вершаў-гарадоў... Наведаў аўтар Смаргонь — і вось вам верш з гэткай жа назвай. Пабываў на Чачоры — і ўзнік новы твор. Акінуў позіркам Камароўку — і гатовы яшчэ адзін верш. Праўда, на гэты раз у верш умясціўся не ўвесь горад, а толькі частка яго... Але, можа, гэтыя вершы нарадзіліся з унутранай, душэўнай патрэбы аўтара ўславіць убачанае? Можа, у іх ён сказаў сапраўды нешта паэтычнае?

Давайце паглядзім.

Увесь сэнс верша «Смаргонь» зводзіцца да таго, што некалі тут людзі жылі кепска, а зараз — добра, — і таму трэба змяніць назву горада. Няма неабходнасці даказваць, што гэтая думка не вылучаецца ні значнасцю, ні навізной. Яна ўжо не раз сустракалася (толькі ў больш яркім мастацкім увасабленні) і ў Пімена Панчанкі і ў іншых паэтаў.

У плане супрацьпастаўлення мінулага сучаснаму пабудаваны і верш «Ля Чачоры». І хоць з боку паэтычнай тэхнікі ён зроблены гладка, уражання не пакідае.

Мала чым адрозніваецца па кампазіцыі і верш «Камароўка». Гэта зноў жа такі расказ аб тым, што было ўчора і што адбываецца сёння.

Шмат вершаў у А. Вольскага прысвечана братнім рэспублікам нашай краіны. Трэба толькі вітаць імкненне паэта славіць дружбу паміж народамі, якія будуюць камунізм. Нажаль, і гэтую важную і адказную тэму А. Вольскі часамі вырашае неглыбока, павярхоўна. Возьмем для прыкладу верш «Літва». У ім мы знойдзем і «хмаркі ў небе», і «жыта непраходнае», і «сонейка пад сасоннікам» і мноства іншых дэталей знаёмага краявіду. І ўсё гэта ўводзіцца ў верш дзеля таго, каб у канцы зрабіць вывад, што паміж Беларуссю і Літвой «амаль ніякай розніцы». Можна толькі здзівіцца, навошта спатрэбілася пісаць верш, каб даводзіць гэтую, па сутнасці няправільную думку. Відаць, аўтар пайшоў па лініі найменшага супраціўлення. Не разабраўшыся ў сваіх уражаннях, не асэнсаваўшы іх, ён паспяшаўся зарыфмаваць першыя трапіўшыя словы.

Тое, што паэт піша, як след не адчуўшы жыццёвы матэрыял, ці, як кажуць, не пераварыўшы яго, вядзе да лёгкаважкасці і прасталінейнасці ў вырашэнні тэмы. І гэта, на нашу думку, з'яўляецца галоўным недахопам у творчасці А. Вольскага. І дзіўная рэч. Чытаеш часамі верш — як быццам усё на месцы: і пэўная думка, і напружаны рытм, і звонкая рыфма, і нават цікавыя паэтычныя дэталі. А ўсё ж верш не хвалюе.

А прычына вось у чым. Тое, што хацеў сказаць паэт,— занадта ўжо выпірае на паверхню. Верш празмерна рацыяналістычны. А калі ў радках няма мастацкага падтэксту, значыць, няма і паэзіі. Да ліку такіх вершаў належаць «Матчыны рукі», «Радзіма», «Вяртанне».

Прасталінейнасць абагульненняў псуе нават некаторыя цікавыя вершы А. Вольскага. Такімі вершамі ўяўляецца нам «Домская царква ў Рызе», «Стары горад». Як у адным, так і ў другім вершы сюжэтная тканіна— моцная, насычаная яркімі паэтычнымі фарбамі. Нажаль, канцоўкі ў абодвух настолькі прасталінейныя, што ўспрымаюцца, як непатрэбны каментарый. І гэта ў значнай меры зніжае агульнае добрае ўражанне ад твораў.

Хочацца пажадаць маладому здольнаму паэту большай строгасці пры адборы жыццёвага матэрыялу, большай удумлівасці пры яго мастацкім асэнсаванні. Бо толькі пры такім падыходзе да працы ён зможа пераадолець адзначаныя вышэй недахопы, загаварыць у поўны голас, мовай сапраўднай паэзіі.

**М. ПЯТРОЎ.**



# ПРЫКМЕТЫ НАШАЙ МУЗЫЧНАЙ БУДУЧЫНІ

Яшчэ і да апошняга часу, акрамя размоў аб школьных спевах, акрамя дырэктыў аб запаўненні школьнага раскладу заняткаў адной гадзінай спеваў у тыдзень, нічога карыснага ў гэтым напрамку ў нас не рабілася. А тым часам школьнікі па-малу пачалі падмяняць сапраўднае спяванне то «размовай» пад музыку, то крыкам, прычым у іх рэпертуары паявіліся творы, якія не маюць нічога агульнага з ідэйна-мастацкім выхаваннем школьніка, з яго выканаўчымі, галасавымі магчымасцямі. Так пачала падрывацца характэрная для нашага быту харавая культура, тысячы і тысячы школьнікаў надрывалі і потым гублялі свае галасы. Любоў да народнай, нацыянальнай музычнай культуры падмянялася захапленнем таннай экзотыкай розных джазавых мелодый, псеўдачылійскіх або перуанскіх песень. А гэта ж ён, учарашні школьнік — сёння педагог, рабочы-будаўнік, урач, афіцэр. Гэта ж ён павінен быць носьбітам нашай самай перадавой у свеце культуры, наследнікам багатай спадчыны мінулага, павінен абараняць, адстойваць перавагу нашага перадавога мастацтва. Такім чынам, пытанне аб спевах школьнікаў становіцца пытаннем аб эстэтычным выхаванні нашага маладога пакалення, пытаннем аб развіцці нашай культуры, аб будучыні нашага мастацтва.

Калі так разглядаць кнігу «Школьныя спевы», што нядаўна выйшла ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве, дык яе выданне ўпершыню за многа год — яркая падзея ў нашым музычным жыцці. Не можа не радаваць той факт, што складальнікам гэтага фундаментальнага дапаможніка для заняткаў школьнымі спевамі з'яўляецца буйнейшы майстар у галіне харавой музыкі — народны артыст Саюза ССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капелы Рыгор Раманавіч Шырма.

Улічваючы прадмову і метадычныя заўвагі складальніка зборніка, прынцып яго пабудовы, ёсць усе падставы лічыць гэтую кнігу своеасаблівым першым беларускім стабільным падручнікам школьных спеваў. Ды і ці не з'яўляецца добрай прыкметай той факт, што звыш 50 працэнтаў усіх песень у зборніку—гэта ўзоры лепшых беларускіх народных песень для дзяцей і разнастайных дзіцячых песень нашых беларускіх кампазітараў і паэтаў. Тут песні на словы Янкі Купалы і Якуба Коласа, П. Глебкі і Э. Агняцвет, М. Танка і П. Труса, А. Астрэйкі і А. Русака, А. Бачылы і В. Віткі. Музыку да гэтых песень напісалі М. Аладаў і П. Падкавыраў, А. Багатыроў і С. Палонскі, У. Алоўнікаў і І. Любан, Н. Сакалоўскі і М. Чуркін. Гэты спіс аўтараў можна прадоўжыць, але і без таго відавочна, што музычнае выхаванне дзяцей не застаецца па-за ўвагай нашых лепшых пісьменнікаў і кампазітараў, што яны стварылі ўжо такую песенную нацыянальную культуру, якая можа і павінна стаць асновай музычнага выхавання.

Каля ста песень увайшло ў зборнік «Школьныя спевы». Акрамя ўзораў нацыянальнай песеннай творчасці, мы тут сустракаем адна-, двух-, трох- і

чатырохгалосныя песні рускія і украінскія, грузінскія і эстонскія, латышскія і татарскія. Побач з М. Глінкай, П. Чайкоўскім, А. Лядавым, М. Рымскім-Корсакавым, Ц. Кюі і іншымі рускімі класікамі ўключаны ў зборнік творы Моцарта і Брамса, славацкія і швейцарскія народныя песні. Не можа не радаваць і той факт, што хоць часткова, але ж іншамоўныя тэксты песень дадзены ў перакладах на беларускую мову, што побач з творамі з акампанементам фартэпіяна ўключаны а-капельныя (без суправаджэння). А ўсё гэта азначае, што на падставе зборніка школьных спеваў можна не толькі навучыць, як трэба спяваць, але складаць рознабаковыя мастацкія праграмы для канцэртаў у школе; што зборнік дапамагае разумець і паважаць культуру і жыццё іншых народаў, садзейнічае інтэрнацыянальнаму выхаванню дзяцей.

З вялікай удзячнасцю можна было гаварыць аб яшчэ многіх каштоўных якасцях зборніка, што склаў Р. Р. Шырма. Але не ўсё ў ім і бездакорна. Тут трэба перш за ўсё сказаць аб рэдактуры (Д. А. Сасеў і А. В. Багатыроў).

Пачнем з таго, што ў прадмове складальнік падкрэслівае назву зборніка, як «Школьныя спевы». На вокладцы кніжкі чамусьці ўзнік надпіс «Школьны спеўнік», што не мае нічога агульнага з метадычнай, мэтавай задумай зборніка, як падручніка-дапаможніка для вывучэння спеваў у агульнаадукацыйных навучальных установах (пачатковыя і сярэднія школы, школы ФЗН і тэхнікумы).

Не менш здзіўляе той факт, што ў шэрагу песень не надрукаваны прозвішчы аўтараў музыкі і тэкстаў (як, напрыклад, «Ветрык», «Пажарнікі», «Прачка», «Грыбкі», «Па далінах і па ўзгор'ях» і г. д. — усяго 15 песень). З вялікай неахайнасцю паставіліся рэдактары і да многіх з тых прозвішчаў, што надрукаваны. Так, з лёгкай рукі рэдактараў кампазітар М. Леантовіч з мужчыны стаў жанчынаю, як сведчыць старонка 169, дзе замест: «Апрацоўка М. Леантовіча» ўказана «Апрацоўка М. Леантовіч». Не пашанцавала і жанчыне-кампазітару Веры Герчык: на старонцы 160, згубіўшы яе ініцыялы, рэдактары надрукавалі: «Музыка Герчыка».

У працэсе рэдактуры аказаліся «згубленымі» таксама ініцыялы кампазітараў Д. Шастаковіча, М. Мацісона, І. Любана, С. Палонскага і некаторых паэтаў.

Аб невысокай якасці рэдактуры сведчыць і той факт, што там, дзе зроблены пераклады тэкстаў на беларускую мову, нідзе не адзначана, з якой мовы зроблены пераклад. Засталіся па-за ўвагаю рэдактуры і памылкі ў фартэпіяннай партыі «Вясновай песенькі» Ц. Кюі, а таксама на старонцы тлумачэнняў музычных тэрмінаў, якія сустракаюцца ў зборніку (стар. 196). Так, чамусьці «a tempo» перакладзена замест «у тэмпе» — «першы тэмп». Усяго такіх недарэчных тлумачэнняў у зборніку каля дзесяці.

Стылістычны разнабой адчуваецца ў рэдактуры зборніка, калі ў адным месцы чытаеш «беларуская народная песня», без жанравай яе адзнакі, а ў другім — «вяснянка» або «гульнёвая на дажынках» і няма заўвагі, што гэта народная песня. Тое ж самае, калі чытаеш «сучасная беларуская народная песня», а ў другім выпадку, наогул — «партызанская».

Некалькі заўваг хочацца зрабіць і складальніку зборніка. Пажадана было б выкарыстаць шырэй удалыя песні аб Радзіме, партыі, Леніне, што склалі нашы беларускія кампазітары. А такія ёсць у творчасці Р. Пукста, Г. Вагнера, Л. Абеліёвіча, Ю. Семяняка і некаторых іншых. Пажадана было б зрабіць і метадычную распрацоўку развучвання адной ці двух песень зборніка на школьных занятках па спевах.

Але і за тое, што зроблена, хочацца шчыра падзякаваць Р. Р. Шырме, як за першы крок на шляху да моцнага ўздыму нашай харавой і наогул музычнай культуры.

**І. ІНІЧ.**

*Разгорнем карту роднага краю*




## Вялікая культурная падзея

Ужо праз год пасля стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў Мінску пачынае сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны тэатр (зараз тэатр імя Янкі Купалы). На яго сцэне ігралі прафесіянальныя акцёры і моладзь, што прышла з аматарскіх гурткоў. Гэта быў кіпучы час—час пошукаў, частых вандраванняў з канцэртнымі брыгадамі і нястомнай працы.

Аднойчы, калі адна з такіх канцэртных брыгад накіроўвалася для чарговага выступлення ў мястэчка Беларуч, паміж маладымі акцёрамі завязалася размова аб тым, што яны, па сутнасці, невукі ў мастацтве. У канцы размовы прышлі да цвёрдага вываду: «Трэба вучыцца» і вырашылі звярнуцца ў Наркомасветы БССР з просьбай пасляць іх усіх у Маскву.

У Камісарыяце асветы вырашылі стварыць асобную беларускую студыю, рэарганізаваную пасля ў «Беларускі інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве».

Рашэннем Малога Саўнаркома новай навучальнай установе аддалі кінатэатр «Уран» і прымацавалі да першай студыі МХАТа. У лістападзе 1921 года пачаліся заняткі. Яны працягваліся пяць год у цяжкі для краіны час аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі. Студыйцам даводзілася часам самім зарабляць грошы і далучаць іх да невялікага бюджэту студыі. Зарплату мастацкаму кіраўніку студыі В. Смышляеву, педагогам С. Гіяцынтавай, Б. Афоніну і іншым плацілі натурай—мукой. За пяць год прайшло праз адборачную камісію каля чатырохсот чалавек, з якіх 34 засталіся вучыцца і склалі потым трупу Другога Беларускага тэатра.

Незадоўга перад ад'ездам з Масквы на арэне 2-га Маскоўскага цырка беларусы паказалі свой спектакль «Цар Максіміліян». Вострае, сатырычнае і вясёлае прадстаўленне вельмі спадабалася масквічам.

Беларусь з нецярпеннем чакала прыезду на радзіму новага акцёрскага калектыву.

Па загаду Віцебскага акруговага аддзела народнай асветы з 24 мая 1926 года памяшканне Першага паказальнага тэатра было перададзена калектыву Другога Беларускага дзяржаўнага тэатра.

Віцебск заўсёды лічыўся тэатральным горадам. Яго тэатр бачыў на сваёй сцэне выдатных рускіх артыстаў В. Ф. Камісаржэўскую, К. Варламава, В. Давыдава, Маманта Дальскага, П. Арленева і цэлы шэраг іншых вядомых артыстаў. Але гэта, нажаль, былі толькі гастралёры, якія прыязджалі на некалькі спектакляў.

Пастаноўшчыкамі тэатральных відовішчаў з'яўляліся прыватныя антрэпрызы.

НА ЗДЫМКУ (справа налева): мастацкі кіраўнік студыі В. С. Смышляеў, рэжысёры П. П. Пашкоў і Б. М. Афонін.

Фота К. Саннікава (1925 г.).



Прычым, як гэта часта бывала, антрэпрэнёры бачылі ў тэатры толькі сродак здабывання грошай. Што, напрыклад, мог разумець у мастацтве ўладальнік «біржы рамізнікаў» у Маскве, калі ён арганізаваў антрэпрызу ў Віцебску?

Пастаноўкі ставіліся толькі на рускай мове. Беларускай мове шлях на сцэну быў зачынены.

І вось 21 лістапада 1926 года на новай сцэне адбыўся першы спектакль. Дзень гэты стаў днём нараджэння БДТ—2, які зараз вядомы гледачам нашай рэспублікі як тэатр імя Якуба Коласа.

Адкрыццё тэатра стала вялікай культурнай падзеяй у жыцці рэспублікі. З усіх бакоў ляцелі ў Віцебск прывітанні ад дзеячоў навукі, культуры, мастацтва. Шчыра прывіталі маладых акцёраў акадэмік Е. Ф. Карскі, пісьменнік Змітрок Бядуля і іншыя.

Пачатак працы 2-га Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Віцебску пісьменнік Змітрок Бядуля лічыў новай эпохай у гісторыі развіцця беларускага тэатра таму, што гэта быў калектыў, спаяны пяцігадовай сумеснай вучобай, а не выпадкова сабраны, як у іншых тэатрах.

«Прызнаючы за тэатрам надзвычай важнае значэнне ў сэнсе культурнага і палітычнага выхавання народных мас,— пісаў у сваім прывітанні Якуб Колас, — я шчыра жадаю 2-му Беларускаму тэатру з гонарам і поспехам справіцца з сваімі задачамі».

**А. САННІКАЎ.**

## Станіслаў Манюшка ў Мінску




Няма, бадай, чалавека, які шчыра не любіў бы музыку і не захапляўся цудоўнымі операмі «Галька», «Страшны двор» вялікага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі. Не меншае задавальненне выклікаюць цудоўныя песні гэтага кампазітара, сабраныя ў так званыя «Дамовыя спеўнікі». Аматары музыкі ведаюць таксама аб існаванні опер «Сялянка» і «Латарэя», а таксама аперэт «Рэкруцкі набор» і «Барацьба музыкаў», напісаных на тэксты В. Дуніна-Марцінкевіча і ўпершыню пастаўленых на сцэне мінскага тэатра яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

На ўсіх названых творах польскага кампазітара адчуваецца ўплыў беларускай народнай песні, інструментальных і танцавальных мелодый. І гэта не дзіўна, калі ўспомніць, што Станіслаў Манюшка нарадзіўся непадалёку ад Мінска, што тут ён жыў у дзяцінстве, вучыўся ў гімназіі і ў прыватнай музычнай школе пад кіраўніцтвам вядомага ў тыя часы ў Мінску піяніста і дырыжора Д. Стэфановіча, што кампазітар чуў у маёнтку свайго бацькі — Убель — песні беларускіх сялян.

Трэба дадаць, што Манюшка неаднаразова прыязджаў у Мінск і тады, калі ён у 40-я гады мінулага стагоддзя пераехаў на сталае жыхарства спачатку ў Вільню, а потым у Варшаву. Усе жанравыя сцэны ў оперы «Страшны двор», дарэчы, упершыню ў Савецкім Саюзе пастаўленай на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету, кампазітар Манюшка пісаў таксама пад уплывам успамінаў аб сваім жыцці ў Убелю. З жыццём у Мінску звязана і напісанне Манюшкам цыкла фартэпіянных п'ес пад назвай «Забаўкі».

Пэўную цікавасць уяўляе і змешчаная тут фотакопія запісу ў кнігах цэнзурнага камітэта аб тым, што 3 ліпеня 1842 года Манюшка атрымаў дазвол на надрукаванне свайго першага дамовага спеўніка, які быў складзены кампазітарам у Мінску і змяшчаў 18 песень на 64 старонках.

**І. Н.**




получилъ Станиславъ Монюшко

# Шахматы

Пад рэдакцыяй майстра спорту **А. СУЭЦІНА.**

## ШАХМАТНАЯ ВІКТАРЫНА № 2

Працягваем друкаваць шахматную віктарыну, пачатую ў № 7 нашага часопіса. (Тэрмін прысылкі рашэнняў— месяц з дня выхаду часопіса з друку).

**Пытанні:**

**10.** Назавіце чэмпіёнаў па шахматах на 1958 год у наступных краінах: СССР, Югаславіі, ЗША, Венгрыі, Польшчы. **(2 ачкі).**

**11.** Першае выступленне выдатнага рускага шахматыста М. І. Чыгорына на міжнароднай арэне. Калі? Дзе? Вынікі? **(3 ачкі).**

**12.** Калі, у якім годзе атрымаў званне гросмайстра першы рускі чэмпіён свету А. Алёхін? Колькі год тады ён меў? **(3 ачкі).**

**13.** Хто з беларускіх шахматыстаў прымаў удзел у **фіналах** першынства краіны? Пералічыце імёны гэтых шахматыстаў і ўкажыце, колькі разоў і ў якім годзе яны прымалі ўдзел у гэтых спаборніцтвах. **(4 ачкі).**

**14.** Што такое «варыянт дракона»? Якімі ходамі ён характарызуецца і ў якім дэбюце ўзнікае? **(4 ачкі).**

**15.** Як называецца дэбютная сістэма: 1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Кс3 Кf6, 4. Сg5 **Кbd7**, 5. e3 c6? Укажыце, ці могуць белыя замест 5. e3 выйграць пешку, іграючы далей 5. cd ed, 6. К : d5? **(3 ачкі).**

**16.** Што азначае правіла «квадрата» пры ігры ў пешачным заканчэнні (эндшпілі)? Прывядзіце прыклад. **(3 ачкі).**

17. Рашыце задачу. Белыя пачынаюць і даюць мат у 3 ходы **(4 ачкі).**



18. Рашыце эцюд. Белыя пачынаюць і выйгрываюць. **(5 ачкоў).**



## ЗМЕСТ







По гарадах Беларусі. Віцебск, вуліца імя Кірава.
Фота А. Дзятлава.